**Сяргей Навумчык. Дзевяноста чацьверты.** (Бібліятэка Свабоды. ХХІ стагодзьдзе.) – Радыё Свабодная Эўропа / Радыё Свабода, 2015. 350 с.: іл.

Заснавальнік і каардынатар сэрыі
*Аляксандар Лукашук*

Мастак *Генадзь Мацур*
Карэктар *Сяргей Шупа*

Як карнавал дэмакратыі ў 1994 ператварыўся ў хаўтуры – вачыма ўдзельніка.

У кнізе скарыстаныя фатаздымкі Сяргея Грыца, Ларысы Зайцавай, Уладзімера Кармілкіна, Андрэя Кузьнечыка, Галіны Навумчык і аўтара. Таксама скарыстаныя матэрыялы архіву аўтара.


FOL

ISBN 978-0-929849-70-6

# Зьмест

# У сьне

Жыла-была прынцэса.

І калі споўнілася ёй тысяча дзён, захацела яна ўзяць шлюб.

Казачны час ляціць хутка – прынцэса была ўжо самастойнай, мела сваё войска і скарбніцу, суседзі запрашалі ў госьці і прысылалі паслоў, ёй падалося, што яна ўжо дарослая і ўсё ведае, і не хапае толькі клапатлівага гаспадара, як ва ўсіх навокал, які б верна служыў, усё зьберагаў і памнажаў.

Розныя прынцы дамагаліся яе рукі. Адзін абяцаў будучыню, другі мінуўшчыну, а трэці абяцаў казку, у якой будзе ўсё: мінулае і будучыня, праўда і справядлівасьць, свабода і парадак.

Зачараваў прынцэсу ягоны голас і пабралася яна з тым трэцім.

Звычайна тут усе казкі і канчаюцца – маўляў, сталі яны жыць-пажываць ды дабра нажываць.

Але гэтая казка незвычайная: адразу пасьля шлюбу прынц замкнуў прынцэсу ў вежы і спыніў вежавы гадзіньнік, час застыў і ўсе заснулі.
Іх вочы бачылі толькі тое, што паказвалі ў зачараваным люстэрку, а вушы чулі толькі тое, што казаў новы гаспадар. А тых, на каго чары не падзейнічалі, пачалі лавіць і ў турмы саджаць.

Як так выйшла? Хто вінаваты? Чаму столькі цягнецца гэты сон?

Адказы схаваныя за высокімі сьценамі, складзенымі зь мёртвых гадоў, за палямі небясьпечных, як міны, пытаньняў, у гушчары падступных, як дрыгва, летапісаў.

Патрэбныя дакладная мапа, надзейны компас і дасьведчаны праваднік. І хто лепш падыходзіць на гэтую ролю за чалавека, які быў з прынцэсай яе першую шчасьлівую тысячу дзён, верыў у яе прышласьць, спрабаваў засьцерагчы ад аблуднага выбару і абудзіць ад летаргіі і, нягледзячы ні на што, яе любіць.

За ім!

*Аляксандар Лукашук,*
*Радыё Свабода.*

# Рэванш імпэрыі

– Вас Кебіч да тэлефона!

Мне давялося вярнуцца ў кабінэт старшыні зь вялікай залі штаб-кватэры БНФ па Варвашэні, 8, дзе ўжо мелася пачацца прэсавая канфэрэнцыя кандыдата ў прэзыдэнты Зянона Пазьняка, якую мне трэба было весьці. Гэтым разам Пазьняк прадстаўляў сваю каманду – эканамістаў, юрыстаў, навукоўцаў, дэпутатаў. Сярод іх былі акадэмікі, кандыдаты і дактары навук.

Вячаслаў Кебіч сказаў, што абзваньвае давераных асобаў усіх кандыдатаў у прэзыдэнты, каб паведаміць, што некалькі гадзінаў таму пад Лёзнам паплечнікі Лукашэнкі зрабілі інсцэніроўку спробы замаху (абстралялі «мэрсэдэс» Ціцянкова) і маюць намер абвінаваціць яго, Кебіча, які таксама балятуецца ў прэзыдэнты, у жаданьні забіць канкурэнта. Дык вось: ён і яго людзі ня маюць ніякага дачыненьня да гэтага фарсу, і ўвогуле каманда Лукашэнкі вядзе сябе чым далей – тым больш нахабна.

Я адказаў, што мы прымаем гэтую інфармацыю да ведама, і дадаў, што стыль паводзінаў Лукашэнкі і ягоных сяброў не зьдзіўляе.

Усё, што рабілася ў тыя дні з Лукашэнкам (парваны пінжак пры бойцы зь міліцыянтамі ў Доме ўраду, тэлесюжэт пра сьцюардэсу, у якой

пару гадоў да таго ў часе палёту ў складзе ўрадавай дэлегацыі Лукашэнка скраў масажор (пра гэты эпізод адразу стала вядома шмат каму з дэпутатаў, але тады Кебіч вырашыў не рабіць скандалу, зрабіўшы Лукашэнку на пэўны час паслухмяным) – літаральна ўсё спрацоўвала яму на карысьць.

Кебіч апынуўся ў пастцы, якую сам сабе і паставіў, дамогшыся ўвядзеньня прэзыдэнцтва. І загнаў яго туды той, каму Кебіч спрыяў усе гады існаваньня незалежнай Беларусі.

Асноўнымі супернікамі на прэзыдэнцкіх выбарах 1994 году лічацца Вячаслаў Кебіч і Аляксандар Лукашэнка. Менавіта так традыцыйна пішуць гісторыкі і палітолягі, гэтак пазначана і ў даведніках па Беларусі – у тым ліку і ў замежных. Тлумачэньне простае: абодва выйшлі ў другі тур.

Я з гэтым ня згодны. І Лукашэнка, і Кебіч увасаблялі палітычныя сілы аднолькавага, прарасейскага накірунку, з той толькі розьніцай, што першы – старую посткамуністычную намэнклятуру, якая ўжо сыходзіла са сцэны, а другі – намэнклятуру «камсамольскую», маладую і агрэсіўную, якая расчаравалася ў здольнасьцях былых функцыянэраў ЦК і абкамаў.

Потым, праз гады, Кебіч скажа, што з Лукашэнкам яны былі канкурэнтамі ў асабістым, пэрсанальным супрацьстаяньні, але барацьба за прэзыдэнцкае крэсла была мэтай другаснай. А галоўная мэта, якой яны абодва дасягнулі –

было не дапусьціць да ўлады Беларускі Народны Фронт.

Гэтае прызнаньне Кебіча звычайна абыходзяць увагай, тады як у ім, на маё перакананьне, палягае сутнасьць выбарчай кампаніі 1994 году: прарасейскія сілы супрацьстаялі нацыянальнаму адраджэньню. Імпэрыя супрацьстаяла Беларусі, якая толькі-толькі адрадзілася пасьля 200-гадовай акупацыі.

Пачынаючы з 1988 году, калі праўда пра Курапаты абудзіла нацыю, працэс Адраджэньня ішоў па нарастаючай і ахопліваў усё больш шырокія колы жыцьця. І быў ён вынікам намаганьняў тысяч сумленных і самаадданых патрыётаў.

У часопісах публікаваліся творы як пісьменьнікаў, імёны якіх у савецкія часы было забаронена нават узгадваць, гэтак і схаваныя ў «спэцхранах» тэксты клясыкаў. У шасьцітомніку Васіля Быкава выйшла аповесьць «Мёртвым не баліць», зрабіліся нарэшце здабыткам чытачоў вершы Натальлі Арсеньневай, творы іншых беларускіх паэтаў і празаікаў, якія былі вымушаныя жыць на чужыне. Гісторыкі пачалі распрацоўваць тэмы, крануць якія яшчэ нядаўна было немагчыма – і публікацыі выходзілі ня толькі ў акадэмічных бюлетэнях, але і ў часопісах шматтысячнымі накладамі. Упершыню праўдзіва і падрабязна было сказана пра Беларускую Народную Рэспубліку.

У купалаўскім тэатры ішла «Паўлінка» – зь бел-чырвона-белым сьцягам на сцэне. Пляцоўкі канцэртных заляў (а часта і цэнтральных менскіх

плошчаў) запоўнілі рок-гурты, і выступы трансьляваліся па тэлебачаньні на ўсю краіну.

Вось дзьве падзеі таго часу, якія было немагчыма ўявіць да пачатку 1990-ых і якія зрабіліся немагчымымі пасьля 1994-га: пісьменьнік Уладзімер Арлоў быў узнагароджаны мэдалём Скарыны – найвышэйшай у той час дзяржаўнай узнагародай, а кніга «Іншадумцы» – зборнік інтэрвію зь лідэрамі БНФ, дэмакратычных партый і былымі дысыдэнтамі – атрымаў Дзяржаўную прэмію.

Дзень 25 сакавіка 1993 году ўрачыста адзначаўся ў прысутнасьці найвышэйшых асобаў дзяржавы і старшыні Рады БНР, а ў ліпені сотні беларусаў з усіх кантынэнтаў сабраліся ў Опэрным тэатры на Першы зьезд беларусаў сьвету. «Беларусь атрымала гістарычны шанец набыць рэальную дзяржаўнасьць, самастойнасьць, поўны сувэрэнітэт. І гэты шанец неабходна выкарыстаць, – адзначалася ў Звароце зьезду да беларускага народу. – Мы павінны мабілізаваць усе сілы, каб ня толькі адстаяць першыя поступы дэмакратыі, незалежнасьці, нацыянальнага адраджэньня, але і рушыць далей, да вялікіх, зорных зьдзяйсьненьняў – адбудовы агульнага Беларускага Дому».

А ў верасьні таго самага 1993 году 80 працэнтаў першаклясьнікаў пайшлі ў беларускамоўныя клясы – і гэта, магчыма, было хаця і ня самай прыкметнай падзеяй, затое – для будучыні – вельмі важнай.




Шэсьце калёны БНФ у гадавіну Дэкларацыі аб сувэрэнітэце, 27 ліпеня 1992 г.

Але былі сілы, якія жадалі спыніць нацыянальнае адраджэньне, ператварыць Беларусь ў пратэктарат Расейскай імпэрыі.

І ў 1994 годзе гэтыя сілы ўзялі рэванш у супраціве з авангардам нацыянальнага руху – Беларускім Народным Фронтам.

Міжнародныя назіральнікі (у тым ліку ад АБСЭ) ацанілі выбары 1994 як, у асноўным, адпаведныя міжнародным стандартам. Пра гэта ў штогадовай справаздачы ў справе правоў чалавека заявіў і Дзяржд эпартамэнт ЗША. А прадстаўнікі Хэльсынскай камісіі Кангрэсу ЗША адразу пасьля выбараў нават убачылі пэўны прагрэс у параўнаньні зь некаторымі іншымі краінамі, адзначылі як станоўчы факт, што «тым часам, як выбаршчыкі шмат якіх постсавецкіх краінаў

і дзяржаў-былых удзельніц Варшаўскай дамовы адкочваюцца да статычных эканомік, нацыяналістычнай рыторыкі і аднаўленьня камуністычных партый, – адхіленьне беларускім электаратам старой намэнклятуры нават на карысьць невядомага Лукашэнкі сьведчыць пра маленькі, але крок наперад...».

Шмат хто з палітолягаў назваў выбары 1994 году «народнай рэвалюцыяй» – на падставе таго самага аргумэнту, што народ прагаласаваў «супраць начальства». Тады як гэта быў антыдэмакратычны, антынацыянальны рэванш.

Канешне, прэзыдэнцкія выбары былі не адзінай падзеяй 1994 году, але яны былі падзеяй галоўнай і вызначылі лёс краіны на дзесяцігодзьдзі наперад. Таму я сканцэнтраваўся менавіта на выбарах.

У гэтай кнізе чытач ня знойдзе абсмокваньня пікантных дэталяў і розных эпатажных учынкаў, на якіх у значнай ступені будавалася выбарчая кампанія Лукашэнкі. І ня толькі таму, што пра ўсё гэта шмат пісалася. Куды больш важным падаецца сказаць пра тое, пра што забываецца большасьць дасьледчыкаў і мэмуарыстаў.

А менавіта, што першыя прэзыдэнцкія выбары былі ня столькі супрацьстаяньнем асобаў, колькі супрацьстаяньнем нацыянальнага адраджэньня і праімпэрскіх, прарасейскіх сілаў. Прычым – супрацьстаяньнем няроўным.

*Сяргей Навумчык, студзень 2015*

# «Чаго цябе, Саша, рухаюць на перадавыя пазыцыі?»

Лукашэнка ўвойдзе ў гісторыю як той, хто здушыў апошняе нацыянальнае адраджэньне, але прыкметна, што менавіта ягоная фігура была супрацьпастаўленая актывістам Адраджэньня ў самым яго пачатку.

19 кастрычніка 1988 году ў тагачасным Доме кіно (цяпер – касьцёл Сьв. Сымона і Алены) адбылося паседжаньне, на якім былі ўтвораныя арганізацыі памяці ахвяраў рэпрэсій «Мартыралёг Беларусі» і Аргкамітэт Беларускага Народнага Фронту.

А 27 кастрычніка ў «Звяздзе» выйшаў артыкул за подпісам карэспандэнтаў агенцтва БЕЛТА У. Левіна і Б. Тарасевіча, які па каналах агенцтва БЕЛТА з пазнакай «абавязкова для публікацыі» быў разасланы ў рэспубліканскія і ва ўсе абласныя газэты.

Гэты артыкул прачыталі ў Беларусі ўсе, хто хаця б неяк цікавіўся палітыкай, а ягоны назоў – «Пена на хвалі перабудовы» – стаў, у пэўным сэнсе, зьедлівым фразэалягізмам у дачыненьні да дэмакратычнага руху з боку камуністычных прапагандыстаў.

«Так ужо супала, што ў адзін дзень нам давялося пабываць на двух маладзёжных мерапрыемствах», – пачынаюць артыкул аўтары Левін і Тара-

севіч і распавядаюць пра сход у Доме палітасьветы, дзе абмяркоўвалася стварэньне Народнага Фронту, і пра нараду ў ЦК ЛКСМБ, «дзе сабралася на нараду моладзь, якая працуе ў прамысловасьці, сельскай гаспадарцы, бытавым абслугоўваньні», каб пагаварыць «аб тым, як вырашаць харчовую праблему, даць на прылаўкі больш тавараў і прадуктаў, расшырыць сфэру паслуг».

«Што такое «Народны фронт»? – запытаўся ўдзельнік сходу ў Доме палітасьветы наладчык вытворчага аб’яднаньня «Інтэграл» А. Сяргееў. І сам адказаў: «Ён будзе не нацыянальным і не народным. Гэта групка людзей – і толькі, якія, мяркуючы па дэкларацыях, цягнуць нас да нацыяналізму, міжнацыянальнага разладу». І далей: «Нас штурхаюць на стварэньне такой арганізацыі, якая проціпаставіла б сябе партыі, народу».

Іншы ўдзельнік сустрэчы расказаў пра выступ у ягоным прафэсійна-тэхнічным вучылішчы рок-гуртоў. «Калі падлеткі адурэлі ад страшэннага грукату, паявіўся на сцэне малады чалавек і пачаў размахваць бел-чырвона-белым сьцягам – сымбалем беларускіх буржуазных нацыяналістаў... Так унушаецца маладым дух экстрэмізму, так прапагандуюцца нацыяналістычныя ідэі, так укараняецца чужая нашаму грамадзтву сымболіка».

Далей – падобная асуджальная лексыка на адрас «некаторых асоб, самадзейных груп, якія ўявілі сябе змагарамі ад імя народа, а на самой справе ўносяць у жыццё людзей хаос і няпэўнасьць».

Прыхільнікам Народнага Фронту аўтары супрацьстаўляюць удзельнікаў нарады ў ЦК ЛКСМБ – «колькі клопатаў і трывогі было ў кожным выступленьні! Гэтыя людзі не прывыклі да трыбуны,

не ўмеюць гаварыць гэтак жа добра, як умеюць працаваць».

Аратарскія здольнасьці аднаго з чатырох названых прамоўцаў аўтары, усё ж, недаацанілі. Альбо – на нарадзе ў ЦК камсамола ён быў «ня ў форме». Бо пасьля сьлесара, даяра-героя сацыялістычнай працы, даяркі – арганізатара сямейнай фэрмы ў артыкуле прыгадваецца той, хто ў недалёкай будучыні выступы з трыбунаў зробіць сваім асноўным заняткам.

«Аляксандар Лукашэнка ўзначаліў самую стратную ў Магілёўскай вобласьці гаспадарку, і яна практычна за год дзякуючы ўкараненьню новых гаспадарчаразьліковых адносін атрымала мільённы прыбытак. Маладога дырэктара запрасілі на нараду ў ЦК КПСС. Зь ім гутарыў па гэтых праблемах Міхаіл Сяргеевіч Гарбачоў» («Звязда», 27 кастрычніка 1988).

Такім чынам, асоба Лукашэнкі проціпастаўлялася «экстрэмістам».

Але насамрэч напісалі гэты артыкул не карэспандэнты БЕЛТА.

У кастрычніку 2013 году я папрасіў Уладзімера Левіна, які жыў у Нью-Ёрку, расказаць пра акалічнасьці зьяўленьня той публікацыі, і ён адказаў: «Ніякага “Тарасевіча” не існавала, а ўсур’ёз падставіць яны вырашылі мяне. Паўлаў (загадчык аддзелу прапаганды ЦК КПБ – С. Н.) нават лаяўся, што не адразу змог адшукаць мяне ў суботу. Я быў на лецішчы і прама адтуль мусіў пайсьці на сход. А ЦК камсамолу тут прысьцягнулі. Усё вырашалася ў ЦК. Туды я аддаў рукапіс свайго артыкула, а адтуль атрымаў зусім іншы. І слова супраць вымавіць ня мог. Адзінае, што мне ўдалося, гэта без усялякага

ўзгадненьня зь імі выкінуць даволі вялікі кавалак гнюснасьці адносна Васіля Быкава. За гэта таварыш Паўлаў абяцаў пазбавіць мяне партбілета».

З гэтага вынікае, што і абзац пра Лукашэнку пісаўся ў ЦК.

Увогуле, роля камуністычнага кіраўніцтва ў кар’еры Лукашэнкі ня проста істотная, яна – вызначальная.

Некаторыя «дапрэзыдэнцкія» і «дадэпутацкія» эпізоды біяграфіі Лукашэнкі дапамагаюць лепей зразумець, як ён сфармаваўся як палітык. Альбо, лепей сказаць – хто яго сфармаваў.

У «аб’ектыўцы», якая была раздадзеная дэпутатам Вярхоўнага Савету ў траўні 1990 году, калі Лукашэнка вылучаўся на пасаду старшыні парлямэнцкай камісіі па сельскай гаспадарцы, было пазначана, што ён праходзіў службу ў памежных войсках КДБ СССР.

Пра пачатак гаспадарчай і палітычнай кар’еры Лукашэнкі распавёў у сваёй кнізе «Работа над ошибками» былы першы сакратар Магілёўскага абкаму кампартыі Васіль Лявонаў.

Ён прыгадвае, як ў 1978 годзе першы сакратар Шклоўскага райкаму прадставіла яму, тады сакратару абкаму па сельскай гаспадарцы, маладога чалавека, які пажадаў стаць старшынём калгасу. Ахвотных у той час на такую працу не было – наадварот, хапала кіраўнікоў гаспадарак, якія прасілі іх вызваліць ад пасады. Даведаўшыся, што Лукашэнка па спэцыяльнасьці настаўнік, Лявонаў параіў яму скончыць сельгасінстытут і атрымаць спэцыяльную адукацыю. Праз тры гады Лукашэнка скончыў Горацкую сельгасакадэмію, і яго прызначылі намесьнікам старшыні і адначасна сакратаром

партарганізацыі калгасу імя Леніна. Затым яго прызначылі дырэктарам саўгасу «Гарадзец», які лічыўся ці ня самым «адстаючым» у раёне. Гэта была стандартная практыка: маладым кіраўнікам не давалі перадавых гаспадарак.

Але было тое, што ўратавала Лукашэнку ад зусім рэальнага шанцу быць зьнятым з пасады і сустрэць пэнсію завучам вясковай школы.

«Калі Лукашэнка прыйшоў працаваць у "Гарадзец", – піша Лявонаў, – быў уведзены адзін прынцып, які тычыўся маладых кіраўнікоў адсталых гаспадарак: усе, хто на абласным узроўні распараджаўся матэрыяльнымі і фінансавымі рэсурсамі, "замацоўваліся" за такімі гаспадаркамі, ажыцьцяўлялі над імі шэфства, абавязаныя былі ўвесь час туды наведвацца, дапамагаць арганізацыйна і матэрыяльна-тэхнічна. За Лукашэнкам пэрсанальна быў замацаваны першы намесьнік старшыні аблвыканкаму – кіраўнік аблаграпраму Яўсей Карнееў. Карнееву надакучыла бясконца езьдзіць у саўгас, у яго ў распараджэньні былі ўсе рэсурсы, і ён зрабіў салідную дапамогу "Гарадцу". У саўгасе пачалі будаваць жыльлё, дапамаглі тэхнікай, дарожным будаўніцтвам...

Казаць пра тое, што Аляксандар Рыгоравіч вывеў саўгас у перадавыя, пра што ён паўтараў і паўтарае, не даводзіцца: саўгас ляжаў на баку, яго прыўзьнялі і паставілі неяк на ногі калектыўнымі намаганьнямі» (Васіль Лявонаў, «Работа над ошибками», Смаленск, 2003, с. 18-19).

Такім чынам, ніякай асаблівай заслугі Лукашэнкі ў тым, што сытуацыя ў ягонай гаспадарцы палепшылася, не было. Але з маладога дырэктара пачалі рабіць тое, што пазьней назвалі б «мэдыйнай

пэрсонай»: магілёўскім кіраўнікам было выгодна паказаць і Менску, і Маскве, што ў вобласьці ўкараняюцца «новыя формы гаспадараньня», і вось, калі ласка – малады, пэрспэктыўны кіраўнік – камуніст.

«Лукашэнка потым неаднаразова запэўніваў усіх, што езьдзіў на пленумы ледзь не кансультаваць Гарбачова. На самой справе гэта было толькі аднойчы. Гарбачоў любіў зьбіраць працоўныя нарады... Па камандзе Генэральнага зьбіралі чалавек пяцьдзясят – шэсьцьдзесят: некалькіх першых сакратароў абкамаў, членаў рэспубліканскіх урадаў, з выканкамаў розных узроўняў – і так да кіраўнікоў гаспадарак... Адна з нарадаў была па арэндзе, якая тады актыўна ўкаранялася. Магілёўскую вобласьць на ёй прадстаўляў першы намесьнік старшыні аблвыканкаму Яўсей Карнееў, які і ўзяў з сабой Лукашэнку. На нарадзе Лукашэнка выступіў, нешта сказаў – гэта ён вельмі любіў. Вярталіся і назад разам. Ехалі ў Маскву – Лукашэнка частаваў Карнеева і гарбаткай, і гарэлачкай, як прынята. Ехалі назад – ужо ад Карнеева запатрабаваў, каб той яму насіў гарбату. Відаць, той факт, што Генэральны сакратар задаў яму нейкае пытаньне, моцна ўдарыў дырэктару саўгасу ў галаву. Але на наступную нараду яго больш ніхто ня клікаў» (Лявонаў, с. 29–30).

Можна меркаваць, што тая нарада ў ЦК спрацавала як выключна моцны наркотык, паўплывала на амбіцыйны характар Лукашэнкі і спарадзіла ў яго адчуваньне выключнасьці, нават «паклікананасьці». Аднойчы дабраўшыся да кантакту з найвышэйшай уладай (Гарбачоў), Лукашэнка ўжо ня мог зьмірыцца з тым, што гэты выпадак будзе апошнім.

А паглядзеўшы, якія «кадры» круцяцца на самым версе і крыху ніжэй, ён мог упэўніцца ў меркаваньні, што і сам ён – ня горшы, і ён можа быць наверсе. І нават ня можа – павінен там быць.

З успамінаў Лявонава можна меркаваць, што гэта Карнееў «узяў з сабой Лукашэнку» да Гарбачова, але, трэба думаць, маецца на ўвазе толькі супольная паездка ў Маскву. Пасады першага намесьніка старшыні аблвыканкаму было недастаткова, каб вырашыць, хто будзе прысутнічаць на нарадзе такога высокага ўзроўню – сьпіс удзельнікаў зацьвярджаўся ў сельскагаспадарчым аддзеле ЦК КПСС, а прадстаўлялі кандыдатаў, калі мець на ўвазе рэспублікі, ЦК рэспубліканскіх кампартыяў.

У ЦК КПБ, як выглядае, за прапаганду асобы Лукашэнкі ўзяліся сур'ёзна.

Да Гарбачова ўжо ня клікалі, але Лукашэнку ў Менску, у ЦК КПБ, прасоўвалі «наверх».

Тагачасны супрацоўнік дзяржаўнага інфармацыйнага агенцтва БЕЛТА Уладзімер Левін прыгадвае, як аднойчы яму патэлефанаваў загадчык аддзелу прапаганды ЦК КПБ Савелій Паўлаў.

«У мяне на працы раздаецца званок па вяртушцы. Паўлаў:

– Пойдзеш зараз у ЦК да Лівенцава. (Гэта загадчык аддзелу ЦК, Герой Савецкага Саюзу, знакаміты партызан вайны – Віктар Ільіч.)

– А што я там буду рабіць?

– Табе скажуць. Сваю працу будзеш рабіць, якую ты добра ўмееш. Героя трэба зрабіць.

– З каго?

– З маладога дырэктара саўгаса.

Прыходжу да Лівенцава. Там гэты пэрсанаж. Аказваецца, я яго ведаю: прывозіў у ЦК камсамолу

маладых памежнікаў узнагароджваць граматамі ў Дзень памежніка. Тады быў ці то капітанам, ці то старлеем. “Пазнаёміліся”. Потым ён, зьвяртаючыся да Ліванцава, кажа, ледзь ня кланяючыся да зямлі: “Дарагі наш герой, а што гэта ў вас на цэнтральнай плошчы будуецца? І колькі гэта каштуе? Далі б мне гэтыя грошы на гаспадарку! ”

– Гэта Палац рэспублікі, – кажа Віктар Ільіч.

– Нават калі ты, Саша, станеш вялікім чалавекам, гэты палац усё яшчэ будзе будавацца, – уставіў я свае пяць капеек. – Гэта заплянаваны даўгабуд.

Лівенцаў сказаў:

– Бачу, вы адзін аднаго ведаеце, знаёміць вас няма патрэбы, я пайду па сваіх справах, а вы тут пагутарыце.

Ну, пайшоў, у нас размова, падчас якой я пытаюся: І чаго гэта цябе, Саша, прасоўваюць на перадавыя пазыцыі – у Вярхоўны Савет?

– А гэта ўсё Міхаіл Сяргеевіч Гарбачоў. Была нарада маладых кіраўнікоў сельскай гаспадаркі, я там выступаў, а ён спытаў: “Як вы ставіцеся да перабудовы?” – “Перабудова – справа добрая, але пакуль я дырэктар у сваім саўгасе, там будзе мая дыктатура”. Гэта Гарбачову спадабалася, мабыць, таму ён мяне рэкамэндаваў. І загадаў.

Ну яшчэ пагаварылі з Лукашэнкам пра саўгас, пра мэтады яго працы, ён проста шакаваў сваім падхалімствам. Артыкул пра тое, які ён выдатны, я, каюся, напісаў. Усё гэта было пад кантролем ЦК».

У 1989-м Лукашэнка балятаваўся на выбарах народных дэпутатаў СССР, але прайграў некалькі адсоткаў Вячаславу Кебічу, які быў намесьнікам старшыні Савету міністраў. У наступным, 1990-ым, ён прабіваўся ў народныя дэпутаты БССР.

«Прычым змагаўся на гэты раз зь Яўсеем Карнеевым, – піша Васіль Лявонаў, – тым самым Карнеевым, які ўсю вобласьць кінуў у “Гарадзец”, трымаў там найлепшых спэцыялістаў аблаграпраму, каб дапамагчы Лукашэнку вывесьці саўгас з “прарыву”. Цяпер Лукашэнка “аддзячыў” Карнееву за дапамогу з уласьцівым яму імпэтам, запэўніваючы выбаршчыкаў, якая “бяка” гэты партакрат Карнееў...

Яшчэ да выбараў 1989 году з Лукашэнкам адбылася непрыгожая гісторыя – прыехаў у брыгаду і зьбіў абсалютна цьвярозага трактарыста, зьбіў жорстка – ботамі. Я даведаўся пра гэта ў самы пік перадвыбарчай кампаніі, калі Лукашэнка сам сябе вылучыў у кандыдаты. Тады сакратар райкаму распавёў, што для гэтага вылучэньня былі дзьве прычыны: па-першае, Лукашэнка сапраўды думае, што пераможа намесьніка кіраўніка ўраду рэспублікі, а па-другое, такім чынам спадзяецца пазьбегнуць адказнасьці за рукапрыкладзтва (як вядома, тады кандыдаты ў дэпутаты валодалі статусам недатыкальнасьці)... Справа была ўзбуджаная, вынесеная на пасяджэньне райсавету, дэпутатам якога быў Лукашэнка. Тады на баку Лукашэнкі выступаў уласны карэспандэнт газэты “Сельская жизнь” Анатоль Гуляеў (газэта была органам ЦК КПСС, аўтарытэтным выданьнем). Гуляеў прыехаў на сэсію і сваім аўтарытэтам моцна падтрымаў Лукашэнку» (с. 20-21).

«Я задаваў сабе пытаньне, – піша далей Васіль Лявонаў, – чаму Анатоль Гуляеў, разумны і дасьведчаны чалавек, таленавіты журналіст, пачаў гэтак актыўна прапагандаваць Лукашэнку і дапамагаць яму? Як і многім іншым памочнікам і прапагандыстам, Лукашэнка спаўна аддзячыў Гуляеву: нядаўна

была забароненая газэта, дзе ён быў рэдактарам, за тое, што не сьпявала дыфірамбаў Лукашэнку і ягонаму рэжыму» (с 31).

Адказаць на пытаньне, чаму журналіст рабіў рэкляму Лукашэнку, даволі проста: з той самай прычыны, зь якой падначаленыя Лявонава (дый, думаю, і ён сам) дапамагалі дырэктару саўгасу. Прэса ў той час была толькі партыйнай і кіравалася тымі самымі інстынктамі, што і партыйныя работнікі. Зь іх адзін з асноўных – «пусьціць пыл у вочы» начальству, і дзеля гэтага традыцыйна выкарыстоўваліся штучна створаныя «перадавікі» – даяркі, сьвінаркі, камбайнэры, фрэзэроўшчыкі, а ў часы гарбачоўскай перабудовы прыйшла мода і на «маладых перадавых кіраўнікоў». Журналіст, зрабіўшы «героя», мог гарантавана гадамі пісаць пра ягоныя посьпехі, выдаць кнігу, напісаць сцэнар фільму. Сакратар райкаму, вырасьціўшы такую асобу ў сваім раёне, мог на высокіх узроўнях абараняцца ёю ад крытыкі – паглядзіце, у мяне ня ўсё дрэнна, нават добра – бо посьпехі «нашага» заўважылі ў ЦК КПСС! А тут – ня проста ЦК, а сам Гарбачоў!

Першы сакратар абкаму партыі Лявонаў, як ён сам прыгадвае, не настойваў на давядзеньні крымінальнай справы супраць Лукашэнкі да суду. Пройдуць гады, і прэзыдэнт Лукашэнка адплаціць міністру сельскай гаспадаркі Лявонаву арыштам, судом і турмой.

## Лукашэнка: «Я гатовы на каленях паўзьці да Расеі»

Ёсьць тэма, якую не закраналі біёграфы Лукашэнкі. А калі пра яе і пісалі – дык некалькімі радкамі. І тэма гэтая гублялася на фоне падзеяў выбарчай кампаніі 1994 году – «антыкарупцыйнага дакладу», «лёзьненскага стрэлу» ці тэлевізійных дэбатаў зь Вячаславам Кебічам. Але ў кантэксьце разуменьня выбарчай прэзыдэнцкай кампаніі 1994 году як змаганьня імпэрскіх, прарасейскіх сілаў з нацыянальным адраджэньнем, гэта – адна з найбольш важных тэмаў.

Маю на ўвазе фармаваньне Лукашэнкі як пасьлядоўнага праімпэрскага, прарасейскага палітыка, якім і ўступіў ён у выбарчую кампанію.

Існуе меркаваньне, што нейкі час, на пачатку свайго дэпутацтва, Лукашэнка быў салідарны з Пазьняком, з Апазыцыяй БНФ і нават супрацоўнічаў зь ёй.

Гэта – няпраўда.

Сапраўды, зь вясны 1990-га Лукашэнка ўваходзіў у так званы Дэмакратычны клюб, куды спачатку запісалася больш за сотню дэпутатаў (сярод іх – і Мечыслаў Грыб, і Станіслаў Шушкевіч, і Віктар Ганчар, і мітрапаліт Філарэт). Ён падтрымліваў некаторыя эканамічныя прапановы Апазыцыі БНФ, у жніўні 1991-га паставіў подпіс пад патрабавань-

нем склікаць нечарговую сэсію Вярхоўнага Савету. Аднак ён ніколі не падтрымліваў нічога, што спрыяла б спачатку дасягненьню, а потым умацаваньню незалежнасьці Беларусі.

На пасяджэньні Апазыцыі БНФ Лукашэнка, які ў Апазыцыю не ўваходзіў, прыходзіў якіх пару разоў у якасьці назіральніка (Мы дазвалялі прыходзіць дэпутатам Дэмклюбу, калі нехта жадаў). Увогуле, я зафіксаваў ягоную прысутнасьць толькі аднойчы, а мне даводзілася весьці пратаколы Апазыцыі. Ён ніколі ня ўдзельнічаў у распрацоўцы нашых законапраектаў – адмовіўся папрацаваць нават над «аграрным» блёкам (у тым ліку і Зямельным Кодэксам) увосень 1990-га. Што для мяне было ня дзіўна: законапраекты вымагалі цяжкай і рутыннай працы, трэба было кансультавацца з адмыслоўцамі, ня два і ня тры разы дапрацоўваць кожны артыкул. І – без усялякай гарантыі, што законапраект будзе прыняты парлямэнцкай большасьцю. І ўжо, вядома – без магчымасьці сарваць ляўры папулярнасьці. Стыхія Лукашэнкі была – кідкі выступ ад мікрафона, зьедлівая рэпліка, абвінавачваньне апанэнта.

Да абвяшчэньня Незалежнасьці ў жніўні 1991-га Лукашэнка быў камуністам і належаў да той вельмі нешматлікай групы, якая выступала супраць артадаксальнага кіраўніцтва кампартыі Беларусі. Ён нават у пачатку 1991-га стварыў і ўзначаліў парлямэнцкую фракцыю «Камуністы за дэмакратыю», выступіў з артыкулам супраць першага сакратара ЦК КПБ Анатоля Малафеева. Аднак можна меркаваць, што пратэст гэты быў выкліканы не ідэалягічнымі разыходжаньнямі, а ў значнай ступені кар’ернымі амбіцыямі. Лукашэнку самому хацелася заняць пасаду ў найвышэйшым эшалёне кіраўніц-




Аляксандар Лукашэнка прарываецца да мікрафона (перад мікрафонам – дэпутат Віктар Какоўка) у Авальнай залі.

тва рэспублікі. Прыкметна, што, зрабіўшыся прэзыдэнтам, Лукашэнка прызначыў свайго колішняга апанэнта Анатоля Малафеева старшынём «сэнату»; усе члены найвышэйшага кіраўніцтва КПБ ягоным асабістым распараджэньнем атрымалі падвышаныя пэнсіі. На пасадзе прэзыдэнта Лукашэнка пацьвердзіў вернасьць тым ідэйным каштоўнасьцям, якія вызнавалі Малафееў і ягоныя паплечнікі, і нават перасягнуў іх, зрабіўшы тое, на што камуністы не асьмельваліся ва ўмовах дэмакратычнага ўздыму канца 80-пачатку 90-ых («лінію Сталіна»).

Адразу пасьля стварэньня незалежнай Беларусі і спыненьня дзейнасьці КПБ-КПСС Лукашэнка не пайшоў да БНФ альбо ў нейкую іншую дэмакратычную партыю, а займаў чым далей, тым больш выразную антынезалежніцкую пазыцыю. У канцы 1991 – пачатку 1992-га ягоныя выступы

ня мелі характару супрацьстаяньня з Апазыцыяй БНФ, але ён мэтадычна галасаваў супраць прапаноў, накіраваных на ўмацаваньне дзяржаўнасьці. З узмацненьнем рэакцыі і арыентацыі ўраду Кебіча на Маскву ён пачаў выступаць як ідэйны праціўнік БНФ і нацыянальнага Адраджэньня.

Але цягам усяго свайго дэпутацтва Лукашэнка пасьлядоўна выступаў супраць беларускай мовы як адзінай дзяржаўнай; пасьля 91-га да гэтага даданіся выступы супраць Незалежнасьці.

Працытую некаторыя характэрныя для яго заявы (і тагачасную на іх рэакцыю), яшчэ да «антыкарупцыйнага выступу» 1993 году, якія можна лічыць стартам ягонай прэзыдэнцкай кампаніі.

24 жніўня 1991 году, у першы дзень Нечарговай Пятай сэсіі Вярхоўнага Савету, якая абвясьціла Незалежнасьць, Лукашэнка заявіў, што адмаўляецца браць у ёй удзел:

«Я адчуваю, якое будзе прынятае сёньня рашэньне. І я не хачу быць саўдзельнікам таго злачынства, якое сёньня можа адбыцца ў парлямэнце. Мы ня здолеем асудзіць, мы ня здолеем прыняць тое, што ад нас патрабуе народ, мы ня здолеем аддаць належнае тым, хто быў арганізатарам гэтага путчу. Таму, сыходзячы з таго, што я сказаў, я не магу ўзяць далейшы ўдзел у гэтай сэсіі і прыняць удзел у галасаваньні. Я не хачу, каб на канчатковым этапе гэтага цьмянага часу, гэтага кароткага прамежку, мае рукі былі бруднымі».

Можна было б падумаць, што «злачынствам» Лукашэнка называе адмову большасьці дэпутатаў Вярхоўнага Савету асудзіць пракамуністычны путч. Аднак назаўтра, 25 жніўня, Лукашэнка выступіў ізноў, ацаніўшы «пытаньне пра тое, што

Беларусь павінна зрабіцца выключна сувэрэннай дзяржавай» як пагрозу таго, што «Беларусь можа апынуцца ў эканамічнай і палітычнай ізаляцыі ад іншых рэспублік».

З усіх 39 пайменных галасаваньняў, што былі на гістарычнай Сэсіі Незалежнасьці Лукашэнка не прагаласаваў ніводнага разу. Па першых васьмі пытаньнях насупраць прозьвішча Лукашэнкі ў стэнаграме пазначана «Нг» («Не галасаваў»), што азначае адмову галасаваць, а пачынаючы зь дзявятага пытаньня (ад пастановы «Аб дэпартызацыі органаў дзяржаўнай улады») пазначана «Ад» («Адсутнічаў»). У Авальнай залі Лукашэнка прысутнічаў, і нават падыходзіў да мікрафона, выступаў і ў кульмінацыйны момант угаворваў дэпутатаў апазыцыі БНФ не зганяць з трыбуны першага сакратара ЦК Малафеева, – але пры гэтым не рэгістраваўся. Лукашэнка, такім чынам, не галасаваў ні за дэпартызацыю, ні за спыненьне дзейнасьці КПБ-КПСС, ні за наданьне Дэклярацыі аб дзяржаўным сувэрэнітэце статусу канстытуцыйнага закону, што зьявілася юрыдычным актам абвяшчэньня Незалежнасьці Беларусі.

Гэтае стаўленьне да Незалежнасьці Лукашэнка пацьвердзіў у лістападзе 91-га, галасуючы супраць прапановы Апазыцыі БНФ стварыць уласнае беларускае войска.

У сьнежні 91-га Лукашэнка ня ўдзельнічаў у ратыфікацыі Белавескіх пагадненьняў аб спыненьні існаваньня СССР. Потым ён будзе казаць, што быў адзіным дэпутатам, які прагаласаваў «супраць». Але гэтак прагаласаваў мой «сусед» па Авальнай залі, былы сакратар ЦК КПБ і будучы старшыня Канстытуцыйнага Суду Валер Ціхіня. Я бачыў яго-

нае галасаваньне на ўласныя вочы і адразу ўступіў у даволі гарачую дыскусію зь Ціхінем з гэтай нагоды. Лукашэнка ж у той момант адсутнічаў у залі. Але паказальна, што ён настойліва прыпісваў сабе той адзіны голас «супраць развалу» СССР.

Затое калі ў тым самым сьнежні абмяркоўваўся праект пастановы аб беларускай мове ў СМІ, Лукашэнка ў залі прысутнічаў. Для прыняцьця Пастановы на хапіла галасоў – але тыя, хто галасаваў «супраць», зрабілі гэта моўчкі. Лукашэнка ж пры гэтым яшчэ і выказаўся. Празь некалькі дзён старшыня Камісіі па адукацыі, культуры і захаваньні гістарычнай спадчыны Ніл Гілевіч сказаў у інтэрвію, што супраць пастановы «выказваньняў было нямнога – два-тры. Мы, маўляў, фарсіруем падзеі, ёсьць Закон аб мовах, і няхай ён працуе. А дэпутат Лукашэнка абвінаваціў нас у тым, што мы быццам бы «бяром за горла, насаджаем» беларускую мову» («Голас Радзімы, 2 студзеня 1992 г.).

11 студзеня 1992 году на сэсіі Лукашэнка наступным чынам ацэньвае прынятыя некалькімі месяцамі раней рашэньні пра Незалежнасьць і наданьне бел-чырвона-беламу сьцягу і гербу «Пагоня» статусу дзяржаўных сымбаляў: «Мы ў эўфарыі прагаласавалі, я падкрэсьліваю гэта, за сувэрэнітэт. Мы зьмянілі сьцяг і герб».

У 1993 годзе, калі Беларусь уцягвалі ў Дамову аб калектыўнай бясьпецы СНД (што прывязвала яе да Масквы) і БНФ разам зь іншымі дэмакратычнымі партыямі і грамадзкімі арганізацыямі прыкладалі вялізныя намаганьні, каб гэтаму супрацьстаяць, Лукашэнка заявіў на сэсіі Вярхоўнага Савету:

«Я адназначна сёньня выступаю за ўступленьне

ў Дамову аб калектыўнай бясьпецы Рэспублікі Беларусь... І я яшчэ раз паўтараю: не падпішам гэтую дамову – наўрад ці мы пабудуем той эканамічны саюз, пра які ідзе гаворка. Больш за тое, я абсалютна ня супраць саюзу, я не галасаваў за развал і таго дзяржаўнага, палітычнага саюзу, які ў нас быў тады» (30 сакавіка 1993 г.).

У жніўні 1993-га Лукашэнка разам з прарасейскімі дэпутатамі Вярхоўнага Савету паехаў у Маскву, дзе сустрэўся з кіраўніком расейскага парлямэнту Русланам Хасбулатавым. У той час вакол Хасбулатава аб'ядналіся сілы, якія прагнулі камуністычнага рэваншу. Маскоўская газэта «Правда» надрукавала інтэрвію з Лукашэнкам, у якім свае адносіны да рэстаўрацыі «саюзу Беларусі і Расеі» ён выказаў ужо ў загалоўку– «Да возродится!».

1 верасьня «Народная газэта» зьмясьціла рэакцыю Васіля Быкава на гэтае інтэрвію. Артыкул называўся «Каб захаваць уладу, яны здольныя аб'яднацца хоць з самім д'яблам». З моманту дасягненьня Незалежнасьці гэта быў першы выпадак, калі Быкаў выступіў з артыкулам з нагоды пэўнай палітычнай заявы асобнага палітыка – нагэтулькі небясьпечным падаліся Васілю Ўладзімеравічу зробленыя Лукашэнкам заявы.

«Увогуле ня мела б вялікага сэнсу палемізаваць з гэтым газэтным ёкатам перапалоханага чалавека, які за гады ідэалягічнага ачмурэньня, відаць, так і не разабраўся ў гістарычнай сутнасьці часу, – пісаў Быкаў. – Калі б аўтарам таго інтэрвію, дадзенага ваяўнічаму прадстаўніку камуністычнай журналістыкі, ня быў народны дэпутат, прадстаўнік выбарнай улады, якая ў наш час вырашае ня толькі спосаб жыцьця цяперашніх пакаленьняў, але імк-

нецца вызначыць жыцьцё наступных, лёс нашай дзяржаўнасьці. Хаця пра які лёс можна весьці гаворку, калі гэты і да яго падобныя дэпутаты, ужо ня тоячыся, узялі курс на ліквідацыю той дзяржаўнасьці, на дэнансацыю Белавескіх пагадненьняў і "воссоздание единой союзной государственности".

..."Надо немедленно создавать единое государство даже из двух наших республик. Поймите, для других народов бывшего СССР это будет мощным стимулом".

Хочацца запытаць: стымулам чаго?

Ці ня стане такая ініцыятыва прычынай для сапраўднай вайны усіх з усімі, бо далёка ня ўсе думаюць так, як праўдзінскія аўтары, і зусім ня прагнуць вярнуцца назад, у стойла, у казарму? Калі нават у казарме ня трэба думаць, як "накормить народ". Ці не прынясуць некаторыя з ускраінных "гарачых кропак" разам з азначаным стымулам і гарачыя вугольлі пажару? Да зубоў узброеныя расейскай ды іншай зброяй, ці не запатрабуюць яны столькі хлеба і нафты для сваіх рэгіянальных войнаў, колькі новыя гаспадары ня здолеюць ім даць? Што тады будзе? Шмат гэтых "ці" ўзьнікае пры чытаньні падобных пасажаў, але, вядома, шаноўны дэпутат на іх не дае адказу. Апантаны ідэяй стварэньня "единого государства", здаецца, пра іх і ня думае.

Сувэрэннасьць нацыі і дзяржавы – адна з самых сьвятых дабротаў супольнага чалавечага існаваньня, і толькі ва ўмовах скажонай, перакуленай сьвядомасьці зьяўляецца патрэба тое даказваць...»

3 верасьня 1993 году Лукашэнка ўзяў удзел у скліканым праўрадавым Народным рухам Беларусі Кангрэсе народу Беларусі.

Ён заявіў, што гатовы «на каленях паўзьці да Расеі» і адзначыў, што «адзіны шанец для выратаваньня ад гібелі – стварэньне адзінай дзяржавы з былымі рэспублікамі СССР, найперш з Расеяй... На нашай зямлі быў зьнішчаны вялікі Саюз. Адсюль, менавіта адсюль павінен пайсьці рух па стварэньні новай вялікай дзяржавы. На гэтым шляху трэба адмовіцца ад зашмальцаванай ідэі эканамічнага саюзу, трэба прымаць палітычнае рашэньне».

Палажэньні свайго выступу Лукашэнка ўдакладніў у інтэрвію газэце «Советская Белоруссия» (21 верасьня 1993), якое мела характэрны рэдакцыйны ўступ: «Бадай, нідзе ў апошні час пытаньне дэнансацыі Белавескіх пагадненьняў і аднаўленьня адзінай дзяржавы ня ставілася з такой катэгарычнай праматою, як на Кангрэсе народу Беларусі, які прайшоў у Менску. Прыхільнікам адзінай дзяржаўнасьці, у першую чаргу з Расеяй, зьяўляецца народны дэпутат рэспублікі Аляксандар Лукашэнка».

Некалькі цытатаў з гэтага інтэрвію Лукашэнкі:

«На трыбуну кангрэсу я выйшаў з адной толькі ідэяй – рух да адзінай дзяржавы, найперш з Расеяй».

«Я ніякім чынам не падтрымліваю Віскулі, лічу яго злачынствам».

«У Беларусі проста няма іншага выйсьця, у Эўропе нас не чакаюць. Больш за тое, па зьвестках, якімі я валодаю, ЗША прапаноўваюць нам сваю дапамогу і супрацоўніцтва за вельмі высокую цану: яны хочуць, каб Беларусь стала пляцдармам для дзейнасьці замежных дзяржаў супраць Расеі. Мы ня маем права плаціць такую цану, гэта было б злачынствам».

«Калі пасьля аб’яднаньня ўзьнікне пагроза шы-

рокамаштабнага вайсковага нападу на Расею, дык беларускае войска абавязана стаць плячо ў плячо з войскам расейскім, як у гады Вялікай Айчыннай» («Советская Белоруссія», 21 верасьня 1993).

На праімпэрскую, прарасейскую арыентаванасьць Лукашэнкі неаднойчы зьвярталі ўвагу ў дэмакратычнай прэсе. Лукашэнка «не хавае і не камуфлюе мэту адзінай з Расеяй дзяржаўнасьці, не прыкрываецца эканамічным саюзам... Ён і пачынаў як нэафіт на першых сэсіях ВС. Ніякіх табе рытарычных і дыпляматычных выкрунтасаў: рэжа праўду-матку прамым тэкстам, і ўсё! Бывала, і зусім не туды яго заносіла, асабліва ў пытаньнях нацыянальных і культурных, затое на Лукашэнку зьвярнулі ўвагу, пра Лукашэнку загаварылі. Во, маўляў, дае!.. Яму можна было б даравацць і грубаватасьць, і выпады супраць дэмакратыі, каб не зьяўляўся Аляксандар Рыгоравіч зацятым, пасьлядоўным, дзейным праціўнікам Беларусі незалежнай» (Г. К. «Літаратура і мастацтва», 8 кастрычніка 1993).

7 кастрычніка дэпутаты Апазыцыі БНФ прынялі заяву, у якой, як ніколі да гэтага, утрымліваліся рэзкія ацэнкі сілаў і асобаў, якія дамагаліся ліквідацыі Беларусі як дзяржавы. Сярод названых імёнаў быў і Лукашэнка.

«Апазыцыя БНФ лічыць, што злачынныя сілы разбою і вайны ў Расейскай Фэдэрацыі вялі падрыхтоўку да мяцяжу ў Маскве сумесна з камуністамі і пракамуністычнымі, праімпэрскімі арганізацыямі ў Беларусі, зьвяртае ўвагу на сувязь дзеяньняў камуністаў Беларусі і Расеі. Грамадзкім выяўленьнем гэтай сувязі і падрыхтоўкі мяцяжу стаў «Кангрэс народаў Беларусі», зьмест якога быў скіраваны

на ліквідацыю дзяржаўнай незалежнасьці Беларусі і аднаўленьне таталітарнага СССР.

Грамадзтва Беларусі стала сьведкам здрады Радзіме часткі дэпутатаў пракамуністычнай большасьці Вярхоўнага Савету Беларусі, якія ўступілі ў злачынную змову са Старшынём былога Вярхоўнага Савету Расеі і арганізатарамі крывавага мяцяжу – Русланам Хасбулатавым і іншымі чырвона-карычневымі сіламі, узначальванымі спсп. Зюганавым, Сьцерлігавым і інш. Усё гэта адбывалася пры спагадных адносінах пэўных структураў і асобаў ураду Беларусі (Г. Данілава, С. Гайдукевіча, В. Паўлава і інш.).

Мы, дэпутаты Апазыцыі БНФ, настойваем на тэрміновым скліканьні нечарговай сэсіі Вярхоўнага Савету Беларусі. Мы патрабуем ад Савету міністраў Беларусі тэрміновых захадаў. Менавіта: забясьпечыць бясьпеку тэрыторыі Рэспублікі Беларусь ад пранікненьня злачынных груповак і асобаў пасьля разгрому фашысцка-камуністычнага мяцяжу ў Расеі; – тэрмінова ўвесьці дакумэнтальны і мытны кантроль на межах Беларусі з Расеяй, а ў бліжэйшым часе разгледзець пытаньне аб увядзеньні візавага рэжыму; – забараніць дзейнасьць пракамуністычных і праімпэрскіх партыяў у Беларусі (ПКБ-КПБ-КПСС, ДСПС, Саюз афіцэраў, Славянскі Сабор «Белая Русь»)...

Мы лічым неабходным паставіць пытаньне перад Вярхоўным Саветам аб пазбаўленьні дэпутацкіх паўнамоцтваў народных дэпутатаў Беларусі Генадзя Казлова, Мікалая Скарыніна, Аляксандра Лукашэнкі, Івана Трусава, Мікалая Грынёва, якія выступілі супраць незалежнасьці Беларусі. Мы ставім пытаньне ад расьсьледаваньні Генэраль-

ным пракурорам іх магчымага ўдзелу ў падрыхтоўцы камуністычнага мяцяжу ў Расеі і ў дзеяньнях, накіраваных на ліквідацыю сувэрэнітэту Беларусі, пра што большасьць зь іх неаднаразова публічна засьведчылі».

Тэкст заявы, калі яна была падпісаная дэпутатамі, я паслаў па факсе ў «Народную газэту» з прыпіскай ад рукі «І. Сярэдзічу – просьба надрукаваць у бліжэйшым нумары. С. Навумчык». Гэта было ніякае не ўказаньне, а менавіта пазнака, каб з факсу перадалі менавіта Сярэдзічу і не цягнулі з публікацыяй (у Апазыцыі сувязь са СМІ была на мне).

Лукашэнка ж нейкім чынам здабыў у рэдакцыі копію майго факсу і з трыбуны Вярхоўнага Савету абвінавачваў галоўнага рэдактара газэты ў тым, што ён выконвае мае загады.

Старшыня Вярхоўнага Савету С. Шушкевіч не падтрымаў нашу прапанову аб унясеньні ў парадак дня пытаньня аб пазбаўленьні Лукашэнкі ды іншых дэпутацкіх паўнамоцтваў. 14-15 сьнежня Лукашэнка зрабіў свае «антыкарупцыйныя» выступы (якія яму падрыхтавала пэўная група людзей і забясьпечыла трансьляцыю), а ў наступныя дні засяродзіўся на крытыцы апазыцыі і Шушкевіча, дамагаючыся ягонай адстаўкі. Нагодай для выказваньня недаверу на закрытым паседжаньні была не нібыта скрадзеная Шушкевічам «скрыня цьвікоў», як прынята лічыць, а тое, што Шушкевіч не абараніў супрацоўнікаў расейскай выведкі, якія дзейнічалі ў беларускім прадстаўніцтве ў ААН і былі высланыя з ЗША за дзейнасьць, не сумяшчальную з дыпляматычнай.

Такім чынам, да моманту свайго «антыкарупцыйнага выступу» 14-15 сьнежня 1993 году

Лукашэнка меў устойлівы імідж палітыка, які не прымае нацыянальнае адраджэньне і выступае за ліквідацыю Беларусі як незалежнай краіны праз аб’яднаньне з Расеяй. Гэта бачылі ўсе – у тым ліку і дэпутаты Віктар Ганчар, Дзьмітры Булахаў, Леанід Сініцын, Іван Ціцянкоў, Віктар Кучынскі, Анатоль Лябедзька, якія ў 1994-ым увайшлі ў ягоную выбарчую каманду. Альбо тыя, хто ня быў дэпутатам – Аляксандар Фядута, Сяргей Чалы, Валер Цапкала. Нехта зь іх палічыў антынацыянальную, антынезалежніцкую арыентацыю Лукашэнкі неістотнай, а для кагосьці яна, наадварот, была прымальнай і вызначальнай. Не падлягае сумневу, што прарасейскія настроі Лукашэнкі былі даўно заўважаны ў Маскве – і ў Крамлі, і на Лубянцы, дзе ўжо пачаў фармавацца палітычны цэнтар той сілы, які скажа сваё слова праз некалькі гадоў, вылучыўшы наступнікам Ельцына афіцэра КДБ Пуціна.

## Радыкалізм ці пасьлядоўнасьць?

Студзень 1994 году для дэпутатаў Апазыцыі БНФ і яе лідэра Зянона Пазьняка пачаўся з паездак па Беларусі. На гэтыя сустрэчы зьбіраліся сотні людзей, напрыклад, у Віцебску, куды мы з Пазьняком паехалі разам, былі перапоўненыя і Палац культуры больш чым на тысячу месцаў, і заля коласаўскага тэатру, разьлічаная больш чым на пяцьсот гледачоў (тут людзі стаялі нават ў фае, і рэжысэр Валер Масьлюк сказаў мне перад пачаткам сустрэчы, што ніколі такога аншлягу ў гэтых сьценах не было: «Баюся, каб не разьнесьлі тэатар!»).

Тэатар не разьнесьлі, затое прапагандысцкія стэрэатыпы пра Пазьняка разбурыліся.

Вось як пра той прыезд у Віцебск Пазьняка прыгадвае Павал Севярынец: «У пачатку 1994 году бацька (тады карэспандэнт мясцовай газэты "Народнае слова") хацеў узяць мяне ў тэатар Якуба Коласа, дзе праходзіла сустрэча з Пазьняком. Мне было сямнаццаць, і быў я "тэлевізійны дэмакрат", захапляўся маскоўскімі лібэраламі. "Позняк?" – перапытаў я, будучы пад прапагандовымі штампамі тых часоў. "Хадзем, хоць сам паслухаеш чалавека" – настойваў бацька. Тры гадзіны, якія я слухаў Пазьняка, перавярнулі маё сьветаўспрыманьне: ён адкрыў мне, што такое Беларусь. Напрыканцы выступу я пляскаў у ладкі стоячы. Вырашыў запі-

сацца ў БНФ. Тая сустрэча сталася ў палітычным сэнсе для мяне вызначальнай».

Артыкул Пазьняка «О русском империализме и его опасности», надрукаваны ў «Народнай газэце» 15-16 студзеня 1994 году, лічыцца адной з найбольш важных публікацый лідэра Народнага Фронту. Артыкул быў рэзка нэгатыўна ўспрыняты ва ўрадавых колах, газэта «Советская Белоруссия» выступіла з рэзкай водпаведзьдзю (між іншым, спачатку Пазьняк прапанаваў тэкст гэтай газэце, таму і быў ён напісаны па-расейску – але рэдакцыя адмовілася).

Прайшлі гады, і прагнозы Пазьняка адносна пэрспэктываў крамлёўскай палітыкі спраўдзіліся, а ацэнкі, якія падаваліся рэзкімі і неаб'ектыўнымі, успрымаюцца як канстатацыя факту. І тым ня менш, шмат хто з прыхільнікаў Пазьняка лічыць, што ня варта было Пазьняку выступаць з гэтай публікацыяй: маўляў, тое, што добра для гісторыка, публіцыста – не заўсёды пасуе палітыку.

Асабіста я ня схільны дэманізаваць той артыкул: я перакананы, што калі б не было яго, афіцыйная прапаганда скарысталася б іншыя выступы Пазьняка для стварэньня яму вобразу «радыкала» (што яна, зрэшты, заўсёды і рабіла).

Якраз гэтай тэме – ці павінен палітык ісьці ў фарватэры настрояў грамадзтва, падстройвацца пад яго, альбо ён мае права апярэджваць час, бачыць пэрспэктыву, «падцягваць» гэтае самае грамадзтва – і прысьвечаны артыкул, які я напісаў у пачатку 94-га. Ён даволі доўга праляжаў у рэдакцыі «Звязды» і быў надрукаваны 12 красавіка пад назовам «Радыкалізм ці пасьлядоўнасьць?». Падаю яго цалкам.

«У друку пачалі зьяўляцца артыкулы з ацэнкай асобы старшыні Беларускага Народнага Фронту Зянона Пазьняка. (Адзін зь іх, напісаны Сымонам Сьвістуновічам, быў зьмешчаны ў «Звяздзе».)

Ва ўсіх гэтых выступах прасочваецца думка: Пазьняк – занадта радыкальны палітык. Магчыма, тое, што ён гаворыць, маўляў, і мае сэнс, але ж можна было б рабіць гэта неяк мякчэй, ня ў лоб, з разьлікам на рахманасьць і талерантнасьць сярэдняга беларускага грамадзяніна.

Ну а давайце паспрабуем вярнуцца на некалькі гадоў назад і ўявіць, як бы разгортваліся падзеі, калі б Пазьняк дзейнічаў не па ўласным сумленьні, а па рэкамэндацыях сваіх крытыкаў.

Вясна 1988 году. Археоляг Пазьняк натрапіў на страшэнную таямніцу Курапатаў. Па раскопе відавочна, што забойства дзясяткаў тысяч людзей адбылося да вайны і прысуд выконваўся НКВД. Кіраўніцтва ЦК і КДБ адмаўляліся прызнаць факт масавага зьнішчэньня «савецкіх людзей», перакладаючы адказнасьць на фашысцкіх захопнікаў. Ды праўда – пра рэпрэсіі на той час было сказана шмат, а вось паказаць, што зьнішчаліся не адзінкі з палітычнай ды мастацкай эліты, а тысячы простых людзей, і што рабілі гэта камуністы ў форме НКВД, і ня дзе-небудзь на далёкай Калыме, а вось тут, побач... Усьведамленьне гэтага грамадзтвам можа сапраўды стварыць пагрозу для Сыстэмы. Пазьняк згаджаецца з такой вэрсіяй. Ні ў «ЛіМе», ні ў іншых выданьнях ніякіх артыкулаў пра Курапаты не зьяўляецца. На месцы Курапатаў закладваецца парк адпачынку – з шашлычніцамі для дарослых, танцпляцоўкамі для моладзі і атракцыёнамі для дзяцей.

Але Пазьняк сказаў праўду (калі-небудзь, спадзяюся, грамадзтва даведаецца, чаго яму гэта каштавала). Сьвет – жахнуўся. А таварышы камуністы з «Мы и время» і да гэтага часу ня могуць зьмірыцца з тым, што Пазьняк прывёў неабвержныя доказы вынікаў дзейнасьці бальшавіцкай улады. І ніколі яму гэтага не даруюць. Шараговыя камуністы абураныя экстрэмізмам Пазьняка.

Кастрычнік 1988 году. БССР зьяўляецца самай стабільнай рэспублікай; кіраўніцтва кіруе, народ працуе. Згодна з рэзалюцыямі апошняга Пленуму ЦК КПСС, ідзе падрыхтоўка да выбараў народных дэпутатаў СССР, якія павінны стаць яшчэ адным доказам разьвіцьця сацыялістычнай дэмакратыі. У дэпутаты будуць вылучаныя «найлепшыя» людзі рэспублікі – партыйныя работнікі зь ліку кіраўніцтва ЦК, першыя сакратары абкамаў КПБ, работнікі дзяржаўнага апарату, генэралы Савецкай Арміі і КДБ, сумленныя фрэзэроўшчыкі і прывабныя трактарысткі, а таксама некалькі таварышаў з ЦК КПСС і Дзяржпляну СССР, якія акажуць дапамогу ў матэрыяльным забесьпячэньні плянавай гаспадаркі рэспублікі. Прыгадваеце гэты абсурд?

Супрацьстаяць яму мог толькі арганізаваны дэмакратычны рух. Рух, здольны вытрымаць ня менш абсурдныя абвінавачаньні. Але патэнцыйны арганізатар гэтага руху Зянон Пазьняк, як і належыць законапаслухмянаму грамадзяніну, накіроўваецца не да людзей, а ў ЦК КПБ – баявы штаб беларускіх камуністаў. Ён заяўляе: так, таварышы Сакалоў і Пячэньнікаў, вы маеце рацыю: КПСС зьяўляецца адзіным рычагом дэмакратызацыі, а атрад беларускіх камуністаў – прывадны рамень гэтага мэханізму. Давайце падтрымаем найлепшых прад-

стаўнікоў гэтага атраду, якія ў час сэсіяў будуць спрыяць ажыцьцяўленьню плянаў партыі энэргічным галасаваньнем.

Але Пазьняк утварае Аргкамітэт БНФ, які потым наладжвае па ўсёй Беларусі вылучэньне і падтрымку дэмакратычных кандыдатаў. Афіцыйная прэса прасочвае «эвалюцыю палітычнага невуцтва» ініцыятараў стварэньня дэмакратычнага руху; перадавыя даяркі і сьвядомыя вэтэраны заклікаюць насельніцтва «ня йсьці ў Фронт». Навошта ён, гэты Фронт? А галоўнае – супраць каго? Радавога грамадзяніна асабліва хвалюе вось гэтае апошняе пытаньне: дык супраць каго Фронт, супраць каго Пазьняк? Навошта быць «супраць», калі можна – «за»? Радавы грамадзянін абураны экстрэмізмам Пазьняка.

Вясна 1989. Акадэмік Канапля вядзе дасьледаваньні і бачыць, як адбіваецца Чарнобыльская аварыя на арганізьме. Бачыць гэта прафэсар Шушкевіч. Разумеюць гэта і дзясяткі іншых навукоўцаў. Але іх навуковыя спавешчаньні на сэмінарах ды канфэрэнцыях – ня больш, чым чарговая вэрсія. Таварышы з ЦК вызначылі, што Чарнобыль ня даў шкоды. Вось і Зянон Пазьняк згаджаецца, што Чарнобыль – надуманая праблема; кіраўніцтва ЦК на чале са Слюньковым своечасова ажыцьцявіла ўвесь комплекс захадаў, якія здолелі зьвесьці да мінімуму вынікі аварыі і забясьпечыць бясшкоднае існаваньне людзей на так званых «забруджаных тэрыторыях», пра якія так любяць вяшчаць хлусьлівыя забугорныя галасы. І увогуле, Чарнобыль – гэта пытаньне, якім павінны займацца толькі такія высокакваліфікаваныя спэцыялісты, як таварыш Камай з Гомеля і прафэсар Ільін з Масквы.

Але Пазьняк і БНФ у красавіку праводзяць «гадзіну смутку», а ў верасьні ладзяць «Чарнобыльскі шлях». Афіцыйная прэса папракае арганізатараў, што замест таго, каб узяць удзел у суботніку, яны вывелі людзей на плошчу. Простыя грамадзяне вымяраюць тэмпэратуру: сапраўды, усё ў норме, якая радыяцыя? Простыя грамадзяне абураюцца экстрэмізмам Пазьняка.

Сакавік 1990 году. Сойм Літвы абвяшчае незалежнасьць. У Беларусі адбываюцца выбары Вярхоўнага Савету. У лік дэпутатаў трапляе некалькі прадстаўнікоў інтэлігенцыі. Ня іх віна, што не ўдалося ім, як большасьці калег па парлямэнце, дасягнуць партыйных і дзяржаўных пасадаў. Затое яны не перашкаджаюць галасаваць тым, хто дні і ночы на гэтых пасадах клапоціцца пра дабрабыт народу. Прадстаўнікі інтэлігенцыі ўцягваюцца ў складаны працэс заканатворчай дзейнасьці – у парлямэнцкіх камісіях яны не заклапочваюцца бязглуздымі ініцыятывамі, а дакладна і ў тэрмін выконваюць распараджэньні Мікалая Іванавіча Дземянцея. Тыя, хто не пажадаў разьвітацца з прафэсіяй, займаюцца любімай справай, але на больш высокім узроўні – на адказных пасадах у міністэрствах і ведамствах. Яны працуюць канструктыўна. Яны цалкам падтрымліваюць Праграму пераходу да рынкавай эканомікі, якую прапанаваў Старшыня Саўміну В. Ф. Кебіч. Яны аднадушна выказваюцца супраць такога буржуазнага рудымэнту, як прыватная ўласнасьць на зямлю. Яны актыўна ўдзельнічаюць у ажыцьцяўленьні «рынкавай рэформы» – ствараюць супольныя прадпрыемствы, дапамагаюць выпісваць ліцэнзіі на вываз нафты і каляровага мэталу,

асвойваюць пад катэджнае будаўніцтва закінутыя тэрыторыі пад Менскам.

7 лістапада 1990 году, падчас дэманстрацыі працоўных, дэпутат Пазьняк выступае з прамовай у абарону камуністычных ідэалаў і Леніна. Ён гаворыць, што мільёны ахвяраў – на сумленьні не камуністычнай партыі, а нейкіх іншаплянэтнікаў. Наогул, чым раней мы забудземся пра гэтыя ахвяры – тым лепей для здаровага сну простых савецкіх людзей. Пазьняк даводзіць, што нават калі Леніным і былі аддадзеныя загады расстраляць сотні і тысячы людзей, то ён ня вінаваты. Бо кіраўнік банды не павінен несьці адказнасьці за дзеяньні баевікоў, што выконваюць ягоны загад.

Калі ў жніўні 1991 году ў Маскве правальваецца путч, у рэспубліках абвяшчаецца незалежнасьць і спыняецца дзейнасьць філіяў КПСС – гэтыя дэпутаты зьвяртаюцца да народу і заклікаюць не склікаць нечарговую сэсію. Дэпутат Пазьняк прапануе не пароць гарачкі, а яшчэ шчыльней аб'яднацца вакол бюро ЦК КПБ на чале з таварышам Малафеевым. Што да так званага сувэрэнітэту, кажа Пазьняк, то ён ніколі ня быў патрэбны простаму люду Беларусі. Натуральна, большасьць дэпутатаў – «плоць ад плоці» народу – падзяляюць гэтую думку. «Беларусія» застаецца аўтаномнай рэспублікай у складзе Расейскай Фэдэрацыі.

Але Пазьняк аб'яднаў дэмакратычных дэпутатаў, стварыў Апазыцыю. Чатыры гады Апазыцыя вылучала ідэі, якія першапачаткова адкідаліся парлямэнцкай большасьцю і, ня будзем хаваць, не адразу ўспрымаліся грамадзтвам. Потым і грамадзтва, і дэпутаты прыходзілі да ўсьведамленьня

гістарычнай, палітычнай і эканамічнай неабходнасьці гэтых ідэяў.

Мне цяжка назваць прапановы Пазьняка, якія б не аспрэчваліся як занадта радыкальныя. Але мэтазгоднасьць кожнай даволі хутка пацьвярджалася жыцьцём.

Дэпартызацыя прадпрыемстваў, дзяржаўная незалежнасьць, нацыянальныя сымбалі, прыватная ўласнасьць на сродкі вытворчасьці, на зямлю, стварэньне беларускага войска, уласная грашовая сыстэма, датэрміновыя выбары – вось толькі некаторыя ідэі, вылучаныя Пазьняком. І кожная зь іх успрымалася ў штыкі, кожная ў афіцыйнай прэсе, у лепшым выпадку – асьмейвалася, але звычайна падавалася як праява экстрэмізму.

У сьвядомасьць «простага» грамадзяніна закладваўся стэрэатып: Пазьняк – экстрэміст.

Гэта было выгадна камуністам, ураду Кебіча.

Магчыма – буду казаць адкрытым тэкстам – гэта было на руку каму-нікаму і з дэмакратаў. Я ўжо ня памятаю, калі апошні раз Пазьняк казаў пра праблему беларускай мовы – ягоныя выступленьні прысьвечаныя, пераважна, эканамічным ды палітычным пытаньням. Але сёй-той зь лідэраў на сваіх сустрэчах не праміне падкрэсьліць, што глыбока паважае Пазьняка і БНФ – за ўздым праблемы нацыянальнага адраджэньня. І толькі. Падтэкст зразумелы: ні на што іншае яны ня здатныя. Ня ўзгадваецца эканамічная канцэпцыя Апазыцыі, шматлікія заканадаўчыя прапановы дэпутатаў Заблоцкага, Беленькага, Аляксандра...

Цяпер, калі пачынаеш аналізаваць падзеі нядаўняга часу, разумееш: лінія паводзінаў, абраная Пазьняком, была адзіна правільнай у сытуацыі таталь-

най манаполіі камуністаў на ўладу і непрыняцьця ідэй дзяржаўнай незалежнасьці. Усялякія іншыя, «мяккія» паводзіны, хутка прывялі б да калябарацыянізму і дыскрэдытацыі дэмакратычнага руху.

Таму мне дзіўна чуць ад некаторых дэмакратычных паплечнікаў заявы наконт таго, што менавіта БНФ і Пазьняк развалілі дэмакратычны рух. Пяць гадоў таму гэты рух быў утвораны як Беларускі Народны Фронт; у парлямэнцкіх варунках ён увасобіўся ў выглядзе Апазыцыі БНФ. Цяпер відавочна, што Апазыцыя БНФ – адзінае дэпутацкае палітычнае фармаваньне, якое ня проста захавалася, але і пасьлядоўна адстойвала свае прынцыпы. Быў, праўда, і гэтак званы Дэмакратычны клюб (першапачаткова – «Дэмакратычная плынь»). У яго склад (калі меркаваць па сьпісе) у свой час нават Мечыслаў Іванавіч Грыб уваходзіў. Адным з каардынатараў «Дэмакратычнай плыні» быў і С. С. Шушкевіч («Энцыкляпэдыя гісторыі Беларусі», с. 441). Праўда, я ня памятаю, каб пасьля абраньня першым намесьнікам старшыні Вярхоўнага Савету ці, пазьней, Старшынём ВС, Станіслаў Станіслававіч наведаўся на пасяджэньне Дэмклюбу.

Зусім не хачу крыўдзіць Станіслава Станіслававіча, але з усялякага досьведу мы павінны рабіць высновы. Станіслаў Станіслававіч заўсёды сьцьвярджаў, што ў старшыні ВС не хапае канстытуцыйных паўнамоцтваў, каб ажыцьцявіць дэмакратычныя пераўтварэньні ў краіне. Магчыма. Але найвышэйшая дзяржаўная пасада – гэтага дастаткова, каб кансалідаваць дэмакратычны рух, надаць аўтарытэт гэтаму руху ў грамадзтве.

Ды Станіслаў Станіслававіч хацеў быць лагод-

ным для ўсіх. Па-чалавечы – абсалютна зразумелае жаданьне. Магчыма, на бытавым узроўні, на ўзроўні ўзаемаадносінаў паміж жыхарамі лесьвічнай пляцоўкі гэта – найбольш аптымальны варыянт паводзінаў. Ды толькі Станіслаў Станіслававіч хацеў быць для ўсіх прыемным там, дзе заўсёды жорстка паўстае праблема выбару – у палітыцы. І для ініцыятараў рэфэрэндуму – і для яго праціўнікаў. У выніку сыграў на карысьць праціўнікаў. І для дэмакратаў – і для камуністаў. А паспрыяў адраджэньню партыі камуністаў. І для прыхільнікаў нэўтралітэту – і для прыхільнікаў Дамовы аб калектыўнай бясьпецы з Расеяй. Урэшце, падпісаў гэтую Дамову.

Такая «лагоднасць» не ішла на карысьць ні дзяржаве, ні дэмакратычнаму руху. Але Шушкевіч – добры. Ён лагодны. А Пазьняк дрэнны. Бо ён – прынцыповы і пасьлядоўны.

На дзіва алягічнае ўспрыманьне паводзінаў.

Прычым паказальна, што такая своеасаблівая рэакцыя на прапановы пра ўласную валюту, максымальную незалежнасьць ад суседзяў і г. д. была б немагчымай дзе-небудзь у Чэхіі альбо Вугоршчыне. У здаровым грамадзтве ўсё гэта ўспрымаецца абсалютна спакойна.

Чую зьедлівае пытаньне «Дык вам што – зноў з народам не пашанцавала?» Не пашанцавала – народу. Не пашанцавала ўсім нам.

Хвароба была нагэтулькі глыбокай, што вынікі яшчэ доўга будуць нагадваць пра сябе.

Але кожны ведае, што лячэньне будзе марным ці нават шкодным пры памылковым дыягназе. Вядома і тое, што найбольш шанцаў на добры вынік

тады, калі той, хто ставіў дыягназ, мае магчымасьць выбраць спосаб і сродак лячэньня.

Ня кожнаму прыемна выслухоўваць дыягназ – але ці варта дакараць за яго лекара?»

У гэтым артыкуле я тады не закрануў тэму абвінавачваньня Пазьняка ў «антырасейскіх настроях». Але наконт гэтага праз год, у чэрвені 1995-га, скажа Васіль Быкаў: «Некалі, на пачатку дэмакратычных пераўтварэньняў у Расеі, у Маскве, я дужа спадзяваўся на расейскіх дэмакратаў. І мне здаваліся празьмернымі закіды Пазьняка ў бок расейскай дэмакратыі. Многіх тых дэмакратаў я ведаў асабіста, і ў мяне была спадзяванка на іх, я разьлічваў, што яны як дэмакраты зразумеюць і дэмакратыю нацыянальную, напрыклад, у Беларусі, і падтрымаюць яе... Але выявілася, што Пазьняк меў рацыю. Мы пабачылі, як перарадзілася ў сваёй масе расейская дэмакратыя. Нават лепшыя зь іх сталі дзяржаўнікамі, апраўдалі разгром Чачні. Намінальна дэмакратычны ўрад Ельцына, што мяне моцна зьдзівіла, паяднаўся з тымі ж таджыцкімі камуністамі, каторыя пры ўладзе, пачаў іх падтрымліваць – супраць дэмакратычных нацыяналаў, каторых выгналі ў эміграцыю. Цяпер – у адносінах да Украіны гэтыя «дэмакраты» павялі сябе ня лепшым чынам. І адносна Беларусі, хоць пра Беларусь пакуль што асабліва не выказваліся. Я скажу, што гэта дзівосная, гібрыдная рэч – расейская дэмакратыя; гэта ня тая дэмакратыя, за каторую мы яе прымалі і на каторую хацелі спадзявацца» (Юрась Залоска, «Праўда як рэлігія», Мэдысонт, Менск, с.114–114).

# Як расьсякалі вузел прэзыдэнцтва

15 сакавіка 1994 году была прынятая першая Канстытуцыя незалежнай Беларусі, якая замацавала прэзыдэнцкае кіраваньне.

Зроблена гэта было, як лічылася, пад тагачаснага прэм'ер-міністра Вячаслава Кебіча. Перад гэтым Кебіч рукамі старшыні «антыкарупцыйнай камісіі» Лукашэнкі выштурхнуў з улады некаторых з тых, хто яму, як ён лічыў, перашкаджаў. Магчыма, у гэты самы дзень (а можа, і крыху раней альбо пазьней – зрэшты, гэта неістотна) у Авальнай залі я сказаў Кебічу, што ён памыляецца, калі лічыць Лукашэнку палітычным паплечнікам.

«Час пакажа», – адказаў прэм'ер.

Час паказаў хутка: ужо 27 сакавіка Лукашэнка ў жывым эфіры беларускага радыё заявіў, што «калі Кебіч ня будзе прэзыдэнтам – ён будзе сядзець у турме».

Кебіч ня стаў прэзыдэнтам. Але – і ў турму ня сеў. У турме апынуліся, калі лічыць СІЗА і розныя Акрэсьціна, тысячы тых, хто імкнуўся выправіць зробленае на першых прэзыдэнцкіх выбарах 1994 году.

Але «прадмовай» да прэзыдэнцкай кампаніі было прыняцьце Канстытуцыі. Варта даць рэтраспэкцыю ад самага пачатку існаваньня незалежнай беларускай дзяржавы.

Аматары шукаць знакі ды сымбалі могуць

убачыць нядобрае прадвесьце ў тым, як 1994 год пачаўся:

«Тэлегледачы Беларусі мелі мажлівасьць параўнаць навагоднія віншаваньні (з 1994 годам – С.Н.) Барыса Ельцына расіянам і Станіслава Шушкевіча грамадзянам Беларусі. Прэзыдэнт Расеі ўспрымаўся менавіта як прэзыдэнт. Ён прадстаў перад гледачамі ў інтэр'еры свайго рабочага кабінэта, упрыгожанага расейскай дзяржаўнай сымболікай. Калі прэзыдэнт скончыў прамову, на экране ўзьнік у начным небе асьветлены пражэктарамі расейскі трыкалёр. Гучаў Дзяржаўны гімн. Потым трыкалёр зьмянілі віды Крамля, начной Масквы. Ва ўсіх, хто глядзеў у гэты момант тэлевізар, склаўся вобраз вялікай, моцнай дзяржавы.

Станіслаў Шушкевіч сядзеў на фоне сьцяны незразумелага колеру (узьнікалі асацыяцыі з бальніцай альбо казармай), на стале стаяла чэзлая елачка і пакамечаны бел-чырвона-белы сьцяжок. Калі скончылася віншаваньне, на экране на нейкую хвіліну зьявілася невыразная застаўка зь бел-чырвона-белым сьцяжком, а потым – такія ж невыразныя "навагоднія" малюнкі. І ўсё.

Можа, недапрацавала пэўная рэдакцыя Беларускага тэлебачаньня, а можа, усё гэта і невыпадкова... Мы ведаем, як ставяцца да Беларускай дзяржавы пракамуністычныя ўлады, як дбаюць яны аб яе прэстыжы і прывабным вобразе» («Літаратура і мастацтва», 7 студзеня 1994).

Праўда, праз два тыдні бел-чырвона-белы сьцяг і «Пагоня» зьявіліся на экранах вядучых тэлекампаніяў сьвету: 15 студзеня 1994 Менск наведаў прэзыдэнт ЗША Біл Клінтан.

Клінтан правёў перамовы з Шушкевічам і Кебі-



Прэзыдэнт ЗША Біл Клінтан і старшыня Вярхоўнага Савету Беларусі Станіслаў Шушкевіч у аэрапорце Менск-2. 15 студзеня 1994.

чам, сустрэўся ва ўрадавай рэзыдэнцыі зь лідэрамі Апазыцыі БНФ і некаторых дэмакратычных партый і з трыбуны, на якой была ўмацаваная «Пагоня», выступіў перад моладзьдзю ў Акадэміі навук.

Падрыхтоўка да візыту распачалася значна раней – яшчэ ўлетку прадстаўнікі амэрыканскай амбасады сказалі нам, што Клінтан хацеў бы наведаць Курапаты і спаткацца зь лідэрамі апазыцыі.

Між іншым, аўтару гэтых радкоў належыць ідэя выступу Клінтана ў Акадэміі Навук – тады, на сустрэчы з амбасадарам Суорцам, я прапанаваў не абмяжоўвацца выключна палітыкамі, а сабраць прадстаўнікоў творчай і навуковай інтэлігенцыі, і найперш – моладзь. У памяці была нядаўняя сустрэча Міхаіла Гарбачова ў актавай залі АН, калі той бэсьціў дэмакратаў – мне падалося, што сустрэча Клінтана выглядала б выразным кантрастам

выступу Генэральнага сакратара ЦК КПСС. Былі і больш важкія аргумэнты – даць маладой беларускай інтэлігенцыі адчуваньне ўключанасьці ў сусьветную супольнасьць. Суорц пагадзіўся і, наколькі я разумею, выказаў такую прапанову Станіславу Шушкевічу – пазьней Шушкевіч будзе казаць, што гэта была ягоная ініцыятыва. Потым Суорц сказаў, што найбольш уразіла амэрыканскі бок, што падчас выступу Біла Клінтана палова прысутных (а запрасілі сапраўды, пераважна, моладзь) – не карысталіся навушнікамі для сынхроннага перакладу. «У залі сапраўды сабралася будучыня Беларусі», – сказаў тады Клінтан.

А пад вечар Клінтан наведаў Курапаты. Атачэньне Кебіча вельмі не хацела гэтага. Прадстаўнікі ўраду і КДБ нават заявілі амэрыканскаму боку, што не гарантуюць прэзыдэнту бясьпеку. Але Клінтан у Курапаты прыехаў. Пазьняк падрабязна распавёў яму пра злачынства, якое зладзілі тут бальшавікі, а на пытаньне, чаму гэтае сьвятое месца не ўшанаванае належным чынам, адказаў – «таму што сёньня пры ўладзе духоўныя нашчадкі тых, хто расстрэльваў тут у 30-ыя гады». Прэзыдэнт ЗША усталяваў памятны знак з надпісам «Ад народу Злучаных Штатаў народу Беларусі – дзеля памяці».

Але не дэмакратычная Амэрыка мела найбольшы ўплыў на кіраўніцтва краіны.

У 1994 год Беларусь увайшла пад значным уплывам Расеі – фактычна, ужо ў канцы 91-га пачаўся эканамічны ціск Масквы, які з 1992 году спалучаўся з імкненьнем уцягнуць Беларусь у зону ўплыву расейскага Генштабу. 1993 год можна назваць вяршыняй нацыянальнага адраджэньня – адкрывалася вялікая колькасьць беларускіх школаў, з удзелам

найвышэйшага кіраўніцтва краіны прайшлі ўрачыстасьці ў гонар утварэньня БНР і першы Зьезд беларусаў сьвету. Але, адначасна – з войска былі звольненыя сотні беларускіх афіцэраў – актывістаў БЗВ, падпарадкаваныя Саўміну СМІ адкрыта прапагандавалі шавіністычных, праімпэрскіх палітыкаў. Прэм'ер-міністар Вячаслаў Кебіч заяўляў, што раскайваецца ў падпісаньні Белавескіх пагадненьняў. У ліку найбліжэйшых дарадцаў Кебіча аказаліся асобы (у тым ліку і дэпутаты Вярхоўнага Савету), якія адкрыта пазыцыянавалі сябе як прарасейскія. Найбольш актыўнымі сярод іх былі дзяржсакратар у справах бясьпекі Генадзь Данілаў, ягоны намесьнік, дэпутат ВС Генадзь Казлоў (ён жа – і каардынатар пракебічаўскай, самай вялікай у ВС дэпутацкай групы «Беларусь») і прэсавы сакратар кіраўніка ўраду Ўладзімер Замяталін. Пазьней Вячаслаў Кебіч прызнаецца ў мэмуарах, што спэцслужбы Расеі мелі доступ да тэлефонных размоваў найвышэйшага кіраўніцтва Беларусі, у тым ліку і старшыні Вярхоўнага Савету Станіслава Шушкевіча. Пачалася кампанія за ўваход Беларусі ў расейскую «рублёвую зону».

Аднак калі прарасейская саўмінаўская група дзейнічала ў інтарэсах Расеі і фармальна не рабіла заяваў пра ліквідацыю Незалежнасьці (а толькі настальгавала па СССР), дык Аляксандар Лукашэнка ў 1993 годзе заявіў пра неабходнасьць аднаўленьня імпэрыі – хай бы нават пакуль толькі ў межах Расеі і Беларусі. «Незалежнасьць – ня ёсьць ікона, на якую трэба маліцца», – сфармуляваў сваё палітычнае крэда ў тым самым 93-ім найбліжэйшы да яго дэпутат, старшыня заканадаўчай Камісіі і сябра Прэзыдыюму ВС Дзьмітры Булахаў.

Адразу пасьля абвяшчэньня Незалежнасьці 25 жніўня 1991 году Апазыцыя БНФ запатрабавала правядзеньня выбараў у новы парлямэнт. Супраць гэтага выступілі былыя камуністы (іх у Вярхоўным Савеце была большасьць) і новаабраны сьпікер Станіслаў Шушкевіч.

Калі з камуністамі зразумела, дык пазыцыя Шушкевіча патрабуе пэўных тлумачэньняў.

Розьніца паміж падыходамі Шушкевіча і Апазыцыі БНФ палягала ў наступным. Шушкевіч лічыў, што спачатку Канстытуцыя, а потым – выбары. Апазыцыя ж была перакананая, што спачатку трэба абраць новы парлямэнт, і толькі новы Вярхоўны Савет (Сойм) мае права вызначыць канстытуцыйны лад краіны. Шушкевіч быў перакананы, што зь Вярхоўным Саветам 12-га скліканьня можна працаваць, што дэпутаты, усе гэтыя былыя сакратары райкамаў і дзейныя старшыні калгасаў, генэралы і намесьнікі міністраў, здольныя ўспрыняць дэмакратычныя ідэі і ўвасобіць іх у Асноўным законе. Аргумэнты Апазыцыі БНФ палягалі ў тым, што першыя месяцы існаваньня незалежнай дзяржавы выявілі поўную няздольнасьць намэнклятуры ператварыцца з выканаўцаў распараджэньняў Масквы ў самастойных палітыкаў; да таго ж, ужо на пачатку 1992 году парлямэнцкая большасьць вырашыла скасаваць рашэньне аб прыпыненьні дзейнасьці КПБ-КПСС. Дэпутаты Апазыцыі БНФ папярэджвалі, што прынятая дэпутатамі-экс-камуністамі Канстытуцыя ня будзе адпавядаць патрэбам грамадзтва.

Markdown

Рознасьць у падыходах выявілася і ў гісторыі з рэфэрэндумам аб датэрміновых выбарах. Не знайшоўшы ў дэпутацкай большасьці падтрымкі сваім прапановам па ўмацаваньні дзяржаўнасьці, дэмак-

ратызацыі і правядзеньні эканамічных рэформаў, БНФ яшчэ раз запатрабаваў новых выбараў – гэтым разам ужо праз рэфэрэндум.

Вясной 1992 году БНФ прадставіў у ЦВК 442 тысячы подпісаў грамадзянаў за правядзеньне датэрміновых выбараў (закон патрабаваў 350 тысяч), аднак старшыня ВС Станіслаў Шушкевіч адмовіўся склікаць сэсію для прызначэньня даты рэфэрэндуму. У манапалізаваных Саветам міністраў СМІ распачалася кампанія супраць рэфэрэндуму; яе лёзунгам было – «Коней на переправе не меняют». Сэсія сабралася толькі ўвосень; 29 кастрычніка большасьць дэпутатаў прагаласавалі супраць рэфэрэндуму.

Узамен рэфэрэндуму Шушкевіч і Вярхоўны Савет абавязаліся скараціць на адзін год тэрмін кадэнцыі Вярхоўнага Савету і прысьпешыць прыняцьце Канстытуцыі.

Дзеля апошняй мэты быў пашыраны склад Канстытуцыйнай камісіі – у яе ўключылі некалькі дзясяткаў дэпутатаў. Паколькі вырашылі ўключыць усіх, хто пажадае – увайшлі як прадстаўнікі праўрадавай групы «Беларусь», гэтак і дэпутаты Апазыцыі БНФ.

У асноўным да пачатку 1993 году праект Канстытуцыі быў падрыхтаваны; у яе прэамбуле нават былі радкі пра пераемнасьць беларускай дзяржавы ад БНР і Вялікага Княства Літоўскага (унесеныя дэпутатамі БНФ і пры абмеркаваньні выкрасьленыя парлямэнцкай большасьцю). Канстытуцыю можна было б прымаць – але зноў узьнікла пытаньне пра ўвядзеньне пасады прэзыдэнта.

Першы раз ідэя прэзыдэнцтва выносілася ў траўні 91-га з ініцыятывы камуністаў (якія мелі

дзьве кандыдатуры на гэтую пасаду – першага сакратара ЦК КПБ Анатоля Малафеева і старшыню Саўміну Вячаслава Кебіча). Гэтым разам пункт пра прэзыдэнцтва вынесьлі тыя самыя дэпутаты, але цяпер ужо з адзіным фаварытам – Вячаславам Кебічам, які ўладкаваў у структуры Саўміну ў сталіцы і выканаўчыя органы ў рэгіёнах тых некалькі дзясяткаў дэпутатаў, якія пасьля спыненьня дзейнасьці КПБ у 91-м засталіся бяз працы. Кебіч фактычна кантраляваў большасьць Вярхоўнага Савету і цалкам – выканаўчую ўладу ў Беларусі, але гэтага яму падалося мала. Усе суседзі Беларусі ўвялі пасады прэзыдэнта. У Латвіі прэзыдэнтам быў сын рэпрэсаваных Ульманіс, у Польшчы – лідэр «Салідарнасьці» Валэнса. Але ў Расеі быў прэзыдэнт Ельцын, былы сакратар Сьвярдлоўскага абкаму і Маскоўскага гаркаму, ва Ўкраіне – былы загадчык аддзелу і сакратар ЦК кампартыі УССР Краўчук, у Літве – былы сакратар ЦК Бразаўскас. Чаму б былому сакратару Менскага гаркаму і абкаму і загадчыку аддзелу ЦК КПБ Кебічу ня ўзяць гэтую прыступку?

Камуністычная, а пазьней пракебічаўская большасьць пэрыядычна высоўвала ідэю прэзыдэнцтва як спосабу забесьпячэньня «моцнай улады і гарантыі ад эканамічнага хаосу», Апазыцыя БНФ бачыла ў прэзыдэнцтве пагрозу скасаваньня нават існых дэмакратычных нормаў і папярэджвала пра ўсталяваньне дыктатуры.

На пасяджэньнях Канстытуцыйнай камісіі праціўнікі ўвядзеньня прэзыдэнцтва да пэўнага моманту перамагалі; супраць заснаваньня гэтай пасады выступаў Станіслаў Шушкевіч (як старшыня ВС ён быў і старшынём Канстытуцыйнай

камісіі). Пра непрыманьне прэзыдэнцтва Шушкевіч заяўляў ня толькі на камісіі, але і ў публічных выступах. Аднак у пачатку 93-га ён зьмяніў пазыцыю на супрацьлеглую і пачаў казаць пра мэтазгоднасьць прэзыдэнцтва. Урэшце, прэзыдэнцтва было ўнесенае ў праект Канстытуцыі.

З гэтага моманту тэма неабходнасьці ўвядзеньня пасады прэзыдэнта зрабілася адной з асноўных у падкантрольных Вячаславу Кебічу сродках масавай інфармацыі. За ўвядзеньне прэзыдэнцтва агітавалі і некаторыя незалежныя газэты ненацыянальнага, «агульнадэмакратычнага» накірунку.

Пасьля таго як 31 сьнежня 1993 году Шушкевіч падпісаў дакумэнт аб далучэньні Беларусі да Дамовы аб калектыўнай бясьпецы СНД (што фактычна азначала ўцягваньне краіны ў арбіту расейскіх вайсковых інтарэсаў), ён страціў апошніх прыхільнікаў у парлямэнцкай апазыцыі. Аднак мы не галасавалі за ініцыяваную дэпутатам Аляксандрам Лукашэнкам адстаўку Шушкевіча, патлумачыўшы гэта тым, што на месца Шушкевіча намэнклятура паставіць цалкам «свайго» чалавека. Тым ня менш галасоў дэпутатаў Апазыцыі БНФ не хапіла, каб заблякаваць галасаваньне – 27 студзеня 1994 году Шушкевіч быў адхілены ад пасады. На пасаду старшыні быў абраны Мечыслаў Грыб, які ў якасьці старшыні парлямэнцкай камісіі па абароне быў «таранам» для прасоўваньня ідэі далучэньня Беларусі да Дамовы аб калектыўнай бясьпецы.

«Абраны на месца Шушкевіча Мечыслаў Грыб «тронную прамову» гаварыў на дзяржаўнай мове Рэспублікі Беларусь, але скончыў – «Спасибо за доверие, дорогие товарищи!» («Літаратура і мастацтва», 4 лютага 1994).

Абраньне Грыба супала з новай хваляй актывізацыі рабочага руху; лідэры Рэспубліканскага страйкаму падтрымалі палітычныя патрабаваньні Апазыцыі БНФ. Страйк ахапіў сотні прадпрыемстваў у дзясятках гарадоў Беларусі.

«15 лютага ў 12.00 на плошчы Свабоды ў Віцебску клюб выбарнікаў “За дэмакратычныя выбары” правёў сустрэчу дэпутатаў... Сходам быў падтрыманы бестэрміновы страйк, распачаты па ініцыятыве Рэспубліканскага страйкаму. Было канстатавана, што ўрад Кебіча і Вярхоўны Савет, які страціў сваю легітымнасьць, ніколі ня пойдуць на рэформы ў інтарэсах незалежнай Беларусі і яе народу. Падчас сустрэчы была прынятая рэзалюцыя: 1. Патрабаваньне адстаўкі ўраду Кебіча. 2. Стварэньне ўраду народнага даверу. 3. Датэрміновыя выбары ў новы Вярхоўны Савет па новым выбарчым законе. Ад клюбу выбарнікаў “За дэмакратычныя выбары” Плешчанка, Падгол, Хамайда, Мацьвееў, Гаўруцікаў, Жыгулоў, Баландаў» («Выбар», 7(75), 1994).

15 лютага некалькі тысяч чалавек прайшлі ад плошчы Незалежнасьці вуліцай Карла Маркса да будынку Вярхоўнага Савету; патрабаваньні страйкаму былі перададзены Мечыславу Грыбу. Аднак Грыб паставіўся да патрабаваньняў не як сьпікер парлямэнту, а як генэрал міліцыі. У Менску і рэгіёнах пачаліся затрыманьні ўдзельнікаў масавых акцый. Гэта былі першыя затрыманьні за палітычную дзейнасьць з моманту абвяшчэньня Незалежнасьці Беларусі.

«Да судовай адказнасьці прыцягнутыя лідэры свабодных прафсаюзаў, Рады страйкавых камітэтаў, актывісты рабочага руху. Распачатыя ганеньні на актывістаў БНФ, рабіліся спробы запалохаць

народных дэпутатаў Беларусі, якія сваім аўтарытэтам падтрымалі ўдзельнікаў страйку» («Літаратура і мастацтва», 25 лютага 1994).

Па кожным затрыманьні дэпутаты БНФ зрабілі запыт – і на кожны атрымалі адказ. Кшталту вось гэтага:

«Міністэрствам унутраных спраў разгледжаны дэпутацкі запыт народнага дэпутата Рэспублікі Беларусь Навумчыка С. І. аб правамернасьці дзеяньняў работнікаў міліцыі пры затрыманьні грамадзян за адміністрацыйныя парушэньні... Парушэньняў законнасьці з боку органаў унутраных спраў ня выяўлена. Міністар У. А. Данько, 4 сакавіка 1994 г.».

Калі ўлічыць, што менавіта 4 сакавіка адзначаўся Дзень беларускай міліцыі, – такі адказ міністра можна лічыць падарункам сваім падначаленым, якія хапалі і даставлялі ў пастарункі актывістаў БНФ і рабочага руху.

У дзяржаўнай прэсе разгарнулася кампанія супраць БНФ і страйкаму.

Свае меркаваньне выказаў доктар філязофскіх навук, прафэсар Іван Антановіч.

«Антановіч: Гэта – палітычны радыкалізм, праяўлены ў той час, калі ён нам зусім непатрэбны. Бо мы – амаль адзіны на сёньня адносна стабільны рэгіён СНД. Тое, што адбылося – палітычная недарэчнасьць, бо прафсаюзы ня маюць права заклікаць да палітычнай стачкі... Грамадзтву патрэбная не барацьба, а стваральная работа... Што сёньня азначае страйк пад лёзунгам "Далоў уладу?" Ці зьменіць ён хоць на ёту крытычны эканамічны стан рэспублікі?

Карэспандэнт: А Вам не здаецца, што цяперашняя сытуацыя – вынік палітыкі гэтага ж ураду?



Зянон Пазьняк і Сяргей Навумчык на мітынгу, люты 1994.

Антановіч: Не. Гэта – вынік абсалютна аб’ектыўных абставін... А калі прыйдуць да ўлады нацыянал-дэмакраты – то ўвогуле пусьцяць па ветру краіну.

Карэспандэнт: Вы былі сакратаром ЦК расейскай кампартыі?

Антановіч: Так. І членам Палітбюро» («Звязда» 26 лютага 1994).

(Дадам, што ў 1980-я гады Антановіч быў загадчыкам аддзелу культуры ЦК КПБ; менавіта на гэтай пасадзе, паводле Алеся Адамовіча, ён заявіў, што калі ў выніку ядзернай вайны паміж СССР і ЗША ў жывых застанецца адзін чалавек, самае важнае, каб гэта быў савецкі чалавек. Пры Лукашэнку Антановіч зойме пасаду міністра замежных спраў).

Вэтэраны Ўзброеных сілаў выказваліся больш рашуча:

«Савет афіцэраў Беларусі накіраваў ліст парляманту і ўраду рэспублікі, а таксама Генэральнаму пракурору і міністру юстыцыі, у якім зьмяшчаецца патрабаваньне прыцягнуць да крымінальнай адказнасьці лідэра БНФ Пазьняка за распальваньне нацыянальнай варожасьці і стварэньне ваенізаванага фармаваньня – БЗВ. Савет афіцэраў лічыць, што публікацыя ў “Народнай газэце” артыкула Пазьняка “Аб рускім імпэрыялізьме і яго небясьпецы” накіравана на распальваньне варожасьці да рускага народа і падрыў дамоўленасьцяў з Расеяй аб эканамічным супрацоўніцтве» («Постфактумрадыё», 26 студеня 1994).

Мечыслаў Грыб прысьпешыў прыняцьце Канстытуцыі – прычым ужо з пасадай прэзыдэнта. Аднак разьдзелы, якія вызначалі функцыі прэзыдэнта, Вярхоўнага Савету і мясцовага самакіраваньня, не набіралі патрэбнай, «канстытуцыйнай» большасьці галасоў. Дэпутаты Апазыцыі БНФ пацьвердзілі сваю нязгоду з увядзеньнем пасады прэзыдэнта, асабліва ў яе «моцным» варыянце.

Сваю пазыцыю фронтаўцы абгрунтавалі тым, што ва ўмовах адсутнасьці дэмакратычных традыцый, неразьвітай партыйнай сыстэмы і падкантрольнага выканаўчай уладзе парлямэнту – прэзыдэнцтва, праз канцэнтрацыю ўлады, непазьбежна трансфармуецца ў дыктатуру.

«Валянцін Голубеў, член рабочай групы, Апазыцыя БНФ: Нам прапануюць прагаласаваць за ўвядзеньне пасады прэзыдэнта як кіраўніка выканаўчай улады... плюс да ўсяго, мы ізноў будзем мець непрафэсійны парлямэнт. Вось, калі хочаце, клясычная мадэль разбалянсаванай улады. Я хачу сказаць, што ЗША – адзіная ў сьвеце краіна, дзе інстытут прэзыдэнцтва быў уведзены бесканфліктна. Звычайна гэта спалучаецца з палітычнымі катаклізмамі» («Знамя юности», 2 сакавіка 1994).

Аднак за ўвядзеньне прэзыдэнцтва выступілі групы Аляксандра Лукашэнкі і Генадзя Карпенкі. Прыкметна, што яшчэ ў студзені і тыя, і другія спрыялі адстаўцы Станіслава Шушкевіча. І Карпенка, і Лукашэнка мелі ўласныя прэзыдэнцкія амбіцыі. Прычым калі прыхільнікі Карпенкі ў Вярхоўным Савеце былі ня самыя заўважныя як дэпутаты, дык за Лукашэнку выступілі добра вядомыя і па-за межамі Авальнай залі Дзьмітры Булахаў і Віктар Ганчар. Менавіта юрысты Булахаў і Ганчар падтрымалі распрацаваны прыхільнікамі Кебіча і прапанаваны Мечыславам Грыбам варыянт прыняцьця спрэчных разьдзелаў Канстытуцыі «пайменнымі бюлетэнямі» на працягу некалькіх дзён.

Справа ў тым, што Вярхоўны Савет ніколі не зьбіраўся ў поўным складзе – нехта з дэпутатаў хварэў, нехта быў у замежжы, у некага былі неадкладныя справы па месцы працы, а былі і такія,

хто ўвогуле жыў у іншай краіне. Неабходная для прыняцьця законаў колькасьць галасоў (палова ад абраных дэпутатаў плюс адзін голас) звычайна была; канстытуцыйную ж большасьць (дзьве трэціны ад абраных дэпутатаў) атрымаць было цяжка. Сытуацыя значна ўскладнілася пасьля таго, як Апазыцыя БНФ і некаторыя дэмакратычныя дэпутаты адмовіліся браць удзел у галасаваньні па «прэзыдэнцкім» і іншых разьдзелах.

Вось тады і быў прыдуманы варыянт галасаваньня бюлетэнямі цягам трох дзён. Кебіч даў каманду «сабраць як мага болей» – і Саўмін разам зь мясцовымі выканкамамі арганізаваў прывоз дэпутатаў у Дом ураду. Менавіта прывоз, бо некаторых вэтэранаў прывозілі ў аўтамабілях «хуткай дапамогі». Зьявіліся і тыя, каго ўвогуле ня бачылі ў Авальнай залі некалькі гадоў. Прыехалі і тры дэпутаты – грамадзяне Расейскай Фэдэрацыі (насуперак патрабаваньням БНФ, Вярхоўны Савет так і не пазбавіў іх мандатаў).

Апазыцыя БНФ заявіла, што такі варыянт галасаваньня антызаконны, бо парушае Рэглямэнт Вярхоўнага Савету. Саўмінаўская ж «Советская Белоруссия» назвала гэты варыянт «расьсяканьнем гордзіевага вузла».

«У ліку ініцыятараў і арганізатараў “расьсяканьня” гордзіевых вузлоў выяўляюцца ўжо добра знаёмыя маладыя палітыкі. Актыўна абараняў прыём галасаваньня пайменнымі бюлетэнямі Аляксандар Лукашэнка... Падліковую камісію ўзначаліў Віктар Ганчар, членам камісіі быў і Дзьмітры Булахаў. Аб’яднаньне трох лідэраў застаецца ўстойлівым, і, што вельмі важна, іх намаганьні падтрымлівае асноўная маса дэпутатаў: такая расстаноўка

сілаў і абумовіла нагэтулькі пераканаўчы посьпех акцыі» («Советская Белоруссия», 3 сакавіка 1994).

Вынікам «акцыі» было прыняцьце ўсіх трох «непрахадных» разьдзелаў Канстытуцыі – за іх прагаласавалі 266 дэпутатаў; 16 прагаласавалі супраць. 50 дэпутатаў (у тым ліку Апазыцыя БНФ у поўным складзе, а таксама Станіслаў Шушкевіч, які назваў галасаваньне пайменнымі бюлетэнямі «ціхім пераваротам»), ня ўдзельнічалі ў галасаваньні. Фракцыя Партыі камуністаў прагаласавала за прэзыдэнцтва – хоць раней выступала супраць (з камуністаў супраць галасаваў толькі старшыня фракцыі Міхаіл Качан).

У наступныя дні прымаліся іншыя разьдзелы Канстытуцыі.

І тут паказальная дыскусія, якая разгарнулася вакол пытаньня пра статус беларускай мовы. Большасьць Канстытуцыйнай камісіі настаяла, каб увогуле скасаваць з праекту артыкул 17-ты, які замацоўваў за беларускай мовай статус адзінай дзяржаўнай. Разьлік праціўнікаў нацыянальнага адраджэньня быў на тое, што, не замацаваўшы статус у Канстытуцыі, будзе значна прасьцей зрабіць зьмены ў Законе аб мовах, надаўшы расейскай мове такі самы дзяржаўны статус.

Вось фрагмэнт выступаў у Авальнай залі.

«Ніл Гілевіч: ...Я зьвяртаюся да нашых рускіх братоў – у гэтай залі, у дэпутацкім корпусе вас 70 чалавек. Зьвяртаюся да вас, браты нашыя палякі, украінцы, яўрэі – вас тут больш за 20. Падтрымайце вы перш за ўсё! Не бярыце грэх на душу! ... Пасьля таго генацыду над беларускай мовай, які цягнуўся дзесяцігодзьдзямі і стагодзьдзямі, трэба аднавіць беларускую мову ў правах. Вы, шаноўны

дэпутат Грыбанаў, вельмі красамоўна выступаеце, але – вазьміце назад вашу прапанову аб рэфэрэндуме па мове. У гэтай вашай прапанове сьвятатацтва, кашчунства ў сто разоў больш, чым праўды. Няўжо вы гэтага не разумееце? Я думаю, што няма патрэбы даказваць: рускай мове ад Смаленску да Сахаліну нішто не пагражае. Памажыце сёньня, у гэты гістарычны, у гэты лёсавызначальны момант нам – памажыце! Калі гэта ня будзе зроблена – гэта пасее ў краіне страшэнную смуту. Вы ня думайце, што маладыя людзі, маладыя беларусы прымуць гэта і зьмірацца з гэтым. Пачнецца вялікая смута на нашай зямлі. Не рабіце гэтага! Вельмі ж добра сказана ў праекце: беларуская мова – дзяржаўная, статус іншых моў вызначаны законамі. Паглядзіце Закон аб мовах – там жа дакладна сказана: руская мова зьяўляецца мовай міжнацыянальных зносін. Там сказана, што руская мова абавязкова вывучаецца ва ўсіх школах, на ўсіх узроўнях. Усё гэта там ёсьць!.. Калі ж гэта ня будзе зроблена, паверце мне... Я зьвяртаюся да ўсіх беларусаў, у каго з вас жыве памяць пра вёску, дзе вы нарадзіліся, пра мову вашых бацькоў. У такім разе я заклікаю вас – не галасаваць за Канстытуцыю наагул. Не галасаваць зусім за Канстытуцыю!

Лявон Баршчэўскі: Трэба падумаць пра сябе, пра дзяцей, якіх ні на які рэфэрэндум мы ня выведзем і якія толькі да пятага кляса беларускіх школ давучыліся. Гэтыя дзеці яшчэ ня могуць сказаць сваё слова, бо ў іх няма права голасу. Няма такога права і ў будучых пакаленьняў. Можна, канешне, націснуць на кнопку і прыняць закон, што чорнае – гэта белае, зялёнае – гэта чырвонае, але нельга рабіць злачынства перад сваёй нацыяй і дзяржавай.

Яўген Цумараў: Сёлета ўпершыню ў гісторыі ў Рэспубліцы Беларусь больш за 80 працэнтаў першаклясьнікаў пайшлі ў беларускамоўныя клясы – незалежна ад таго, якой зьяўляецца іх школа. Прычым ніводнай скаргі не прыйшло ні ў камісію Вярхоўнага Савету, ні ў Міністэрства адукацыі. Значыць, людзі добраахвотна прынялі тое, што беларуская мова зьяўляецца дзяржаўнай. Другі факт. Амаль у два-тры разы ўпалі тыражы газэт на рускай мове, і ў столькі ж разоў падняліся тыражы газэт на беларускай мове і дзьвюхмоўных – такіх, як «Народная газета». Вось вам два красамоўныя факты. Што б вы тут ні галасавалі, народ прыняў рашэньне, прагаласаваў ужо за дзяржаўную беларускую мову».

У выніку, у Канстытуцыі быў пазначаны статус беларускай мовы як адзінай дзяржаўнай.

15 сакавіка 1994 году 236 дэпутатаў (на 4 больш, чым патрабавалася) прагаласавалі за праект у цэлым. Першая Канстытуцыя незалежнай Беларусі была прынятая.

Аргумэнты, якія прагучалі з вуснаў дэпутата Цумарава з парлямэнцкай трыбуны (і не былі асрэчаныя ў Авальнай залі), абвяргаюць пазьнейшыя нараканьні на «перагібы», на тое, што нібыта ў пачатку 90-х гадоў беларуская мова «насаджалася прымусова». Дзеля справядлівасьці трэба сказаць, што час ад часу ў газэтах зьяўляліся заявы «Комитета по выбору свободного языка обучения», утворанага прыхільнікамі дзьвюхмоўя – аднак пад імі было некалькі дзясяткаў подпісаў. Мільёны ж грамадзянаў Беларусі станоўча ўспрынялі Закон аб мовах, які гарантаваў беларускай мове статус адзінай

дзяржаўнай мовы. Гэтак жа быў успрыняты і 17-ты артыкул Асноўнага закону, які ўдалося прыняць.

Перад галасаваньнем, выступаючы ў Авальнай залі, я назваў Канстытуцыю з прэзыдэнцкай формай кіраваньня – «бомбай пад дзяржаву».

«Не разумею, як можа дэпутат, заяўляючы пра каштоўнасьць сувэрэнітэту, адначасна называць першую Канстытуцыю дзяржавы “бомбай” пад гэтую дзяржаву!» – абурыўся маім словам Віктар Ганчар.

На жаль, высьветліць, хто з нас меў рацыю, разам зь Віктарам нам ужо ніколі ня ўдасца.

## Масква навязвае рэфэрэндум

Чатыры разы Вярхоўны Савет Беларусі 12-га скліканьня рабіў закрытыя пасяджэньні: калі выводзілі ядзерную зброю, калі заслухоўвалі справаздачу старшыні КДБ, калі адпраўлялі ў адстаўку таго самага старшыню КДБ і міністра ўнутраных спраў і калі абмяркоўвалі ўвядзеньне расейскага рубля.

І ўсе гэтыя чатыры разы я – пад вачыма ашаломленых ахоўнікаў-афіцэраў КДБ, што стаялі ля дзьвярэй – выносіў з Авальнай залі запісы дыскусіі і агалошваў іх журналістам.

Не, я не выдаваў дзяржаўных таямніц – кшталту ступені аховы ядзерных боегаловак. Але пра тое, якія крокі ў справе ліквідацыі беларускай дзяржаўнасьці робяць альбо плянуюць рабіць прыхільнікі Вячаслава Кебіча – я казаў.

18 сакавіка 1994 году адбылося адно з гэтых пасяджэньняў – прэм’ер Вячаслаў Кебіч выступаў з паведамленьнем пра ўмовы Масквы ў справе аб’яднаньня грашовых сыстэмаў Беларусі і Расеі.

«На нейкае імгненьне ў Авальнай залі павісла трывожная цішыня, якая ўзарвалася крыкамі дэпутатаў БНФ:

– Ганьба!

– Вось да чаго, Кебіч, давялі вы краіну!

– Далоў урад-марыянэтку!»

Так апісаў сам Кебіч у сваіх мэмуарах («Иску-

шение властью», с. 394) дзеяньні сваіх апанэнтаў. Апісаў празьмерна экспрэсіўна: на самой справе дэпутаты Апазыцыі БНФ, зьмяняючы адзін аднаго ля мікрафонаў, зь лічбамі і на канкрэтных прыкладах паказалі, якую пагрозу нясе ідэя ўваходу ў «рублёвую зону» для сувэрэнітэту Беларусі. Але сутнасьць стаўленьня да гэтай ідэі і да самога Кебіча перададзеная правільна.

Гаворачы пра прэзыдэнцкую кампанію 1994 году, рэдка ўзгадваюць тэму аб'яднаньня грашовых сыстэмаў. Між тым яна была ляйтматывам агітацыйнай кампаніі і Кебіча, і Лукашэнкі.

На пачатку 1994 году ў Беларусі функцыю грошай выконвалі разьліковыя білеты Нацыянальнага банку (так званыя «зайчыкі»). Вярхоўны Савет адкідаў прапановы Апазыцыі БНФ увесьці паўнавартасную нацыянальную валюту альбо надаць часова такі статус «зайчыкам».

Інфляцыя дасягнула 50% штомесяц, «зайчык» імкліва абясцэньваўся, і ягоны курс у адносінах да расейскага рубля дасягнуў прапорцыі 1:5. Ідэя ўвесьці расейскі рубель у якасьці адзінага плацёжнага сродку спалучалася з абяцаньнем зрабіць абмен «зайцоў» паводле курсу 1:1; такім чынам, беларусы меліся зрабіцца ў пяць разоў багацейшымі. Гэтым прыёмам Кебіч разьлічваў выйграць прэзыдэнцкую кампанію; тое, чым расплаціцца за гэта Беларусь (а расплаціцца яна магла сувэрэнітэтам), Кебіча не хвалявала.

Усе дзяржаўныя СМІ кінуліся расхвальваць ідэю ўвядзеньня расейскага рубля. Дэпутаты Апазыцыі БНФ даводзілі, што эканамічны і паліўны крызіс – вынік не наяўнасьці слабога «зайчыка», а адмаўленьня ўраду ад эканамічных рэформаў,




Мітынг перад Вярхоўным Саветам з патрабаваньнем адстаўкі Кебіча. Люты 1994.

няздольнасьці праводзіць уласную, незалежную ад Масквы, збалянсаваную грашова-крэдытную палітыку. Перад вачыма быў досьвед Літвы, Латвіі і Эстоніі, дзе ўвялі свае грошы і пры гэтым ня мелі дэфіцыту нафты, куплялі яе ў Расеі па рынкавых коштах.

У першыя дні 94-га – яшчэ да абвешчанага Рэспубліканскім страйкамам і БНФ палітычнага страйку – спыніліся найбуйнейшыя прадпрыемствы: Менскі трактарны завод, вытворчае аб’яднаньне «Гарызонт», Менскі электратэхнічны завод, Гомсельмаш, Гарадзенскае вытворчае аб’яднаньне «Азот». Незалежныя эканамісты ў тыя дні адзначылі, што такіх маштабаў эканамічнага крызісу з пасьляваеннага часу Беларусь яшчэ ня ведала.

Член ураду, старшыня Дзяржаўнага камітэту па прамысловасьці Ўладзімер Куранкоў назваў тры

прычыны спыненьня вытворчасьці: адсутнасьць сродкаў для аплаты энэрганосьбітаў, а таксама... выходныя дні ў расейскіх прадпрыемстваў-пастаўшчыкоў і «выходныя дні ў банках у Расеі, што не дазваляе своечасова правесьці ўзаемазалікі».

Спасылка на выходныя дні пасавала б загадчыку бухгальтэрыі невялікага прадпрыемства – але ніяк не міністру эканомікі дзесяцімільённай краіны. Але тым больш відавочнымі былі заганы прывязанасьці да расейскай банкаўскай сыстэмы. І тым ня менш – урад, «узважыўшы аргумэнты “за ” і “супраць” увядзеньня нацыянальнай валюты, прызнаў такі крок у цяперашніх умовах немэтазгодным».

Яшчэ 19 жніўня 1993 году, наведаўшы Маскву, старшыня Вярхоўнага Савету Станіслаў Шушкевіч заявіў, што Беларусь хоча быць у рублёвай зоне (потым Шушкевіч зьменіць сваю пазыцыю). На пачатку верасьня тое, пра што Шушкевіч казаў як пра «хаценьне», Кебіч аформіў канкрэтным пагадненьнем – зноў жа ў Маскве. У склад дэлегацыі Кебіч уключыў і дэпутата Лукашэнку (паводле сьведак, непасрэдна ў кабінэт Чарнамырдзіна Лукашэнка ня быў дапушчаны, сядзеў у прыёмнай, ці, як тады казалі, у «прадбаньніку»). Аднак па вяртаньні ў Менск Лукашэнка зрабіўся актыўным прапагандыстам аб’яднаньня грашовых сыстэмаў.

Між іншым, у сваіх мэмуарах Кебіч прызнаецца:

«Віктар Чарнамырдзін распавёў мне, што расейскія спэцслужбы перахапілі сакрэтную размову Станіслава Багданкевіча са Станіславам Шушкевічам. Спачатку пагадзіўшыся на аб’яднаньне валютаў, сьпікер затым катэгарычна забараніў гэта рабіць» («Искушение властью», с.383).

Прыкметна, што ні Шушкевічу, ні Вярхоўнаму Савету пра дзеяньні расейскіх спэцслужбаў у Беларусі Кебіч не сказаў ні слова.

Імпэт Кебіча напужаў Шушкевіча і некаторых членаў Прэзыдыюму ВС; зрэшты, ніякіх арганізацыйных высноваў зроблена не было.

«15 верасьня 1993 году В. Кебіч не зьявіўся на Прэзыдыюм Вярхоўнага Савету Рэспублікі Беларусь, на якім разглядалася пытаньне аб энэргетычным крызісе і грашова-крэдытнай палітыцы Беларусі. Быў бы тады С. Шушкевіч больш прынцыповым і пасьлядоўным, сёньня, магчыма, Беларусь не знаходзілася б у такім становішчы, а ў адстаўцы былі б іншыя дзяржаўныя дзеячы. Чарговы шанец станаўленьня ўласнай грашовай сыстэмы быў упушчаны. Паслухмяны Кебічу Вярхоўны Савет 18 лістапада ратыфікаваў гэтае пагадненьне, чым выратаваў прэм’ера ад непазьбежнай адстаўкі» (Дэпутат ВС Уладзімер Новік, «Доўгая дарога ў рублёвую зону, або Хроніка пікіруючай эканомікі Беларусі», «Народная газета», 15 лютага 1994).

Тады ж, 18 лістапада 1993-га, дэпутацкая большасьць Вярхоўнага Савету заблякавала прапанову надаць разьліковаму білету нацыянальнага банку («зайцу») статус нацыянальнай валюты. Пракебічаўскія дэпутаты не пагадзіліся нават на аргумэнтацыю тых, хто прапаноўваў зрабіць гэта на «пераходны» пэрыяд да моманту ўвядзеньня расейскага рубля – не гаворачы ўжо пра крокі да паўнаважкай уласнай грашовай адзінкі, на чым настойвала Апазыцыя БНФ. А кіраўнік пракебічаўскай групы «Беларусь» Генадзь Казлоў заявіў журналістам, што выступае за канфэдэрацыю Беларусі і Расеі.

30 сьнежня на сустрэчы з калектывам рэдакцыі

газэты «Звязда» старшыня Вярхоўнага Савету С. Шушкевіч заявіў, што не галасаваў за аб’яднаньне грашовых сыстэмаў.

«З-за палітычных меркаваньняў Расея можа пайсьці на такія страты для сябе і саступкі нам. Спачатку гэта можа даць станоўчы эфэкт. Але ў далейшым мы ўсё роўна будзем жыць гэтак, як будзем працаваць. Усё гэта можа толькі даць шанцы для палітыкаў-папулістаў. Хаця думаю, што раней, чым зьбярэцца Дума, прэзыдэнт Расеі наўрад ці вырашыць гэтае пытаньне. Я буду размаўляць зь ім у бліжэйшыя дні, і, канешне, гэтае пытаньне будзе адным з найважнейшых. Але самым важным пытаньнем у адносінах з Расеяй для нас сёньня зьяўляецца пытаньне розных коштаў на энэрганосьбіты. Расея ўсталявала розныя цэны – для Беларусі, для Ўкраіны, для Ўзбэкістану... І хаця мы вельмі добра сябе паводзім, усё роўна нафту купляем на 40 экю даражэй, чым спажыўцы ў Расеі» (Аналітычна-інфармацыйнае агенцтва «Павет», 6 студзеня 1994).

Дэпутат ВС, сакратар парлямэнцкай камісіі па эканамічнай рэформе Ўладзімер Сапронаў (да 1993 году ён працаваў намесьнікам начальніка аддзелу зьнешнеэканамічных сувязяў «Беларуськалію»), адзначыўшы розную ступень рынкавых рэформаў Беларусі і Расеі, выказаўся за жорсткую манэтарную палітыку, спыненьне крэдытаваньня стратных прадпрыемстваў і неадкладнае ўвядзеньне нацыянальнай валюты – фактычна, за тое самае, на чым настойвала і Апазыцыя БНФ. Розьніца палягала хіба ў прагнозах. Сапронаў лічыў, што ў выпадку аб’яднаньня грашовых сыстэмаў – «з-за адсутнасьці сродкаў прадпрыемствы і нерухомасьць будуць

аддавацца, людзі будуць шукаць працу хаця б у Сібіры. У гэтым выпадку Беларусі пагражае небясьпека ператварыцца ў аграрны прыдатак Расеі і іншых больш магутных дзяржаў» («Павет», 1. 1994).

Дэпутацкая ж апазыцыя БНФ разглядала ўцягваньне Беларусі ў рублёвую зону як частку пляну па інкарпарацыі Беларусі ў склад Расеі (яшчэ адным складнікам было далучэньне Беларусі да сыстэмы калектыўнай бясьпекі краінаў СНД, якая кантралявалася расейскім Генштабам).

На пачатку сакавіка «Газпрам» скараціў пастаўкі газу, прычына – вялізная запазычанасьць; Савет міністраў унёс у Вярхоўны Савет законапраект аб тым, каб перадаць «Белтрансгаз» «Газпраму». Апазыцыі БНФ удалося заблякаваць прыняцьце гэтага закону, супраць якога выступіў нават старшыня парлямэнцкай камісіі па эканамічнай рэформе Леанід Козік.

Але падрыхтоўка пераходу на рубель ішла шпаркімі тэмпамі; рэгулярна засядала расейска-беларуская Камісія па аб’яднаньні грашовых сыстэмаў.

«Камісія разгледзела ступень падрыхтоўкі да падпісаньня міжурадавых і міжбанкаўскіх пагадненьняў, неабходных для практычнага аб’яднаньня грашовых сыстэмаў... Экспэрты адзначылі ў пратаколе, што цягам 3 месяцаў пасьля даты аб’яднаньня грашовых сыстэмаў у Беларусі будзе зьдзейсьнены пераход на аплату працы занятых у бюджэтнай сфэры па расейскай адзінай тарыфнай сетцы, што азначае зьмяншэньне нармальнай заработнай платы больш чым у два разы. (Беларускі рубель каштаваў менш за расейскі прыблізна ў два разы. – С.Н.) Беларусі прапануецца фінансаваць сацыяльную

абарону насельніцтва коштам свайго бюджэту» («Белорусский рынок», 7, 15 лютага 1994).

Пры гэтым меркавалася, што Цэнтрабанк Расеі забясьпечвае Беларусь такой колькасьцю расейскіх рублёў якая неабходная для абмену «зайцоў»; пры гэтым рублі для аднамомантнага абмену пастаўляліся ў форме беспрацэнтнага крэдыту, які не падлягаў вяртаньню. Дакладней, падлягаў пры адной умове: калі Беларусь пажадала б выйсьці з расейскай рублёвай зоны.

І яшчэ: уся маёмасьць Беларусі (матэрыяльная маёмасьць юрыдычных асобаў, асноўныя фонды, наяўныя грошы і г. д.) – мусіла падлягаць пераацэнцы ў расейскіх рублях. Меркавалася, што Расея і Беларусь будуць мець агульны бюджэт (лішне казаць, што фармаваўся б ён у Маскве), а Нацыянальны банк Беларусі павінен быў ператварыцца ў філію Цэнтральнага банку Расейскай Фэдэрацыі.

Усё гэта азначала толькі адно: Кебіч быў гатовы аддаць эканоміку Беларусі пад кантроль Масквы.

У сакавіку 94-га старшыня Нацбанку Беларусі Станіслаў Багданкевіч выступіў супраць умоваў, прадугледжаных дамоваю; яго падтрымаў сьпікер ВС Мечыслаў Грыб, які заявіў, што ўмовы, прапанаваныя Масквой, «ставяць пад пытаньне ўвесь сувэрэнітэт нас як людзей і як дзяржавы».

18 сакавіка адбылося згаданае раней закрытае пасяджэньне Вярхоўнага Савету, на якім Кебіч, спасылаючыся на размовы з прэм’ер-міністрам Расеі Віктарам Чарнамырдзіным, прапанаваў Вярхоўнаму Савету прыняць канчатковы тэкст дамовы – прычым дамовы ўжо пра «раўнапраўны саюз» з Расеяй. І тут жа, на закрытым паседжаньні, Кебіч

сказаў пра неабходнасьць абіраць прэзыдэнта (тры дні раней, як вядома, была прынятая Канстытуцыя з пасадай прэзыдэнта).

А яшчэ і да гэтага не выключалася, што, нягледзячы на ўвядзеньне прэзыдэнцкай пасады, спачатку пройдуць парлямэнцкія выбары, тым больш што ў 1992 годзе Вярхоўны Савет абяцаў на год скараціць тэрмін сваёй кадэнцыі – абяцанае якраз прыпадала на вясну 94-га. З улікам гэтага заява Кебіча гучала як каманда падкантрольнай дэпутацкай большасьці: ідзем на выбары!

Між іншым, у той самы дзень гэтыя самыя дэпутаты ізноў адмовіліся прызнаць «зайчык» адзіным плацёжным сродкам на тэрыторыі Беларусі.

12 красавіка 1994 году ў Маскву накіравалася ўрадавая дэлегацыя. Вячаслаў Кебіч падпісаў Дамову аб аб'яднаньні грашовых сыстэмаў Беларусі і Расеі.

Потым будуць казаць, што старшыня Нацбанку Станіслаў Багданкевіч адмовіўся ставіць пад тэкстам свой подпіс. Гэта – няпраўда. Багданкевіч дамову падпісаў. Але зрабіў удакладненьне, што артыкул пра статус Нацыянальнага банку супярэчыць беларускай Канстытуцыі (артыкулу 145). Нягледзячы на гэта, расейскі прэм'ер заявіў, што банк будзе адзін – Цэнтральны банк Расеі.

Падпісаная ў Маскве дамова абурыла нават членаў Прэзыдыюму Вярхоўнага Савету, якія, у большасьці, падтрымлівалі Кебіча.

«Абмяркоўваўся жорсткі варыянт дзеяньняў з боку заканадаўчай улады: выказваліся прапановы арыштаваць усіх членаў дэлегацыі пасьля іх паездкі ў Маскву. Але, узважыўшы ўсе за і супраць, мы вырашылі не напаляць сытуацыю перад

прэзыдэнцкімі выбарамі. Галоўным аргумэнтам зьявілася тое, што дамова, без зацьвярджэньня Вярхоўным Саветам, нічога не азначала... Да таго, каб начапіць кайданкі старшыні Савету міністраў Рэспублікі Беларусь і паказаць усе гэтыя дзеяньні па тэлебачаньні, мы, на шчасьце, не дадумаліся» (М. Грыб, «Белорусский мост», с.71).

Не дадумаліся на шчасьце ці на няшчасьце, і як склаўся б лёс Беларусі, калі б за парушэньне Канстытуцыі атрымаў «па руках» (у літаральным сэнсе, ды яшчэ з трансьляцыяй па тэлебачаньні) найвышэйшы кіраўнік – хай мяркуе чытач.

Дэлегацыю на чале з Кебічам, як вядома, ніхто ў аэрапорце не арыштаваў, і хутка на прэсавай канфэрэнцыі прэм’ер распавёў пра дэталі пагадненьня. Кебіч сказаў, што ў выніку дамовы Беларусь ня будзе браць плату за транзыт расейскай нафты і газу праз сваю тэрыторыю, а таксама бярэ на сябе ўтрыманьне расейскага войска.

Праўда, і да гэтага часу расейцы выкарыстоўвалі беларускую зямлю для сваіх вайсковых патрэбаў – коштам саміх беларусаў. Апазыцыя БНФ у 1992-1993 годзе патрабавала вывесьці расейскія вайсковыя падразьдзяленьні – але безвынікова: ні Шушкевіч, ні Кебіч на гэта не рэагавалі.

«У беларуска-расейскіх пратаколах пра аб’яднаньне грашовых сыстэмаў засьведчана, што “ўтрыманьне на тэрыторыі Беларусі расейскіх войск абыходзіцца Рэспубліцы Беларусь у разьліку на год каля 1,9 мільярда даляраў”. Дзіўна атрымліваецца: ня нам плацяць, а мы плацім. У дадатак да ўсяго расейскімі войскамі забрана з гаспадарчага абарачэньня Беларусі 24 тысячы гектараў лясных масіваў. Празь бюджэт нашай краіны датуюцца са-

цыяльна-пабытовыя патрэбы вайскоўцаў і іх сем'яў на агульную суму каля 100 мільярдаў рублёў у год. Рэспубліка Беларусь не спаганяе арэндную плату за выкарыстаньне чужым войскам будынкаў і памяшканьняў, якія належаць Беларусі. Расейскім вайскоўцам і іх сем'ям нададзена права атрыманьня беларускага грамадзянства. Значыць, пасьля заканчэньня службы яны застануцца тут. Гэта 12 тысяч сем'яў. Для іх трэба будаваць жыльлё і ствараць 30 тысяч рабочых месцаў. І гэта тады, калі дагэтуль не пераселеныя людзі з Чарнобыльскай зоны і беспрацоўе грукаецца ў дзьверы... Акрамя таго, на тэрыторыі нашай краіны пабудаваны (на 82%) радыётэхнічны вузел сыстэмы папярэджаньня пра ракетны напад і дзейнічае цэнтар сувязі ВМФ, якія, зразумела, належаць Расеі. Гэта робіць Беларусь патэнцыйнай мішэньню ў магчымай вайне. Усё гэта кепска стасуецца з нашым нэўтралітэтам і ўвогуле здаровым сэнсам» («Літаратура і мастацтва», 25 сакавіка 1994).

Але Вячаслаў Кебіч заявіў, што аб'яднаньне з Расеяй (і ня толькі фінансавае) – ягоны асэнсаваны выбар.

«Вячаслаў Кебіч: Я зрабіў свой выбар і пра яго не шкадую – гэта выбар майго жыцьця. У саюзе з Расеяй нашае выратаваньне» («Вячэрні Мінск», 15 красавіка 1995).

Адносна несумяшчальнасьці дамовы з Канстытуцыяй Кебіч заўважыў, што асабіста будзе ініцыяваць зьмены ў Канстытуцыі і законах, ну, а калі «Вярхоўны Савет ня прыме гэтых паправак – урад зьвернецца да народу. Хай народ скажа сваё слова».

Неўзабаве высьветлілася, што ідэя рэфэрэндуму

належыць ня Кебічу, а – Маскве. Пра гэта прагаварыўся ўдзельнік перамоваў, старшыня Магілёўскага аблвыканкаму Мікалай Грынёў:

«А ўвогуле, расейскі бок рэкамэндуе правесьці рэфэрэндум, сумясьціўшы яго з прэзыдэнцкімі выбарамі» («Магілёўскія ведамасьці», 14 красавіка 1994).

«Падчас прыезду ў Менск старшыні камітэту Фэдэральнага Сходу Расеі Мікалая Ганчара ён сустрэўся з групай дэпутатаў Вярхоўнага Савету... Сп. Ганчар адзначыў, што калі Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь прыме рашэньне аб правядзеньні рэфэрэндуму наконт аб’яднаньня дзьвюх дзяржаў, Фэдэральны Сход Расеі, безумоўна, падтрымае гэтую ініцыятыву. Ён выказаў упэўненасьць, што вынікі рэфэрэндуму ў абедзьвюх краінах будуць станоўчымі» («Пагоня», 15 красавіка 1994).

Па вяртаньні з Масквы Кебіч заявіў, што Масква гатовая была адмовіцца ад усіх пазыцыяў, якія выклікалі незадавальненьне Менску – калі б Менск пагадзіўся на канфэдэрацыю. Гэта значыць – фактычна на аб’яднаньне ў адну дзяржаву.

Пэўныя заявы некаторых дзеячоў прымушалі меркаваць, што такое жаданьне Масквы – зусім не спантаннае.

Сяргей Гайдукевіч, старшыня Народнага руху Беларусі (тут і далей – НДБ, «Народное движение Беларуси»), заявіў, што калі дамова ня будзе ратыфікаваная, НДБ пачне збор подпісаў за рэфэрэндум па гэтым пытаньні. Сустаршыня НДБ, кіраўнік Славянскага Сабору «Белая Русь» Мікалай Сяргееў пацьвердзіў, што ягоная арганізацыя будзе настойваць на правядзеньні рэфэрэндуму па двух пытаньнях: аб канфэдэрацыі з Расеяй і аб статусе расейскай

мовы (меўся на ўвазе яе статус як дзяржаўнай мовы). На той самай канфэрэнцыі Гайдукевіч заявіў, што адзіны кандыдат ад НДБ вызначыцца на «кангрэсе народаў Беларусі», а пакуль яны падтрымліваюць трох – Кебіча, Лукашэнку і лідэра камуністаў Новікава.

Заява пра трох кандыдатаў была відавочным кактвам – Гайдукевіч працаваў у апараце Саўміну і выконваў загады Кебіча.

Пра тое, што дэпутацкая група «Беларусь» сабрала дастатковую колькасьць подпісаў для правядзеньня рэфэрэндуму аб саюзе з Расеяй, увядзеньні дзьвюхмоўя і дэнансацыі Белавескіх пагадненьняў, заявіў і лідэр групы дэпутат Генадзь Казлоў. Ён таксама працаваў у апараце Саўміну. Аднак у дэпутацкім асяродзьдзі настойліва гаварылі, што да дэпутацтва ён толькі фармальна служыў у міліцыі, а рэальна – быў афіцэрам КДБ. Некаторыя ўдакладнялі, што пасьля абвяшчэньня Незалежнасьці Казлоў перайшоў на службу ў выведку Расеі. Як гаворыцца – ні пацьвердзіць, ні абвергнуць такія сьцьвярджэньні не ўдалося. Застаецца фактам, што ўсе гады дэпутацтва кіраўнік найбуйнейшай парлямэнцкай фракцыі Генадзь Казлоў настойліва праводзіў інтарэсы Расеі.

Усё гэта прымусіла дэпутатаў Апазыцыі БНФ заявіць пра антыканстытуцыйнасьць дзеяньняў кіраўніка ўраду.

«Народныя дэпутаты Рэспублікі Беларусь В. Алампіеў, А. Трусаў, В. Какоўка, В. Малашка, Л. Дзейка, М. Крыжаноўскі зьвярнуліся ў Прэзыдыюм Вярхоўнага Савету. Адзначаецца, што «заява Старшыні Савету міністраў Беларусі сп. Кебіча В. Ф. расейскаму тэлебачаньню сьведчыць аб тым, што

ў парушэньне арт. 8, арт. 83 п. 11 і арт. 145 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, якая ўступіла ў дзеяньне 30 сакавіка 1994 г., ім у Маскве падпісаны Дагавор аб аб'яднаньні грашовых сыстэм Беларусі і Расеі. Патрабаваньне народных дэпутатаў – даручыць Генэральнаму пракурору Рэспублікі Беларусь сп. Шаладонаву В. І. неадкладна правесьці расьследаваньне і пры неабходнасьці ўзбудзіць крымінальную справу. У сваім звароце дэпутаты папрасілі Прэзыдыюм Вярхоўнага Савету Рэспублікі Беларусь зрабіць палітычную ацэнку падзеям, якія адбыліся, а таксама ўключыць у парадак дня нечарговай сэсіі Вярхоўнага Савету Рэспублікі Беларусь пытаньне «Аб адстаўцы Старшыні Савету міністраў і членаў урада і іншых асоб за антыканстытуцыйную дзейнасьць»» («Народная газета», 15 красавіка 1994).

Ніякага рашэньня Прэзыдыюм Вярхоўнага Савету не прыняў, а пракуратура не знайшла ў дзеяньнях Кебіча складу злачынства. Але адначасна патлумачыла, што адмова Станіслава Багданкевіча падпісаць 5 артыкул Дамовы (аб пераўтварэньні Нацбанку Беларусі ў філіял Цэнтрабанку РФ) фактычна блякуе ўсю Дамову. «Гэта ўсяго толькі дамова аб намерах», – патлумачыў Мечыслаў Грыб.

Грыб таксама заявіў, што лічыць зьмены толькі што прынятай Канстытуцыі немагчымымі, і выказаўся супраць рэфэрэндуму.

Пазьней Грыб напіша ў мэмуарах, прызнаўшы, што Масква разглядала ўвядзеньне расейскага рубля як этап анэксіі:

«Я ніколі ня верыў у стварэньне рублёвай зоны і гэтую ідэю не падтрымліваў. Некаторыя ў расейскім урадзе адкрыта заяўлялі, што аб'яднаньне грашовых сыстэмаў прывядзе да страты сувэрэнітэту

Беларусі. На маю думку, сёньня гэта не выклікае ні ў кога сумневаў» (М. Грыб, «Белорусский мост», с. 89.).

Аднак у той час само аб’яднаньне грашовых сыстэмаў Грыб не аспрэчваў – і нават, на пару з Кебічам, на сустрэчы лідэраў краінаў СНД у Маскве ўгаворваў Ельцына зрабіць некаторыя саступкі. Ельцын – нібыта – пагадзіўся. А Кебіч заявіў, што на рэальнае аб’яднаньне грашовых сыстэмаў Масква пойдзе тады, калі будуць праведзеныя прэзыдэнцкія выбары, маючы на ўвазе, натуральна, сваё ўласнае абраньне на гэтую пасаду.

З другога боку, і асаблівага імпэту што да ўвядзеньня расейскага рубля Грыб як сьпікер парлямэнту не выяўляў.

Ідэю ўвядзеньня расейскага рубля падхапіў дэпутат Аляксандар Лукашэнка.

«Я заўсёды выступаў і выступаю за саюз з Расеяй: эканамічны, валютны і г. д... Разрыў гаспадарчых сувязяў з былымі рэспублікамі СССР яшчэ доўга будзе мець адбітак на становішчы кожнага беларуса. Выйсьце – у адзінай рублёвай зоне, інакш – падзеньне ў бездань» («Чырвоная змена», 1 сакавіка 1994).

«Аляксандар Лукашэнка: Менавіта Лукашэнка з групай народных дэпутатаў рэспублікі ў жніўні летась меў шэраг сустрэч з парлямэнтарыямі Расеі, у часе якіх быў закладзены падмурак беларуска-расейскай інтэграцыі на ўзаемавыгадных умовах. Спадзяюся, усе памятаюць, зь якой гістэрыяй пасьля гэтага на мяне абрынуліся мясцовыя нацыянал-радыкалы. (Апазыцыя БНФ у кастрычніку 93-га запатрабавала пазбавіць Лукашэнку і шэраг іншых дэпутатаў ВС дэпутацкіх паўнамоцтваў.

– С.Н.) Празь месяц, як народны дэпутат, у складзе беларускай урадавай дэлегацыі ў чарговы раз наведаў Маскву. Тады было падпісанае ўзаемавыгаднае пагадненьне з Расеяй. Аднак ні В. Кебіч, ні адданыя яму чыноўнікі і пальцам не паварушылі, каб як мага хутчэй пагадненьне ператварыць у жыцьцё... У нас можа быць адзіны плацёжны сродак – расейскі рубель. Менавіта гэта хвалюе сёньня ўсіх грамадзян рэспублікі, а ня нейкія палавінчатыя рашэньні. За гэта я выступаў і выступаю... Тры гады таму я выступаў супраць увядзеньня «зайца» ў якасьці плацёжнага сродку. Але ж тады менавіта ўрад В. Кебіча надрукаваў «уласныя грошы» («Магілёўскія ведамасьці», 26 красавіка 1994).

Такім чынам, Лукашэнка актыўна ўступіў з Кебічам у спрэчку – хто зь іх большы «інтэгратар». Маскве не ўдалося навязаць Беларусі рэфэрэндум, але ўвядзеньне расейскага рубля (які павінен быў «узбагаціць» беларусаў) зрабілася адной з асноўных тэмаў выбарчай кампаніі – аж да самых апошніх тэлевізійных дэбатаў Кебіча і Лукашэнкі перад заключным, другім турам.

Заканамернае пытаньне: чаму ж так і ня быў уведзены расейскі рубель? Некаторыя называюць прычынай нежаданьне пэўных прарэфармісцкіх сілаў у расейскім урадзе ўзваліць на сябе беларускую эканоміку – на думку шмат якіх экспэртаў, на першапачатковым этапе гэта было нявыгадна расейскаму боку, паколькі патрабавала імгненных фінансавых уліваньняў у беларускую эканоміку. Такое тлумачэньне было даволі папулярнае ў 1994-м годзе, застаецца такім і цяпер. Але падзеі вясны 2014 году ва Ўкраіне паказалі, што Масква гатовая ісьці на мільярдныя страты дзеля аб’яднаньня з «ис-

конно русскими» землямі, а ўжо Беларусь Масква лічыла ніяк ня меней «исконной», чым Крым.

Падаецца, што калі б Масква не жадала аб'яднаньня – яна б знайшла спосаб заявіць пра гэта і не падпісваць дамову ў Крамлі. У прапанове ж пра рэфэрэндум выявілася якраз імкненьне Масквы калі і ня «ўзяць» адразу, дык «прывязаць» Беларусь да сябе. Было зразумела: калі рэфэрэндум сумяшчаецца з прэзыдэнцкімі выбарамі, то аб'яднаньне грашовых сыстэмаў (і, шырэй – аб'яднаньне з Расеяй) робіцца ідэалягічным ляйтматывам усёй выбарчай кампаніі. Тым болей, што значная частка насельніцтва, не задумваючыся пра такія матэрыі, як сувэрэнітэт і незалежнасьць, наіўна верыла ў выгады з абмену беларускага «зайца» на рубель.

Уласна, так і адбылося: Кебіч і Лукашэнка спрачаліся паміж сабой, хто найхутчэй здасьць Беларусь. Калі ж у ліпені прэзыдэнт быў абраны, Масква ўбачыла, што на гэтым этапе няма ніякай патрэбы ўводзіць расейскі рубель, што сапраўды ў кароткатэрміновай пэрспэктыве запатрабавала б ад Масквы немалых фінансавых выдаткаў – палітычныя мэты, за дасягненьне якіх пры Кебічу давялося б заплаціць, пры Лукашэнку яна рэалізуе значна таньней. А то – і дарма.

# «Пазьняк? Мнагажэнец ён! Мнагажэнец!»

– Я б назваў гэты закон Законам аб выбарах Вячаслава Кебіча прэзыдэнтам Беларусі, – гэтак пракамэнтаваў я карэспандэнту «Свабоды» Віталю Цыганкову Закон аб выбарах прэзыдэнта ў дзень яго прыняцьця, 31 сакавіка 1994 году.

Сапраўды, прэзыдэнцтва рабілася «пад Кебіча». У гэтым былі перакананыя ўсе – і ў першую чаргу сам Кебіч і ягонае найбліжэйшае атачэньне. Падобна, ён нават не адчуваў ступень рызыкі – яму ўвялі ў вушы, што перамога гарантаваная. Ну, а як яна можа быць не ў кішэні, калі ўсё – і мясцовыя выканкамы, і дзяржаўныя СМІ, і міліцыя, і войска – у гэтай самай кішэні? У тым ліку – пад кантролем і парлямэнцкая большасьць, якая, каб ужо зусім падстрахавацца, вызначыла надзвычай спрыяльны для Кебіча і вельмі неспрыяльны для ягоных апанэнтаў парадак выбараў.

(Калі я кажу «апанэнты» – маю на ўвазе ідэйных апанэнтаў прэм'ера, тых, хто выступаў за дэмакратыю і нацыянальнае адраджэньне. Лукашэнка да гэтай катэгорыі не адносіўся – і да гэтай тэмы мы ў свой час вернемся.)

Па-першае, дзеля вылучэньня кандыдатаў у прэзыдэнты трэба было набраць 100 тысяч подпісаў грамадзянаў альбо 70 подпісаў дэпутатаў Вяр-

хоўнага Савету. Для Кебіча, якога падтрымлівала больш за 200 парлямэнтарыяў, збор дэпутацкіх подпісаў быў справай некалькіх дзён.

Па-другое, тэрмін збору подпісаў быў абмежаваны – тры тыдні, з 25 красавіка да 15 траўня. Гэта значна ўскладняла вылучэньне для тых, хто мог вылучыцца толькі зборам подпісаў грамадзянаў.

Па-трэцяе, сама выбарчая кампанія пасьля рэгістрацыі кандыдатаў таксама была надзвычай сьціслая – з 2 да 23 чэрвеня, усяго тры тыдні. Пры тым, што электронныя СМІ былі манапалізаваныя ўрадам, прыярытэт меў кіраўнік ураду. А таксама – і пра гэта часта забываюць – тыя, хто падзяляў ягоную галоўную пазыцыю, якая выяўлялася ў максымальнай інтэграцыі з Расеяй.

Калі казаць пра Лукашэнку, дык па першых двух пунктах ён быў у роўных умовах з Пазьняком, Карпенкам ці Шушкевічам; аднак па трэцім – ва ўмовах куды больш выгадных, бо дзяржаўныя СМІ (зрэшты, як і ўвесь дзяржаўны апарат) актыўна прапагандавалі ягоную галоўную ідэю, у якой ён сыходзіўся з Кебічам – аб’яднаньне з Расеяй.

Канешне, атачэньне Кебіча разумела, што ў сьпісе для галасаваньня прэм’ер будзе не адзін – ён і не павінен быў быць адзін, занадта ўжо абуральна гэта б выглядала. Ідэальным варыянтам для «дэмакратычных» і «альтэрнатыўных» выбараў была б наяўнасьць паслухмянага спарынг-партнэра, магчыма, двух. У такой якасьці і маглі разглядацца вылучаныя старшыня гарадзенскага калгасу «Прагрэс» Аляксандар Дубко і лідэр партыі камуністаў Васіль Новікаў – пры той умове, што ў выбарчую барацьбу не ўключыліся б дэмакратычныя, антыкамуністычныя кандыдаты.




Зянон Пазьняк, Мікола Анцыповіч, Мікола Купава, Васіль Быкаў і Сяргей Навумчык на мітынгу ў сквэры Янкі Купалы. 25 сакавіка 1994 г.

А ў выпадку ўдзелу апошніх – камуніст і аграрнік забіралі ў Кебіча галасы.

Ужо пасьля прыняцьця «прэзыдэнцкіх» разьдзелаў Канстытуцыі ў канцы лютага 1994-га асноўныя ўдзельнікі выбарчай кампаніі вызначыліся. Найперш – Кебіч, пад якога, як лічылася, прэзыдэнцтва і рабілася. Адразу пасьля сваёй адстаўкі з пасады сьпікера ў студзені 1994-га Станіслаў Шушкевіч распачаў паездкі па Беларусі, што было ацэнена як пачатак выбарчай кампаніі. Не хавалі прэзыдэнцкіх амбіцыяў Генадзь Карпенка і Аляксандар Лукашэнка. У якасьці кандыдата разглядаўся экспэртамі і новы старшыня Вярхоўнага Савету Мечыслаў Грыб, але тут не было пэўнасьці – ніякіх крокаў дзеля вылучэньня ён не рабіў.

Лідэр БНФ Зянон Пазьняк выступаў супраць увядзеньня пасады прэзыдэнта, але яшчэ да прыняцьця Канстытуцыі Фронт вызначыўся з удзелам у выбарчай кампаніі.

«12 сакавіка на пасяджэньні Сойму БНФ разглядалася пытаньне аб разьвіцьці палітычнай сытуацыі і пэрспэктывах выбараў... Як зазначыў З. Пазьняк, БНФ не зьбіраецца ўключацца ў прэзыдэнцкую кампанію да прыняцьця Канстытуцыі і назначэньня выбараў, як гэта робяць, на яго думку, С. Шушкевіч, М. Грыб і А. Лукашэнка, ажыцьцяўляючы шматлікія і шумныя паездкі па рэспубліцы. Аднак як толькі выбары будуць аб'яўленыя, БНФ абавязкова пачне перадвыбарчую кампанію» (Валер Каліноўскі, «Звязда», 15 сакавіка 1994).

Сказаць, што, адкідаючы ідэю прэзыдэнцтва, БНФ цалкам выключаў свой удзел у прэзыдэнцкіх выбарах, нельга – пра магчымасьць увядзеньня прэзыдэнцтва казалі ўвесь час і Пазьняк, і ягоны намесьнік Юры Хадыка. У красавіку 1994-га гэта зрабілася рэальнасьцю.

«9 красавіка ў залі менскага Палацу мастацтваў адбылося чарговае пасяджэньне Сойму БНФ «Адраджэньне», аб'яднанае з устаноўчым сходам ініцыятыўнай групы збору подпісаў за вылучэньне Зянона Пазьняка кандыдатам на прэзыдэнта краіны...

Спачатку Сойм БНФ, а потым устаноўчы сход ініцыятыўнай групы аднагалосна вылучылі Зянона Пазьняка на прэтэндэнта ў кандыдаты. Старшынём і намесьнікам старшыні ініцыятыўнай групы аднадушна выбраныя кандыдаты навук Уладзімер Анцулевіч і Вера Чуйко. Гэтыя імёны ўспрымаліся прысутнымі як зарука будучага посьпеху: менавіта

пад кіраўніцтвам У. Анцулевіча і В. Чуйко два гады таму былі пасьпяхова сабраныя 442 тысячы подпісаў за рэфэрэндум аб адстаўцы ВС... Сойм зацьвердзіў «Прынцыпы ўдзелу БНФ у выбарчай кампаніі... і заявіў, што сябры Фронту павінны пазьбягаць выкарыстаньня падчас выбараў нецывілізаваных мэтадаў палітычнай барацьбы: публічных зьнявагаў апанэнтаў і падобнага» («Свабода», 12 красавіка 1994).

На пасаду прэзыдэнта быў вылучаны і Станіслаў Шушкевіч – аб'яднаньнем «Вясна-94», куды ўвайшлі Беларуская сацыял-дэмакратычная Грамада (старшыня Алег Трусаў), Аб'яднаная дэмакратычная партыя (старшыня Аляксандар Дабравольскі) і Беларуская сялянская партыя (старшыня Яўген Лугін).

«На чарговым пасяджэньні каардынацыйнага камітэту аб'яднаньня дэмакратычных сілаў "Вясна-94" ягоныя шэрагі папоўніліся новым членам – у якасьці "прыватнай асобы" ў "Вясну-94" уступіў Станіслаў Шушкевіч. У гутарцы з удзельнікамі паседжаньня былы сьпікер заўважыў, што даўно падзяляе асноўныя прынцыпы "Вясны-94" (будаўніцтва сувэрэннай дзяржавы зь бязьядзерным статусам, неўваходжаньне ў вайсковыя блёкі; прыярытэт правоў грамадзянаў, замацаваны ва Ўсеагульнай Дэкляраціы правоў чалавека, перад інтарэсамі дзяржавы, нацыянальных і сацыяльных групаў, рэфармаваньне каманднай эканомікі ў сацыяльную рынкавую) і не ўступаў у аб'яднаньне раней выключна з адной прычыны: будучы дзяржаўнай асобай, не лічыў для сябе магчымым быць членам якіх бы то ні было грамадзкіх арганізацый... Пасьля таго, як С. Шушкевіч пакінуў паседжаньне каар-

дынацыйнага камітэту, было прынятае рашэньне зьвярнуцца да ўсіх арганізацыяў, якія ўваходзяць у аб'яднаньне, з прапановай падтрымаць ягоную кандыдатуру на прэзыдэнцкіх выбарах» («Знамя юности», 1994).

У выніку былі створаныя 19 ініцыятыўных групаў за вылучэньне кандыдатаў у прэзыдэнты, у тым ліку:

старшыні Савету міністраў Вячаслава Кебіча (кіраўнік – генэральны дырэктар ВА «Гарызонт» Аляксандар Санчукоўскі, колькасьць – 3920 чалавек),

сустаршыні партыі камуністаў Васіля Новікава (Валер Ухналёў, 3041),

дэпутата Вярхоўнага Савету Беларусі Станіслава Шушкевіча (Алег Трусаў, 1420),

старшыні Сойму БНФ «Адраджэньне» Зянона Пазьняка (Уладзімер Анцулевіч, 2734),

дэпутата Вярхоўнага Савету Беларусі Аляксандра Лукашэнкі (Дзьмітры Булахаў, 2472),

старшыні Маладзечанскага гарвыканкаму, старшыні партыі Народнай згоды Генадзя Карпенкі (Аляксей Дудараў, 1677),

старшыні калгасу «Прагрэс» Гарадзенскага раёну, старшыні Савету калгасаў Беларусі Аляксандра Дубко (Сямён Шарэцкі, 2901).

Былі зарэгістраваныя і ініцыятыўныя групы іншых асобаў, чые шанцы сабраць подпісы расцэньваліся як вельмі слабыя – напрыклад, старшыні парлямэнцкай камісіі Леаніда Козіка, настаўніка з Салігорску Аляксандра Кальцова, кіраўніка Саюзу прадпрымальнікаў Уладзімера Карагіна ці нават беспрацоўнага Станіслава Ліцкевіча. Усяго – 19 ініцыятыўных групаў.

З 25 красавіка да 15 траўня групы зьбіралі подпісы – сабраць трэба было 100 тысяч.

Сюрпрызам было тое, што за Кебіча вырашылі зьбіраць ня толькі подпісы дэпутатаў Вярхоўнага Савету, але і звычайных грамадзянаў; тым самым прэм’ер павінен быў выглядаць «кандыдатам ад народу».

Адразу пасьля рэгістрацыі ініцыятыўных групаў прыхільнікі Кебіча ўключылі «адміністрацыйны рэсурс» – віцэ-прэм’еры, супрацоўнікі апарату Саўміну, міністры, намесьнікі міністраў былі разьмеркаваныя па рэгіёнах. Подпісы зьбіралі на прадпрыемствах, у навучальных установах, у вайсковых частках. Як адзначала ў тыя дні незалежная прэса, часта людзям прапаноўвалі выбар: альбо подпіс, альбо – звальненьне па скарачэньні штатаў. Студэнтаў пужалі тым, чаго звычайна баяцца студэнты – сэсіяй.

«На электрамэханічным факультэце ўнівэрсытэту ў Гомлі зборам подпісаў у падтрымку Кебіча займаліся дэкан Ул. Фамічоў і ягоны намесьнік В. Бурчанкоў. 27 красавіка яны пайшлі па групах і бесцырымонна загадалі, каб заўтра ўсе студэнты прынесьлі пашпарты, а хто не прынясе – хай потым не наракаюць. Наступным днём сабралі дакумэнты і запоўнілі падпісныя лісты» («Свабода», 3 траўня 1994).

У прыхільнікаў Дубко адміністрацыйны рэсурс быў куды меншы, можна сказаць, нулявы – затое яны бралі фантазіяй.

«Калгас “Прагрэс” пабудаваў у Горадні двухпавярховы магазын. На 30 красавіка быў склiканы сход навакольных жыхароў – нібыта з мэтаю вывучыць пакупніцкі вопыт. Прычым у аб’яўцы было

пазначана, што пры сабе пажадана мець пашпарт. У прызначаны час каля магазына сабраліся 100 чалавек, пераважна пэнсіянэры. Кіраўнік гандлю калгасу “Прагрэс” спадар Блат спачатку цягнуў час, распавядаючы, якая бульба будзе прадавацца, колькі гатункаў каўбасы і гэтак далей, ажно нарэшце раскрыў карты. Ён заклікаў усіх прысутных паставіць подпісы за вылучэньне на прэзыдэнцкую пасаду старшыні калгасу “Прагрэс” сп. Дубко... Люд слухаў без асаблівага энтузіязму, пачаў цікавіцца, ці не камуніст Дубко і ці будуць прадаваць сёньня танную каўбасу. Дакладна аб 11-ай гадзіне адчынілася крама, і ўсе памкнуліся ўсярэдзіну, аднак тамака было цалкам пуста. Адна бабулька хацела пашукаць каўбасы на другім паверсе, аднак упала зь лесьвіцы. Мужыкі хадзілі й мацюкаліся, а сп. Блат уносіў у сьпіс ахвотных падтрымаць Дубко. Гэткіх знайшлося крыху больш за 30 чалавек» («Свабода», 3 траўня 1994).

За Дубко подпісы зьбіралі старшыні калгасаў і дырэктары саўгасаў, за Кебіча – тыя самыя дырэктары і старшыні, а яшчэ – галоўныя лекары, завучы, камандзіры палкоў, міліцыянты-ўчастковыя і паштальёны.

За Пазьняка – настаўнікі, рабочыя, студэнты, малодшыя і старэйшыя навуковыя супрацоўнікі, а таксама – будучыя намінанты Нобэлеўскай прэміі.

«Стаім у пікеце каля ГУМа, зьбіраем подпісы за вылучэньне Пазьняка Зянона Станіслававіча... Подпісаў за дзень набіраецца каля двухсот. Прыкладна столькі ж шкадуюць, што забыліся ўдома пашпарты.

Падыходзіць сівы высокі дзед-вэтэран, з плян-

камі над кішэняю: «Пазьняк? Толькі за Пазьняка! Я вось сам украінец і люблю сваю Ўкраіну! А ён любіць Беларусь! І я яго за гэта паважаю!»

Праходзіць каля нас высокая, з прыгожымі доўгімі-доўгімі нагамі дзяўчына – цокае абцасамі па асфальце. Спаднічка такая кароткая, што, здаецца, яе няма. Мы аднадушна суправаджаем яе позіркамі. «Такой пры любой уладзе добра», – з павагаю жартуе адзін з нас.

Падбягае кабета ў целе з адбеленымі раскіданымі валасамі. Пытаецца, нахабна пасьміхаючыся: «А колькі ў Пазьняка было жонак?» «Ніводнай» – сумленна адказваем мы. «Ведаю я Зэніка, – адказвае яна, – сама ў акадэміі працую. Мнагажэнец ён! Мнагажэнец! І я ўсіх угаворваю. Каб не галасавалі за яго!» – безапэляцыйна выказваецца яна і ляціць, матляючы крысамі расшпіленага плашча.

Падыходзіць нейкі дзядзька з ужо абпаленым пад сонцам маршчыністым тварам. Доўга паглядае на здымак Пазьняка, на ягоную кепку, і ўхвальна кажа: «Добра! Буду падпісвацца! Гэта наш мужык, просты, зь вёскі!».

Падпісваецца кабета, якая, як гаворыць, хадзіла на ўсе сустрэчы з Пазьняком яшчэ ад 1989-га году. «А дзе тут яшчэ за Лукашэнку можна падпісацца?» – пытаецца яна. Мы, разгубленыя, ня ведаем. Надта ж гэта розныя кандыдаты – Лукашэнка і Пазьняк.

Падышоў малады хлопец з адзнакаю Аб’яднанай дэмакратычнай партыі. Папытаўся, як зьбіраюцца подпісы. Сам трымае тэчку з паперамі – за Шушкевіча. Паспрабаваў зьвярнуцца да некаторых нашых падпісантаў, каб паставілі подпіс і яму. На дзіва, усе адмаўляюцца. Аргумэнт адзін – мог,

не зрабіў. «Ну вось бачыш» – кажу я яму. Ён згодна ківае галавою: «Сам ведаю». «Ну дык чаго ты?» – ківаю я на ягоную тэчку. «Партыйная дысцыпліна», – адказвае ён. А потым, каб хоць як выказаць і сваё Я супраць гэтай партыйнай дысцыпліны, ставіць свой подпіс і за Пазьняка.

Падыходзіць жанчына і кажа: «За яго было б значна болей людзей, калі б ён так востра ня ставіў нацыянальнага пытаньня». Мне карціць спытаць у яе – хто яна па нацыянальнасьці. Урэшце яна агаворваецца сама – руская. Як яны ўсё ж такі баяцца нашага нацыянальнага адраджэньня» (Алесь Бяляцкі, «Як мы зьбіралі подпісы». «Свабода», № 19, 17 траўня 1994).

Для кантролю над дзеяньнямі ўлады прадстаўнікі дэмакратычных партый і грамадзкіх арганізацый стварылі Грамадзкую кантрольную камісію (ГКК), узначаліў яе старшыня БЗВ Мікола Статкевіч. Мне даручылі ўзначаліць так званую Групу рэагаваньня па фактах парушэньняў, якая павінна была арганізаваць сыстэму кантролю за правядзеньнем выбарчай кампаніі, уключна з выкарыстаньнем кандыдатамі сродкаў масавай інфармацыі. У тыя часы мне даводзілася весьці перамовы з кіраўніцтвам Дзяржтэлерадыё пра выдзяленьне эфірнага часу для дэпутатаў апазыцыі, і я ведаў прыёмы іх казуістыкі. Ну і, канешне, дэпутацкі статус меў значэньне – паводле закону, чыноўнікі былі абавязаныя рэагаваць на запыты дэпутата Вярхоўнага Савету. Мы адразу ж зафіксавалі парушэньні: дзяржаўныя тэлебачаньне і радыё не давалі слова нікому з патэнцыйных кандыдатаў, аднак інфармацыя пра Вячаслава Кебіча гучала штодня. Кіраўніцтва Дзяржтэлерадыё апраўдвалася, што, маўляў, вы-

бары тут ні пры чым – насельніцтву проста даецца інфармацыя пра дзейнасьць кіраўніка ўраду ва ўсёй яе разнастайнасьці і паўнаце.

Мы паставілі мэту закрыць назіральнікамі ўсе больш як 7 тысяч выбарчых участкаў – і разумелі, што пры падтрымцы дэмакратычных партыяў асноўны цяжар кладзецца на БНФ.

Ініцыятыўную групу Лукашэнкі мы ў разьлік ня бралі.

Як і за Пазьняка, подпісы за Карпенку і за Шушкевіча зьбіралі, пераважна, на вуліцах. На вуліцах зьбіралі подпісы і за Лукашэнку.

Наступныя разьдзелы кнігі прысьвечаныя некаторым асноўным удзельнікам выбарчай кампаніі.

## «Булуган» з тварам Алена Дэлёна

Самай фэерычнай кар’ерай у Беларусі лічыцца ўзьлёт Лукашэнкі: зь «нікога» – у прэзыдэнты. Як вымяраць вяршыняй – безумоўна. Але калі ўзяць у разьлік стартавую пазыцыю і час – дык Лукашэнка тут не рэкардсмэн. Рэкардсмэн – Дзьмітры Булахаў.

Да прыходу на пасаду прэзыдэнта Лукашэнка ня быў «нікім» – ён чатыры гады быў дэпутатам парлямэнту (для параўнаньня: Барак Абама таксама прыйшоў у Белы дом з дэпутата парлямэнту – быў сэнатарам ад штату Ілінойс). А да дэпутацтва Лукашэнка працаваў дырэктарам саўгасу – які-ніякі, а начальнік, некалькі сотняў у сваім падпарадкаваньні меў. І прэзыдэнтам ён свайго часу зрабіўся ва ўзросьце зусім не маладым (бязь месяца 40 гадоў).

Булахаў жа ў 30 гадоў за імгненьне ўзьляцеў зь невысокай прыступкі службовай лесьвіцы, з абсалютнай невядомасьці, у дзясятку-дваццатку самых уплывовых асобаў тады яшчэ БССР. У сакавіку 1990 году Булахаў быў абраны народным дэпутатам БССР, а праз тры месяцы, на першай сэсіі Вярхоўнага Савету, узначаліў (у значнай ступені, выпадкова) галоўную парлямэнцкую камісію – Камісію ВС па заканадаўстве – і аўтаматычна зрабіўся членам Прэзыдыюму ВС БССР.

На пачатак 1990 году, калі адбыліся выбары у ВС-12, Булахаў працаваў сьледчым у Магілёўскім



Дзьмітры Булахаў.

абласным упраўленьні ўнутраных спраў; гэта была ня самая нізкая пасада (бо былі і ніжэйшыя – у райаддзелах), але ў адным гэтым абласным упраўленьні над ім быў добры дзясятак ступеняў. Сьледчым Булахаў быў здольным (казалі, што раскрыў першую справу па рэкецірах), і пры спрыяльных абставінах і службовай руплівасьці гадоў праз пятнаццаць Булахаў мог атрымаць пасаду намесьніка начальніка ўпраўленьня і пагоны палкоўніка. Для крэсла начальніка і генэральскіх лямпасаў патрэбныя былі куды большая руплівасьць і абставіны надзвычай спрыяльныя. А таксама – высокія сувязі.

Але абставіны для Дзьмітрыя Булахава склаліся куды больш спрыяльна, чым у самых сьмелых марах.

Яшчэ ў пачатку 1990-га Булахаў, калі б у калідоры магілёўскага ўпраўленьня раптам убачыў намесьніка міністра ўнутраных спраў, палічыў бы за лепшае схавацца, не трапляцца яму на вочы – і правільна б зрабіў, бо што ў вайсковага, што ў міліцэйскага афіцэра правіла «далей ад начальства» – у крыві. А ўжо ў чэрвені таго самага 1990-га нейкі намесьнік міністра, калі б убачыў у калідоры міністэрства Дзьмітрыя Булахава, магчыма, схаваўся б – з той самай прычыны. А магчыма, і наадварот: на гэтым узроўні дзейнічалі ўжо іншыя правілы, і генэрал ня страціў бы шанец прывітаць уплывовага члена Прэзыдыюму – Бог ведае, калі і зь якой прычыны можа спатрэбіцца ягоная пратэкцыя. Дастаткова сказаць, што міністар унутраных спраў генэрал-лейтэнант Віктар Піскароў абраўся таксама старшынём парлямэнцкай камісіі, але з дадаткам «пры» – Камісіі па справах ахвяраў рэпрэсіяў пры Вярхоўным Савеце, што было на ступень ніжэй за булахаўскую пасаду.

Словам, Булахаў імгненна пераадолеў ня менш як дзесяць прыступак службовай лесьвіцы, узьняўшыся над былымі сваімі начальнікамі на нябесную кар'ерную вышыню. У жніўні 91-га, зь ліквідацыяй ЦК КПБ і здабыцьцём Незалежнасьці, Прэзыдыюм Вярхоўнага Савету зрабіўся своеасаблівым калектыўным прэзыдэнтам, вяршыцелем лёсаў і нават жыцьцяў (апошняе – літаральна: Прэзыдыюм меў права памілаваньня асуджаных на сьмяротнае пакараньне).

І гэта – у трыццаць гадоў, пры нязьменнай увазе

СМІ, пры амаль штодзённых інтэрвію па тэлебачаньні ды радыё і з кампліментам ад журналістак за прывабную зьнешнасьць – «наш Ален Дэлён».

Было ад чаго закружыцца галаве.

Але ўсё гэта хутка прыелася, зрабілася рутынай – перад пэрспэктывай заняць куды больш уплывовае крэсла.

Да самай высокай пасады, Старшыні Вярхоўнага Савету – заставалася толькі дзьве прыступкі: віцэ- і першы віцэ-сьпікер. З прызначэньнем увосень 91-га Васіля Шаладонава Генэральным пракурорам у Шушкевіча вызвалілася вакансія намесьніка. Булахаў мог разьлічваць, што Шушкевіч запрапануе яму заняць гэтае месца: у верасьні 91-га не ў апошнюю чаргу дзякуючы трактоўцы Булахавым рэглямэнту Шушкевіч змог абрацца старшынём парлямэнту.

Прызнаюся, мяне дзівіла, чаму Шушкевіч гэтага ня робіць. Калі б тады, у канцы 91-га, Шушкевіч назваў кандыдатуру Булахава (а толькі старшыня меў магчымасьць прапаноўваць сваіх намесьнікаў) – яго б не абралі. Дэпутаты Апазыцыі БНФ не галасавалі б за яго, бо на Сэсіі Незалежнасьці 24-25 жніўня Булахаў імкнуўся «заблытаць» прапановы апазыцыі (і нават у самы крытычны момант фактычна атаясаміў абвяшчэньне Незалежнасьці з парушэньнем Канстытуцыі), ну а намэнклятура ня бачыла ў ім свайго – для такой стратэгічна важнай пасады ў дэпутацкай большасьці былі свае кандыдатуры зь ліку былых камуністычных сакратароў (і пазьней старшыню Савецкага райвыканкаму Кузьняцова ўсё ж навязалі Шушкевічу – і ён пагадзіўся).

Увогуле, з прычынаў асабістых палітычных інтарэсаў, Шушкевічу было б выгодна вылучыць

Булахава – разумеючы, што ён ня пройдзе (так зробіць у ліпені 94-га Лукашэнка, вылучыўшы яго на пасаду старшыні Канстытуцыйнага Суду). Але Шушкевіч ня ўнёс у Вярхоўны Савет ягоную кандыдатуру – і зрабіў з Булахава асабістага ворага.

У пачатку студзеня 1992 году на дарозе Менск-Магілёў Булахаў, кіруючы службовай «Волгай», насьмерць зьбіў жанчыну. У МУС вырашылі не ўзбуджаць крымінальнай справы, патлумачыўшы, што віны кіроўцы не было. Іншыя казалі, што калі б за рулём аўтамабіля сядзеў прафэсійны кіроўца, трагедыі ўдалося б пазьбегнуць. У кожным разе, Булахаў ня меў права сядаць за стырно службовай «Волгі».

Празь дзесяць месяцаў, у кастрычніку 92-га, гэтую гісторыю шмат хто назаве прычынай таго, што Булахаў выступіў на баку намэнклятуры, падвёўшы юрыдычнае абгрунтаваньне пад адмову аб правядзеньні ініцыяванага БНФ рэфэрэндуму аб датэрміновых выбарах Вярхоўнага Савету па новым законе. Аргумэнты Булахава былі разьбітыя дэпутатамі Апазыцыі, але для парлямэнцкай большасьці гэта ня мела значэньня, як нічога для іх ня значылі і 440 тысяч сабраных Народным Фронтам подпісаў.

Аднак у паводзінах Булахава можна было ўгледзець і іншую прычыну. Пры тым, што ў 1992 годзе ён стабільна ўваходзіў у першую дзясятку найбольш папулярных палітыкаў краіны і ў выпадку новых выбараў, хутчэй за ўсё, быў бы абраны ў новы склад парлямэнту (паводле «франтаўскага» законапраекту, у Сойм) – шанцы пераабрацца ўжо ў самім парлямэнце на пасаду раўназначную ранейшай у Булахава былі невялікія. Яго не лічылі «сваім»

ні БНФ, ні намэнклятура. А праца «шараговага» дэпутата Булахава не задавальняла.

Падаецца, менавіта імкненьне да самазахаваньня на дзяржаўным Алімпе (нароўні з разуменьнем, што ў які заўгодна момант падкантрольнае Кебічу МУС можа вярнуцца да наезду са сьмяротным вынікам) і былі прычынай агрэсіўнай атакі Булахава на рэфэрэндум.

Булахаў тарпэдаваў законапраекты Апазыцыі БНФ, а ўвосень 1993-га, калі абвастрэньне эканамічнай сытуацыі паставіла пад пагрозу існаваньне ўраду Кебіча – выступіў па тэлебачаньні з падтрымкай прэм'ера і рэзкай крытыкай Народнага Фронту. Але ў тыя дні ён ужо працаваў і на Лукашэнку.

Пройдзе час, і Булахаў пашкадуе пра сваё рашэньне. Ён не атрымае пасьля перамогі Лукашэнкі ніякай пасады. У 1995-ым Булахаў скептычна выкажацца пра ініцыяваны Лукашэнкам рэфэрэндум, будзе прадстаўляць Вярхоўны Савет 12-га скліканьня, які ўвайшоў у канфлікт з Лукашэнкам, у Канстытуцыйным Судзе. Ён не абярэцца ў дэпутаты Вярхоўнага Савету 13-га скліканьня, а ўвосень 1996-га ён надрукуе ў прэсе «Ліст да бацькоў», дзе патлумачыць, чаму нельга падтрымліваць Лукашэнку («Сёньня я ня веру ніводнаму слову прэзыдэнта»). На некалькі гадоў ягонае імя зьнікне з газэтных палосаў – да сакавіка 2000-га, калі ўказам Лукашэнкі ён будзе прызначаны прадстаўніком Беларусі ў органах СНД. Будуць казаць, што, няўдала паспрабаваўшы сябе ў бізнэсе, Булахаў зьвярнуўся да Лукашэнкі і пакаяўся. І што Лукашэнка, пераканаўшыся, што ён зламаны – дараваў. У красавіку 2006-га Лукашэнка зробіць яго сваім памочнікам і прадстаўніком у «нацыянальным сходзе». Але

на гэтай пасадзе ён застанецца толькі некалькі месяцаў – у ноч з 7 на 8 верасьня таго самага 2006 году Булахаў памрэ ў сваёй кватэры. Тыя, хто ведаў яго блізка, скажуць у інтэрвію, што ў апошнія гады ён меў сямейныя праблемы і піў.

Але ў пачатку 1994-га Булахаў яшчэ старшыня камісіі і член Прэзыдыюму Вярхоўнага Савету. Пасада, якая абсалютнай большасьцю палітыкаў разглядалася б як вяршыня жыцьцёвай кар'еры (гэта вышэй за віцэ-прэм'ера), – ва ўспрыманьні Булахава была пачаткам. Пэўна ж, нельга абвінавачваць палітыка ў наяўнасьці асабістых амбіцыяў – пытаньне ў тым, якія мэтады і якая мэта. У выпадку з Булахавым (і з Ганчаром таксама) мэтай і былі тыя самыя асабістыя амбіцыі. Бо калі з гэтым не пагадзіцца, а ўявіць, што яны кіраваліся не прыватнымі інтарэсамі – дык застаецца адно меркаваць, што інтарэсам такім было зьнішчэньне незалежнай беларускай дзяржавы. Бо падтрымалі яны чалавека, які адкрыта заяўляў пра аднаўленьне імпэрыі.

Нагадаю, што менавіта Булахаў яшчэ ў 1993 годзе сказаў, што «Незалежнасьць – ня ёсьць ікона, на якую трэба маліцца».

У студзені 94-га Булахаў паспрыяў адстаўцы Станіслава Шушкевіча з пасады старшыні Вярхоўнага Савету, у лютым Булахаў падтрымаў увядзеньне прэзыдэнцтва, а ў сакавіку, разам з парлямэнцкай большасьцю, дамогся як найхутчэйшага правядзеньня прэзыдэнцкіх выбараў – перад тым, як адбудуцца парлямэнцкія. У красавіку Булахаў узначаліў ініцыятыўную групу па зборы подпісаў за вылучэньне Лукашэнкі – і людзі Кебіча вырашылі вярнуцца да здарэньня на трасе Менск-Магілёў.

«Каманда Кебіча распачала актыўную працу суп-

рацьпрэтэндэнтаў на пасаду Прэзыдэнта. Як стала вядома "Свабодзе", адным з найбольш небясьпечных канкурэнтаў лічыцца дэпутат А. Лукашэнка, які будзе зьбіраць галасы сярод вяскоўцаў, на каторых якраз і разьлічвае Вячаслаў Францавіч.

Ёсьць зьвесткі, што В. Кебіч хацеў бы "паразумецца" з А. Лукашэнкам, каб той зьняў сваю кандыдатуру на ягоную карысьць. За гэта Вячаслаў Францавіч нібыта гатовы аддзячыць Лукашэнку нават пасадаю прэм'ера ў будучым урадзе.

Магчыма, дзеля таго, каб схіліць "барацьбіта з карупцыяй" да больш шчыльнага супрацоўніцтва, каманда Кебіча занялася паплечнікамі Лукашэнкі. Найперш дэпутатам Дз. Булахавым, які ўзначальвае выбарчую кампанію "змагара".

Карэспандэнт "Свабоды" атрымаў зьвесткі з дасьведчаных крыніцаў, што чыноўнікі Саўміну, якія курыруюць праваахоўныя органы, узяліся раскопваць "справу Булахава" – аўтамабільную аварыю, у выніку якой загінула жанчына. Кажуць, што расьсьледаваньне гэтай трагедыі было сфальсыфікаванае і нібыта пэўныя людзі з Саўміну прыклалі да гэтага руку, бо тады Булахаў быў ім выгадны... А цяпер, калі ён пачаў гульню ў іншай камандзе, вырашылі астудзіць спрыт Булахава, а заадно і ўсяго Булугана (Булахаў, Лукашэнка, Ганчар)» («Свабода», 16 красавіка 1994).

Гэтая спроба нічым дрэнным для Булахава ня скончылася – да выбараў заставаліся два месяцы.

Не прыжылося і слова «Булуган» – як вядома, «тройка» хутка распалася, але тады, у першай палове 1994-га, іх, Булахава, Ганчара і Лукашэнку, успрымалі разам.

Дзьмітры Булахаў быў кіраўніком ініцыятыўнай групы па зборы подпісаў за Лукашэнку, і менавіта ён у красавіку-траўні ўспрымаўся як кіраўнік перадвыбарчага штабу (хаця, як пазьней выявілася, кіраваў штабам дэпутат Леанід Сініцын). Але Сініцын пэўны час заставаўся ў ценю, як і Віктар Ганчар. Прадстаўляць свайго фаварыта грамадзкасьці (у тым ліку і праз прэсу) даводзілася звычайна Дзьмітрыю Булахаву; ён, так бы мовіць, быў «тварам» троіцы.

«– Вашага кандыдата ў прэзыдэнты часта абвінавачваюць у папулізьме...

– Папулізм – гэта магутная зброя, накіраваная на фармаваньне грамадзкай думкі ў падтрымку тых ці іншых дзеячоў. Калі папулізм накіраваны на стварэньне добрага іміджу палітыка – гэта дапушчальна, але калі папулізм рэалізуецца праз уладу – гэта недапушчальна... Усе выкарыстоўваюць папулізм, аднак пасьля выбараў папулізм павінен саступіць месца прафэсіяналізму.

– На сваёй нядаўняй прэс-канфэрэнцыі Вы заявілі: «скажу вам з усёй шчырасьцю: Лукашэнка – адзіны чалавек, які здольны аздаравіць сытуацыю ў рэспубліцы». Вы на самой справе ўпэўнены, што Лукашэнка, у выпадку перамогі на прэзыдэнцкіх выбарах, ня будзе рабіць папулісцкіх захадаў, накшталт павелічэньня безрэсурснай грашовай эмісіі?

– На мой погляд, самае галоўнае, што ён забясьпечыць – гэта магчымасьць прыходу да кіраваньня дзяржавай прафэсійных людзей.

– Лукашэнка працуе зараз над сваёй эканамічнай праграмай?

– Так, вельмі актыўна і напружана.

– Хто яму дапамагае?

– Давайце ня будзем пакуль што раскрываць карты.

– Чаму ж? Імёны могуць вельмі шмат сказаць пра зьмест праграмы.

– Час называць імёны пакуль не настаў.

– Лукашэнка яшчэ задоўга да таго, як пачаў перадвыбарчую кампанію, неаднаразова выказваўся за ўзнаўленьне СССР.

– Ня ўсе тыя сувязі, што былі парушаны ў выніку белавескага пагадненьня, былі шкоднымі. Таму пэўная эканамічная і палітычная інтэграцыя, калі яна падтрымліваецца насельніцтвам, будзе толькі на карысьць.

– Інтэграцыя зь ліквідацыяй?

– Зь ліквідацыяй чаго?

– Сувэрэнітэту. Я маю на ўвазе поўную інкарпарацыю ў састаў Расеі.

– У састаў Расеі поўнай інкарпарацыі ня можа быць. Можа быць саюз дзяржаў, я падкрэсьліваю – дзяржаў, а не ўваходжаньне на правах расейскай губэрні.

– Лукашэнка абяцаў правесьці рэфэрэндум па пытаньні стварэньня канфэдэрацыі з Расеяй.

– Я думаю, што гэты крок ня мае ніякага практычнага сэнсу ва ўмовах, калі на падобныя дзеяньні ня пойдзе Расея» (Інтэрвію Ігару Сінякевічу, «Звязда», 21 траўня 1994).

Што ж будзе тады, калі Расея пойдзе на такія дзеяньні – пра гэта Булахаў не сказаў.

Пазьней мне сказалі пра пляны Булахава і Ганчара: як таранам, Кебіч выштурхоўваецца Лукашэнкам, Ганчар прызначаецца прэм’ерам, Булахаў – старшынём Канстытуцыйнага Суду. Пасьля шэрагу грубых парушэньняў Канстытуцыі (яны

ведалі характар Лукашэнкі і такія парушэньні прагназавалі) Лукашэнка адхіляецца ад улады, Ганчар ідзе на выбары і абіраецца прэзыдэнтам; пасьля парлямэнцкіх выбараў Булахаў узначальвае Вярхоўны Савет.

Ажыцьцяўленьне гэтай шматхадовай камбінацыі абарвалася абраньнем Лукашэнкі, які разыграў уласную партыю.

Абяцаньне Ганчару Лукашэнка ня выканаў – прапанаваў яму толькі віцэ-прэм'ера.

А вось абяцаньне Булахаву – выканаў.

Улічваючы складаныя адносіны да Булахава ў Вярхоўным Савеце, вылучаць яго на фактычна пажыцьцёвую (адзінаццаць год кадэнцыі) пасаду можна было толькі пасьля кансультацыяў з парлямэнцкімі фракцыямі. Сумняваюся, што прадстаўнікам Лукашэнкі ўдалося б угаварыць дэпутатаў Апазыцыі прагаласаваць за Булахава – але нейкую частку былых прыхільнікаў Кебіча яны б угаварылі (у абмен на абяцаньне пасадаў). Заняло б гэта ня дзень і ня два.

Лукашэнка ж прапанаваў кандыдатуру Булахава адразу пасьля інаўгурацыі, што для многіх (калі ня ўсіх) было нечаканасьцю.

Дэпутаты націснулі кнопкі. Галасоў не хапіла.

Я паглядзеў на Булахава – ён зьбялеў.

«Нічога страшнага, Дзьмітры Пятровіч малады чалавек, у яго ўсё наперадзе», – сказаў Лукашэнка.

І ўсьміхнуўся.

## Ганчар: навошта Лукашэнку прастытуткі?

«Сяргей, ну ты бачыш сытуацыю і можаш пралічыць наступствы. Таму вызначайся і далучайся». Гэтыя словы Віктар Ганчар сказаў мне ў лютым 94-га ў калідоры Дому ўраду.

Ён ішоў з кабінэту старшыні «антыкарупцыйнай камісіі» Аляксандра Лукашэнкі ў фае перад Авальнай заляй, дзе стаялі урны для галасаваньня па ўвядзеньні ў Канстытуцыю «прэзыдэнцкіх» разьдзелаў. Ганчар быў з тых, хто падтрымаў такі нязвыклы для Вярхоўнага Савету спосаб галасаваньня (Апазыцыя БНФ назвала яго незаконным), і менавіта ён узначаліў падліковую камісію.

Вызначацца мне Віктар прапанаваў з галасаваньнем за ўвядзеньне ў Канстытуцыю пасады прэзыдэнта. А далучацца – ясна, да групы, якая ўжо атрымала назоў «маладыя ваўкі» і дзе правадыром быў Лукашэнка.

У той момант прапанова Ганчара мяне нібы апякла: значыць, нейкімі сваімі паводзінамі я даў зразумець, што я патэнцыйна магу быць «іхнім». Што магу ўзяць бюлетэнь пайменнага галасаваньня і пазначыць у ім «так» насупраць прэзыдэнцтва, увядзеньне якога Апазыцыя БНФ лічыла прадвесьцем дыктатуры. Што магу прыйсьці ў былы кабінэт старшыні Вярхоўнага Савету (дзе цяпер

сядзеў кіраўнік «антыкарупцыйнай камісіі» Лукашэнка) і сказаць: «Саша... Аляксандар Рыгоравіч... Я вырашыў, быць з табой. Прабачце, з Вамі, у вашай камандзе», – і так зьвярнуцца да таго, да каго зь першага дня знаёмства меў антыпатыю і хто тры месяцы перад тым у сваім выступе хлусіў пра мяне на ўсю краіну.

Я адмовіўся, Ганчар і не ўгаворваў. Значыць, ня меў адносна мяне асаблівай надзеі – гэта супакоіла: тое былі дзяжурныя словы, якія ён казаў не аднаму мне. Магчыма, шмат каму. Але ніхто з Апазыцыі БНФ да Лукашэнкі не пайшоў.

## Кар'ера, выбераная матэматычна

Раней я казаў, што ў 90-ых найбольш высокай кар'ернай прыступкі дасягнуў Лукашэнка, а найбольш імклівую кар'еру зрабіў Булахаў. Ганчар доўга не займаў прыкметных пасадаў, але ў яго іншы рэкорд – імгненнага здабыцьця вядомасьці.

За адзін дзень. Нават – за пару гадзінаў, як у Гагарына.

Сонечнай раніцай 15 траўня 1990 году 314 абраных дэпутатаў Вярхоўнага Савету БССР 12-га скліканьня сабраліся ў Авальную залю на сваю першую сэсію. Тады грамадзтва было на ўздыме, людзі верылі дэпутатам, абраным у напружанай барацьбе, спадзяваліся, што з абраньнем новага Вярхоўнага Савету іх жыцьцё палепшыцца. Бо інакш і быць не магло – кожны дзень пашыраў тэрыторыю свабоды. Першае пасяджэньне сэсіі ішло ў прамой тэлевізійнай і радыё трансьляцыі, і сказаць, што сачыла за ім ня менш як палова насельніцтва



Віктар Ганчар

рэспублікі, мільёнаў пяць – ня будзе ніякім перабольшаньнем.

Наступным разам такая аўдыторыя зьбярэцца перад «радыёкропкамі» толькі праз тры з паловай гады, у сьнежні 93-га, калі Лукашэнка будзе рабіць свой «антыкарупцыйны» даклад.

Сэсію распачаў старшыня Цэнтральнай выбарчай камісіі Міхаіл Лагір. Паводле Канстытуцыі, да абраньня старшыні Вярхоўнага Савету менавіта старшыня ЦВК мусіў весьці сэсію. Колішні вяршыцель лёсаў (яшчэ ў часы Машэрава як старшыня

Камітэту народнага кантролю ён быў член бюро ЦК КПБ), Лагір ва ўмовах адсутнасьці аднадумства і парадку блытаўся і ня ведаў, што рабіць. У Авальнай залі і сьмяяліся, і абураліся.

Адзін за адным дэпутаты падыходзілі да мікрафонаў і выкаваліся пра тое, што лічылі неабходным абмеркаваць ужо цяпер, на першай сэсіі.

Сяргей Папкоў – пра перасяленьне людзей з забруджаных радыяцыяй тэрыторый, Лявон Баршчэўскі – аб стварэньні парлямэнцкай камісіі па ацэнцы дзейнасьці кіраўніцтва рэспублікі па ліквідацыі наступстваў аварыі на Чарнобыльскай АЭС і аб поўным адмаўленьні ад вытворчасьці сельгаспрадукцыі на забруджаных землях, Іван Смоляр – пра справаздачы ўраду па ліквідацыі вынікаў чарнобыльскай катастрофы, Уладзімер Кавалёнак – аб справаздачы Прэзыдыюму Вярхоўнага Савету папярэдняга скліканьня па ліквідацыі наступстваў чарнобыльскай аварыі, Генадзь Карпенка – пра кваліфікацыю будучых прэтэндэнтаў на пасаду сьпікера (у адным месцы ён агаварыўся і замест «прэтэндэнт» сказаў «прэзыдэнт»), Анатоль Вярцінскі – аб стварэньні камісіі па радыяцыйнай ахове насельніцтва. Як няцяжка заўважыць, большасьць дэпутатаў казалі пра Чарнобыль – у 1990 годзе гэтая праблема ўспрымалася як адна з найбольш важных.

І вось да мікрафона падышоў Віктар Ганчар.

«Спачатку ў мяне прапанова па працэдуры. Калі ставіце пытаньне аб унясеньні дапаўненьняў у парадак дня, я прапаную даць кожнаму дэпутату абгрунтаваць гэтую прапанову і ня больш як двум дэпутатам выступіць у падтрымку. На гэтым спыніць абмеркаваньне такой прапановы, паколькі многія

ўжо паўтараюцца. Другое. Кожная прапанова аб зьмене ў парадку дня павінна ставіцца на галасаваньне... Зьвяртаю вашу ўвагу на пункт восьмы парадку дня, аб Часовым рэглямэнце Вярхоўнага Савету. Згодна з Канстытуцыяй БССР (артыкул 114) парадак дзейнасьці Вярхоўнага Савету вызначаецца Рэглямэнтам і іншымі законамі. У нас вынесены і пункт аб зацьвярджэньні Закону аб статусе народных дэпутатаў БССР. Таму я прапаную: улічваючы, што гэтыя законы – Рэглямэнт і Закон аб статусе – цесна ўзаемазьвязаныя, аб'яднаць зацьвярджэньне гэтых законаў...»

Падазраю, што чытач няшмат зразумеў з гэтых словаў. Мала што зразумелі ў момант, калі яны вымаўляліся, і тыя мільёны, якія слухалі прамую трансьляцыю.

Усё, што тут і далей казаў Ганчар, тычылася выключна парадку працы дэпутатаў, а не Чарнобылю, разьвіцьця дэмакратыі ці нейкіх гарачых, надзённых палітычных альбо сацыяльных праблемаў. Але ўжо пасьля другога «працэдурнага» выступу Ганчара іншыя дэпутаты пачалі на яго спасылацца (першы – Валянцін Голубеў), а пасьля трэцяга – прапанавалі, каб Ганчар замяніў у якасьці вядоўцы сэсіі старшыню ЦВК Міхаіла Лагіра. Ганчара таксама прапанавалі абраць у склад Мандатнай камісіі. Прапанова аб сустаршынстве не набрала належнай колькасьці галасоў, а ад членства ў Мандатнай камісіі Ганчар адмовіўся, спаслаўшыся на іншыя пляны.

І ўсё гэта – цягам першае паўтары гадзіны першага дня Вярхоўнага Савету, якому будзе наканавана існаваць амаль шэсьць гадоў! Ну а тыя мільёны, якія праз «радыёкропкі» слухалі прамую

трансьляцыю і якія нічога не разумелі ў нюансах парлямэнцкага рэглямэнту, – зразумелі галоўнае: вось чалавек зь бездакорнай юрыдычнай адукацыяй.

Юрыст – гэта тады было модна. «У парлямэнце павінны быць юрысты і эканамісты» – гэты лёзунг яшчэ адыграе сваю адмоўную ролю на выбарах наступнага, 13-га па ліку Вярхоўнага Савету. У парлямэнце найперш павінны быць палітыкі. Слова «палітык» у дачыненьні да дэпутатаў у 90-м яшчэ не атрымала шырокага распаўсюду і ўспрымалася зь недаверам; палітыкі былі ў Палітбюро, у Маскве. І вельмі часта ад людзей, якія сачылі за падзеямі ў Вярхоўным Савеце, я чуў ня «Віктар Ганчар», а – «юрыст Ганчар». Гучала так, як гучала – «акадэмік Капіца».

Словам, калі раніцай 15 траўня 1990 году прозьвішча Ганчар ведалі толькі ягоныя знаёмыя ды выбаршчыкі з акругі, дзе ён балятаваўся – дык увечары гэтае імя ведала ўся Беларусь. Ад гэтага дня ў газэтных публікацыях Ганчар стабільна ўваходзіў у пералік найбольш аўтарытэтных дэпутатаў, а калі пачаліся сацыялягічныя апытаньні – у дзясятку найбольш папулярных палітыкаў. І ўжо ніколі з гэтай «дзясяткі» не выходзіў.

Можна сказаць, што Ганчару неверагодна пашанцавала – пра яго даведаліся і яго палюбілі за тое, за што потым будуць папракаць дэпутатаў: за «парлямэнцкую гаварыльню». А з другога боку – ён, як мала хто з нас, трох сотняў дэпутатаў першага адносна свабодна абранага дэмакратычнага парлямэнту, быў падрыхтаваны да заканатворчай працы.

Большасьць з нас, дэмакратычных дэпутатаў,

ішлі ў Вярхоўны Савет змагацца за народ, вырашаць яго праблемы ды дамагацца сувэрэнітэту. Пра гэта добра сьведчыць эпізод, які здарыўся ў тыя самыя першыя дні першай сэсіі.

Абмяркоўвалася магчымасьць паслаць беларускіх вайскоўцаў у «гарачыя кропкі», і мы зь Віталём Малашкам заявілі на сэсіі, што пакуль Вярхоўны Савет ня прыме пастанову аб забароне пасылаць жыхароў Беларусі туды, дзе ваююць – мы з Авальнай залі ня выйдзем. Хутка абвясьцілі перапынак – мы засталіся ў залі. Дэпутаты выходзілі на абед, і некаторыя круцілі пальцам каля скроні: «Што вы тут дэмарш учынілі, трансьляцыя ідзе на ўсю рэспубліку!» Перапынак быў дзьве гадзіны, за гэты час мы пасьпелі зрабіць праект, назваўшы яго гучна – «закон». Раптам да нас падышоў Віктар Ганчар. Малашка працягнуў яму аркуш (мы нават пасьпелі папрасіць кагосьці схадзіць у машбюро і аддрукаваць наш праект).

«Дакумэнт такога кшталту павінен прайсьці апрабацыю ў профільных камісіях Вярхоўнага Савету і ў абавязковым парадку – у камісіі па заканадаўстве. А затым – першае чытаньне, потым другое. І толькі пасьля гэтага ён будзе законам. Але тое, што вы напісалі – гэта не праект закону, гэта праект пастановы. І ўсё роўна, ён павінен прайсьці парлямэнцкую экспэртызу».

Канешне, я не даслоўна перадаю сказанае Ганчаром, але сэнс быў такі і лексыка – падобная. Па сутнасьці, Ганчар патлумачыў нам азы заканатворчасьці, якія шмат хто з нас, хто ня меў юрыдычнай адукацыі – слаба сабе ўяўлялі (але навучымся мы хутка. І ўжо на восеньскую, другую сэсію падрыхтуем некалькі законапраектаў, якія

пройдуць, кажучы словамі таго самага Ганчара, «апрабацыю» ў самых аўтарытэтных экспэртаў).

Ну і каб не вяртацца да таго нашага зь Віталём Малашкам пратэсту – наш «закон» мы перадалі ў сакратарыят сэсіі, яго, канешне, ніякая камісія не разглядала – але нас падтрымалі дэпутаты БНФ, і ня толькі яны адны, і неўзабаве Вярхоўны Савет забараніў пасылаць беларускіх вайскоўцаў у «гарачыя кропкі».

І вось тут яшчэ адно адрозьненьне паміж намі і Ганчаром. Ён ніколі б не зрабіў нічога, што магло б паставіць яго ў невыгоднае становішча. Яго называлі (і цяпер называюць) самым бліскучым парлямэнцкім аратарам – але аднойчы я пачуў, як Ганчар спрабуе размаўляць на роднай мове, гэта было сумнае відовішча, зразумеў, канешне, гэта і Ганчар – з гэтай прычыны па-беларуску на сэсіях не выступаў (не ўтрымаюся ад рэмаркі: ці можна назваць бліскучым аратарам французскага дэпутата, які ў Нацыянальным сходзе ня можа выступаць па-французску? У Францыі – вядома, не. У Беларусі – аказваецца, можна).

Ганчар таксама імкнуўся не рабіць крокаў, якія могуць апрыёры лічыцца безвыніковымі (было зразумела, што нашага з Малашкам ультыматуму Вярхоўны Савет ня прыме). Гэта, канешне, карысная якасьць дэпутата – застрахавацца ад няўдачы. Але тут узьнікае парадокс: я не магу прыгадаць (ва ўсялякім разе, у Вярхоўным Савеце 12-га скліканьня) ніводнай заканадаўчай прапановы Ганчара – ці то закону, ці то пастановы. Толькі – папраўкі ды ўдакладненьні да тых праектаў, якія зрабіў нехта іншы.

Затое гэтыя ўдакладненьні мелі характар

юрыдычнай дасканаласьці. Тое, што Ганчар казаў ад мікрафона, можна было стэнаграфаваць і, як пазьней будуць казаць, праз копі-пэйст – устаўляць у тэкст закону, і ніводзін экспэрт не знайшоў бы там недакладнасьці.

«У яго кампутарныя мазгі», – сказаў мне дэпутат Анатоль Вярцінскі, які працаваў у «групе Ганчара» ў толькі што створанай Канстытуцыйнай камісіі. Другую групу ўзначальваў віцэ-сьпікер Васіль Шаладонаў, а старшынём самой камісіі да адстаўкі з пасады сьпікера быў Мікалай Дземянцей (пазьней яго зьмяніў Станіслаў Шушкевіч).

Зянон Пазьняк, аднак, падзяліўся іншым уражаньнем ад здольнасьцяў Ганчара: «У складаных палітычных перамовах, дзе трэба было якраз хутка і дакладна думаць, ён выглядаў бездапаможным (хуткасьць думаньня – вельмі важная характарыстыка). Да кожнага выступу ў Вярхоўным Савеце (ад мікрафона) ён доўга абдумваў форму, фразу, як сказаць, каб быў эфэкт. Калі я прасіў яго выступіць і нешта патрэбнае паведаміць (ён сядзеў побач непадалёк ад мяне), дык мяне проста раздражняла гэтая ягоная павольнасьць і доўгая падрыхтоўка фразаў».

Ганчар выбудоўваў сваю палітычную кар’еру матэматычна дакладна. Як і мы, дэпутаты БНФ, ён зь першых дзён убачыў неадпаведнасьць складу Вярхоўнага Савету тым мэтам, якія паўсталі перад грамадзтвам – і, як мне падаецца, менавіта таму не імкнуўся ў ім нічога дамагацца дзеля, кажучы высокім стылем, інтарэсаў гэтага грамадзтва. Мы спрабавалі ўплываць на дэпутатаў, распрацоўвалі законапраекты ў розных галінах эканомікі, культуры і сацыяльнага жыцьця, пра-

цягвалі гэта і пасьля адмовы правесьці рэфэрэндум аб датэрміновых выбарах. Большасьць законаў «зарубалі», некаторыя – праходзілі. Сотні нашых асобных палажэньняў былі ўключаныя ў законапраекты, падрыхтаваныя камісіямі. Нічога гэтага Ганчар не рабіў. Ён проста ўспрымаў парлямэнт як кар’ерны трамплін.

А пачынаў Ганчар з самых нізоў. Нарадзіўся ён у 1957 годзе ў пасёлку Радзічава Слуцкага раёну (пазьней ён прызнаецца маёй маці, што ўсімі сіламі імкнуўся вырвацца з кола, у якім прайшло ягонае дзяцінства). У 1979 годзе скончыў юрфак БДУ, працаваў у Менскай абласной калегіі адвакатаў. Потым – навуковым супрацоўнікам у інстытуце філязофіі і права Акадэміі навук. Быў дацэнтам катэдры права інстытуту народнай гаспадаркі – і ў сакавіку 90-га абраны народным дэпутатам БССР. У першыя месяцы дэпутацтва (трэба думаць, на запрашэньне старшыні Саўміну Кебіча, які яшчэ нядаўна ўзначальваў Дзяржплян) перайшоў начальнікам аддзелу Дзяржпляну – пасада значна меншая за намесьніка міністра, тым часам як мог бы без асаблівых намаганьняў быць намесьнікам альбо сакратаром якой-небудзь парлямэнцкай камісіі, напрыклад, па заканадаўстве.

У траўні 91-га Ганчар пайшоў працаваць намесьнікам да Генадзя Карпенкі, які быў прызначаны мэрам Маладэчна. Вось гэта было тое, што называлася «канкрэтнай справай» і што падабалася людзям. За некалькі месяцаў Карпенку і Ганчару ўдалося стварыць у горадзе самыя лепшыя ў Беларусі ўмовы для прыватнага бізнэсу, які тады толькі нараджаўся і станавіўся на цывілізаваныя рэйкі. Праўда, гэтая пасада ні ў якай ступені не адлюстроўвала машта-

баў амбіцыяў Ганчара. А пасьля таго, як Ганчар публічна, з трыбуны сэсіі, адмовіўся ад прапановы старшыні Вярхоўнага Савету Станіслава Шушкевіча балятавацца ў віцэ-сьпікеры, зрабілася зразумелым, што амбіцыі гэтыя сягаюць на самую вышыню – на пасаду, вышэй якой ужо нічога няма.

Ганчар разумеў, што старшынём Вярхоўнага Савету гэты склад парлямэнту яго не абярэ. Наўрад ці абярэ і іншы – усё было за тое, што ў наступным скліканьні будзе дамінаваць БНФ, а з Народным Фронтам сяброўства ў Ганчара не было (асабліва пасьля таго, як у лістападзе 91-га ён паставіў пад сумнеў юрыдычную правамоцнасьць прыпыненьня дзейнасьці КПБ-КПСС, хаця зрэдку Ганчар ставіў подпісы пад заявамі разам з дэпутатамі-фронтаўцамі). Падтрымкі можна было шукаць не ў дэпутатаў, а ў народу. Як член Канстытуцыйнай камісіі і адзін з кіраўнікоў працоўнай групы, Ганчар актыўна дамагаўся ўвядзеньня пасады прэзыдэнта.

З восені 1993 году ён – разам з Аляксандрам Лукашэнкам (пазьней дэпутаты з тагачаснага атачэньня Лукашэнкі казалі, што Ганчар і Булахаў плянавалі Лукашэнкам, як таранам, скінуць Кебіча і заняць галоўныя пасады: Ганчар – прэзыдэнта, Булахаў – старшыні Вярхоўнага Савету).

У лютым 1994-га Ганчар шмат паспрыяў, каб артыкулы пра прэзыдэнцтва былі ўключаныя ў Канстытуцыю. Апазыцыя БНФ заявіла, што зроблена гэта было з грубым парушэньнем Рэглямэнту Вярхоўнага Савету – шляхам пайменных бюлетэняў галасаваньне ішло тры дні. У гэтыя дні адбылася і прыгаданая вышэй мая з Ганчаром гутарка.

А неўзабаве пачалася прэзыдэнцкая кампанія.

## «Я проста прадаў яму імя»

Пазьней, адказваючы на папрокі пра актыўны ўдзел у выбарчай прэзыдэнцкай кампаніі Лукашэнкі, Ганчар патлумачыць: «Я проста прадаў яму сваё імя».

І сапраўды – я ня памятаю выступаў Ганчара па тэлебачаньні ці радыё ў часе першых прэзыдэнцкіх выбараў. У амаль 400-старонкавым зборы «Перадвыбарчая кампанія ў Беларусі: хроніка і перадгісторыя» (НІСЭПІ, сьнежань 1994), дзе сабраныя ўсе больш-менш значныя публікацыі і выступы кандыдатаў і іх даверанага асобаў – заяваў Ганчара няма.

Самую важную ролю ў прасоўваньні Лукашэнкі ва ўладу Ганчар адыграў на этапе, які папярэднічаў выбарам – і тады, калі адпраўлялі ў адстаўку Шушкевіча, і калі ўводзілі прэзыдэнцтва, і калі прысьпешвалі прэзыдэнцкія выбары, прызначаючы іх перад парлямэнцкімі. Паўплываў Ганчар і на тое, каб узроставую плянку для кандыдата ў прэзыдэнты з 40 гадоў зьнізіць да 35 – бяз гэтага Лукашэнка, якому на момант вылучэньня і выбараў было 39 гадоў, увогуле ня мог бы балятавацца. Тут выявіліся красамоўнасьць Ганчара, ягоныя здольнасьці да палемікі і юрыдычных абгрунтаваньняў (нехта б сказаў – да прававой казуістыкі)

Чым займаўся ў перадвыбарчым штабе Лукашэнкі Віктар Ганчар – юрыст высокай кваліфікацыі са ступеньню кандыдата навук, парлямэнтарый, якога лічылі бліскучым аратарам, палітык, чые амбіцыі (ды, трэба прызнаць, і магчымасьці) дазвалялі яму прэтэндаваць на самыя высокія пасады?

«Ганчар і Булахаў зьяўляліся ўсё радзей... У адно

з такіх, паўтаруся, нячастых наведваньняў яны пілі каву і абмяркоўвалі, якім чынам фармаваць групу давераных асоб кандыдата ў прэзыдэнты. Казалі, што абавязкова патрэбная праца па катэгорыях, па прафэсіях. "Дэпутат Віктар Кучынскі – вайсковец. І гэта вельмі добра. Ёсьць пэнсіянэр, лекар, навуковец..." Тут Булахаў пытаецца:

– Віця, а прастытуткі? Хто ў нас будзе працаваць з прастытуткамі?

– Дзіма, навошта яму прастытуткі? У яго ўжо ёсьць мы».

(Аляксандар Фядута, «Александр Лукашенко. Политическая биография», Масква, «Референдум», 2005, с. 136.)

Чаму ж Ганчар ня ўдзельнічаў актыўна ў выбарчай кампаніі? Баяўся «чорнай працы»? Убачыў, як цягнуліся да Лукашэнкі тыя, на каго наглядзеўся ў дзяцінстве і да каго ён не жадаў вяртацца? Ці ўжо пачаў разумець, які джын выскоквае з бутэлькі, якую і ён адкаркоўваў? Мы гэтага не даведаемся, ад таго часу засталіся толькі словы пра «прададзенае імя». Прададзенае ў спадзяваньнях, якія не апраўдаліся ні для Ганчара, ні для грамадзтва.

Партрэт Ганчара можна было б скончыць папярэднім абзацам – але нават калі абмежаваць сябе толькі 1994 годам, пісаць пра Ганчара без уліку таго, што адбылося ў 1999-м – азначае сказіць ягоны палітычны і чалавечы воблік. Да таго ж, учынкі і выказваньні Ганчара ў апошнія пяць гадоў ягонага жыцьця дазваляюць лепей зразумець, чаму ў 94-м ён падтрымаў Лукашэнку, і чаму ён, чалавек, які з матэматычнай дакладнасьцю вывяраў кожны свой крок, гэтак трагічна памыліўся.

## Старшыня ЦВК

У чэрвені 1996-га, калі мы з Пазьняком былі ў Варшаве, мая жонка Галіна (яна была акрэдытаваная ў Доме ўраду як журналістка) дапамагала зьбіраць подпісы дэпутатаў пад запытам аб гарантыях нашага з Пазьняком вяртаньня.

Падышла да Віктара Ганчара, сказала, што подпісы пагадзіліся паставіць Карпенка, Дабравольскі, Знавец, і прапанавала далучыцца яму.

– Галіна, а чаму ты нічога ня кажаш пра мой новы гальштук? Праўда, ён прыгожы? – сказаў на гэта Віктар.

(Ніхто тады, канешне, ня мог ведаць, што праз два гады Ганчар зьвернецца з просьбай да майго бацькі, якая запатрабуе куды большай сьмеласьці, чым подпіс пад заявай. Што палітычная дзейнасьць Ганчара будзе цесна зьвязаная з маімі роднымі (бацькамі і сястрой), а мая жонка будзе апошняй, хто запіша зь ім інтэрвію – за некалькі гадзінаў да ягонага зьнікненьня...)

У 1995 годзе Ганчар быў абраны дэпутатам Вярхоўнага Савету 13-га скліканьня, і неўзабаве – старшынём Цэнтральнай выбарчай камісіі. На гэтай пасадзе ён апынуўся ў эпіцэнтры канфлікту, разьвіцьцё якога мела трагічныя наступствы для лёсу дэмакратыі.

Увосень 1996-га Лукашэнка ініцыяваў рэфэрэндум, галоўнай мэтай якога была зьмена Канстытуцыі на карысьць узмацненьня паўнамоцтваў прэзыдэнта. На запыт старшыні Вярхоўнага Савету Сямёна Шарэцкага, ці адпавядаюць пытаньні рэфэрэндуму Канстытуцыі, Канстытуцыйны Суд адказаў – не адпавядаюць. Лукашэнка заявіў,

што рэфэрэндум пройдзе нягледзячы на рашэньне Канстытуцыйнага Суду. Дэпутаты распачалі працэдуру імпічмэнту. Ганчар заявіў, што з прычыны парушэньня закону выканаўчай уладай Цэнтравыбаркам не прызнáе вынікі рэфэрэндуму. 14 лістапада Лукашэнка сваім указам зьняў Ганчара з пасады – на што ня меў права, паколькі старшыню ЦВК (як і ўвесь склад камісіі) паводле Канстытуцыі прызначаў Вярхоўны Савет. Супрацоўнікі Службы бясьпекі прэзыдэнта фізычна выштурхнулі Ганчара з памяшканьня ЦВК – нягледзячы на пратэсты Старшыні Вярхоўнага Савету і Генэральнага пракурора. Замест Ганчара кабінэт старшыні ЦВК заняла Ярмошына.

Далей быў «крамлёўскі дэсант», падпісаньне пад ягоным ціскам Сямёнам Шарэцкім і старшынём Канстытуцыйнага суду пагадненьня з Лукашэнкам аб спыненьні працэдуры імпічмэнту, роспуск Вярхоўнага Савету 13-га скліканьня.

Віктар Ганчар сышоў у прыватную юрыдычную практыку – каб неўзабаве зьявіцца ў ролі старшыні ўжо не афіцыйнай, але «альтэрнатыўнай» ЦВК.

## Выбары-99: мабілізацыя патрыятычных сілаў альбо авантурызм?

– Сяргей, ты не разумееш, якое калясальнае ўражаньне рабіў Ганчар у Віцебску, – казала мне сястра пра падзеі 1999 году. – Вось уяві: усе ў дэпрэсіі, ніякага прасьвету, усё шэрае, ды якое шэрае – чорнае, і тут – звоніць Ганчар, кажа «Сьвятлана, зьбяры людзей!», людзі зьбіраюцца, і зьяўляецца ён – у белай кашулі!

– Ну, у белай кашулі, – згаджаюся я. – Ён заўсёды

хадзіў у белай кашулі і пры гальштуку. Гэта я мог прыйсьці на сэсію ў швэдры, Карпенка дык часта ў швэдры і прыходзіў. Пазьняк – толькі з гальштукам, у кашулі, але рэдка ў белай. Ганчар – толькі ў белай. Ну і што? Пры чым тут белая кашуля?

– Ну як «ну і што?» Як гэта «пры чым?» – нэрвуецца сястра. – Ты што, не разумееш? Ганчар казаў: «Усё будзе добра!» – і ўсе верылі! Ганчар даў людзям надзею!

З пачатку 1999 году лёс маіх родных быў зьвязаны з Ганчаром. У 1999 годзе завяршаўся пяцігадовы тэрмін знаходжаньня Лукашэнкі на прэзыдэнцкай пасадзе – той, які быў вызначаны Канстытуцыяй 1994 году. Спасылаючыся на зьмену Канстытуцыі ў выніку «рэфэрэндуму», Лукашэнка заявіў, што пяць гадоў трэба адлічваць ад 1996 году. Тым ня менш, дэмакратычная апазыцыя лічыла, што выбары трэба праводзіць у 1999 годзе.

Дэпутаты Вярхоўнага Савету, якія засталіся верныя Канстытуцыі, прызначылі Віктара Ганчара старшынём «альтэрнатыўнага» ЦВК. У яго былі два намесьнікі, кандыдатуры якіх прапаноўваў ён сам. Абодва – прадстаўнікі былой намэнклятуры: былы старшыня Прэзыдыюму Вярхоўнага Савету БССР Георгій Таразевіч і былы сакратар Віцебскага абкаму КПБ Іосіф Навумчык. З трох кіраўнікоў ЦВК жывы толькі мой бацька – і мне нічога не застаецца, як прывесьці менавіта яго ўспаміны і ацэнку.

Іосіф Навумчык: «28 сьнежня 1998 году, атрымаўшы згоду на сустрэчу, у Віцебск да нас на кватэру прыехалі Сямён Шарэцкі і Віктар Ганчар. Размова пайшла аб маёй згодзе ўвайсьці ў склад Цэнтральнай выбарчай камісіі ад Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны. У студ-

зені 1999 году камісія была зацьверджаная тым складам Вярхоўнага Савету, які працягваў сваю дзейнасьць. Былі прызначаныя выбары прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь у адпаведнасьці з Канстытуцыяй 1994 году. Як вядома, у лістападзе 1996-га быў зьдзейсьнены дзяржаўны пераварот, паўнамоцтвы Лукашэнкі былі працягнутыя да 2001 году. Мне зь цяжкасьцю верылася ў рэальную магчымасьць прэзыдэнцкіх выбараў 1999 году, у іх станоўчы вынік. Больш за тры гадзіны мы абмяркоўвалі палітычную сытуацыю, дзейнасьць апазыцыйных сілаў і таму падобнае. Наша сям'я была заварожаная здольнасьцю Віктара Ганчара пераконваць верай у перамогу здаровых сілаў грамадзтва. І я даў згоду ўвайсьці ў склад ЦВК па выбарах прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь. Наперадзе – пяць месяцаў напружанай працы ў якасьці намесьніка старшыні ЦВК. Я сустракаўся зь Віктарам Ганчаром дзясяткі разоў, як правіла, у Менску. Ужо ў часе першай сустрэчы ў Віцебску Віктар Ганчар гаварыў аб сваёй адказнасьці і віне за прыход Аляксандра Лукашэнкі да ўлады і лічыў магчымым зьмяніць сытуацыю ў 1999 годзе. Яму ўдалося за сьціслыя тэрміны мабілізаваць для арганізацыі выбараў сотні людзей з розных палітычных партый, рухаў і беспартыйных. Віктар Ганчар праявіў сябе як таленавіты, удумлівы арганізатар. Яго чалавечыя якасьці, увага да людзей і разам з тым рашучасьць і настойлівасьць у выкананьні пастаўленых задач былі прыкладам для нас. Яго аўтарытэт у нашым асяродзьдзі быў вельмі высокі. Бясспрэчна, што яго адрозьнівала ад многіх іншых лідэраў харызма сапраўднага мужчыны, арганізатара. Ён дзяліўся з намі, членамі Камісіі, інфармацыяй аб кантак-

тах з кіраўнікамі адміністрацыі прэзыдэнта Расеі Барыса Ельцына, кіраўніком місіі АБСЭ Гансам Вікам. У часе гутарак з прадстаўнікамі адміністрацыі Ельцына ён зразумеў, *якія сілы Расеі актыўна садзейнічалі прыходу да ўлады Лукашэнкі ў 1994 годзе. Пасьля аналізу магчымасьці тых ці іншых кандыдатаў і ацэнкі іх з пункту гледжаньня адносінаў да Расеі стаўка была зроблена на Аляксандра Лукашэнку. Яны ў Маскве палічылі, што Кебіч непраходны, ні Шушкевіч ні Пазьняк іх, канешне, не задавальнялі, і таму зрабілі стаўку на Лукашэнку* (курсіў мой – С.Н.). Гэтая інфармацыя, а таксама прыватныя гутаркі са мной, даюць мне права сказаць, што ў гэты час Віктар Ганчар быў сьвядомым барацьбітом за Незалежнасьць, самастойнасьць Беларусі, а таксама за добрасуседзкія адносіны як з Захадам, так і з Расеяй. Выбары гэтыя не маглі адбыцца, бо ўлада зрабіла ўсё магчымае, каб большасьць насельніцтва не змагла прагаласаваць. Але сам факт правядзеньня выбараў мабілізаваў усе патрыятычныя сілы, паказаў людзям рэальнасьць правядзеньня такіх акцый і вялікую незадаволенасьць сотняў тысяч грамадзян Беларусі, а таксама значнай часткі чынавенства і кіруючых кадраў той сыстэмай кіраўніцтва, якая была ажыцьцёўлена Аляксандрам Лукашэнкам».

Гэтак лічыць былы намесьнік старшыні «альтэрнатыўнай» Цэнтральнай выбарчай камісіі Віктара Ганчара.

На маю просьбу ўспамінамі і ацэнкамі падзяліўся і Зянон Пазьняк – ён напісаў вялікі тэкст, прыводжу некаторыя ўрыўкі.

Зянон Пазьняк: «Канчаткова ўсё стала зразумела пасьля двух візытаў да мяне ў Варшаву спадароў

Ганчара і Чыгіра. Яны прасілі мяне ўдзельнічаць у выбарах у якасьці кандыдата, бо ў іх для ажыцьцяўленьня выбараў няма структураў і людзей, і без удзелу Народнага Фронту правесьці такія выбары немагчыма. Пры гэтым яны казалі, што выбары робяцца пад Чыгіра, бо за ім, маўляў, Масква і (быццам бы) саўковы электарат Беларусі. Тым часам яны ўжо вялі перамовы з нашымі фронтаўскімі нізавымі структурамі, прапануючы грошы і супольную перамогу «над дыктатарам». У Фронт паплылі людзі з падазронай актыўнасьцю, якіх мы ніколі ня бачылі. Узьніклі спрэчкі і падзел пазыцыяў у Руху.

Зразумела, што пачалася генэральная атака на Фронт з прымяненьнем маскоўскіх грошай. Вынікам атакі павінна было стацца зьнішчэньне народнага руху БНФ і зганьбаваньне майго імя. У іншым выпадку – раскол Фронту.

Бальшыня з маіх шасьці намесьнікаў (з тых, якія не былі ў парлямэнце і ня мелі парлямэнцкага вопыту палітычнай барацьбы) падтрымалі авантуру, прыяжджалі да мяне, сур’ёзна ўгаворвалі балятавацца на кандыдата ў прэзыдэнты і меркавалі, што цалкам магчыма ажыцьцявіць такія выбары ў абыход аўтарытарнай улады «ўсім разам» і нават пры пасіўным электарацэ. «І з лукашысцкай публікай?» – задаваў я скептычнае пытаньне, маючы на ўвазе Ганчара і кампанію. «Яна ўжо не лукашысцкая», – быў адказ.

Я адчуваў, што будучы за мяжой і ня маючы непасрэдных кантактаў зь людзьмі і зь сябрамі Фронту, я гэтую атаку (падмацаваную грашыма, таму яна йшла поўным ходам) проста так ужо не адкіну. Мы маглі страціць Рух. Трэба было прымаць вымушанае рашэньне і ўключацца ў абсурдныя

падзеі па чужым сцэнары, каб мець кантроль над Фронтам і дзейнічаць па абставінах. Мая адмова ў той сытуацыі магла б прывесьці да агентурнага захопу Фронту варожымі сіламі, якія б мелі разьвязаныя рукі.

Зразумела было таксама, што выканаўцы авантурнага праекту будуць займацца махінацыямі і фальсыфікацыямі, бо рэальна альтэрнатыўныя выбары ў тых абставінах правесьці ўжо было немагчыма. Пагадзіўшыся на ўдзел у выбарах, я выставіў Ганчару адну ўмову: выбары мусяць адбывацца згодна з Канстытуцыяй і строга па законе аб выбарах. Ганчар урачыста і зь лёгкасьцю пагадзіўся.

У працэсе, калі пачаліся шырокія парушэньні закону, галасаваньне на працягу дзесяці дзён з абходам кватэраў, падробка пратаколаў галасаваньня і татальная фальсыфікацыя галасаваньня, я афіцыйна пісьмова папярэдзіў В. Ганчара аб парушэньнях закону і недатрыманьні ўмовы. Ганчар адказаў высакамерна (праектанты, відаць, ужо палічылі, што справа зроблена).

Ва ўсёй Беларусі прагаласавала ад сілы ўсяго некалькі дзясяткаў тысяч выбаршчыкаў. Тым часам у ЦВК Ганчару пачалі прысылаць падпісаныя некаторымі даверанымі старшынямі камісіяў чыстыя і незапоўненыя блянкі пратаколаў галасаваньня, якія пасьля атрыманьня адвольна запаўняліся членамі ЦВК. Прытым некаторыя фальсыфікаты перахапіла лукашысцкая міліцыя. (Чым ня доказ у плянаванай крымінальнай справе па апаганьваньні БНФ!)

У давяршэньне ўсёй гэтай дурной выбарчай прафанацыі «дэмСМІ» пачалі даваць інфармацыю з ЦВК, што наперадзе быццам бы йдзе кандыдат

Пазьняк, які нібыта апярэджвае кандыдата Чыгіра на мільён галасоў. Тупасьць і нахабства гэтай афёры зьдзіўлялі і абуралі да неверагоднасьці. За тры дні да сканчэньня прафанацыі выбараў я абзваніў па тэлефоне структуры Народнага Фронту з прапановай выходзіць з ганебных выбараў, а сам напісаў заяву Ганчару, што адмаўляюся ад удзелу ў выбарах і здымаю сваю кандыдатуру. Пераважная бальшыня франтаўскіх структураў выйшла з выбарчай авантуры. Афэра абвалілася, хаця вынікі яе былі ўсё ж вельмі дэструктыўнымі для БНФ і ў цэлым для Беларусі.

Праз некалькі гадоў пасьля падзеяў я двойчы меў размову на гэтую тэму са старшынём Вярхоўнага Савету 13-га скліканьня Сымонам Шарэцкім. Усплылі канкрэтныя факты.

Напачатку Масква прапанавала паўдзельнічаць у альтэрнатыўных выбарах у якасьці кандыдата якраз Сымону Шарэцкаму, паабяцаўшы фінансаваньне і выставіўшы свае ўмовы. (Прапанова была на ўзроўні віцэ-прэм'ера Расеі спадара Чубайса.) Шарэцкі адмовіўся і расказаў пра тое Ганчару. Ганчар паехаў у Маскву і прапанаваў свае паслугі, якія былі прынятыя. Так зьявіўся «Праект Чыгір», пра які я пісаў у пачатку 1999 году. Згодна з праектам, Масква з падачы Ганчара прапанавала на кандыдата ў прэзыдэнты Беларусі ў альтэрнатыўных выбарах Міхаіла Чыгіра.

Авантурызм у характары Ганчара мне быў добра вядомы, але ягонае нізкае шулерства ў тых псэўдавыбарчых дачыненьнях, выяўленае на ўзроўні маскоўскай палітбратвы, зьдзівіла тады шмат каго з нас, франтаўцаў. Я ня думаю, што Ганчар адкрыта пайшоў на супрацоўніцтва з расейскай «канторай»,

але тое, што ён даў сябе выкарыстаць, гэта несумненна. Маючы задаткі прыстойнага чалавека, ён самахоць уваліўся ў расейскую палітычную гразь (гэтак жа як раней у кампанію з Лукашэнкам), заблытаўся ў маскоўскіх сетках, перабольшыў свае здольнасьці і скончыў фатальна, магчыма так і не зразумеўшы, якое подлае гэтае канторскае зьвяр'ё і якую шкоду зрабіў ён для Беларусі».

Выхад Пазьняка з выбарчай кампаніі шмат кім у Фронце быў успрыняты нэгатыўна – а шырока данесьці свае аргумэнты праз сродкі масавай інфармацыі ў яго ўжо не было магчымасьцяў. Пазьней гэты выхад будзе выстаўлены яму ў віну ягонымі апанэнтамі ўнутры БНФ на чарговым зьезьдзе, на якім адбудзецца раскол БНФ.

Іосіф Навумчык: «Гэта не былі выбары з выкананьнем літаральна кожнага пункту выбарчага заканадаўства – бо такія выбары ў тых умовах правесьці было нерэальна. У першую чаргу гэта, канешне, была палітычная акцыя, якая актывізавала дзейнасьць розных палітычных сілаў, паказала насельніцтву, што магчыма зьмяніць сытуацыю. Але фінал яе быў, канешне, непрыемны, па розных абставінах. У тым ліку і з-за тых памылак, якія былі дапушчаныя асабіста Ганчаром. Таму што вось гэтыя фальсыфікацыі, я ня ведаю, наколькі яны пасупалі зь месцаў, бо ўжо за рэдкім выключэньнем былі практычна паралізаваныя тыя людзі, якія гэтай справай займаліся... І тыя лічбы, якія былі пададзеныя (калі яны былі пададзеныя, тут я дакладна нават і ня ведаю), – нерэальныя. У выніку на паседжаньні ЦВК мы прызналі лічыць выбары несапраўднымі. Яны практычна не адбыліся так, як яны мусілі прайсьці паводле Канстытуцыі

і законаў. Я ня ведаю, якія былі патаемныя мэты ці падводныя камяні ўсяго гэтага, але, канешне, гэтая сытуацыя ў фінале была непрыемнай. Таму што ніхто ў гэтыя лічбы ня мог паверыць і ня верыў – у тым ліку і прадстаўнікі АБСЭ, я так думаю і сам Ганчар. І ўсе мы. Практычна ў выніку мы прызналі, што завяршэньня нармальнага гэтых выбараў не было.

Дзейнасьць Ганчара, якую ён разгарнуў пасьля няўдалых вынікаў выбараў па кансалідацыі ўсіх здаровых сіл грамадзтва ў барацьбе з дыктатурай прывялі б у верасьні 1999 году, як ён і плянаваў, да пераменаў у палітычным ляндшафце Беларусі. Практычна падрыхтаванае на 18 верасьня правядзеньне вялікага сходу дэпутатаў Вярхоўнага Савету, прадстаўнікоў палітычнай і інтэлектуальнай эліты, кіраўнікоў палітычных партый і грамадзкіх арганізацый, прывяло б да імпічмэнту Лукашэнкі. Усё гэта напужала ўладныя структуры. Яны пайшлі на крайнія меры. Віктар Ганчар быў захоплены, а потым зьнішчаны».

Ці не атрымалася б з імпічмэнтам, абвешчаным «альтэрнатыўным» парлямэнтам (хаця дэпутаты ВС-13 захоўвалі сваю легітымнасьць) гэтак, як і з «альтэрнатыўнымі» выбарамі – пытаньне адкрытае.

Тое, што адбылося зь Віктарам Ганчаром пасьля таго, як яго і Анатоля Красоўскага схапілі ў Менску 16 верасьня 1999 году – застаецца пакуль невядомым.

Завяршаючы партрэт Ганчара, заўважу, што часам вынік дзейнасьці палітыка вызначаюць ня тыя якасьці, якімі ён валодае, а тыя, якіх яму не хапае. Ганчару, на мой погляд (асабліва ў першай палове

90-ых), бракавала нацыянальнай сьвядомасьці. Адсутнасьць гэтай якасьці і прадвызначыла памылку 1994 году, якую б не зрабіў ніводзін са сьціплых і нікому не вядомых актывістаў Народнага Фронту адкуль-небудзь з Паставаў, Вялейкі ці ягонай роднай Случчыны.

## «Маўр» Лукашэнкі, або той, хто зьмяніў герб і сьцяг

Калі зыходзіць з таго, што Аляксандра Лукашэнку прывяла да ўлады толькі ягоная каманда – тады трэба прызнаць, што найбольшы асабісты ўнёсак у перамогу зрабіў Леанід Сініцын. Калі ж пагадзіцца са сьцьвярджэньнямі, што Лукашэнку прасоўвалі Крэмль і спэцслужбы – тады з усяго атачэньня будучага прэзыдэнта Сініцын быў найбольш прыдатнай фігурай для выкананьня гэтага пляну.

Можна ўзяць абедзьве вэрсіі – і пад кожную знойдуцца аргумэнты. Але застаецца фактам, што пасьля выбараў менавіта кіраўнік прэзыдэнцкай адміністрацыі Сініцын кіраваў пабудовай «вэртыкалі», сыстэмы ўлады, якую потым назавуць «дыктатурай», быў арганізатарам рэфэрэндуму аб зьмене сымболікі і ўжо праз шмат гадоў пасьля свайго сыходу з палітыкі пацьвердзіў адданасьць ідэі аб'яднаньня Беларусі з Расеяй.

Дэталяў ягонай біяграфіі вядома няшмат – інтэрвію Сініцын даваў вельмі мала і практычна не казаў пра сябе. Але некаторыя, здавалася б, добра вядомыя дэталі, некаторыя паводзіны і выказваньні праз два дзесяцігодзьдзі ўспрымаюцца па-новаму і сёе-тое прыадчыняюць.

У даведніку «Народныя дэпутаты Рэспублікі Беларусь», які выйшаў у 1992 годзе накладам 500

асобнікаў (каб хапіла кожнаму дэпутату і яшчэ засталося), пра Сініцына напісана: «Нарадзіўся у 1954 годзе. Рускі. Адукацыя вышэйшая – закончыў Наваполацкі політэхнічны інстытут. Да 1990 году працаваў галоўным інжынэрам будаўнічага трэсту № 17 “Лаўсанбуд”, горад Магілёў. З 1990 году – намесьнік старшыні Камісіі Вярхоўнага Савету Рэспублікі Беларусь у пытаньнях архітэктуры, будаўніцтва, вытворчасьці будаўнічых матэрыялаў і жыльлёва-камунальнай гаспадаркі сяла і гораду».

Але ў даведніку пазначалася толькі пасада да абраньня дэпутатам (прычым, што цікава, пра партыйныя пасады не згадалі – на момант выхаду зборніка дзейнасьць КПБ-КПСС была прыпыненая). Сініцын сапраўды абраўся дэпутатам, будучы галоўным інжынэрам трэсту.

Ёсьць у біяграфіі Сініцына эпізод, які ніколі не аналізавалі тыя, хто пра яго пісаў (праўда, пісалі пра Сініцына зусім няшмат, як ні дзіўна). Гэта – яго праца ў 1987-88 гадах у Магілёўскім абкаме кампартыі. Дакладней – ягоны сыход з гэтай працы.

Між іншым, цікавае ўдакладненьне, якога не было ў афіцыйных біяграфіях Сініцына, якія пералічваюць ягоныя пасады ў будаўнічай галіне. Ужо пасьля выбараў актывіст выбарчай кампаніі Лукашэнкі журналіст Ігар Гукоўскі напіша: «Леанід Рыгоравіч кіраваў будаўнічымі падразьдзяленьнямі, якія не заўсёды атрымлівалі заробак, інакш кажучы – зьняволенымі» («Советская Белоруссия», 6 ліпеня 1994).

У абкам Сініцына ўзялі інструктарам, але ўжо празь некалькі месяцаў зрабілі загадчыкам сэктару. Гэта была пасада на ўзроўні другога сакра-

тара райкаму – зусім неблагі партыйны старт для 34-гадовага; працавалі на такіх пасадах і сарака-, і пяцідзесяцігадовыя. З улікам вялікага досьведу працы на вытворчасьці Сініцын меў вельмі добрыя кар'ерныя пэрспэктывы. Але праз год ён сышоў з абкаму – на месца практычна раўназначнае таму, адкуль і прыйшоў у абкам: галоўным інжынэрам будаўнічага трэсту. Пазьней ён так патлумачыў свой крок: «Працаваць у абкаме было прэстыжна і ганарова. Гэта лічылася ледзь ня верхам кар'еры. Але я зразумеў, што такая праца – не для мяне. Я – будаўнік».

Такое тлумачэньне нараджае пытаньні ў тых, хто памятае рэаліі таго часу, і галоўнае сярод іх – ці добраахвотны гэта быў сыход? З партыйнай працы сыходзілі альбо на павышэньне ў выканкам, альбо – у крэсла буйнога кіраўніка вытворчасьці. Альбо (калі праштрафіўся) – чалавека «засоўвалі» невысокім кіраўніком у тую самую вытворчасьць ці ў нейкую навучальную ўстанову. Сыход Сініцына з абкаму быў ня ўверх, а ўніз – але ніякі гучны скандал, наколькі вядома, ягоны сыход не суправаджаў.

Значыць – сапраўды гэтак моцна хацеў працаваць па спэцыяльнасьці будаўніка?

У гэта можна было б паверыць – з папраўкай, што партыйнае кіраўніцтва вобласьці выкрасьліла Сініцына зь ліку пэрспэктыўных кіраўнікоў і, магчыма, нават унесла ў «чорны сьпіс» як чалавека капрызнага (сыход з абкаму па прычыне «жадаю працаваць па спэцыяльнасьці» інакш чым капрыз не ўспрымаўся – трэба кіравацца ня ўласнымі хаценьнямі, а інтарэсамі партыі).

Але што зробіш – не пажадаў чалавек займацца

кабінэтнай, па сутнасьці чынавенскай працай, вярнуўся ў прафэсію, на будаўнічую пляцоўку.

Аднак чым тады патлумачыць, што менш чым праз два гады пасьля сыходу з палітычнай сфэры ў вытворчасьць – Сініцын ізноў пайшоў у палітыку, удзельнічаў у зусім ня простай выбарчай кампаніі? Навошта пажадаў зьмяніць будаўнічую пляцоўку на парлямэнцкі кабінэт? Заўважу, што ніякіх перашкод Сініцыну, чалавеку, які бразнуў дзьвярыма абкаму, партыйнае начальства не рабіла.

Апошняя акалічнасьць падалася нетыповай і даволі дзіўнай майму бацьку – быламу сакратару Віцебскага абкаму партыі – зь якім я падзяліўся развагамі.

Адхілюся ад пэрсоны нашага героя і прыгадаю прыклад дэпутата Яўгена Глушкевіча – ён перад выбарамі 1990 году працаваў у Віцебскім абкаме КПБ на пасадзе загадчыка самага галоўнага аддзелу – арганізацыйна-партыйнай работы. Адкуль сышоў са скандалам. Вылучыўся ў дэпутаты, выступаў у іміджы выгнанага з партыйных органаў за праўду, гэткага Ельцына ў мініятуры. Балятаваўся Глушкевіч у Воршы, дзе некалькі гадоў перад тым быў першым сакратаром гаркаму. На падаўленьне Глушкевіча былі кінутыя партыйныя сілы – але не атрымалася, ён прарваўся ў дэпутаты (і, заўважу ў дужках, потым падпісваў шмат якія заявы Апазыцыі БНФ, адыграў станоўчую ролю на Сэсіі Незалежнасьці ў 1991-м).

Зь Сініцыным, паўтару, нічога падобнага на выбарах не было.

Ну добра – вырашыў пайсьці ў рэальную палітыку, тым больш што перабудова, галоснасьць, «больш дэмакратыі – больш сацыялізму», дый маг-

чымасьці для самарэалізацыі непараўнальныя з ранейшымі для тых, хто вырашыў зрабіцца публічным палітыкам (як той самы Глушкевіч).

Але ў тым і справа, што публічным палітыкам Сініцын не зрабіўся.

І, як выглядае, ня вельмі гэтага жадаў.

«Што ты можаш сказаць пра Сініцына-дэпутата?» – запытаўся я цяпер у свайго былога калегі Лявона Дзейкі, які няблага арыентуецца ў нюансах даўняй парлямэнцкай барацьбы. Запытаўся, бо сам я дэпутацтва Сініцына памятаю слаба. «Практычна нічога», – адказаў Лявон.

І сапраўды, правёўшы зь Леанідам Сініцыным чатыры гады ў Авальнай залі (да моманту яго прызначэньня кіраўніком адміністрацыі), я не магу прыгадаць ніводнага выступу Сініцына-дэпутата. Хаця выступы такія, безумоўна, былі – як намесьнік старшыні парлямэнцкай камісіі, ён прадстаўляў законапраекты, напэўна ж, выступаў у «Розным» па праблемах выбаршчыкаў сваёй акругі (гэтую магчымасьць не ігнараваў ніводзін дэпутат) – але ніводная прамова Сініцына не запомнілася. Ён ніколі ня ўдзельнічаў у абмеркаваньні палітычных пытаньняў, у вострых дыскусіях, і калі ўвесну 1994 году ўзначаліў выбарчы штаб Лукашэнкі, многія парлямэнцкія журналісты, якія хадзілі ў Вярхоўны Савет як на працу, пыталіся: «Сініцын? А хто гэта, як ён выглядае?»

Дык чаму ж Сініцын сышоў з абкаму, чаму пайшоў у Вярхоўны Савет, дзе ніяк не адзначыўся? Чаму так лёгка прайшоў у дэпутаты (прычым не ў вясковай акрузе – у Магілёве), ня будучы ні буйным партыйным чыноўнікам (для іх, натуральна, выкарыстоўвалі «адміністрацыйны рэ-

сурс» – праўда, тады яшчэ не было такога тэрміну), ні актывістам БНФ, якім сымпатызавала значная частка электарату? Чаму потым падтрымаў Аляксандра Лукашэнку, зь якім, як прыгадваюць дэпутаты, ніякага асаблівага сяброўства ў першыя гады дэпутацтва ня меў? Выконваў чыюсьці параду?

Пра гэта можна толькі рабіць здагадкі.

Затое добра вядомая роля Сініцына ў выбарах першага прэзыдэнта. Хаця і тут ён заставаўся ў ценю, да пэўнага часу.

Аляксандар Фядута прыгадвае, што Лукашэнка ўгаворваў Сініцына ўзначаліць ягоны передвыбарчы штаб. Значыць, ведаў пра яго нешта такое, што было невядома мне ці іншым маім калегам, якія ніякіх асаблівых здольнасьцяў за Сініцыным не заўважалі.

Вось як піша Фядута пра сваю першую сустрэчу зь Сініцыным – Лукашэнка прывёў яго ў кабінэт да Фядуты, у той час – кіраўніка Саюзу моладзі.

«На правах гаспадара я заварыў і падаў гарбату, упершыню ўбачыўшы, як чалавек (у дадзеным выпадку – Сініцын) п’е гарбату са сподка.

Раптоўна Сініцын абярнуўся і запытаўся мяне ў лоб.

“Аляксандар Іосіфавіч, а колькі табе плаціць Данілаў за тое, каб ты за намі тут прыглядваў?”

Кубак з варам ледзь ня выпаў у мяне з рук» (Аляксандар Фядута «Александр Лукашенко. Политическая биография», с. 109).

Дзяржсакратар Генадзь Данілаў быў найбліжэйшым паплечнікам Кебіча, курыраваў сілавыя структуры, у тым ліку і КДБ (хаця афіцыйна КДБ падпарадкоўваўся Вярхоўнаму Савету). Сініцын

хацеў «папужаць» Фядуту ці паказаць сваю дасьведчанасьць у дзеяньнях дзяржсакратара?

Афіцыйна кіраўніком штабу па зборы подпісаў за Аляксандра Лукашэнку быў Дзьмітры Булахаў, але, як прыгадваюць актывісты, рэальна ўсім кіраваў Сініцын.

Аднак пра гэта чалавеку, не знаёмаму з унутранай выбарчай «кухняй», даведацца было практычна немагчыма: Сініцын заставаўся ў ценю, не зьяўляўся на тэлеэкранах, не даваў інтэрвію газэтам. Першая (і, наколькі магу меркаваць, адзіная) ягоная публікацыя была ў «Народнай газеце» за чатыры дні да другога туру выбараў. Называлася яна «Вам і ня сьнілася! Як супалі інтарэсы Вячаслава Кебіча і Зянона Пазьняка». Перачытаўшы гэты артыкул праз дваццаць гадоў, я зьдзівіўся аднаму моманту, якому тады не надаў асаблівай увагі. Цытую на мове арыгіналу:

«Победа Кебича выгодна ему (Пазьняку – С.Н.) возможностью и дальше разыгрывать карту оппозиции. Опять пойдут в ход словосочетания типа “антынародны ўрад”, “расейскія спецслужбы” и так далее. Эти слова, справедливые применительно к правительству Кебича, чей курс реально не пользуется поддержкой народа, были бы неприменимы после победы Александра Лукашенко. Победивший Лукашенко страшен Позняку едва ли не так же, как Кебичу: у новой власти будет кредит народного доверия, а у Зенона Станиславовича времени уже не так много...» («Народная газета», 6 ліпеня 1994).

Для мяне паказальна тут нават ня зьдзекліваe ўзяцьце ў двукосьсі беларускіх словаў у тэксьце на расейскай мове (гэтак рабіў і робіць Лукашэнка –

«эти наши “сьвядомыя”»), а – прыгадваньне расейскіх спэцслужбаў.

І паказальна вось зь якой прычыны. Пазьняк у той час шмат казаў пра ўплыў Расеі, імкненьне Масквы падпарадкаваць сабе эканоміку, войска, фінансы. А пра расейскія спэцслужбы ён хаця і ўзгадваў – але ня так ужо і часта. Значна радзей, чым пра «антынародны ўрад» (крытыка ўраду Кебіча, як кажуць, не сыходзіла з вуснаў апазыцыі). І пастаноўка побач гэтых дзьвюх фраз, раптоўнае выцягваньне на паверхню згадкі пра спэцыфічныя расейскія структуры выглядае дзіўнаватым. Нібыта трэба было папярэдзіць: лідэр БНФ будзе казаць пра расейскія спэцслужбы – дык вось, ня верце, гэта – «неприменимо» да Аляксандра Рыгоравіча. Няма побач зь ім ніякіх расейскіх спэцслужбаў і не было ніколі.

Ва ўжо прыгаданым артыкуле Гукоўскага ў «Советской Белоруссии» адзначаецца, што «надзвычайныя арганізатарскія здольнасьці дазволілі яму стварыць структуру, якая дапамагла Лукашэнку спачатку сабраць неабходную колькасьць подпісаў, а затым і арганізаваць перадвыбарчую кампанію».

Пра тое самае піша і Аляксандар Фядута.

«Як правіла, нарады ў штабе праводзіў Леанід Сініцын. Праходзілі яны два разы на тыдзень – у пятніцу, калі плянаваўся працоўны графік, і ў аўторак, па «апэратыўных» пытаньнях, калі яны раптам узьнікалі. Сініцын спраўляўся з гэтым лёгка і нязмушана. Ён прыгадвае: «Трэба было толькі стрымліваць амбіцыі і зводзіць розныя пункты гледжаньня. У мяне здольнасьць перамоўнага пра-

цэсу дастаткова добрая, каб трымаць усіх у адным ключы, накіроўваючы ў патрэбнае рэчышча».

Сініцын не перабольшвае сваю “здольнасьць перамоўнага працэсу”. Штаб пераканаўся ў гэтым, калі ён на два тыдні зьехаў у ЗША, пакінуўшы замест сябе Ціцянкова. Калі б ён затрымаўся ў Хьюстане на тыдзень даўжэй, уся выбарчая кампанія б рассыпалася, нягледзячы на асабісты аўтарытэт нашага кандыдата» (Аляксандар Фядута, тамсама, сс. 129-130).

Дзіўна, чаму чалавек з такімі надзвычайнымі арганізацыйнымі здольнасьцямі не зрабіў ніводнай спробы рэалізаваць іх за гады знаходжаньня ў Вярхоўным Савеце, калі іншыя стваралі (у тым ліку – і пад свае ўласныя інтарэсы) партыі ды грамадзкія арганізацыі.

Выглядае, што непрыкметны дэпутат Сініцын зьберагаў гэтыя здольнасьці для больш важнай мэты, час для якой надышоў у 1994 годзе. Для якой?

«Сініцын... прапанаваў і асноўную структуру будучай станоўчай кампаніі Лукашэнкі: Зрабіць саюз з Расеяй. Стрымаць інфляцыю. Прымусіць працаваць прамысловасьць» (Аляксандар Фядута, тамсама, с. 156).

Як бачым, саюз з Расеяй – на першым месцы.

Пасьля перамогі Сініцын узначаліў прэзыдэнцкую адміністрацыю. Менавіта ён падбіраў людзей на пасады ва ўрад – пачынаючы ад прэм’ер-міністра. На два гады Сініцын зробіцца ў Беларусі чалавекам № 2, ценем Лукашэнкі, своеасаблівым «шэрым кардыналам», які ня толькі выконваў волю патрона, але вельмі часта і ініцыяваў найважнейшыя палітычныя рашэньні.

Сьпіс зробленага Сініцыным на пасадзе кіраўніка прэзыдэнцкай адміністрацыі – гэта падмурак таго, што потым будзе названа аднымі – «аўтакратычным рэжымам», другімі – «дыктатурай».

Падпісаньне дамоўленасьцяў з Расеяй адразу пасьля інаўгурацыі, з поўным ігнараваньнем заўваг Ценевага кабінэту Апазыцыі БНФ пра іх небясьпеку для сувэрэнітэту. Разгон шэсьця на Дзень вайсковай славы. Блякаваньне ініцыятывы Апазыцыі БНФ (падтрыманай камуністамі і нават старшынём ВС Мечыславам Грыбам) аб увядзеньні прапарцыянальна-мажарытарнай (і па акругах, але і па партыйных сьпісах) выбарчай сыстэмы, якая гарантавала праход у Вярхоўны Савет 13-га скліканьня прадстаўнікоў БНФ. Інфармацыйная блякада Апазыцыі (у тым ліку і даклада Сяргея Антончыка аб карупцыі ў атачэньні Лукашэнкі, дзе сам Сініцын быў адным зь фігурантаў) – гэта ў 1994-м. А ў наступным, 1995-м – так званы рэфэрэндум, зьбіцьцё дэпутатаў БНФ у Авальнай залі ды выбары ў Вярхоўны Савет 13-га скліканьня.

Апошнія падзеі вартыя, каб на іх спыніцца падрабязьней.

«Я курыраваў выбары ў Вярхоўны Савет 13-га скліканьня», – прызнаўся Сініцын у інтэрвію Віктару Марціновічу («Белорусская газета», 2 кастрычніка 2000).

На тых выбарах ніводзін прадстаўнік БНФ, у тым ліку і ніводзін дэпутат Апазыцыі БНФ на чале з Пазьняком, у новы парлямэнт не былі прапушчаныя.

«Калі 16 сакавіка 1995 году вялікая група дэпутатаў Вярхоўнага Савету (адпаведным чынам «апрацаваных» кіраўніком Адміністрацыі Леанідам

Сініцыным) зьвярнулася да прэзыдэнта з прапановай правесьці рэфэрэндум аб новай сымболіцы і наданьні расейскай мове статусу дзяржаўнай, гэтая «ініцыятыва» была горача прынятая і падтрыманая Лукашэнкам.

... Леанід Сініцын:

«Сеў і намаляваў. Хаця я і не мастак. А потым ужо мастакі аформілі ўсё ў фарбах... Лукашэнка прыняў мае эскізы за асноўныя: “Вось гэта – нашае”. Таму ад аўтарства мне нікуды не схавацца»...

Прыгадвае Валянцін Голубеў:

«Сініцын распавядаў мне, як яны “зварганілі” герб. Ва Ўладыкі Філарэта быў дзень народзінаў, прэзыдэнта з камандай ён у абед запрасіў да сябе. Калі прыйшлі адтуль, настрой прыўзьняты, выпілі там трошкі, пасадзілі кампутаршчыкаў.

– Ну як будзем рабіць герб?

– А давай возьмем за аснову герб Савецкага Саюзу альбо Беларускай ССР.

Узялі – раз, зьмянілі, гэта прыбралі, пачысьцілі, зрабілі. І вось такі герб. І мне паказалі, што атрымалася. Я кажу:

– Ня можа быць такога герба.

–Можа. І прыняты ён будзе, і вынесем мы яго на рэфэрэндум.

... Справа ж не ў геральдыцы. Таму што калі прыгадаць, навошта ўвогуле трэба было мяняць сымболіку, дык зразумела, што чым яна горш атрымалася, тым лепей. Бо яе замена была толькі правакуючым выпадам, прычым толькі адным – у камбінацыі зь некалькіх удараў» (Аляксандар Фядута, тамсама, сс. 231-232).

Камбінацыю ажыцьцяўляў Леанід Сініцын. Але не пагаджуся зь Фядутам – не была яна адным

«толькі правакуючым (апазыцыю – С.Н.) выпадам». Рэфэрэндум быў моцным, сапраўды добра разлічаным ударам па нацыянальным адраджэньні, па нацыянальнай ідэнтычнасьці, ударам, які паставіў беларускую мову пад пагрозу зьнікненьня, глыбока абразіў нацыянальныя пачуцьці беларусаў.

Небясьпека (сьмяротная для нацыі) дэпутатам Апазыцыі БНФ была зразумелая ўжо тады – таму ў якасьці апошняга сродку яе запабегчы 11 красавіка мы і абвясьцілі галадоўку ў Авальнай залі. Апэрацыяй па зьбіцьці дэпутатаў, як вынікае з уласных прызнаньняў Сініцына Фядуту, кіраваў ён, Сініцын, на пару з Лукашэнкам. Потым сьледчы ў асабліва важных справах Генэральнай пракуратуры запатрабуе ад Сініцына паказаньняў і відэазапісу, які Лукашэнка абяцаў паказаць па тэлебачаньні – на допыт Сініцын ня зьявіцца, а відэазапіс на касэце будзе толькі да моманту зьбіцьця.

У жніўні 1995-га Сініцын саступіць месца кіраўніка прэзыдэнцкай адміністрацыі Міхаілу Мясьніковічу і зойме пасаду віцэ-прэм'ера, а 31 ліпеня 1996 году напіша Лукашэнку заяву аб адстаўцы і з гэтай пасады: «Мы па-рознаму ўспрымаем палітычную і сацыяльна-эканамічную сытуацыю ў рэспубліцы». Трэба меркаваць, Сініцын разьлічваў на моцны эфэкт – але так атрымалася, што эфэкт гэты быў «змазаны» не без удзелу аўтара гэтых радкоў. У тыя самыя гадзіны мы зь Зянонам Пазьняком зрабілі ў Вашынгтоне заяву пра просьбу аб палітычным прытулку і правялі прэсавую канфэрэнцыю ў Кангрэсе ЗША. Крок лідэра БНФ быў прадметам увагі заходняй прэсы, а ў Беларусі гэта ўвогуле была ў тыя дні тэма нумар адзін, таму



Леанід Сініцын, 2004 год.

чаканага выбуху цікавасьці да сваёй адстаўкі Сініцын не атрымаў.

Сініцын займаўся расейска-беларускімі бізнэс-праектамі, але канчаткова з палітыкі не сышоў. Ён удзельнічаў у прэзыдэнцкай кампаніі 2001 году – была заўважаная падтрымка яго колішнім паплечнікам Аляксандрам Фядутам ды «Белорусской деловой газетой» Пятра Марцава, якая яшчэ раней напісала:

«У яго ёсьць якасьці, неабходныя для сапраўднага палітыка – воля, асьцярожнасьць і інтуіцыя. І галоўнае – вопыт. Вельмі нешматлікія зь беларускіх палітыкаў могуць сказаць, што яны маюць станоўчы вопыт вядзеньня прэзыдэнцкай кампаніі. Сініцын яго мае».

Але «станоўчы» (гэта пра прывод да ўлады Лукашэнкі) вопыт кампаніі, праведзенай ва ўмо-

вах адноснай дэмакратыі, якую да 1994 году крок за крокам адваёўвалі актывісты нацыянальнага дэмакратычнага руху – не спрацаваў ва ўмовах, якія закладаў у першыя гады прэзыдэнцтва Лукашэнкі сам Сініцын. Яму не ўдалося сабраць подпісаў, і ён ня быў зарэгістраваны ў якасьці кандыдата.

Наступным разам Сініцын нагадаў пра сябе ў 2007 годзе, калі разам з былым дэпутатам Уладзімерам Парфяновічам выступіў зь «Менскім маніфэстам беларуска-расейскага яднаньня», у якім было заяўлена, што Беларусь павінна далучыцца да Расеі на правах «асацыяванага члена». У якасьці адзінай валюты прапаноўваўся расейскі рубель, беларускія нафта- і газаправоды мелясі перайсьці пад кіраваньне Масквы.

Тады, у 2007-м, у інтэрвію радыё Свабода Сініцын патлумачыў:

«Мы лічым, што гэта пазыцыя. Зь іншага боку, гэта падказка аднаму прэзыдэнту і другому. Гэта пазыцыя яшчэ 1994 году, калі мы з Аляксандрам Лукашэнкам займаліся барацьбой за ўладу, зьяўляючыся апазыцыяй. Потым гэтая пазыцыя крыху трансфармавалася ў кожнага ў сьвядомасьці пасвойму. Лукашэнка вырашыў будаваць саюзную дзяржаву праз Канстытуцыйны акт. А мы не ідзем у канстытуцыйнае поле, мы вырашаем усё ў рамках закону» («Свабода», 2 траўня 2007).

А на завяршэньне партрэту Сініцына – дзьве цытаты.

Першая – меркаваньне, выказанае былым старшынём міжнароднай парлямэнцкай камісіі Пётрам Садоўскім: «З досьведу кантактаваньня зь Сініцыным як намесьнікам старшыні камісіі па архітэктуры і будаўніцтве я вынес ўражаньне, што

ён асабліва і не хаваў сваёй як бы дасьведчанасьці ў справах “саюзнага” КДБ, за што яго ня вельмі любіў Шыркоўскі (старшыня КДБ – С.Н.)». Гэткую дасьведчанасьць далёка ня самага прыкметнага дэпутата ў справах Лубянкі патлумачыць цяжка. Але даводзілася чуць, што ў савецкія часы ў рэспубліках працавалі так званыя «аналітыкі», якія падпарадкоўваліся непасрэдна кіраўніцтву КДБ СССР.

Другая – з інтэрвію былога міністра сельскай гаспадаркі Васіля Лявонава Віталю Цыганкову для газэты «Свободные новости плюс» у 2009 годзе: «Пасьля рэфэрэндуму 1995 году пра двухмоўе і інтэграцыю з Расеяй ... мяне паклікаў пагутарыць кіраўнік адміністрацыі Леанід Сініцын. І сэнс гутаркі быў такі: у нас малады Аляксандар Рыгоравіч, у Маскве – стары і нямоглы Ельцын. Уваходзь у каманду, не патрэбны нам сувэрэнітэт, давай будзем працаваць на заваёву Крамля. Я адказаў, што ў гэтай авантуры ня ўдзельнічаю».

Апошнім часам пра Сініцына не чуваць – арганізатар перамогі Лукашэнкі на першых прэзыдэнцкіх выбарах і перамогі над беларускай мовай і нацыянальнай сымболікай на першым рэфэрэндуме сышоў – ізноў у цень.

«Маўр зрабіў сваю справу – маўр можа сыходзіць», – так, здаецца, гучыць фраза, якую вельмі часта прыпісваюць шэксьпіраўскаму маўру Атэла. Насамрэч, гэта фраза з драмы Шылера «Змова Фіеска ў Генуі». Ключавым словам у назове п’есы падаецца – першае, «змова». Слова «спэцслужбы» у XVIII стагодзьдзі яшчэ не прыдумалі.

## «У Фядуты – не шызафрэнія!»

Аляксандра Фядуту нельга лічыць тварам выбарчай кампаніі Лукашэнкі – на тэлеэкране ён зьяўляўся не часьцей за іншых асноўных членаў каманды.

Затое «голасам» кампаніі яго можна назваць сьмела: ён вёў прамыя тэлеэфіры з Лукашэнкам (кожнаму кандыдату быў выдаткаваны час на радыё). Таму многія лічылі яго прэсавым сакратаром Лукашэнкі (насамрэч, такім сакратаром быў Уладзімер Нісьцюк).

Вось як сам Фядута вызначыў свой статус у камандзе ў інтэрвію, дадзеным паміж першым і другім турамі галасаваньня:

«Я ня ведаю нават, як мяне прадставіць дакладна, па адной прычыне: я не вызначаў свой статус у камандзе, я не патрабаваў сабе статусу... Калі мне кажуць, што патрэбны дакумэнты, я іх пішу. Калі кажуць, што трэба нешта зрабіць, правесьці, арганізаваць, я выконваю. Пытаюцца маёй парады – я яе даю» («Беларуская маладзёжная», 5 ліпеня 1994).

Вось як ягоны статус быў названы на другі дзень у публікацыі адной з найбольш уплывовых дзяржаўных газэт:

«У камандзе Аляксандра Рыгоравіча Фядута ўваходзіць у так званую “інтэлектуальную групу”, аказваючы істотную дапамогу пры падрыхтоўцы

публічных выступаў кандыдата» («Советская Белоруссия», 6 ліпеня 1994).

А цяпер цытата з кнігі Фядуты, напісанай празь дзесяць гадоў пасьля выбараў:

«Галоўнымі прынцыпамі ўсёй выбарчай кампаніі 1994 году была сьвядомая хлусьня». (Аляксандар Фядута, тамсама, с. 151).

У рэчышчы гэтага прызнаньня (на якое не адважыўся ніводзін іншы член каманды Лукашэнкі) няпроста вызначыцца, як ставіцца да інтэрвію ды выказваньняў самога Фядуты – як да хлусьні ці як да праўды? Ці – як да напалову праўды – напалову хлусьні? Альбо, магчыма, найбольш аптымальны такі падзел: тое, што гаворыць Фядута ад імя свайго патрона – падман, хлусьня. Тое – што гаворыцца ад сябе, што выяўляе ягоную прыватную думку – шчыра. Далібог, пачынаеш задумвацца пра раздваеньне асобы, што ў псыхіятрыі мае зусім вызначаны тэрмін.

Упершыню імя Фядуты гучна прагучала ў канцы 1990 году, калі на адным са зьездаў камсамолу Беларусі настаўнік расейскай мовы і літаратуры з Горадні, дэлегат Аляксандар Фядута ўчыніў разнос рэдактару газэты «Знамя юности» Аляксандру Класкоўскаму за тое, што самая шматнакладная газэта рэспублікі (яе наклад дасягаў 800 тысяч асобнікаў) не надае належнай увагі апісаньню слаўных спраў камсамоліі, а друкуе ледзь не ідэалягічных ворагаў. «Знамя юности» нельга было параўнаць з латыскай «Советской молодёжью», дзе з нумару ў нумар друкаваліся матэрыялы Народнага Фронту, але гэта было выданьне ў рэчышчы перабудовы, прагрэсіўнае, якое давала чытачам разнастайную інфармацыю. Класкоўскі прыбраў абавязковы тады

для партыйных і камсамольскіх выданьняў лёзунг «Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!», зьмяніў у шапцы пазначэньне «орган ЦК ЛКСМБ» на «газэта ЦК ЛКСМБ» і перад самым зьездам надрукаваў дыскусію з рэзкімі ацэнкамі кіраўнікоў ЦК. Гэтага хапіла, каб на зьезьдзе раптам выйшаў да мікрафона дэлегат з Горадні настаўнік Аляксандар Фядута і заявіў, што рэдактар ледзь не ўсадзіў камсамолу нож у сьпіну, што рэдактара трэба зьняць, а калі ў ЦК няма кадраў – дык ён, Фядута, мае вопыт, бо выпускаў у Горадні насьценгазэту. Апошнія словы дэлегата патанулі ў сьмеху, але Класкоўскаму было не да весялосьці: з гэтага моманту яго пачалі цкаваць, а ў красавіку наступнага, 1991-га, ЦК камсамолу не перапрызначыў яго на пасаду рэдактара газэты. У абарону выступілі Васіль Быкаў ды некалькі народных дэпутатаў БССР – Анатоль Вярцінскі, Іосіф Сярэдзіч, аўтар гэтых радкоў – але не дапамагло. Сам Класкоўскі пазьней ахарактарызаваў Фядуту таго часу як «шчырага камуністычнага фанатыка».

Класкоўскі пакінуў крэсла рэдактара, але сеў у яго не Фядута. Ён узьняўся, калі лічыць па намэнклятурнай герархіі, на значна вышэйшую прыступку – сакратара ЦК камсамолу. Яшчэ за некалькі гадоў перад гэтым гэта была даволі высокая пасада, роўная намесьніку міністра (першы сакратар ЦК ЛКСМБ увогуле на правах кандыдата ўваходзіў у склад Бюро ЦК КПБ – найвышэйшы арэапаг рэспубліканскай улады, куды ўключаліся ня ўсе першыя сакратары абкамаў партыі і віцэпрэм’еры). Але ў пачатку 1991 году ўплыў камсамолу (як і «старэйшага таварыша» – кампартыі) скарачаўся, як чыгрынавая скура. Людзі пакідалі

пасады ў партыйным апараце – ня кажучы ўжо пра камсамол.

Адны ўладкоўваліся ў выканкамы, іншыя – у камэрцыйныя структуры. Камсамол у гэтым сэнсе абышоў партыю – многія цяперашнія бізнэс-магнаты пачыналі сваю дзейнасьць якраз з утвораных камсамолам каапэратываў.

Усе імкнуліся ўцячы з ЦК камсамолу, а Фядута туды прыйшоў. Шчыры камуністычны фанатык? Ці не зусім фанатык? Ці – не зусім шчыры?

Дзейнасьць Фядуты ў камсамоле (як і ягоныя артыкулы ў гарадзенскай камуністычнай газэце) цяпер могуць успрымацца з адценьнем камізму. Гэтак сама гадоў праз дваццаць пяць будуць сьмяяцца з заяваў пра «бандэраўцаў», «украінскіх нацыянал-фашыстаў» ды «праплачаных Захадам майданутых», якія не сыходзяць з эфіру пэўных тэлекампаніяў у дні, калі я пішу гэтыя радкі; але сёньня такія словы моцна ўплываюць на вялікую частку насельніцтва, фармуюць грамадзкую думку. Тады, у канцы 80-пачатку 90-ых, калі Народны Фронт зьбіраў усе нацыянальныя сілы дзеля барацьбы за Адраджэньне, за Незалежнасьць і дэмакратыю («барацьба» ў гэтым кантэксьце – ніякае не перабольшаньне) – супрацьстаяньне гэтым нацыянальна-дэмакратычным сілам з арсэналам ад падсьмейваньня да паклёпу на адрас БНФ і яго лідэра, – дорага абышлося Беларусі.

Пасьля жнівеньскага путчу і абвяшчэньня Незалежнасьці ў жніўні 1991-га, калі дзейнасьць КПБ-КПСС была прыпыненая, камсамол памяняў назоў на Саюз Моладзі. Першым сакратаром ЦК Саюзу моладзі быў абраны Фядута. Колькасна арганізацыя была непараўнальна меншая за камсамол. Уплыву

яна ня мела – уласна, я нават і ня чуў у той час ні пра Саюз, ні пра самога Фядуту (пазьней, праўда, усплыве дапамога Фядуты актывістам прамаскоўскай арганізацыі ў Вільні, якія ў дні ГКЧП у жніўні 1991-га вяшчалі па радыё супраць незалежнасьці Літвы – пасьля правалу путчу яны ўцяклі ў Беларусь, і Фядута нейкі час іх хаваў у Менску).

Але ў Саюзу моладзі было тое, што ўжо ў тыя часы (пачатак 90-ых) цанілася высока: памяшканьне ў цэнтры Менску. І не абы-якое, а тое самае, дзе раней месьціўся ЦК ЛКСМБ – насупраць будынку былога ЦК КПБ, дзе з 1992 году месьціўся апарат Вярхоўнага Савету. Гэта той самы чатырохпавярховы будынак, у якім пазьней Лукашэнка паселіць свой так званы «сэнат».

Пазьней Фядута будзе казаць, што ягоны Саюз крыўдзілі. Аднак, напрыклад, Народны Фронт і марыць ня мог пра такі будынак (хай бы нават фядуцінскі саюз займаў там ня ўсе чатыры паверхі, а толькі адзін). Да 1993 году, калі дэпутат Менскага гарсавету Галіна Вашчанка «прабіла» ў выканкаме некалькі пакояў на Варвашэні, 8 – Народны Фронт ня меў свайго памяшканьня і праводзіў Соймы ў розных месцах, там, дзе ўдавалася дамовіцца. Размова, падкрэсьлю, ідзе пра самую ўплывовую дэмакратычную палітычную арганізацыю, якая мела сваю фракцыю ў парлямэнце.

Саюз ня меў у парлямэнце ніводнага дэпутата – але меў шыкоўнае памяшканьне, якое мог здаваць камэрсантам у арэнду.

Але найвыгаднейшы «арэндатар» прыйшоў не з камэрцыі.

«Я не зьбіраўся далучацца ні да кога. У позьнекебічаўскія часы я быў кіраўніком Саюзу моладзі,

меў кабінэт, сакратарку, службовую машыну, часам выступаў на тэлеэкране, спрабаваў арганізаваць розныя моладзевыя акцыі і лічыў, што страшней за Пазьняка зьвера няма. Але тут высьветлілася, што на апошнюю ўласнасьць разрабаванай і напаўзадушанай дэпутацкім корпусам 12-га скліканьня моладзевай арганізацыі паклалі вока бізнэсоўцы, да якіх меў ласку тагачасны начальнік службы інфармацыі Савету міністраў і адзін з маіх папярэднікаў па ЦК ЛКСМБ Васіль Драгавец. Пачалася неабвешчаная вайна. І паколькі скардзіцца Кебічу на Драгаўца было гэтак жа бессэнсоўна, як скардзіцца Лукашэнку на Ціцянкова, заставалася шукаць абарону ў іншым баку.

Гэта супала з прыняцьцем новай Канстытуцыі. Зрабілася зразумелым, што абаронцам можа быць такі кандыдат, у якога хопіць сілаў калі не перамагчы Кебіча, дык, як найменей, паўстаць на абарону тых, хто яму дапамагаў. Такім мне падаўся член Прэзыдыюму Вярхоўнага Савету Дзьмітры Булахаў.

Але ў Дзьмітрыя Пятровіча не хапіла мужнасьці прызнацца мне ў той момант, што ён проста занадта малады для такой пасады. Ён доўга распавядаў пра нядаўна створаны ў парлямэнце саюз трох, які ўключыў яго, Віктара Ганчара і Аляксандра Лукашэнку. Лукашэнка павінен зрабіцца таранам, якім будзе зламаная старая адміністрацыйна-камандная сыстэма. "Дзьмітры Пятровіч, я табе веру" – сказаў я і прапанаваў "вялікай тройцы" тую слабую дапамогу, якую ўвогуле мог прапанаваць: кабінэт, крэсла са сталом і тэлефонам, дзяжурнага і ўласныя слабыя арганізатарскія здольнасьці» (Аляксандар Фядута, «Народная воля», № 93, кастрычнік 1996).

Не бяруся ацаніць арганізатарскія здольнасьці Фядуты, але наконт «крэсла і стала» ён выказаўся празьмерна сьціпла: Лукашэнка атрымаў памяшканьне ў крытычны для сябе (і будучай выбарчай кампаніі) час. Той, хто хоць раз удзельнічаў у выбарах, ведае, наколькі важна мець сталае памяшканьне – нават у выглядзе аднаго кабінэту з адным сталом і адным тэлефонам. А ў былога камсамола быў не адзін стол і не адзін тэлефон, дый кабінэтаў – не адзін і ня два.

Гэтае тлумачэньне Фядута даў больш чым праз два гады пасьля выбарчай кампаніі ў сваім артыкуле «Памылка», дзе спрабаваў апраўдаць прычыны свайго прыходу да Лукашэнкі, увосень 1996-га, калі палітычнае банкруцтва Лукашэнкі не выклікала сумневу нават у яго колішніх бліжэйшых паплечнікаў. Ніжэй – урывак з інтэрвію Тацяне Нічыпарук з газэты «Беларуская маладзёжная», дадзенага паміж першым і другім турам – тады, калі паплечнікі Лукашэнкі знаходзіліся ў зусім зразумелым (і, трэба прызнаць, псыхалягічна апраўданым) стане эўфарыі ад перамогі, якая ўжо амаль была ў кішэні.

«Адзіны, хто мог абараніць нават у выпадку пройгрышу арганізацыю, на чале якой я знаходзіўся – Саюз Моладзі Беларусі... быў Лукашэнка. Ва ўсіх астатніх сілы б не хапіла на гэта. Сытуацыя ж атрымалася вельмі і вельмі складаная для мяне асабіста. Было зразумела, супраць каго я – было ясна, што я буду працаваць супраць каманды, на чале якой стаіць Кебіч. Але было няясна, з кім я. Тое, што я прыйшоў да Лукашэнкі, для мяне самога было, як найменш, нечаканым. Ва ўсялякім разе ўсе, хто мяне ведае, хто ўбачыў мяне раптам на тэлеэк-

ране з Аляксандрам Рыгоравічам, зрэагавалі гэтак: у Фядуты пачалася шызафрэнія. “Дах паехаў”.

У Фядуты не пачалася шызафрэнія. Я цалкам сьвядома працаваў супраць Кебіча. А той, хто мог выбіць гэтую каманду зь сядла, быў Лукашэнка. Ужо таму я павінен быў да яго прыйсьці» («Беларуская маладзёжная», 5 ліпеня 1994).

Але сьвядома працаваў Фядута ня толькі супраць Кебіча, пра што пазьней. Цяпер жа адзначым, што ўжо ў тыя дні некаторыя знаёмыя Фядуты, як вынікае зь ягоных слоў, крытычна ставіліся да ягонага выбару. І нават падазравалі псыхічнае захворваньне.

Ніякага псыхічнага захворваньня ў Фядуты, канешне, не было.

З усіх членаў каманды Лукашэнкі на выбарах 1994 году Фядута найчасьцей тлумачыў прычыны свайго прыходу да Лукашэнкі.

Асобна ў гэтай плыні рэфлексіяў стаіць, безумоўна, ягоная кніга «Александр Лукашенко. Политическая биография», якая ў 2005 годзе выйшла ў Маскве і якую ў сваіх нататках я даволі часта цытую. У час працы над ёй Фядута зьвярнуўся да мяне з просьбай адказаць на некалькі пытаньняў – я даслаў разгорнутыя адказы. У кніжку яны не патрапілі – затое я атрымаў тэкст кнігі ў кампутарным рукапісе. А пазьней набыў і само выданьне.

Тое, што я прачытаў у рукапісе – было літаратурай мэмуарнага жанру. Літаратурай, павінен прызнаць, якаснай. А вось кніга мне падалася агітацыйным тэкстам, асабліва там, дзе казалася пра актуаліі канца 1990 – пачатку 2000-х гадоў. Мэта якога – паказаць чытачам найперш у Маскве

(і верагодна, у Крамлі), як яны там у сябе ў Крамлі памыляюцца, калі вераць Лукашэнку. Адчувалася, што па тэксьце пахадзіла рука рэдактара Яўгена Будзінаса, пазначанага ў выходных зьвестках пад дзіўнаватым тытулам «кіраўнік праекту». І ўсё ж шмат апісаньня перадвыбарчай барацьбы ў кнізе засталося, і на сёньня гэта – найбольш поўная і дэталёвая карціна таго, што адбывалася ў штабе Лукашэнкі, прычым – намаляваная непасрэдным удзельнікам падзеяў.

У гэтай кнізе Фядута прызнаўся, што на самой справе ніякай праграмы ў Лукашэнкі не было. Не было і высокакваліфікаваных адмыслоўцаў. А абапіраўся Лукашэнка на спэцыфічны сэгмэнт электарату.

«Мы з нашым штабным аналітыкам Сяргеем Чалым па ўказаньні Сініцына думалі пра тое, як адкалупаць ад чужой і, здавалася, гарантаванай "порцыі" чым большы кавалак. Задача была ня зь лёгкіх: наш электарат мог адрозьнівацца толькі адным – гранічнай ступеньню люмпэнізаванасьці. Люмпэн не валодае ўласнай ідэалёгіяй, а таму магчымасьць прыцягнуць яго на свой бок была зусім рэальная» (Аляксандар Фядута, тамсама, с. 124).

Але гэтае прызнаньне будзе зроблена праз дзесяць гадоў. Пакуль жа Фядута ў інтэрвію газэце, чыя аўдыторыя складала пераважна прагрэсіўную моладзь, тлумачыць, што –

«Праграма кандыдата і праграма прэзыдэнта – гэта розныя рэчы. Кандыдат можа абяцаць шмат што... А заўтра трэба будзе прыйсьці і стаць перад тэлекамэрай, сказаць: «Рабяты, зараз лепей ня будзе. Але праз два гады вы адчуеце»... Няшчасьце Кебіча ня ў тым, што ён ня быў кампэтэн-

тны, ня ведаў, як працуе завод, райвыканкам... Ён усё гэта ведаў, і каманда яго ведала. Няшчасьце Кебіча ў тым, што яго атачалі людзі, якія схлусілі. І, пакуль яны хлусілі, абараняючы сябе, адцягваючы сваю агонію, аганізавала Беларусь. І цяпер справа не ў праграме. Справа ў тым, каб спыніць неадкладна гэтую агонію. Агонію дзяржаўнай улады. Узьняць уладу з бруду, у якім яна коўзаецца, ачысьціць, прывесьці ў нармальны працоўны стан і пачаць з трох рэчаў.

Першае. Усталяваньне дысцыпліны і парадку на дзяржаўных прадпрыемствах. Дырэктар ёсьць асоба нанятая, а не гаспадар. Ён ня мае права прадаваць тавар бяз грошай, прасіць потым у дзяржавы, каб яна выплачвала зарплату...

Патрэбна навесьці парадак на вуліцы... Злачыннасьць у першую чаргу... Трэба, каб на вуліцах Менску і ўсёй рэспублікі зрабілася чыста. Каб падаткаплатнік мог прайсьці спакойна, не баючыся, што яго абрабуюць, не баючыся, што яму наб’юць морду...

І трэцяе, самае галоўнае, з майго пункту гледжаньня. Трэба пры якім заўгодна раскладзе пачаць нармальнае фінансаваньне сыстэмы адукацыі. Як бы бедна ні жыла Беларусь, трэба, каб школа не абвальвалася, каб там не абсыпалася столь, каб былі падручнікі, каб у дзіцяці не было гастрыту пасьля школьнай сталоўкі. З гэтага трэба пачынаць. Калі дзіця будзе накормленае, калі настаўнік будзе весьці ўрок, не баючыся, што перакрыцьце зваліцца яму на галаву, калі будзе хапаць грошай, каб аддрукаваць новы падручнік – гэта азначае, што новае пакаленьне абярэ беларускую (мову – С.Н.) абса-

лютна спакойна. Бязь ляманту, крыкаў і абсалютна ідыёцкіх паводзінаў Міністэрства адукацыі.

Пачаць трэба з трох момантаў. А потым тры прыярытэты ў эканоміцы, якія, з майго пункту гледжаньня, Аляксандар Рыгоравіч вызначыў вельмі дакладна. Жыльлёвае будаўніцтва... сельская гаспадарка, якую трэба вывесьці з крызісу. І трэцяе – адукацыя і навука. Як кажа Аляксандар Рыгоравіч, няма тавараў, якія можам прадаваць, будзем прадаваць мазгі» («Беларуская маладзёжная», 5 ліпеня 1994).

Уся тэма нацыянальнага адраджэньня ўклалася ў рэпліку пра нібыта няправільныя «паводзіны» Міністэрства адукацыі (трэба думаць, мелася на ўвазе адкрыцьцё беларускамоўных школаў). Будуць грошы – будзе вам і беларуская мова. Такое вось разуменьне нацыянальных каштоўнасьцяў.

Выказаўся Фядута і адносна свабоды прэсы: будзе вам свабода!

«Тацяна, ты не была на першай прэсавай канфэрэнцыі, якую даў пасьля выбараў Лукашэнка? Ён зьвярнуўся да журналістаў: у выпадку перамогі Аляксандар Лукашэнка гарантуе скасаваньне палітычнай цэнзуры, спыненьне перасьледу ўсіх журналістаў, незалежна ад таго, якую пазыцыю яны займалі ў выбарчай кампаніі, гарантуе свабоднае атрыманьне інфармацыі журналістамі ў чыноўнікаў. А вось далей ідуць цудоўныя словы: трэба, нарэшце, каб народ расправіў плечы, а прэса зрабіла глыток свабоды. Таму што нельга быць рабамі, кіраваць рабамі і выхоўваць рабоў.

Кар.: Аляксандар, ці варта мне разумець усё сказанае Вамі так, што Аляксандар Рыгоравіч Лука-

шэнка да кожнага грамадзяніна Беларусі, уключна тых, хто сказаў “не”, будзе ставіцца аднолькава?

Фядута: Лукашэнка будзе ставіцца аднолькава да кожнага грамадзяніна Беларусі, паколькі Лукашэнка будзе не прэзыдэнтам каманды, але Прэзыдэнтам Рэспублікі Беларусь» (Тамсама).

Фядута адкрываў перад чытачамі самыя заманлівыя пэрспэктывы ў выпадку абраньня Лукашэнкі. І ня толькі перад чытачамі, але і перад актывістамі партый:

«Аляксандар Рыгоравіч не зьяўляецца партыйным прэзыдэнтам, за ім няма партыі. Я не выключаю, што будучы ўрад будзе з элемэнтамі кааліцыйнасьці. Так, туды патрапяць тыя прадстаўнікі ўраду Кебіча, што не заўважаны ў казнакрадзтве і хто не дыскрэдытаваў Рэспубліку Беларусь... Пэўна ва ўрадзе апынуцца людзі з каманды А. Дубко – больш кампэтэнтных людзей у галіне сельскай гаспадаркі проста няма.

Кар.: Ты выпадкова альбо не, але абмінуў Народны Фронт і БНФ як партыю.

Фядута: ... і ПКБ.

Кар.: Альбо вы будзеце трымаць іх у ролі “кусачай апазыцыі”? Вы ня вызначыліся па магчымасьці супрацоўніцтва?

Фядута: А гэта пытаньне да Лукашэнкі. У мяне ёсьць асабістае меркаваньне, але не магу казаць ад імя кандыдата» (Тамсама).

Тут я перапыню цытаваньне і нагадаю прызнаньне Фядуты, што выбарчая кампанія («уся») была пабудаваная на хлусьні, так што ўсе гэтыя словы – абяцаньні пра будучую дзейнасьць Лукашэнкі можна ўспрыняць адпаведным чынам. А вось

там, дзе Фядута кажа «ад сябе» – тут ён гаворыць шчыра.

«Маё асабістае стаўленьне фармулюецца наступным чынам: хто б ні перамог, Зянон Станіслававіч асабіста ніводнага партфэля атрымаць ня можа. Гэта вельмі адыёзная фігура. Гэта мае асабістыя адносіны, магчыма, нейкая і крыўда ад таго, што ён не прыехаў на зьезд Саюзу Моладзі – Шушкевіч прыехаў, а ён не, ах, прасьці Госпадзі! Хаця справа ня ў гэтым. А сярод БНФаўцаў дастатковая колькасьць разумных асобаў, што ж іх адштурхоўваць?» (Тамсама).

Што ж да «асабістага стаўленьня» Аляксандра Фядуты, дык яно цалкам супадзе з «асабістым» стаўленьнем Аляксандра Лукашэнкі і стратэгіі выбарчай кампаніі: каманда выступала супраць БНФ і яго кандыдата.

Пройдзе два гады, і ў кастрычніку 1996-га, калі ўзьнікла рэальная пагроза імпічмэнту Лукашэнкі, Фядута апублікуе ў «Народнай волі» артыкул, у якім прызнаецца, што ўжо ў часе выбарчай кампаніі яго шмат што мусіла насьцярожыць у Лукашэнку. І тое, што не пажадаў скарыстаць тэкст пра грамадзянскі мір. І тое, што пасьля першага туру не пажадаў сам рабіць заяву пра свабоду прэсы, а перадаручыў гэта Сініцыну (у інтэрвію Тацяне Нічыпарук, як мы памятаем, Фядута казаў, што заява была зробленая Лукашэнкам). Фядута абвяргаў шмат якія свае ранейшыя ацэнкі і нават ставіў Лукашэнку ў прыклад тагачасных сьпікера Сямёна Шарэцкага і старшыню Канстытуцыйнага Суду Валерыя Ціхіню. Ад былога захапленьня Лукашэнкам няма і сьледу – ёсьць толькі змрочная пэрспэктыва для тых, хто пакуль яшчэ каля яго –



Аляксандар Фядута і Аляксандар Лукашэнка, восень 1994.

змрочная аж да судовых працэсаў. І нават – яшчэ больш апакаліптычная, чым гэтыя працэсы:

«Але калі ўпадзе створаная самім прэзыдэнтам вэртыкаль улады, упадзе і ён. Бо тады замест дакладна акрэсьленай сыстэмы кіраваньня надыдзе анархія, а на чале анархічнай дзяржавы можа стаць толькі абсалютны анархіст-адмаўляльнік. І імя яму будзе гэтым разам Зянон Пазьняк. І чым болей будзе кіраваць Лукашэнка, тым болей шанцаў у Пазьняка. Так на зьмену псэўда-Напалеону Керанскаму і Напалеону Карнілаву ў 1917 годзе прыйшоў Ленін. Так на зьмену Эбэрту і Гіндэнбургу прыйшоў Гітлер» («Народная воля», № 93, кастрычнік 1996).

Многія (практычна ўсе) ацэнкі Фядуты з моманту выбарчай кампаніі зьмяніліся, нязьменным засталося толькі стаўленьне да лідэра БНФ. Такім чынам, на выбарах 1994 году аўтарам выступаў Лукашэнкі, а таксама вядучым ягоных радыёэфіраў быў чалавек, у якога, паводле яго ўласнага прызнаньня, былі два праціўнікі (калі не сказаць – ворагі) –

Кебіч і Пазьняк. Прычым, Кебіча ў сваім адзіным паміж першым і другім турамі інтэрвію Фядута часткова апраўдваў (ведаў, што рабіць, але атачэньне няўдалае), а Пазьняка – катэгарычна адрынаў. Свае адносіны да Пазьняка Фядута выказваў і пазьней – адзін зь ягоных артыкулаў нават атрымаў ацэнку як «гнюсны» ад Васіля Быкава, які нячаста карыстаўся экспрэсіўнай лексыкай.

Чытач, які сёньня разгорне кнігу Фядуты пра Лукашэнку, заўважыць адну дзіўную асаблівасьць.

Вось аўтар піша пра рэфэрэндум 1995 году.

«... паколькі менавіта ў Народным Фронце Лукашэнка бачыў галоўную пагрозу патэнцыйнай магчымасьці смуты, яму трэба было скончыць з палітычным уплывам аднойчы і назаўсёды. Зрабіць гэта можна было, толькі секануўшы парасткі смуты пад корань, адняўшы ў “праціўніка” яго галоўныя заваёвы.

“Заваёваў” у БНФ было ўсяго дзьве – прыняцьце ў дзяржаве гістарычнай беларускай сымболікі і прызнаньне беларускай мовы дзяржаўнай» (Фядута, «Александр Лукашенко...», с. 230).

Строга кажучы, дзяржаўнасьць беларускай мовы была афармленая яшчэ Вярхоўным Саветам 11-га скліканьня ў студзені 1990-га – але, сапраўды, пад уплывам Народнага Фронту, які набываў сілу ў грамадзтве. Паказальна, што «заваёвы» бяруцца ў двукосьсе (як і «праціўнік») – што павінна ўспрымацца не інакш як з сумневам.

Але самае галоўнае тут іншае.

У кароткім пераліку заваёў БНФ адсутнічае дасягненьне незалежнасьці Беларусі.

Гэта як бы пушкініст Аляксандар Фядута, кажучы пра галоўныя паэтычныя творы Аляксандра

Пушкіна, прыгадаў «Полтаву» ды «Медный всадник», і ні слова не сказаў бы пра раман у вершах «Евгений Онегин». Словаў няма, першыя два – шэдэўры. Але найвялікшым паэтычным дасягненьнем Пушкіна, якое, да таго ж, найбольш паўплывала на разьвіцьцё расейскай літаратуры, быў, безумоўна, «Евгений Онегин».

Увогуле, ва ўсёй кнізе Фядуты, дзе прыгадваецца шмат падзеяў найноўшай беларускай гісторыі, якія папярэднічалі прыходу Лукашэнкі, абвяшчэньне Незалежнасьці 25 жніўня 1991 году ня згадваецца ні словам.

Ёсьць тут, праўда, адна акалічнасьць, якая хай і не апраўдвае, але часткова тлумачыць такое ігнараваньне. Кніга выдавалася ў 2005 годзе, пісалася яшчэ раней, а гэта быў час, калі ў тых, каго называлі «ўладальнікамі думак», было своеасаблівае разуменьне найноўшай беларускай гісторыі. Лічылася, што БНФ пацярпеў паразу, Пазьняк – «няўдачнік», ну а Незалежнасьць «звалілася на беларусаў зь неба». Былыя дэпутаты Апазыцыі БНФ былі выштурхнутыя з актыўнага палітычнага жыцьця, на чале апазыцыі паўсталі асобы, якія (за рэдкім выключэньнем) да нацыянальнага адраджэньня ніякага дачыненьня ня мелі, а тыя, хто меў – не маглі альбо не жадалі ісьці супраць агульнай тэндэнцыі. І не гучала, што галоўны плён дзейнасьці БНФ – гэта здабыцьцё Незалежнасьці, а ва ўсіх краінах гэта лічыцца найвялікшым палітычным дасягненьнем. Што яна ня «ўпала зь неба», а была вынікам змаганьня пакаленьняў, і зьявілася яна ня вынікам распаду СССР – а наадварот, распад Савецкага Саюзу быў вынікам заваёвы народамі сваёй незалежнасьці.

Мушу прызнацца, што менавіта пасьля кнігі Фядуты ў мяне ўзьнікла жаданьне ўзяцца за рэтраспэкцыю найноўшай беларускай гісторыі (першай была кніга «Сем гадоў Адраджэньня»). Уласна, напісаць гісторыю нацыянальнага руху – такое слова ўзяў зь мяне Васіль Уладзімеравіч Быкаў, я б гэта зрабіў, рана ці позна, але менавіта тая кніга пераканала мяне, што яшчэ крыху – і можа быць позна.

У інтэрвію Фядуты ёсьць апраўданьні на які заўгодна густ, і па ўсіх парамэтрах: ідэалягічных, асабістых, нават псыхалягічных. Няма толькі аднаго – таго, што адсутнічае ня толькі ў ягоных інтэрвію, але і ў прысьвечанай Лукашэнку кнізе. На больш чым 600 старонках няма нават спробы патлумачыць, – а чаму ж ён падтрымаў чалавека, які сваёй галоўнай мэтай дэкляраваў зьнішчэньне дзяржавы? І ў гэтым Фядута не адзіны – гэтую тэму абыходзяць усе, як адзін, былыя паплечнікі Лукашэнкі.

У пасьлявыбарчай кар'еры Фядуты асобна стаяць «белыя плямы» замест дакладу дэпутата Апазыцыі БНФ Сяргея Антончыка аб карупцыі ў найбліжэйшым атачэньні Лукашэнкі – я перакананы, што калі б тады, у сьнежні 1994-га, даклад быў апублікаваны, рэйтынг стаўленікаў улады на наступных парлямэнцкіх выбарах быў бы істотна ніжэйшы. Фядута ўзяў адказнасьць на сябе і пайшоў у адстаўку, ну а далей – праца ў «Белорусской деловой газете», удзел у розных выбарчых кампаніях, зьняволеньне ў «амэрыканцы», праца па-за межамі Беларусі (барані божа – не эміграцыя!) – апісаньне паваротаў лёсу магло б скласьці раман, жанр якога літаратуразнаўца Фядута вызначыў, напэўна б, як авантурны. Пасябраваў Фядута і зь некаторымі

былымі лідэрамі БНФ ды дзеячамі Адраджэньня. Выдаў у «Беларускім кнігазборы» кнігу твораў Фадзея Булгарына, спрыяў выхаду складзенай Міхасём Скоблам анталёгіі беларускай паэзіі «Краса і сіла». Але ўсё гэта ўжо – пасьля таго, як да ўлады пры ягоным актыўным удзеле быў прыведзены той, для каго краса ня вартая нічога, а сіла азначае ўсё.

# Чаму БНФ не падтрымаў Шушкевіча

У адзін з восеньскіх вечароў 93-га цэлы паверх гасьцініцы «Кастрычніцкая» гудзеў: у нумары Лукашэнкі дэпутаты віншавалі яго з фэерычным кар’ерным посьпехам: з дырэктара саўгасу – адразу ў міністэрскае крэсла!

А за два месяцы да гэтага, у верасьні 93-га, каля свайго дома быў застрэлены старшыня Гарадзенскага аблвыканкаму Дзьмітры Арцыменя (як выявілася пазьней, зьвязаны з карупцыйнымі схемамі, пазьней у ягоным сэйфе знойдуць 30 тысяч даляраў, сума па тых часах для Беларусі гіганцкая, зарплата старшыні Вярхоўнага Савету была ня больш за сотню). Менавіта Арцыменю пракебічаўская большасьць хацела паставіць старшынём Вярхоўнага Савету замест Шушкевіча, адстаўка якога была прадвызначана. 21 кастрычніка ў Горадні сабралася сэсія аблсавету, каб прызначыць новага старшыню аблвыканкаму. Зь ліку правераных камуністычных кадраў выбар быў зроблены на карысьць старшыні калгасу «Прагрэс» Аляксандра Дубко.

Словам, сюрпрызаў не чакалі, дэпутаты аблсавету сабраліся ў залі і ўжо абдумвалі, як будуць віншаваць новага мясцовага патрона, як раптам у будынку зьявіліся людзі з аўтаматамі Калашнікава. Група атачала старшыню Вярхоўнага Савету Станіслава Шушкевіча, які прайшоў у прэзыдыюм. У Горадню Шушкевіч прыехаў з новым штатам

аховы і ў новым парадку – ягоны «мэрсэдэс» сьпераду і ззаду суправаджалі па два аўтамабілі з аўтаматчыкамі, якія мелі загад у выпадку «няштатнай сытуацыі» адкрываць агонь на паражэньне.

Камуністы нагэтулькі разгубіліся, што кандыдатуру Дубко нават не прапаноўвалі. 140 дэпутатаў прагаласавалі за падтрыманага Шушкевічам мэра Горадні Сямёна Домаша, які, сярод іншага, вызначаўся добрымі дачыненьнямі зь мясцовымі дэмакратамі і прыхільнасьцю да беларускай мовы.

Наступныя дні Шушкевіч нікуды не выяжджаў зь Менску – затое дзясяткі дэпутатаў Вярхоўнага Савету зь ліку намэнклятуры былі вымушаныя тэрмінова прыехаць у сталіцу. Адзін за адным яны ўваходзілі ў кабінэт старшыні ВС на пятым паверсе дома па Карла Маркса – той самы кабінэт, які калісьці займалі першыя сакратары ЦК і які меў для іх сакральны сэнс.

У кабінэце акрамя Шушкевіча былі генэральны пракурор Шаладонаў і старшыня КДБ Шыркоўскі.

– Ёсьць у нас інфармацыя, што Вы, шаноўны, ходзіце па вастрыі ляза, – казаў дэпутату старшыня КДБ. – Вось паглядзіце: матэрыялы пра гешэфты вашай жонкі з каапэратывамі, якія вядуць сумнеўны бізнэс. А гэтая фірма, зарэгістраваная на Вашу цешчу? Незаконны рээкспарт каляровых мэталаў – гэта быў адзінкавы факт, ці мае хлопцы дрэнна папрацавалі і я ім пагоны пазрываю, калі не раскапаюць болей?

– Вы дэпутат і асоба недатыкальная, – уступаў у размову генэральны пракурор, – але па сваяках Вашых як мы зробім: будзем справы крымінальныя ўзбуджаць, ці незаконны даход яны перададуць

у дзіцячыя навучальныя ўстановы, а мы абмяжуемся папярэджаньнем?

– Выпіце вадзічкі! – адкаркоўваў пляшку «Баржомі» гаспадар кабінэта. – І паколькі тут ужо закранулі тэму дэпутацтва. Я маю намер папрасіць Вярхоўны Савет адправіць Вячаслава Францавіча Кебіча ў адстаўку і прапанаваць сфармаваць кааліцыйны ўрад. Трэба нарэшце скончыць дурныя размовы пра «расейскі рубель» і пачаць будаваць незалежную дзяржаву! Вы, я бачу, абедзьвюма рукамі за?

Праз два тыдні на нечарговай сэсіі Вярхоўнага Савету дэпутаты падзякавалі Кебічу за шматгадовую працу і прызначылі кааліцыйны пераходны ўрад з Генадзем Карпенкам на чале. Першым намесьнікам быў абраны прэм’ер Ценявога кабінэту БНФ Уладзімер Заблоцкі. У склад новага ўраду ўвайшлі прадстаўнікі шэрагу партый. Дэпутаты таксама палічылі немэтазгодным заслухоўваць на сэсіі выступ старшыні антыкарупцыйнай камісіі Аляксандра Лукашэнкі, параіўшы перадаць матэрыялы ў пракуратуру. Лукашэнка прыняў прапанову Карпенкі заняць пасаду міністра сельскай гаспадаркі і, адпаведна, склаў дэпутацкія паўнамоцтвы, заявіўшы, што на новай пасадзе дамажацца росквіту беларускага аграсэктару і «жэстачайшэ» спытае з тых кіраўнікоў гаспадарак, хто страціць хоць цэнтнэр з такой цяжкасьцю сабранага збожжа.

Пэўна, чытач здагадаўся, што гэта – фантазія аўтара. За выключэньнем падзеяў у Горадні, якія адбыліся ў рэальнасьці (ім нават прысьвечаная карэспандэнцыя «Як Шушкевіч напалохаў намэнклятуру» ў газэце «Свабода», № 12 за 1993 год).

Слова «фантазія» ў дачыненьні да ўсяго астатняга можна ўжыць толькі ў тым сэнсе, што сапраўды нічога падобнага ня здарылася. Але магло адбыцца: практычна ўсе «намэнклятурныя» дэпутаты або іхнія сваякі былі замешаныя ў камэрцыйных афэрах, Шыркоўскі, як і Шаладонаў, падтрымлівалі Шушкевіча, а Апазыцыя БНФ увосень 93-га прапаноўвала адправіць Кебіча ў адстаўку і сфармаваць кааліцыйны ўрад. Не было толькі аднаго – рашучасьці Шушкевіча, якую ён праявіў у Горадні.

Праявіў, трэба прызнаць, літаральна толькі некалькі разоў за два з паловай гады свайго знаходжаньня на пасадзе старшыні Вярхоўнага Савету 12-га скліканьня. Хаця менавіта такія яго паводзіны давалі бясспрэчны станоўчы вынік (найбольш вядомы прыклад – падпісаньне ў Віскулях знакамітага пагадненьня).

Гісторыя дзеяньняў Шушкевіча на пасадзе старшыні Вярхоўнага Савету – гэта гісторыя страчаных магчымасьцяў беларускай дэмакратыі. І калі можна казаць пра нейкую адказнасьць тых, хто называў сябе дэмакратам, за падзеі, якія потым адбыліся ў Беларусі, – дык пачынаць трэба з Шушкевіча. Паколькі ніхто зь іх не займаў пасады, якая хаця б здалёк набліжалася паводле аб'ёму ўлады і ўплыву да пасады старшыні Вярхоўнага Савету.

## «У стане лёгкага падпітку»

У палітыку Шушкевіч прыйшоў выпадкова. Пра гэта ён сам прызнаецца ў мэмуарах.

«У сакавіку 1989 году абіраліся народныя дэпутаты СССР... Некалькі разоў на сходах уносіліся прапановы ўключыць мяне ў сьпіс кандыдатаў.

Я заўсёды браў самаадвод, матывуючы гэта тым, што ў мяне ёсьць сур’ёзная праца, якая мне падабаецца, і я хачу працягваць ёю займацца...

Да часу пачатку вылучэньня кандыдатаў на паўторныя выбары на катэдры адбылася прыемная падзея... Як заўсёды ў такіх выпадках, бязь лішняга шуму і агалоскі, сабраліся ў аднаго з супрацоўнікаў дома адзначыць дасягненьне...

– ...Я прапаную вылучыць заўтра нашага загадчыка катэдры і прарэктара (г. зн. Шушкевіча – С.Н.) кандыдатам... і патрабую, каб ён ня ўзяў самаадвод... Прызнавайся, будзеш браць самаадвод? Калі будзеш, адмаўляемся з табой піць зараз і на ўсе часы.

Калі быць на сто адсоткаў сумленным, то мяне нават парадаваў такі паварот спраў. Але выгляду я не падаваў. Бо згаджацца з тым, што хтосьці выпадковы на сходзе вылучае цябе кандыдатам у дэпутаты, азначае агаліць сваю ганарыстасьць, таму самаадвод цябе ў некаторай ступені ўпрыгожвае. Адпадае варыянт правалiцца. А тут сябры вымусілі, у стане лёгкага падпітку паабяцаў. Ну чым не дэманстрацыя вернасьці слову сьціплага чалавека, які не прэтэндуе на славу. І я прапанаваў працягнуць весялосьць, паабяцаў самаадвод заўтра ня браць.

На ўнівэрсытэцкім сходзе па вылучэньні ў бюлетэнь для таемнага галасаваньня былі ўнесеныя тры кандыдатуры. За мяне прагаласавала больш за 450 чалавек, за прарэктара Яўгена Пятраева – каля 70, а невядомы мне да таго часу Зянон Пазьняк, які не прысутнічаў на сходзе, але быў вылучаны супрацоўнікамі ўнівэрсытэту, атрымаў прыкладна 50. Я, да сораму свайго, нагэтулькі заграз у непалітычных справах і клопатах, што нічога ня ведаў

ні пра Пазьняка, ні пра БНФ» (Станіслаў Шушкевіч, «Моя жизнь, крушение и воскрешение СССР», Масква, Росспэн, сс. 121-122).

Такім чынам – выканаў абяцаньне, дадзенае «ў стане лёгкага падпітку».

А вось што піша былы сакратар Менскага гаркаму партыі Краўчанка:

«Пасьля ганебнай для намэнклятуры паразы Галко (БНФ праваліў першага сакратара Менскага гаркаму КПБ Галко на выбарах – С.Н.) было прынятае сакрэтнае рашэньне: партфункцыянэры на паўторныя выбары (а ў Менску заставаліся тады чатыры свабодныя акругі) ня пойдуць. Галоўнае, маўляў, закрыць дарогу ў саюзны парлямэнт прадстаўнікам БНФ. Таму, калі ў акрузе, дзе прайграў Галко, вырашыў вылучацца Зянон Пазьняк, у ЦК вырашылі выцягнуць з кадравага рэзэрву сьціплага прафэсара Станіслава Шушкевіча... І вось у 1989 годзе прарэктар БДУ Шушкевіч воляю выпадку апынуўся ў палітыцы. Акруговы перадвыбарчы сход, гэты партыйны фільтар, дзе па тагачасным законе аб выбарах праходзіла рэгістрацыя кандыдатаў, прапусьціў праз сваё сіта Пазьняка. Затое Шушкевіч быў зацьверджаны практычна аднагалосна. Ня тое каб у ЦК ускладалі на яго нейкія вялікія надзеі, дастатковай падставай паслужыў разьлік, што гэты мала каму вядомы прафэсар значна меншае зло, чым Зянон Пазьняк. Так пачалася вялікая кар’ера будучага сьпікера беларускага парлямэнту. Потым я неаднойчы захапляўся “празарлівасьцю” партыйцаў, якія асаблівым намэнклятурным нюхам здолелі адгадаць бясшкоднасьць для іх і для саўковай сыстэмы гэтага чалавека... Нягледзячы на свой, здавалася б, дэмакратычны імідж, ён зь першага

і да апошняга дня добрасумленна працаваў на намэнклятуру, перад якой губляўся і разьмякаў. Сваёй сакрамэнтальнай фразай: “Гэтае не мая справа”, якая гучала кожны раз, калі трэба было дзейнічаць, ён здаваў адну пазыцыю за другой. І, у рэшце рэшт, ператварыўся ў аднаго з галоўных віноўнікаў таго, што былі здадзены практычна ўсе дэмакратычныя заваёвы першых гадоў незалежнасьці» (Пётра Краўчанка, «Беларусь на распутье», сс. 34-36).

І, нарэшце, успамін тагачаснага старшыні Сойму БНФ «Адраджэньне» Зянона Пазьняка:

«У 1989 годзе ў часе першых выбараў у Вярхоўны Савет СССР па новым так званым “гарбачоўскім” выбарчым законе на практыцы стала зразумела, што прайсьці фільтар так званых “акруговых” сходаў грамадзкасьці, якія фармавалі камуністычныя райкамы партыі, кандыдатам-франтаўцам ня ўдасца. Тады мы пачалі шукаць прыстойных людзей з партбілетамі з асяродзьдзя не намэнклятуры, якія хоць бы часткова падтрымлівалі франтаўскія пазыцыі і сваім абраньнем пры дапамозе структураў БНФ заблякавалі б прысутнасьць у Вярхоўным Савеце махровых намэнклятуршчыкаў.

Такім чынам у абойме нашых кандыдатаў зьявіўся прафэсар БДУ Станіслаў Шушкевіч. Мне пра яго паведаміў сябра Сойму БНФ Кастусь Лабко, гарантуючы яго дэмакратычныя погляды і беларускую пазыцыю. Я запрасіў Шушкевіча прыехаць у Інстытут Гісторыі Акадэміі Навук БССР, дзе я працаваў, і ў нас адбылася размова пра будучыя выбары і праграмныя задачы Фронту. Шушкевіч хацеў вылучацца кандыдатам у дэпутаты, але ў яго не было ні структур, ні арганізаваных людзей для шырокай агітацыі на выбарах. Я прапанаваў

Шушкевічу падтрымку ягонай кандыдатуры з боку структураў БНФ пры ўмове адстойваньня ім у Маскве асноўных праграмных пазыцыяў Фронту (сувэрэнітэт, дэмакратыя, праўда пра Чарнобыль, ліквідацыя шостага артыкулу Канстытуцыі СССР аб дзяржаўнай ролі КПСС і інш.). Шушкевіч пагадзіўся.

На выбарчую кампанію Шушкевіча мы выдзелілі вялікія фронтаўскія сілы, якія працавалі зь вялікай аддачай, разгарнулі шырокую агітацыйную кампанію і такім чынам забясьпечылі яму перамогу на выбарах у народныя дэпутаты СССР». (Зянон Пазьняк, запіс успамінаў. Архіў аўтара).

Тут прыметна тое, што ўсе тры вэрсіі прыходу Станіслава Шушкевіча ў палітыку не супярэчаць адна адной – а могуць сумяшчацца. Аднак ва ўспамінах самога Шушкевіча мяне больш за ўсё ўразіла прызнаньне, што пра існаваньне Беларускага Народнага Фронту ён нічога ня ведаў, а даведаўся толькі праз чатыры месяцы пасьля заснаваньня аргкамітэту арганізацыі – тым часам як пра адны толькі падзеі на Дзяды-88, калі міліцыя ўпершыню ўжыла сьлезацечны газ супраць мірных жыхароў, пісала і беларуская, і «саюзная», і заходняя прэса. Пры тым, што сярод удзельнікаў цяпер ужо легендарнага мітынгу пад Курапатамі былі дзясяткі студэнтаў БДУ, якіх потым цягалі на камітэты камсамолу ды ў міліцыю – таго самога БДУ, прарэктарам якога быў Шушкевіч. А тое, што сын рэпрэсаванага беларускага паэта ня ведаў імя адкрывальніка Курапатаў (артыкул Пазьняка і Шмыгалёва, нагадаем, зьявіўся ў «ЛіМе» ў пачатку чэрвеня 1988 году), увогуле ня ўкладваецца ў сьвядомасьці – калі толькі не ўявіць, што прафэсар быў цалкам адключаны

ад якога б то ні было грамадзкага жыцьця, не чытаў газэтаў, ня слухаў радыё і ўвогуле ні пра што іншае, акрамя фізыкі, ні з кім не размаўляў. Калі правільная вэрсія самога Шушкевіча – дык сапраўды, пагадзіцца на вылучэньне ў саюзны парлямэнт такая асоба магла толькі ў стане падпітку. Калі ж правільная вэрсія Краўчанкі – дык дрэнныя, зусім кепскія справы былі ў камуністычнай партыі, вымушанай рабіць стаўку на людзей, якія ні ў чым, акрамя сваёй вузкай спэцыялізацыі, не арыентаваліся.

## «Я лічу незалежнасьць амаль што жартам»

У складзе народных дэпутатаў СССР Шушкевіч увайшоў у Міжрэгіянальную дэпутацкую групу, сустаршынямі якой лічыліся Андрэй Сахараў і Барыс Ельцын. Першыя паседжаньні зьезду ў траўні 1989-га ў прамой трансьляцыі глядзеў увесь СССР – гэта быў гістарычны прарыў свабоднага слова, хай пакуль яшчэ і абмежаванага 6-ым артыкулам Канстытуцыі пра кіруючую ролю КПСС.

«Усе чакалі ягонага (Шушкевіча – С.Н.) першага выступу на Зьезьдзе народных дэпутатаў у Маскве (была наўпроставая трансьляцыя). Нарэшце праз тыдзень Шушкевіч выступіў, дзе на фоне прамоў прыбалтыйскіх дэпутатаў (якія змагаліся за сувэрэнітэт) выглядаў шэра і безаблічна: ні слова пра Беларусь, прагаварыў нейкую пустату і пакінуў трыбуну. Гэта быў цэбар халоднай вады на ўвесь БНФ і вялікае расчараваньне. Потым Шушкевіч нічым у Маскве не праявіўся і пазыцыяў Фронту не адстойваў» (Зянон Пазьняк, запіс успамінаў. Архіў аўтара).

Куды большым расчараваньнем для актывістаў

БНФ было стаўленьне Шушкевіча да патрабаваньняў аб незалежнасьці Беларусі.

«Папулярнасьць і аўтарытэт БНФ у значнай ступені базуюцца на праўдзівасьці пратэсту, выкрываньнях, зрываньнях шырмы. Крытыкаваць у нас ёсьць каго і ёсьць за што. Захапленьне крытыкай само па сабе не вядзе да паляпшэньня спраў у краіне, а празьмернае захапленьне здольнае спарадзіць і новыя непажаданыя зьявы... Бачыце, маўляў, мы ўсё тлумачылі, даўно пра гэта казалі, а захадаў ніхто не рабіў, а адсюль высноваы: нельга жыць прыстойна пры сацыялізьме, нельга наладзіць жыцьцё ў рамках СССР... Можна і ставіць і абмяркоўваць якія заўгодна пытаньні, уключна з пытаньнем аб дзяржаўнай самастойнасьці Беларусі па-за СССР. Але наўрад ці можна без сур'ёзнага вывучэньня палітычных, эканамічных, сацыяльных, духоўных, гістарычных і іншых аспэктаў праблемы выносіць канкрэтныя прапановы. Так, праблемы ў сфэры адносінаў рэспублікі з цэнтрам назапасіліся, але сувэрэнітэт Беларусі можна адрадзіць і ўмацаваць у межах Фэдэрацыі... Мы яшчэ не жылі ў новым саюзе, а ўжо спрабуем аддзяліцца. На каго раўняемся? На Літву? Але чаму абавязкова трэба быць падобным на суседа?... Страта мовы – наступства рэзкага зьніжэньня агульнай культуры насельніцтва краіны! Мы ўсе ў гэтым вінаватыя, але больш за ўсіх – кіраўнікі, дзеячы навукі і культуры, адукацыі... Калі ў гэтым і вінаваты Саюз, дык мы ж самі яго такім будавалі, прычым не ў адпаведнасьці з канцэпцыямі, напрыклад, Леніна, а насуперак ім. Паглядзіце ленінскія працы "Крытычныя заўвагі па нацыянальным пытаньні" і "Да пытаньня аб нацыянальнасьцях..." і вы самі ў гэтым пераканаецеся»

(Гутарка з уласным карэспандэнтам штотыднёвіка «Саюз» Аляксандрам Шагуном, 11 красавіка 1990, архіў аўтара).

Гэтую пазыцыю непрыманьня Незалежнасьці Шушкевіч адстойваў і ў Вярхоўным Савеце БССР, куды абраўся таксама з падтрымкай некаторых актывістаў БНФ. (Хаця Фронт у яго выбарчай кампаніі ўжо ня ўдзельнічаў.)

«Я за справядлівы Саюз. Вы за тое, каб мы былі незалежныя. Я лічу гэта амаль што жартам. Я быў і застаюся прыхільнікам Саюзу» («Навіны БНФ «Адраджэньне», 3, 1991 ).

І нават на сустрэчы з дэпутатам Апазыцыі БНФ за некалькі дзён да сустрэчы ў Віскулях ён заяўляў, што застаецца прыхільнікам «абноўленай Садружнасьці» – хаця Беларусь ужо некалькі месяцаў як зьяўлялася дэ-юрэ незалежнай дзяржавай. Гэтыя некалькі месяцаў марнаваньня часу (ад жніўня да сьнежня 91-га), калі Шушкевіч езьдзіў на бясплённыя перамовы да Гарбачова ў Маскву, можна было патраціць на ўмацаваньне дзяржаўнасьці і эканамічныя рэформы, да чаго заклікала яго Апазыцыя БНФ.

Тым ня менш, апынуўшыся ў адной кампаніі з Барысам Ельцыным і Леанідам Краўчуком (і пад іх уплывам), Шушкевіч падпісаў пагадненьні аб ліквідацыі СССР як «геапалітычнай рэальнасьці» (фармулёўка Генадзя Бурбуліса). Вось гэта – прыклад рашучага дзеяньня, якое, безумоўна, упісала імя Шушкевіча ў гісторыю.

## «Яны мне скажуць: навошта ты нам патрэбны?»

Галоўная прэтэнзія, якую выстаўляюць Шушкевічу – гэта тое, што ён не падтрымаў рэфэрэндум аб датэрміновых выбарах.

Рэфэрэндум аб датэрміновых выбарах, якія запатрабаваў БНФ пасьля таго, як пераканаўся ў нядзатнасьці складу Вярхоўнага Савету 12-га скліканьня правесьці дэмакратычныя і эканамічныя рэформы, а галоўнае – стварыць заканадаўчы падмурак новаўтворанай незалежнай дзяржавы, быў адзіным рэальным сродкам зьмяніць і кіраўніцтва Беларусі, і палітычную сытуацыю.

У пачатку 1992 году Шушкевіч, паводле апытаньня сацыялягічнай службы «Грамадзкая думка», меў рэйтынг 52 адсоткі, у сакавіку ён крыху зьменшыўся, але таксама быў вялікі – 47,1. Менавіта ў гэтым часе БНФ зьбіраў подпісы за рэфэрэндум. Можна толькі ўявіць, што было б, калі б Шушкевіч на піку сваёй папулярнасьці (палова насельніцтва!) падтрымаў гэтую ініцыятыву. Але – не падтрымаў.

Часам можна сустрэць папрок, што Шушкевіч мог прызначыць рэфэрэндум як старшыня Вярхоўнага Савету, аднак не зрабіў гэтага. Папрок несправядлівы: такога права, паводле Канстытуцыі і закону аб рэфэрэндуме, Шушкевіч ня меў. Прызначыць рэфэрэндум мог толькі Вярхоўны Савет – альбо з уласнай ініцыятывы, альбо паводле патрабаваньня пэўнай колькасьці дэпутатаў, альбо – пры ўмове збору ня менш як 350 тысяч подпісаў. Пры гэтым пад словам «прызначыць» трэба разумець – назваць дату плебісцыту; выра-

шаць пасьля сабраньня подпісаў, варта праводзіць рэфэрэндум ці ня варта, Вярхоўнаму Савету закон права не даваў.

Пасьля таго, як за першыя месяцы 1992 году БНФ сабраў подпісы, зь якіх 440 тысяч ЦВК былі прызнаныя сапраўднымі (ня ўзьнікла пытаньняў у ЦВК і па фармулёўцы вынесенага на рэфэрэндум пытаньня), Вярхоўны Савет мусіў прызначыць дату. Аднак Шушкевіч спыніў вясновую сэсію. Распусьціў дэпутатаў «па хатах» і паўгода сэсію не зьбіраў. Адначасна, у сваіх публічных выступах усяляк падвяргаў ідэю рэфэрэндуму крытыцы, у чым цалкам салідарызаваўся з намэнклятурай. Фактычна, ён рабіў усё, каб рэфэрэндум не адбыўся. На восеньскай сэсіі ў канцы кастрычніка 1992 году Вярхоўны Савет (у якім намэнклятура спэцыяльна падрыхтавалася) адмовіўся прызначаць дату – і рэфэрэндум быў сарваны. Некаторыя аналітыкі менавіта гэтую падзею называюць стратай таго апошняга шанцу, які мог утрымаць краіну ад спаўзаньня ў аўтарытарызм.

Пазьней у гутарцы зь Віталём Цыганковым Шушкевіч гэтак патлумачыць сваю пазыцыю:

«Шушкевіч: Тыя наіўныя прапановы, што былі з боку БНФ – “Вярхоўны Савет у адстаўку”. Гэта я павінен уносіць такую прапанову? Я Старшыня, і я павінен такое прапаноўваць? Дык яны мне скажуць – “навошта ты нам такі патрэбны, мы зараз новага абярэм”.

Цыганкоў: Пачакайце, зьявілася новая незалежная дзяржава – Рэспубліка Беларусь, усталяваны іншы грамадзкі лад, няма кіроўнай камуністычнай партыі. А заканадаўчы орган выбіраўся яшчэ ў той дзяржаве, СССР, у тых умовах. Чаму новая

дзяржава не павінна мець новы заканадаўчы орган? Гэта цалкам абгрунтаваная прапанова.

Шушкевіч: Я яшчэ раз вам кажу... У гэты заканадаўчы орган людзі былі абраны больш-менш дэмакратычным чынам, і трэба было зь яго выцягнуць усё, што магчыма» («Свободные новости плюс», 11 лютага 2010).

«Выцягнуць» зь Вярхоўнага Савету пасьля 1991 году ўдалося, пераважна, толькі тое, што ў канчатковым выніку зьнішчыла ў Беларусі дэмакратыю і паставіла краіну ў палітычную, эканамічную ды вайсковую залежнасьць ад Масквы.

Фразу ж «яны мне скажуць – мы зараз новага абярэм» інакш, як боязьзю страціць пасаду, патлумачыць немагчыма. Няма сумневу, што ў выпадку новых выбараў Шушкевіч зь ягоным рэйтынгам прайшоў бы ў новы парлямэнт (гэта пацьвердзілі і выбары 1995 году) – але гэтак жа бясспрэчна, што ў новым парлямэнце пасаду сьпікера ён бы не заняў. Жаданьне не сыходзіць з палітычнага Алімпу натуральнае – але ў выпадку з рэфэрэндумам, які не адбыўся, яно дорага каштавала краіне.

## Лукашэнка: «Сяргей, пабачыш, які будзе вынік!»

Уся наступная дзейнасьць Шушкевіча на пасадзе старшыні парлямэнту можа быць ацэненая як саступка антыдэмакратычным ды праімпэрскім сілам. Прычым, у шэрагу выпадкаў спачатку Шушкевіч нібыта заяўляў пра цьвёрдую пазыцыю прыхільнасьці дэмакратыі і беларушчыны – а потым саступаў. Апісваць гэта падрабязна – тое самае, што распавядаць гісторыю Беларусі напярэдадні

першых прэзыдэнцкіх выбараў; аднак і абмінуць гэтыя падзеі немагчыма, таму пазначаю, як кажуць, пункцірна.

У ліпені 1992 году Кебіч падпісаў пагадненьне з Расеяй, паводле якога Масква разьмяшчала на тэрыторыі Беларусі свае стратэгічныя сілы. Калі больш дакладна – вайсковыя часткі, якія ўжо знаходзіліся ў Беларусі, перайшлі ў расейскае падпарадкаваньне.

«Замест прадугледжаных раней двух гадоў расейскія стратэгічныя сілы застануцца ў Беларусі на сем гадоў. У аднабаковым парадку Расея будзе ажыцьцяўляць фактычна поўны кантроль над абароннай вытворчасьцю Беларусі, у той час як Беларусь ня здолее кантраляваць нават перамяшчэньне чужога войска па сваёй тэрыторыі. Цалкам абсурднымі выглядаюць палажэньні аб прызыве грамадзян Беларусі ў чужое войска, аб прыняцьці імі прысягі не Беларусі, выклікае поўнае зьдзіўленьне плянаваны ўдзел Расеі ў абсталяваньні мяжы паміж Беларусьсю і Латвіяй, Беларусьсю і Літвой, у той час як мяжа Беларусі з Расеяй не абсталяваная. Зусім не укладаецца ў сьвядомасьці рашэньне пра бясплатны транзыт усіх відаў расейскага транспарту празь Беларусь... Сапраўды, можа здацца, што ў намэнклятурных кіраўнікоў Беларусі, якія падпісалі такія дакумэнты, было ня ўсё ў парадку са сьвядомасьцю. Але факт ёсьць факт – падпісаныя пратаколы, дамовы і пагадненьні аб фактычнай акупацыі і эксплюатацыі Беларусі. Гэтыя “пагадненьні”, калі яны пачнуць дзейнічаць, канешне ж, могуць паўплываць на сытуацыю і баланс інтарэсаў у Эўропе. У гэтым і мэта імпэрыялістычнай палітыкі Расеі – пляцдарм у Беларусі, ціск

на Ўкраіну, Польшчу, Літву, дзьверы, дакладней, бясплатны калідор у Эўропу» (Зянон Пазьняк, інтэрвію нямецкаму агенцтву DPA, 12 жніўня 1992 г. Машынадрук, архіў аўтара).

Падпісаўшы гэтае пагадненьне, Масква зрабіла наступны крок – пачала ўцягваць Беларусь у сыстэму Калектыўнай бясьпекі краінаў СНД, якая фактычна кантралявалася расейскім Генштабам. Гэта ўжо азначала б сапраўды поўную вайсковую залежнасьць ад Масквы.

Практычна ўвесь 1993 год Беларускі Народны Фронт правёў у змаганьні супраць падпісаньня Дамовы аб Калектыўнай бясьпецы; пад заявамі стаяць подпісы ня толькі дэпутатаў Апазыцыі БНФ, але і практычна ўсіх, хто ўвасабляў у той час нацыянальную эліту, пачынаючы ад Васіля Быкава і Рыгора Барадуліна. Нягледзячы на тое, што Вярхоўны Савет прагаласаваў за падпісаньне Дамовы, Шушкевіч адмаўляўся паставіць свой подпіс.

На пэўным этапе да Апазыцыі БНФ зьвярнуліся дарадцы Шушкевіча і паведамілі, што сьпікер мае намер зьвярнуцца непасрэдна да народу па падтрымку. Але для правядзеньня рэфэрэндуму сабраць 350 тысяч подпісаў ён ня здолее (за ім няма ніякіх партыйных структураў), а вось подпісы дэпутатаў – гэта рэальна. Дык ці не дапамаглі б мы гэта зрабіць, паколькі самому Шушкевічу хадзіць па дэпутатах не выпадае, а ніякай фракцыі ў яго няма?

Гэта была разумная ідэя, і рэалізаваць яе даручылі мне. Павінна было выглядаць так, што група дэпутатаў зьвяртаецца да Шушкевіча. Я склаў тэкст наступнага зьместу:

«Старшыні Вярхоўнага Савету Рэспублікі Бела-

русь сп. С. Шушкевічу. Прапануем вынесьці на ўсенароднае галасаваньне (рэфэрэндум) абавязковага характару наступнае пытаньне: «Ці лічыце вы, што Рэспубліка Беларусь павінна быць нэўтральнай і бязьядзернай дзяржавай і не ўваходзіць у ваенныя блёкі?»

Першымі паставілі подпісы Зянон Пазьняк, Валянцін Голубеў, Галіна Сямдзянава, Алег Трусаў, ды іншыя дэпутаты – Апазыцыя БНФ у поўным складзе. Як я і чакаў, далучыліся члены Прэзыдыюму ВС Ніл Гілевіч, Міхаіл Сьлямнёў, Аляксандар Сасноў, Генадзь Карпенка. Але ўдалося ўзяць подпісы і тых, хто ў сымпатыях да апазыцыі ня быў заўважаны: выканаўчага сакратара СНД Каратчэні, былога віцэ-прэм’ера Кічкайлы, праваслаўнага сьвятара Дзічкоўскага, дэпутаткі ад вэтэранскай арганізацыі Салдатавай.

Не прыйшлося ўгаворваць і Лукашэнку: «Сяргей, ты думаеш, я не падпішу? Ну, давай сваю паперу! Але – пабачыш потым, які будзе вынік!» – сказаў Лукашэнка і паставіў подпіс 52-ім.

Усяго я сабраў 103 подпісы дэпутатаў. Ня ведаю, які менавіта вынік меў на ўвазе Лукашэнка – магчымы вынік рэфэрэндуму ці вынік скарыстаньня подпісаў Шушкевічам. Подпісы Шушкевіч не скарыстаў, а ў апошні дзень 1993 году, 31 сьнежня, падпісаў дакумэнт, які азначаў далучэньне Беларусі да сыстэмы Калектыўнай бясьпекі СНД, што ўцягнула краіну ў арбіту расейскіх вайсковых інтарэсаў. (У гэтым быў увесь Шушкевіч). Апазыцыя БНФ назвала гэта «здрадай».

## Старшыня КДБ: «Я ж яму ўсё рабіў!..»

Паводле заканадаўства, КДБ Рэспублікі Беларусь падпарадкоўваўся Вярхоўнаму Савету. Аднак я як дэпутат ніколі ня бачыў ніводнай інфармацыі ці справаздачы КДБ – хаця, калі меркаваць па словах старшыні КДБ Эдуарда Шыркоўскага на закрытым паседжаньні Вярхоўнага Савету, толькі пісьмовых інфармацыяў («запісак») КДБ дасылала ў Вярхоўны Савет у сярэднім адну на два дні. Ня бачылі такіх запісак і тыя дэпутаты, у каго я пра іх пытаўся. І не маглі бачыць: уся інфармацыя паступала на імя старшыні Вярхоўнага Савету Шушкевіча.

Я зусім не выключаю, што Шыркоўскі дасылаў інфармацыю і ў Маскву (пасьля сваёй адстаўкі ён пераехаў у сталіцу Расеі). Але бясспрэчна, што, зьяўляючыся найвышэйшай службовай асобай, Шушкевіч быў самым інфармаваным чалавекам краіны.

І фактычна меў у падпарадкаваньні КДБ. Ці (калі пагадзіцца з тым, што КДБ ніколі не выходзіў з рэальнага падпарадкаваньня маскоўскай Лубянкі) – з усіх кіраўнікоў Беларусі менавіта ён, Шушкевіч, меў на КДБ найбольшы ўплыў. Ва ўсялякім разе, пры патрэбе ён выклікаў на пасяджэньне Прэзыдыюму Вярхоўнага Савету Шыркоўскага ці яго намесьнікаў, і тыя давалі інфармацыю па той або іншай праблеме.

Такая сытуацыя не задавальняла Кебіча, які ўжо ў 1992 годзе стварыў у апараце Саўміну аддзелы і ўпраўленьні, якія ўсталі над міністэрствамі. Міністры, якіх прызначаў Вярхоўны Савет, былі вымушаныя падпарадкоўвацца начальнікам, якіх прызначаў асабіста Кебіч. Мы пастаянна зьвярталі

ўвагу Шушкевіча на абсурднасьць і неканстытуцыйнасьць такой сытуацыі, ён выказваў абурэньне – але ніякіх крокаў не рабіў.

Улетку 1993-га Шушкевіч выказаўся за ўвядзеньне ў Беларусі расейскага рубля, што было для прыхільнікаў беларускай Незалежнасьці непрыемнай нечаканасьцю. Аднак «інтэграцыйную ініцыятыву» імгненна перахапіў Вячаслаў Кебіч: у верасьні 93-га ён адкрыта заявіў, што ягоны ўдзел у падпісаньні Белавескага пагадненьня быў памылкай. Трэба прызнаць, што на ўвядзеньні расейскага рубля Шушкевіч потым не настойваў – затое Кебіч вызначыў гэта як першачарговую мэту, імкнучыся сьпісаць пад аб'яднаньне фінансавых сыстэмаў правал сваёй эканамічнай палітыкі. Восень 93-га вызначылася рэзкім пагаршэньнем эканамічнай сытуацыі і паліўным крызісам: на аўтазапраўках бэнзін налівалі па талёнах. Адначасна, Кебіч узяў пад яшчэ большы кантроль дэпутатаў, прапанаваўшы ім працу ў структурах Саўміну.

Ад дарадцаў Шушкевіча (сам ён ніколі ў БНФ нічога не прасіў) паступіла інфармацыя, што ў супрацьстаяньні з Кебічам Шушкевіч настроены рашуча. Апазыцыя БНФ прапанавала вынесьці на Вярхоўны Савет пытаньне аб адстаўцы Кебіча. Мы прыступілі да кансультацыяў па стварэньні кааліцыйнага ўраду – на пераходны пэрыяд яго мусіў узначаліць Генадзь Карпенка (мы разумелі, што прэм'ер Ценявога кабінэту БНФ Уладзімер Заблоцкі не зьбярэ належнай колькасьці галасоў).

Тагачасны старшыня Віцебскага аблвыканкаму Уладзімер Кулакоў прыгадваў, што тады ён атрымаў ад Шушкевіча прапанову вылучыць яго на пасаду Старшыні Саўміну – замест Кебіча. Кулакоў быў дэ-

путатам Вярхоўнага Савету, мы добра яго ведалі і, мяркую, маглі падтрымаць як рэальную (пераходную) альтэрнатыву збанкрутаванаму прэм'еру.

Аднак і гэтым разам Шушкевіч даў задні ход.

«Вы мне кола выратавальнае кідаеце? – запытаўся ён на сустрэчы з дэпутатамі Апазыцыі БНФ. – А я вам кажу – ня трэба!»

Адразу пасьля візыту у Беларусь прэзыдэнта Клінтана, у студзені 94-га, пракебічаўская большасьць у Вярхоўным Савеце пайшла ў наступ. Спачатку былі выстаўленыя прэтэнзіі да міністра ўнутраных спраў Уладзімера Ягорава і старшыні КДБ Эдуарда Шыркоўскага, якія не жадалі выконваць загады кебічаўскага паплечніка Генадзя Данілава і падтрымлівалі Шушкевіча. Што азначала для Шушкевіча падтрымка сілавых міністраў – тлумачыць ня трэба.

Аднак у часе паседжаньня Шушкевіч не зрабіў нічога, каб абараніць Ягорава і Шыркоўскага і прадухіліць іх адстаўку.

«Пасьля галасаваньня па Шыркоўскаму я на хвіліну выйшаў з залі паседжаньня, – прыгадвае Зянон Пазьняк. – Калі вяртаўся, сутыкнуўся з Шыркоўскім, які выходзіў з залі ўзбуджаны і чырвоны, як рак. З попрыску ён узарваўся: "Зянон Станіслававіч, ну, вы бачылі, што гэта за чалавек! Гэта ж самагубца! Я ж яму ўсё рабіў. Кожны дзень на стале ў яго была інфармацыя КГБ. Ну, цяпер... эх!"– махнуў рукой Шыркоўскі, саўладаўшы сабой» (Успамін Зянона Пазьняка, архіў аўтара).

«Эх!» не прымусіла сябе чакаць – адразу пасьля адстаўкі сілавых міністраў рукамі «маладых ваўкоў» намэнклятура арганізавала адстаўку Шушкевіча.



БЮЛЕТЭНЬ

для тайнага галасавання аб адкліканні
Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь
ШУШКЕВІЧА С. С.

Адклікаць з пасады Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ШУШКЕВІЧА Станіслава Станіслававіча.

ЗА СУПРАЦЬ

Бюлетэнь аб адкліканьні С. Шушкевіча з пасады старшыні Вярхоўнага Савету, які ня быў кінуты ў скрыню для галасаваньня з аўтографам Шушкевіча.

Лічыцца, што нагодай для адстаўкі была інфармацыя, выкладзеная ў «антыкарупцыйных» выступах Аляксандра Лукашэнкі (так званая «скрыня цьвікоў», нібыта «скрадзеная» для будаўніцтва лецішча). Лукашэнка сапраўды абвінавачваў Шушкевіча ў «злоўжываньнях» і ў тым, што рамонт у яго кватэры рабіла будаўнічая структура Саўміну (але ніякая іншая структура і не павінна была рабіць рамонт – разьведка якой заўгодна краіны сьвету дала б немалыя грошы, каб пранікнуць у кватэру кіраўніка краіны і паставіць там «жучкі»). Увогуле, абвінавачаньні Лукашэнкі на адрас Шушкевіча ў «асабістай нясьціпласьці» і «злоўжываньнях» былі гранічнай праявай цынізму і хлусьні: у пабытовых адносінах Шушкевіч – чалавек чысты, ён ня ўзяў у дзяржавы ні капейкі (за гэта яго асабліва не любіла карумпаванае атачэньне Кебіча).

На самой справе нагода была іншая – і вельмі паказальная для фармальнага ініцыятара адстаўкі. На закрытым пасяджэньні Вярхоўнага Савету Лукашэнка заявіў, што ў часе візыту ў ЗША Шушкевіч не абараніў супрацоўнікаў расейскай выведкі, якія пад прыкрыцьцём дыпляматаў працавалі ў прадстаўніцтве Беларусі ў ААН у Нью-Ёрку, былі выкрытыя амэрыканцамі і высланыя з ЗША. Я не зрабіў памылку ў тэксьце: расейскія шпіёны працавалі не ў прадстаўніцтве Расеі, а ў прадстаўніцтве Беларусі. «Гэта нашы людзі, рускія!» – літаральна крычаў Лукашэнка ў Авальнай залі. На гэтай падставе Лукашэнка і запатрабаваў адстаўкі Шушкевіча, прычым прапанаваў унесьці ў бюлетэнь пытаньне ад даверы і Кебічу, і Шушкевічу.

Пазьней Шушкевіч дзе намёкамі, а дзе і адкрыта будзе казаць, што нібыта і дэпутаты Апазыцыі галасавалі за ягоную адстаўку. Гэта няпраўда. Яшчэ ў ліпені 93-га, калі пракебічаўская большасьць спрабавала яго скінуць, Апазыцыя БНФ яго падтрымала і зрабіла ўсё магчымае, каб пазьбегчы адстаўкі. У тыя дні ў заяве Апазыцыі БНФ і Дэмакратычнага клюбу было сказана:

«У дэпутатаў дэмакратычнай арыентацыі ёсьць шмат заўваг і прэтэнзій да С. Шушкевіча і яго дзейнасьці на высокай дзяржаўнай пасадзе. І апазыцыя БНФ, і іншыя дэпутаты Дэмакратычнага клюбу не падтрымліваюць яго за беспрынцыпнае згодніцтва з камуністычна-намэнклятурнай большасьцю, якая і паставіла пытаньне аб яго зьняцьці. Але ў сёньняшняй сытуацыі адхіленьне Шушкевіча ад пасады азначала б неабмежаваную канцэнтрацыю ўлады і ўсіх органаў кантролю за ўладай (у тым ліку і КДБ) у руках адной структуры –

Савету міністраў, палітыка якога не вызначаецца кампэтэнтнасьцю і дальнабачнасьцю, клопатам пра дзяржаўную незалежнасьць і доўгатэрміновыя інтарэсы народа Беларусі. У гэтых абставінах дэмакратычная меншасьць народных дэпутатаў Беларусі адмовілася прымаць удзел у палітычным фарсе галасаваньня пра давер да Старшыні Вярхоўнага Савету...» («Народная газета», 10 ліпеня 1993).

За паўгода, што мінулі ад першай спробы зьняць Шушкевіча, нічога ў нашай пазыцыі не зьмянілася – хіба што падставаў для прэтэнзіяў да сябе Шушкевіч даў болей. І ў студзені 94-га мы былі перакананыя, што Шушкевіч не адпавядае займанай пасадзе, тым больш у часе, калі трэба было выявіць рашучасьць і ў супрацьстаяньні з праімпэрскімі сіламі ўнутры краіны, і ў супрацьдзеяньням ціску Масквы. Але разумелі мы і тое, што ў выпадку ягонай адстаўкі ніхто лепшы ягоную пасаду ня зойме – дэпутацкая большасьць паставіць чалавека са свайго асяродка (што потым і адбылося). Аднак, у адрозьненьне ад ліпеня 93-га, у студзені 94-га пэўная частка дэпутатаў Дэмклюбу, якая падтрымлівала «маладых ваўкоў», была ўжо супраць Шушкевіча. Супраць быў і Генадзь Карпенка. І хаця дэпутаты Апазыцыі БНФ спрабавалі сарваць галасаваньне (мы не апускалі бюлетэні ў урны) – нашых галасоў не хапіла. (Праз некалькі дзён я папрасіў Шушкевіча расьпісацца на бюлетэні, які пакінуў пры сабе. Сёньня гэта рэальны доказ няслушнасьці ягоных слоў, што дэпутаты БНФ нібыта галасавалі супраць яго).

26 студзеня 1994 году Шушкевіч быў адпраўлены ў адстаўку.

## «Шушкевіч – чэсны чалавек, шырока вядомы»

Вылучэньне Шушкевіча на пасаду прэзыдэнта адбылося аб’яднаньнем «Вясна-94» пры актыўным удзеле Беларускай сацыял-дэмакратычнай грамады. Паводле сьведкаў, непасрэдна яго вылучыў Мікола Статкевіч. Кіраўніцтва БСДГ кандыдатуру Шушкевіча падтрымала.

«Выканкам Цэнтральнай Рады Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады заклікаў усе дэмакратычныя партыі і рухі, а таксама народных дэпутатаў Беларусі стварыць дэмакратычны блёк і вылучыць на прэзыдэнцкіх выбарах аднаго кандыдата. Такім кандыдатам, паводле сацыял-дэмакратаў, можа стаць Станіслаў Шушкевіч – чэсны чалавек, шырока вядомы як у нашай краіне, гэтак і за яе межамі. Выканкам Цэнтральнай Рады БСДГ лічыць, што, атрымаўшы рэальныя прэзыдэнцкія паўнамоцтвы ад народу Беларусі, Станіслаў Шушкевіч ажыцьцявіць спадзяваньні людзей на вывад краіны са стану эканамічнага і палітычнага крызісу» («Вячэрні Мінск», 11 сакавіка 1994).

Само па сабе вылучэньне партыяй таго або іншага палітыка зьяўляецца справай рутыннай. У выпадку ж з Шушкевічам незвычайнасьць сытуацыі палягала ў тым, што дэпутаты-сябры БСДГ уваходзілі ў Апазыцыю БНФ, а старшыня БСДГ Алег Трусаў быў намесьнікам старшыні Апазыцыі БНФ.

Як вядома аўтару гэтых радкоў, сам Алег Трусаў ніколі не патлумачыў Зянону Пазьняку такога кроку. У адказ на пытаньні, чаму пасьля таго, як ягоны намесьнік падтрымаў іншага кандыдата, ён ня быў выключаны з апазыцыі (што адбылося б

паводле клясычнай парлямэнцкай працэдуры ў дэмакратычных краінах), Пазьняк адказвае, што Беларусь ня мела клясычнага парлямэнту і ня мела дэмакратыі, што ў тых умовах яму важныя былі не высьвятленьне адносінаў, а захаваньне максымальнага адзінства дэмакратычных, незалежніцкіх сілаў. Пасьля выбараў ні Пазьняк, ні хтонебудзь з дэпутатаў БНФ ня ставіў пытаньня пра вызваленьне Алега Трусава ад пасады намесьніка кіраўніка Апазыцыі, што адпавядала б клясычным традыцыям парлямэнтарызму. Па словах Пазьняка, ён ніколі ня гутарыў з Трусавым на тэму ягонай падтрымкі Шушкевіча – ні тады, у 94-ым, ні пазьней.

«Мы разумеем імкненьне малых партыяў кампэнсаваць адсутнасьць вядомасьці ў народзе выкарыстаньнем папулярнасьці таго або іншага палітыка, паспрабаваць дзякуючы выбарчай кампаніі падвысіць свой рэйтынг. Але Беларускі Народны Фронт як найбуйнейшая палітычная сіла краіны мусіць дбаць найперш пра інтарэсы Беларусі і лёс яе незалежнасьці. І мы ня можам чарговы раз падтрымліваць і ўздымаць да вяршыняў улады чалавека, які, меўшы ўладу, чыніў здраду за здрадай свайму народу (успомнім паводзіны Шушкевіча падчас рабочых страйкаў 1991 г., падчас вырашэньня лёсу рэфэрэндуму, калектыўнай бясьпекі ці рублёвай зоны). Мы ня можам несьці палітычную адказнасьць перад народам за гэтага непрадказальнага і слабавольнага палітыка. Але, вядома, БСДГ мае поўнае права выступаць за вылучэньне кандыдатуры Шушкевіча і нават спрабаваць сабраць подпісы. Заклікаем сяброў і прыхільнікаў БНФ не чыніць ім у гэтым перашкодаў, ня ўвязвацца ў канфлікты, а скіраваць усю сваю актыўнасьць

на падрыхтоўку да збору подпісаў за нашага кандыдата. Віктар Івашкевіч, Вінцук Вячорка, сакратары Ўправы БНФ. 22 сакавіка 1994 г. Менск».

Ёсьць даволі распаўсюджанае меркаваньне: дэмакратычна-нацыянальныя сілы на выбарах–94 прайгралі таму, што «раздрабілі» сілы, ня вызначылі аднаго кандыдата. Як вынікае з усяго вышэй напісанага, БНФ ня мог падтрымаць Шушкевіча па галоўнай прычыне: дэмакратам Шушкевіча можна было лічыць толькі на словах.

Ягоная дзейнасьць на пасадзе старшыні Вярхоўнага Савету не спрыяла дэмакратыі, а ў пэўных ключавых для лёсу грамадзтва момантах была накіраваная супраць яе (рэфэрэндум-92, згода, у якасьці старшыні Канстытуцыйнай Камісіі, з увядзеньнем пасады прэзыдэнта, прызначэньне Лукашэнкі старшынём антыкарупцыйнай камісіі). І больш за тое: пэўныя ягоныя дзеяньні ішлі на шкоду беларускай дзяржаўнасьці (падпісаньне Дамовы аб калектыўнай бясьпецы СНД). Шушкевіч не лічыў сябе нічым абавязаным палітычнай сіле, якая спрыяла яму на ўсіх этапах ягонай палітычнай кар’еры. За ўсе гады ён не зрабіў ніводнай кадравай прапановы ніводнаму дэпутату БНФ (парадаксальна, але ўсе нешматлікія намесьнікі і сакратары парлямэнцкіх камісіяў зь ліку дэпутатаў-франтаўцаў былі прызначаныя альбо пры Дземянцеі, альбо пры Грыбе) – але ў чэрвені 1993 году правёў на пасаду старшыні «антыкарупцыйнай камісіі» Лукашэнку. Ён не зрабіў ніякай спробы аб’яднаць нават тых, каго называў «цэнтрыстамі» і да каго, па ўласным прызнаньні, сам належаў. Цяжка паверыць, але факт: за гады сьпікерства Шушкевіч не наведаў сэсіі большасьці абласных Саветаў –

хаця сярод дэпутатаў гэтых Саветаў меў прыхільнікаў. Зь ім немагчыма было вырашыць ніводнага канкрэтнага пытаньня – на ўсе прапановы ён адказваў, што «ня мае паўнамоцтваў» (тут Пётра Краўчанка мае рацыю). Хаця ў суседняй Літве Вітаўтас Ландсбергіс меў тыя самыя паўнамоцтвы – а колькі зрабіў для дэмакратыі і для дзяржавы! Нарэшце, Шушкевіч быў папросту непрагназуемы ў заявах і дзеяньнях, часта займаў пазыцыю, супрацьлеглую сваім ранейшым заявам.

Хто мог даць гарантыі, што ў выпадку абраньня прэзыдэнтам Шушкевіч будзе паводзіць сябе інакш?

Уласна, БНФ падтрымліваў Шушкевіча цягам усёй ягонай палітычнай кар’еры: пры абраньні народным дэпутатам СССР і народным дэпутатам БССР, пры абраньні першым намесьнікам старшыні, а затым і старшынём Вярхоўнага Савета 12-га скліканьня.

Але варыянт падтрымкі Шушкевіча на прэзыдэнцкіх выбарах кіраўніцтвам БНФ нават не разглядаўся. Не разглядаўся найперш па палітычнай прычыне: у БНФ быў свой кандыдат, Зянон Пазьняк, які адпавядаў крытэрам беларускага прэзыдэнта, і Шушкевіч у гэтым сэнсе ня мог зь ім канкураваць. БНФ разумеў, што за кандыдатурай Шушкевіча стаяць пэўныя сілы, якія былі зацікаўленыя адарваць частку галасоў ад франтаўскага кандыдата. Падтрымліваць Шушкевіча было б праявай найбольшай ступені палітычнай безадказнасьці – ды папросту, я не ўяўляю, як кіраўніцтва БНФ магло б патлумачыць актывістам у сталіцы і ў рэгіёнах неабходнасьць падтрымаць палітыка, які пусьціў пад адхон намаганьні тысяч людзей, якія

зьбіралі подпісы за рэфэрэндум, і амаль паўмільёна грамадзянаў, якія гэтыя подпісы паставілі. Патлумачыць тым, што ў выпадку ягонага неабраньня прыйдзе нехта значна горшы? Неперанаканаўча і несур'ёзна.

Зрэшты, такіх нараканьняў зрабілася меней пасьля сьнежня 2010 году, калі Шушкевіч зрабіў заяву пра расейскія войскі ў Беларусі.

«... Я б хацеў сказаць, што тое, што мы не прызнаем саюзную дзяржаву, і там прадугледжана наступнае, што калі ў саюзнай дзяржаве парушаюцца правы чалавека, дык саюзьнік наш у гэтай дзяржаве, Расея, павінна да гэтага ставіцца належным чынам. І, можа быць, лепей было б замест таго, каб уводзіць войскі ў нейкія краіны, якія заявілі пра сваю самастойнасьць, увесьці расейскія войскі ў Беларусь, каб там паклапаціцца пра тое, каб былі захаваныя чалавечыя жыцьці і чалавечае здароўе. Гэта, дарэчы, адпавядае тым дамоўленасьцям, якія падпісаныя паміж Расеяй і Беларусьсю, падпісаныя тым самым Лукашэнкам» (Станіслаў Шушкевіч у інтэрвію расейскай службе Радыё Свабода, 22 сьнежня 2010).

Заява зусім натуральная з вуснаў дзеяча, які падпісаў дамову аб далучэньні Беларусі да сыстэмы калектыўнай бясьпекі СНД. Але зусім нелягічная ад чалавека, які, у ліку іншых, паставіў подпіс пад Белавескім пагадненьнем, што прадухіліла магчымае вялікае кровапраліцьце пры абрушэньні парэштак савецкай імпэрыі.

# Два пальцы для Лукашэнкі

Апошні дзень вясны 1994-га мог быць для Лукашэнкі чорным. Яго маглі не зарэгістраваць кандыдатам у прэзыдэнты. На законных падставах.

У той дзень, 31 траўня, Зянон Пазьняк прапанаваў мне ў якасьці ягонай даверанай асобы прысутнічаць разам зь ім на рэгістрацыі кандыдатаў у прэзыдэнты.

Паводле закону, кандыдат мог мець дaверaных асоб, якім выдавалася падпісанае старшынём Цэнтральнай выбарчай камісіі пасьведчаньне. Той самы закон дазваляў ім прадстаўляць інтарэсы кандыдатаў у дзяржаўных установах. У прынцыпе, нейкіх асаблівых паўнамоцтваў, якія б перавышалі тыя, што мелі дэпутаты Вярхоўнага Савету, закон не даваў. І асабіста я расцаніў свой новы статус менавіта як знак даверу Пазьняка. У кожнага кандыдата, паводле закону, магло быць 20 даверaных асобаў. У Пазьняка, сярод іншых, імі былі Васіль Быкаў, Рыгор Барадулін, віцэ-прэзыдэнт АН Радзім Гарэцкі.

Мы прыйшлі ў залю ЦВК (былы Дом палітасьветы на вуліцы Кастрычніцкай), старшыня Камісіі Аляксандар Абрамовіч прапанаваў кандыдатам сесьці бліжэй да яго. Далей працытую паведамленьне агенцтва СІМ:

«Цікавы эпізод назіраўся перад пачаткам пасяджэньня Цэнтравыбаркаму. Старшыня Саўміну

Кебіч працягнуў руку лідэру БНФ З. Пазьняку й дзесьці на працягу хвіліны ўгаворваў пацісьнуць яе. Але той адмовіўся прывітаць прэм’ера такім чынам. Ролю «буфэра» між імі выканаў каардынатар парлямэнцкай апазыцыі С. Навумчык. Гэтай сытуацыі даў камэнтар дэпутат ВС РБ Л. Дзейка: «Незразумела, ці то Навумчык – правая рука Пазьняка, ці то – левая Кебіча» («Пагоня», 10-16 чэрвеня 1994).

Канешне, ніякім «буфэрам» я ня быў – проста мы з Пазьняком селі першымі, а Кебіч сеў каля мяне. Між іншым, на той самы эпізод зьвярнула ўвагу газэта «Свабода»:

«Старшыня Савету міністраў Вячаслаў Кебіч спрабаваў па-сяброўску павітацца з кіраўніком Беларускага Народнага Фронту Зянонам Пазьняком, двойчы працягнуўшы яму руку. Аднак сп. Пазьняк дэманстратыўна праігнараваў т. Кебіча. На пакрыўджанае пытаньне Вячаслава Францавіча Зянон Станіслававіч адказаў: «Мы з вашымі рукамі яшчэ разьбярэмся»» («Свабода», чэрвень 1994).

Адмыслова спыняюся на гэтым адказе (які прагучаў пры сьведках і быў зафіксаваны журналістамі), паколькі пазьней Вячаслаў Францавіч вельмі адвольна пераказваў словы Пазьняка – аж да таго, што, нібыта, лідэр БНФ пагражаў «павесіць яго на тэлеграфным слупе». Адмова падаць руку палітычнаму апанэнту, зь якім у папярэднія гады Пазьняку часам даводзілася дамаўляцца па нейкіх асобных пытаньнях, тлумачылася тым, што ў траўні 94-га Кебіч ужо адназначна ўспрымаўся як чалавек, які мала таго што нясе найбольшую адказнасьць за палітычны і эканамічны крызіс, але і які заяўляў пра інтэграцыю з Расеяй. Ну і, канешне, менавіта



Аляксандар Лукашэнка, Васіль Новікаў і Вячаслаў Кебіч на пасяджэньні ЦКВК, 31 траўня 1994 г.

ён дамагаўся ўвядзеньня пасады прэзыдэнта, у чым БНФ бачыў пагрозу дыктатуры.

Дарэчы, фраза Пазьняка мела канкрэтную падставу: у тыя дні дэпутаты Апазыцыі БНФ запатрабавалі разбору справы аб перадачы зь дзяржаўнага бюджэту фірме, зьвязанай з жонкай Кебіча, 3-х мільёнаў даляраў. Паказальна, што «змагар з карупцыяй» Лукашэнка пра гэты факт маўчаў, ніякіх наступстваў для Кебіча не было і пасьля таго, як Лукашэнку абралі прэзыдэнтам.

Пазьняк Кебічу руку не паціснуў, затое Вячаслаў Францавіч «адыграўся» на іншым кандыдаце.

Калі Лукашэнка падышоў да Кебіча і працягнуў руку – той падаў у адказ два пальцы (гэты эпізод быў зафіксаваны фатографам газэты «Свабода»).

Я сядзеў побач з Кебічам і бачыў усьмешку Лукашэнкі – яе можна было зразумець і як зьдзек, і як лісьлівасьць. Напачатку рэгістрацыі Аляксандар Абрамовіч абвясьціў вынікі збору подпісаў.

Тут варта больш падрабязна сказаць пра збор подпісаў за кандыдатаў і яго вынікі. Як я пісаў раней, дэмакратычныя партыі стварылі Грамадзкую кантрольную камісію, якую ўзначальваў Мікола Статкевіч, а таксама Групу рэагаваньня па фактах парушэньняў, якую даверылі ўзначаліць аўтару гэтых радкоў.

Камісія адзначыла, што пры зборы подпісаў старшыня Савету міністраў Кебіч выкарыстоўваў дзяржаўны апарат (даходзіла да пагрозаў звальненьнямі), а таксама дзяржаўныя газэты, тэлебачаньне і радыё – тым часам як дэмакратычныя кандыдаты былі пазбаўленыя магчымасьці выхаду ў эфір.

Практычна ва ўсіх кандыдатаў пры праверцы была забракаваная пэўная колькасьць подпісаў. У Станіслава Шушкевіча іх было 6,2 працэнта, у Зянона Пазьняка 7,5 працэнта, у лідэра камуністаў Васіля Новікава – 9,5 працэнта, у Аляксандра Дубко – 10 працэнтаў. Найбольшая колькасьць адбракаваных подпісаў была ў Генадзя Карпенкі – 20 працэнтаў.

У выніку, па колькасьці прызнаных подпісаў на першым месцы быў старшыня Савету міністраў Вячаслаў Кебіч, на якога працаваў увесь дзяржаўны апарат. Увогуле ж карціна складвалася наступная:

Вячаслаў Кебіч – больш як 400 тысяч подпісаў і 203 подпісы дэпутатаў Вярхоўнага Савету (для рэгістрацыі кандыдатам дастаткова было 70 дэпутацкіх подпісаў).

Зянон Пазьняк – 230 тысяч подпісаў

Васіль Новікаў – 200 тысяч

Аляксандар Лукашэнка – 156 тысяч

Станіслаў Шушкевіч 122 тысячы

Аляксандар Дубко – 117 тысяч

Генадзь Карпенка – 97 тысяч подпісаў і 78 – дэпутатаў

Статыстыка ж у тых, хто не дабраў належнай для рэгістрацыі колькасьці подпісаў, выглядала гэтак:

Уладзімер Карагін, старшыня Саюзу прадпрымальнікаў – 41,6 тысяч подпісаў,

Мікалай Каўбаска, дэпутат ВС, старшыня Таварыства інвалідаў – 28 тысяч,

Віктар Цярэшчанка, генэральны дырэктар Міжнароднага інстытуту мэнэджмэнту – 19 тысяч,

Леанід Козік, старшыня камісіі ВС па эканамічнай рэформе – 13 тысяч,

Эдвард Ахрэм, старшыня Польскага дэмакратычнага аб'яднаньня – 12 тысяч,

Мікалай Шэляговіч, старшыня таварыства «Палісьсе» – 3,7 тысячы,

Яўген Лугін, старшыня Сялянскай партыі – 2,3 тысячы,

Іван Каравайчык, генэральны дырэктар камэрцыйнага прадпрыемства «Роствэрг» – 1,3 тысячы,

Уладзімер Бялоў, загадчык аб'яднаньня «Сэйсматэхніка» – 1,2 тысячы,

Станіслаў Ліцкевіч, часова беспрацоўны – 0 (нуль) подпісаў.

«Паказальна, што ў Менску і некаторых іншых буйных прамысловых гарадох лідзіруе З. Пазьняк. Прыкладам, у сталіцы ён сабраў 91 тыс. подпісаў, тым часам як Кебіч усяго 42 тыс. Вельмі характэрна, што ў Маладзечне ў Кебіча – нуль подпісаў (мэрам



ПАСВЕДЧАННЕ

Навумчык Сяргей Іосіфавіч

зарэгістраваны даверанай асобай кандыдата ў Прэзідэнты Рэспублікі Беларусь

Пазьняка Зянона Станіслававіча

(прозвішча, імя, імя па бацьку кандыдата ў Прэзідэнты)

Старшыня Цэнтральнай камісіі па выбарах Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь

Сакратар Цэнтральнай камісіі па выбарах Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь

7. 27 траўня 1994 г.

(дата рэгістрацыі)

Пасьведчаньне даверанай асобы кандыдата ў прэзыдэнты.

Маладзечна быў Карпенка – С.Н.). Гэта значыць, што там, дзе выбарчай кампаніяй прэм’ера не займаецца мясцовы дзяржаўны апарат – у Вячаслава Францавіча поўны правал» («Свабода», 17-23 траўня 1994).

Але вернемся да дня рэгістрацыі.

Нейкіх непрыемных сюрпрызаў у часе рэгістрацыі мы не чакалі, бо збор подпісаў за кандыдата ад Народнага Фронту прайшоў арганізавана.

Увогуле, усё выглядала рутыннай працэдурай, пакуль чарга не дайшла да Карпенкі і Лукашэнкі.

З Лукашэнкам высьветліліся дзіўныя акалічнасьці. А менавіта – парушэньне Закону аб выбарах прэзыдэнта.

Частка чацьвёртая артыкулу 24 Закону «Аб выбарах Прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь» прадугледжвала наступнае:

«У лістах па зборы подпісаў выбаршчыкаў аб вы-

лучэньні кандыдата ў Прэзыдэнты (падпісных лістах) указваюцца прозьвішча, імя, імя па бацьку, дата нараджэньня, прафэсія, займаная пасада (занятак), месца работы і жыхарства, партыйнасьць кандыдата ў Прэзыдэнты, а таксама прозьвішча, імя і імя па бацьку члена ініцыятыўнай групы, які зьбірае подпісы».

Гэта азначае, што ў падпісных лістах павінны быць указаныя рэальнае месца працы і рэальная пасада, зафіксаваная ў ягонай працоўнай кніжцы. А месца жыхарства – тое, дзе кандыдат прапісаны.

Напрыклад, у падпісных лістах за Пазьняка ў графе «месца працы і пасада» было пазначана, што ён зьяўляецца старэйшым навуковым супрацоўнікам Інстытуту гісторыі Акадэміі навук Рэспублікі Беларусь, а месца жыхарства – Менск, вуліца Герасіменкі... Менавіта так – «інстытут гісторыі», дзе за Пазьняком была захаваная частка стаўкі, а не Вярхоўны Савет, паколькі ён не працаваў у парлямэнце на сталай, ці, як было прынята казаць, прафэсійнай аснове. Станіслаў Шушкевіч быў пазначаны як дырэктар Цэнтру палітычных і эканамічных дасьледаваньняў Эўрапейскага гуманітарнага ўнівэрсытэту (а не як дэпутат ВС), Генадзь Карпенка – як старшыня выканкаму Маладзечанскага савету (а не як дэпутат ВС), Аляксандар Дубко – як старшыня калгасу «Прагрэс» Гарадзенскага раёну і г. д.

Адпаведна, у Аляксандра Лукашэнкі такім месцам працы мусіў быць саўгас «Гарадзец» Шклоўскага раёну Магілёўскай вобласьці. А месцам жыхарства – Шклоў, дзе Лукашэнка быў прапісаны.

З прозьвішчам, імем, імем па бацьку і годам

нараджэньня ў Лукашэнкі было нібыта ў парадку (хаця праз гады высьветліцца, што гэта не зусім так – дзень нараджэньня не адпавядаў сапраўднаму).

А вось што да іншых дадзеных, дык тут узьніклі пытаньні. У падпісных лістах, на якіх зьбіралі подпісы за Лукашэнку, было напісана – «Дэпутат Вярхоўнага Савету», а месцам жыхарства пазначаўся горад Менск.

Зусім выключана, што каманда Лукашэнкі (дзе, нагадаю, былі юрысты Дзьмітры Булахаў і Віктар Ганчар) нагэтулькі безадказна паставілася да справы, што зрабіла такую грубую памылку.

Прычым не адну, а адразу дзьве. Кожная зь якіх магла каштаваць іх кандыдату ўдзелу ў выбарах. Хутчэй за ўсё, гэта было зроблена наўмысна.

І вось чаму.

Раней я цытаваў Аляксандра Фядуту, які адзначыў, што электаратам Лукашэнкі мог быць толькі люмпэн. Гэта праўда, але зразумела, што каманда Лукашэнкі імкнулася пашырыць кола ягоных прыхільнікаў. І, як і ўсякая іншая каманда, была зацікаўленая сабраць подпісаў як найбольш.

І зусім верагодна, мог меркаваць кіраўнік ініцыятыўнай групы Булахаў, што пэўная частка патэнцыйных падпісчыкаў палічыла б несур'ёзным падтрымліваць прэзыдэнцкія амбіцыі дырэктара саўгасу, чалавека, які жыве не ў сталіцы, не ў абласным цэнтры, а ў райцэнтры. Хаця наўрад ці колькасьць такіх людзей была б крытычнай – папулярнасьць Лукашэнкі грунтавалася зусім не на ягоных прафэсійных здольнасьцях. Гэтыя рэквізыты зь месцам працы ўвогуле ня мелі асаблівага значэньня – за Пазьняка людзі падпісваліся

не як за супрацоўніка інстытуту гісторыі, за Шушкевіча – не як за супрацоўніка ЭГУ. Тым ня менш, як выглядала, вырашылі падстрахавацца.

Пазьней ніхто з удзельнікаў каманды Лукашэнкі не пажадаў высьветліць сытуацыю з афармленьнем падпісных лістоў, але іншага тлумачэньня, чым прыведзенае раней, я не знаходжу.

Але гэта было парушэньне закону – нават калі б і не было сьвядомым падманам. Тут жа, безумоўна, меў месца падман.

Раніцай таго дня, калі адбывалася рэгістрацыя, пра гэтую праблему пісала «Свабода».

«Перад Цэнтральнай камісіяй, такім чынам, паўстае няпростая альтэрнатыва: альбо трымацца духу і літары закону, прызнаць свой ранейшы недагляд і адмовіць Лукашэнку ў рэгістрацыі, альбо, захоўваючы гонар мундзіра, пагадзіцца з парушэньнем закону і зарэгістраваць Лукашэнку. І мы даведаемся, ці памятае старшыня камісіі сп. Абрамовіч рымскае выслоўе: «Dura lex, sed lex» – «Закон суровы, але ён – закон» («Свабода», 31-6 траўня 1994).

Паміж старшынём ЦВК Абрамовічам і Лукашэнкам адбыўся такі дыялёг:

«Дзе Вы прапісаны? – Ужо год як жыву ў гасьцініцы Кастрычніцкая. – Я не пытаюся, дзе Вы сьпіце, я пытаюся, дзе Вы афіцыйна прапісаны? Дзе Ваш пашпарт? – Пашпарт? А яго ў мяне скралі (*сьмех прысутных*). Супраць мяне разгорнута кампанія цкаваньня. У мяне як старшыні камісіі па карупцыі адабралі службовы аўтамабіль. Адняли разам з дакумэнтамі, таму што яны былі ў “бардачку” (*сьмех*). Але асобу сваю я магу пацвер-

дзіць, калі Вы ня верыце, вось маё пасьведчаньне дэпутата» (*сьмех*).

Лукашэнка сказаў, што перааформіць прапіску, як толькі яму вернуць аўтамабіль, паказаўшы пры гэтым на таго, хто мусіў гэта зрабіць – на Кебіча.

«Не, ты бачыш? Бачыш, які гэта чалавек?» – павярнуўся да мяне Кебіч. У адказ я сказаў, што Вы, Вячаслаў Францавіч, самі стварылі з Лукашэнкі героя, і Кебіч гэта ня стаў аспрэчваць.

Строга кажучы, перад Цэнтральнай выбарчай камісіяй стаяў чалавек, які ня меў пры сабе пашпарта альбо пасьведчаньня, якое пацьвярджала ягоную асобу. У той час патрабавалася прад'яўленьне пашпарта ў сытуацыях непараўнальна менш адказных, чым рэгістрацыя кандыдата на пасаду прэзыдэнта краіны. У пазьнейшы час (ужо пры Лукашэнку) адсутнасьць пашпарта будзе лічыцца дастатковай нагодай для затрыманьня чалавека і высьвятленьня ягонай асобы.

Канешне, пасьведчаньнем, якое пацьвярджае асобу, можна было б палічыць дэпутацкае пасьведчаньне – але закон такім вызначаў толькі пашпарт альбо вайсковы білет.

Можна сказаць, што гэта занадта ўжо дробная бюракратычная фармальнасьць – уся краіна ведала Лукашэнку, ведалі яго і члены ЦВК (хаця ў шмат якія ўстановы ці прадпрыемствы ахоўнік не прапусьціць супрацоўніка, нават добра ведаючы яго ў твар, калі той забыўся пропуск).

Але ўжо парушэньне вызначаных законам правілаў афармленьня падпісных лістоў – гэта ўжо выглядала больш сур'ёзнай справай.

Такім чынам, камісія мела ўсе фармальныя маг-

чымасьці не зарэгістраваць Лукашэнку кандыдатам у прэзыдэнты.

Але абмеркаваньня сытуацыі Цэнтральнай выбарчай камісіяй не было – Абрамовіч папрасіў Лукашэнку навесьці парадак са сваёй прапіскай і прапанаваў зарэгістраваць яго кандыдатам.

Камісія праігнаравала парушэньні закону. Пройдзе зусім няшмат часу, і ўжо пры прэзыдэнце Лукашэнку кандыдатаў не ў прэзыдэнты – кандыдатаў у дэпутаты мясцовых саветаў будуць здымаць з рэгістрацыі за значна менш сур'ёзныя парушэньні пры афармленьні падпісных лістоў.

Чаму Абрамовіч і іншыя члены ЦВК не адмовілі Лукашэнку ў рэгістрацыі?

Хацелі, як выказвала меркаваньне «Свабода», «захаваць гонар мундзіру» (бо за некалькі тыдняў перад тым зарэгістравалі ініцыятыўную групу Лукашэнкі з такімі самымі парушэньнямі ў сьпісе групы)?

Магчыма.

Пабаяліся, што гэта выкліча абурэньне яго прыхільнікаў з усімі наступствамі?

Абурэньне – так, было б, але сур'ёзных наступстваў, тым больш у выглядзе нейкіх масавых акцыяў пратэсту не было б ніякіх, бо ніякай партыйнай структуры, здольнай арганізаваць такія акцыі, у Лукашэнкі не існавала. Да таго ж, чэрвень – ня самы лепшы месяц для масавых акцый нават для буйных партый. Самае большае – нехта зь ягоных зацятых, псыхічна неўраўнаважаных «фанатаў» (а такіх сярод зборшчыкаў подпісаў за Лукашэнку я бачыў), абвясьціў бы галадоўку ў будынку ЦВК (тады ўвесь час нехта абвяшчаў галадоўку ў дзяржаўных установах – так, у будынку Кантрольнай палаты гала-

даваў яе супрацоўнік, якому адмовілі палепшыць жыльлёвыя ўмовы). Былі б, канешне, гнеўныя заявы і інтэрвію самога Лукашэнкі і іншых «маладых ваўкоў». Лукашэнка, бясспрэчна, узьняў бы свой рэйтынг і ў арэоле «пакрыўджанага» трыюмфальна прайшоў бы ў Вярхоўны Савет наступнага, 13-га скліканьня. Гэта – верагодныя, але максымальныя вынікі магчымай нерэгістрацыі Лукашэнкі кандыдатам.

Канешне, з адлегласьці часу можна выказаць сур'ёзную прэтэнзію членам Цэнтравыбаркаму, што яны маглі прадухіліць усё тое, што потым адбылося ў Беларусі – але не зрабілі гэтага.

Але гэтак можна казаць сёньня. Тады такое было малаверагодна, і зусім не таму, што ў членаў ЦВК адсутнічаў талент прадбачаньня.

Каб зразумець гэта, трэба ўяўляць атмасфэру таго часу. Напрыклад, падпарадкаваны Кебічу дзяржаўны апарат не цураўся ніякіх мэтадаў барацьбы з апанэнтамі свайго патрона (акрамя забойства і арышту). Але сам Кебіч у дачыненьні да канкурэнтаў, калі казаць пра асабістыя адносіны, паводзіў сябе карэктна – не пагражаў, не зьневажаў і гэтак далей. Такі ўзровень адносінаў да апанэнта на асабістым узроўні вызнавалі і іншыя палітыкі.

Члены ЦВК фармальна не былі палітыкамі, хаця яны прызначаліся Вярхоўным Саветам, і «пракебічаўская» парлямэнцкая большасьць пастаралася, каб сярод іх не было сымпатызантаў Народнага Фронту. Але і ў іх захоўвалася разуменьне, што нельга рабіць удары «ніжэй поясу».

Праз год Віталь Цыганкоў слушна заўважыць, што Лукашэнка (як прэзыдэнт) істотна панізіў планку маральнасьці ў палітыцы, але тады, у 94-м,

планка гэтая трымалася на яшчэ даволі высокім узроўні.

Члены ЦВК на чале з Аляксандрам Абрамовічам палічылі, што парушана толькі нязначная фармальнасьць, што не дазваляе ігнараваць волю больш як 150 тысяч выбаршчыкаў, якія паставілі свае подпісы за Лукашэнку.

Прыстойнасьць перамагла закон.

Гэта тлумачэньне, якое ляжыць на паверхні. Магчымыя і іншыя, якія будуць лягічна зьвязвацца з тым, што пазьней Аляксандар Абрамовіч будзе прызначаны Лукашэнкам намесьнікам кіраўніка адміністрацыі прэзыдэнта. Альбо з прызнаньнем Кебіча ў мэмуарах, што на выбарах ён з Лукашэнкам змагаўся супраць агульнага ворага – «нацыяналістаў» з БНФ. А ў змаганьні, як вядома, чым болей паплечнікаў – тым лепей.

Як бы там ні было, але Лукашэнка быў зарэгістраваны кандыдатам.

А вось Генадзь Карпенка пакінуў паседжаньне без пасьведчаньня кандыдата ў прэзыдэнты.

# Як Карпенку выключылі з барацьбы

Той званок ад Генадзя Карпенкі ў траўні 94-га быў нечаканы.

І не таму, што вельмі рана (недзе а восьмай), а таму, што Карпенка ніколі мне дахаты не тэлефанаваў. Ён увогуле ніколі мне не тэлефанаваў. Размова была кароткая.

– Сяргей, прывітаньне, гэта Карпенка. Ты будзеш дома ў бліжэйшыя паўгадзіны?

– Так.

– Дык тады мы з Антончыкам падскочым.

– А што здарылася?

– Ды нічога асаблівага. Я тут подпісы дэпутатаў зьбіраю за сваё вылучэньне.

– Генадзь Дзьмітрыевіч, кажу як ёсьць: я ў камандзе Пазьняка, і Вы самі разумееце, што гэта будзе дрэнна выглядаць: і з тым, і з тым. Зразумейце мяне правільна.

– Сяргей, разумею. Няма праблемы.

У сваіх нататках я вельмі рэдка прыводжу наўпроставыя выказваньні – толькі тыя, якія памятаю дакладна. І якія гучаць ува мне з інтанацыяй, нібы пачуў іх толькі што. Іх ня так ужо шмат, і гэтая размова з Карпенкам – адзін з такіх дыялёгаў.

Сытуацыя для абодвух была ня самая прыемная: выглядала, што Карпенка прапаноўваў мне не зусім

джэнтэльмэнскі ўчынак, а я – адмовіў у просьбе, якая, у прынцыпе, мне нічога не каштавала.

І было б натуральным, калі б нашы адносіны пасьля гэтага зрабіліся кепскімі.

Але здарылася наадварот: якраз з гэтага моманту ў мяне пачалі складвацца добрыя стасункі з Карпенкам, бо да гэтага мы хіба толькі віталіся пры сустрэчах.

З Карпенкам у мяне сапраўды не было сяброўства, і доўгі час мы ў Апазыцыі БНФ не ўспрымалі яго як надзейнага патэнцыйнага партнэра. Трэба прызнаць, што сам Генадзь Дзьмітрыевіч даваў для гэтага падставы.

Успаміны часам маюць адну асаблівасьць: перанос цяперашніх ацэнак асобаў і падзеяў у мінулае і сьвядомае альбо ненаўмыснае іх скажэньне.

Так адбылося і з Карпенкам.

Праз дваццаць гадоў пасьля першых прэзыдэнцкіх выбараў пра Карпенку часам пішуць як пра страчаны шанец, як пра палітыка, які мог бы перамагчы Лукашэнку і быў бы непараўнальна лепшым за абранага прэзыдэнта. Першае – спрэчнае (а для мяне – дык адназначнае: Карпенка прайграў бы Лукашэнку, калі б выйшаў зь ім у другі тур, чаму – пра гэта ніжэй). А вось з другім цяжка не пагадзіцца. Але можна сьмела сьцьвярджаць, што ці ня кожны другі грамадзянін Беларусі быў бы лепшы за таго, хто атрымаў перамогу. Але гэта – з пазыцыі менавіта цяперашняй. Тады ж, вылучаючы кандыдатаў, палітычныя сілы выбіралі не выпадковага «другога сустрэчнага», а асобу, у якой яны былі ўпэўненыя.

У 1994-м такой упэўненасьці Генадзь Карпенка не даваў.

...Генадзь Карпенка быў абраны ў Вярхоўны Савет 12-га склíканьня з пасады дырэктара заводу парашковай мэталюргіі, што ў Маладзечне. У тым самым 1990-м годзе абараніў доктарскую дысэртацыю. Для 41-гадовага гэта была бліскучая кар'ера. Абраньне ж яго на першай сэсіі Вярхоўнага Савету старшынём парлямэнцкай камісіі па навукова-тэхнічным прагрэсе (што аўтаматычна рабіла яго членам Прэзыдыюму), вынесла яго на палітычны Алімп.

У 1991-м Карпенка ўзначаліў гарвыканкам Маладзечна, запрасіўшы ў намесьнікі Віктара Ганчара.

(У тым самым 1991 годзе Аляксандар Лукашук разам зь Юрыем Гарулёвым зьняў дакумэнтальны кінафільм «Дэпутаты», дзе галоўнымі героямі быў Карпенка, Ганчар і аўтар гэтых радкоў. Фільм прайшоў у кінатэатрах, потым яго паклалі на паліцу. Некаторыя эпізоды зь фільму часта выкарыстоўваюцца ў стужках і перадачах БТ, але, канешне, бяз нас. Цалкам гэты фільм за апошнія 20 гадоў не паказвалі.)

Карпенка стварыў самыя лепшыя ў Беларусі ўмовы для бізнэсу, менавіта ў Маладзечне (а ня Менску) былі зарэгістраваныя шмат якія найбуйнешыя ў краіне прыватныя фірмы. Карпенка перайменаваў вуліцы, ліквідаваўшы савецкія назвы. 25 сакавіка 1993 году ў горадзе быў адкрыты мэмарыяльны камень «Пакутнікам за волю і незалежнасьць Беларусі». У Маладзечне праводзіўся музычны і тэатральны фэстывалі.

У апошніх некаторыя бачылі памкненьне Карпенкі да самарэклямы, жаданьне «засьвяціцца» разам з эстраднымі ды тэатральнымі зоркамі.

Аднак кожную станоўчую ініцыятыву якога заўгодна палітыка можна аднесьці да самарэклямы, пытаньне ў тым, наколькі карысна гэта для грамадзтва. Напрыклад, «Славянскі базар» у Віцебску ад пачатку меў прарасейскую, праімпэрскую арыентацыю, у Маладзечне ж нічога падобнага не было. Гэта былі імпрэзы з выразна беларускім калярытам.

Словам, Карпенку можна было б назваць калі не ідэальным, дык узорным мэрам.

Але на агульнанацыянальнай палітычнай арэне, у парлямэнце, ягоная дзейнасьць падавалася супярэчлівай.

З 1991 году Карпенка ўзначаліў Партыю народнай згоды (ПНС), у якой на ключавых пасадах была пераважна намэнклятура «другога эшалёну». Працытую характарыстыку партыі, дадзеную ў дасьледаваньні «Трансфармацыя шматпартыйнай сыстэмы ў Беларусі» Галіны Дракахруст, Юрыя Дракахруста і Дзьмітрыя Фурмана. Яны пісалі, што яна была створаная «ў значнай меры “пад” яркую постаць свайго лідэра, дэпутата ВС, папулярнага мэра гораду Маладзечна Генадзя Карпенкі, якому тады прадракалі бліскучую палітычную будучыню. У яе ўвайшло шмат прадстаўнікоў кіруючай эліты, так бы мовіць, “сярэдняй рукі”, якіх адпуджваў радыкалізм БНФ і неабходнасьць у ім вучыць беларускую мову і якім не знайшлося “годнага месца” ва ўладных структурах. Хоць лідэры ПНС шырока карысталіся дэмакратычнай рыторыкай, ідэалёгія яе была абсалютна невыразнай. (Пасьля галоўны лідэр ПНС Г. Карпенка акажацца выгнаным зь яе шэрагаў, а шэраг лідэраў другога эшалёну стануць “паплечнікамі” Лукашэнкі)».



У Авальнай залі. Лявон Дзейка (з узьнятай рукой) і Генадзь Карпенка.

Усе тры гады, якія правёў Карпенка ў Вярхоўным Савеце перад прэзыдэнцкімі выбарамі, ён вагаўся паміж дэмакратамі і намэнклятурай. У 1991-м Карпенка прагаласаваў за Незалежнасьць, падтрымліваў большасьць заканадаўчых прапаноў Апазыцыі БНФ. Аднак у студзені 1994-га выказаўся за адстаўку Станіслава Шушкевіча з пасады старшыні Вярхоўнага Савету, а ў сакавіку падтрымаў увядзеньне ў Канстытуцыю разьдзелаў аб прэзыдэнцтве, супраць чаго выступаў Народны Фронт.

Пазыцыя Карпенкі шмат у якіх важных пытаньнях падавалася нам нявызначанай.

І тым ня менш, Народны Фронт не варожа паставіўся да прэзыдэнцкіх амбіцый Карпенкі: мы ведалі, што ён не рабіў нічога, што ставіла б пад пагрозу незалежнасьць Беларусі (у адрозьненьне ад Шушкевіча, які ў 93-ім і «рублёвую зону» пад-

трымліваў, і Дамову аб Калектыўнай бясьпецы СНД падпісаў).

Што, між іншым, абвяргае сьцьвярджэньні пра нібыта няздольнасьць Пазьняка да кампрамісаў.

Нідзе і ніколі ніхто зь лідэраў ці актывістаў БНФ не сказаў на адрас Карпенкі ніводнага дрэннага слова.

Пяць дэпутатаў Апазыцыі БНФ паставілі за Генадзя Карпенку свае подпісы.

Потым можна было сустрэць меркаваньне, што паміж БНФ і Карпенкам існавала дамова: дэпутаты ставяць подпісы, а ён дапамагае зьбіраць подпісы за Пазьняка ў Маладзечне. Гэта – няпраўда, ніякай дамоўленасьці не было. БНФ быў упэўнены, што зьбярэ подпісаў нашмат больш, чым патрэбныя для рэгістрацыі 100 тысяч. Так і атрымалася – сабралі 232 тысячы. Ставячы подпісы за Карпенку, дэпутаты Апазыцыі кіраваліся хутчэй асабістымі адносінамі (напрыклад, Сяргей Антончык быў ягоным найбліжэйшым сябрам, і было б дзіўна, калі б ён яму адмовіў).

У траўні 1994 году аналітычны выпуск інфармагенцтва «Павет» заўважаў:

«Некаторыя дэмакратычныя лідэры скептычна ацэньвалі шанцы Карпенкі пры зборы подпісаў. Рэйтынг Карпенкі паступова падвышаецца, але і палітыкі, і экспэрты лічаць, што перамога Карпенкі на цяперашніх выбарах малаверагодная. Аднак у яго вялікія шанцы стаць прэм’ерам у выпадку перамогі шмат каго зь цяперашніх кандыдатаў. Таму дэпутаты ахвотна падпісваюцца за ягонае вылучэньне ў прэзыдэнты, відавочна, чакаючы, што ў будучым Карпенка не забудзе іх падтрымкі. Апазыцыя ня мела намеру зьбіраць дэпутацкія под-

пісы за Пазьняка, і таму пяцёра дэпутатаў (Антончык, Беленькі, Голубеў, Заблоцкі, Зданевіч) таксама падпісаліся за Карпенку. Акрамя таго, за Карпенку падпісаліся восем дэпутатаў фракцыі Сацыял-дэмакратычнай Грамады (БСДГ) на чале зь лідэрам БСДГ Алегам Трусавым.

Аднак БСДГ падтрымлівае ў прэзыдэнцкай кампаніі Станіслава Шушкевіча.

Адносіны паміж Карпенкам і Шушкевічам выключна напружаныя вось ужо некалькі гадоў. Але, як гэта ні парадаксальна, электарат Шушкевіча, Карпенкі і Кебіча шмат у чым супадае. Прычына гэтага ў тым, што, пры рознасьці сваіх пазыцыяў, усе трое ва ўспрыманьні большасьці насельніцтва належаць да «памяркоўных» палітыкаў. Таму вылучэньне Карпенкі адымае частку галасоў патэнцыйных прыхільнікаў як Шушкевіча, гэтак і Кебіча. Пасьля таго, як выявілася, што Карпенка набраў неабходную колькасьць подпісаў дэпутатаў, у камандзе Шушкевіча пачалася паніка.

Дэпутаты БСДГ зьвярнуліся ў Цэнтральную выбарчую камісію з заявай, што яны адклікаюць свае подпісы за Карпенку. Адклікаў свой подпіс і Дзьмітры Булахаў (подпіс Булахава, які ўзначальваў ініцыятыўную групу па зборы подпісаў за Лукашэнку, быў са згоды Карпенкі заменены на подпіс Івана Ціцянкова. – С.Н.). Акрамя таго, у падпісным лісьце Карпенкі знайшоўся подпіс, аддадзены і за Вячаслава Кебіча (ён, паводле Закону, ня мае юрыдычнай сілы). Такім чынам, калі Цэнтральная выбарчая камісія прызнае права дэпутатаў адклікаць свае подпісы, у Карпенкі застанецца 68 подпісаў (неабходна 70). Дэпутаты БНФ ня будуць адклікаць свае подпісы.

Безумоўна, што і з 112 тысяч подпісаў грамадзян некаторая колькасьць будзе забракаваная. Калі колькасьць сапраўдных подпісаў будзе менш за 100 тысяч, дык Карпенка ня будзе зарэгістраваны кандыдатам у Прэзыдэнты.

Гэты варыянт будзе вельмі прымальны для Вячаслава Кебіча. Аднак наўрад ці выйгрыш, атрыманы Станіславам Шушкевічам, будзе большым, чым нэгатыўныя наступствы гэтага кроку. Ужо цяпер учынак БСДГ атрымаў асуджэньне ў дэмакратычных колах як прыклад «бруднай палітыкі». Учынак ацэнены таксама і як удар па і без таго нетрываламу адзінству дэмакратычных сілаў. Гэта кідае цень і на Станіслава Шушкевіча і вельмі аслабляе ягоны аўтарытэт у дэмакратычна арыентаванай часткі насельніцтва».

Гэты прагноз быў зроблены ў апошні тыдзень траўня 1994 году, за некалькі дзён да рэгістрацыі кандыдатаў у прэзыдэнты. Прагноз спраўдзіўся – у дзень рэгістрацыі Карпенка пазбавіўся магчымасьці балятавацца ў прэзыдэнты краіны.

Вось як разьвіваліся падзеі.

Калі на рэгістрацыі кандыдатаў 31 траўня чарга дайшла да Карпенкі, старшыня Цэнтравыбаркаму Аляксандар Абрамовіч паведаміў, што са 108 354 сабраных подпісаў сапраўднымі прызнаныя 93 472 – гэта значыць, неабходных для рэгістрацыі 100 тысяч подпісаў Карпенка не набраў. Адначасна з 78 дэпутатаў 14 дэпутатаў Вярхоўнага Савету адклікалі свае подпісы. Такім чынам, засталіся 64 подпісы – пры тым, што Закон патрабуе 70.

Абрамовіч назваў аргумэнты «за» і «супраць» таго, каб прызнаць права дэпутатаў на адкліканьне подпісаў. Выказаліся і некаторыя члены ЦВК.

На думку прысутных, большасьць членаў ЦВК схіляліся да таго, каб не рэгістраваць Карпенку. Зразумела, што вырашыць гэта магло толькі галасаваньне.

Але да галасаваньня не дайшло.

Нечакана Карпенка папрасіў слова і прачытаў заяву (адразу пасьля выступу ён даў мне копію, тэкст быў падрыхтаваны загадзя):

«Незалежна ад рашэньня, якое мусіць прыняць сёньня Цэнтральная выбарчая камісія, будзе яно для мяне станоўчым ці адмоўным, я загадзя здымаю сваю кандыдатуру, бо лічу, што як і ў палітыцы, так і ў жыцьці трэба падлічваць і карыстацца толькі *чыстымі* (курсіў Карпенкі – С.Н.) галасамі. Брудныя ж выкідаюць на сьметнік. Адпаведная пісьмовая заява з маім подпісам пададзена ў Цэнтральную выбарчую камісію да канца рэгістрацыйнага тэрміну кандыдатаў у Прэзыдэнты нашай Рэспублікі. Гэта заява афіцыйная, і хачу падкрэсьліць, што я дастаткова паважаю сябе самога, каб НІКОЛІ не адмаўляцца ні ад сваіх слоў, ні ад свайго подпісу. Шчыра дзякую членам ініцыятыўнай групы за працу. Шчыра дзякую народным дэпутатам, усім грамадзянам нашае Радзімы, хто сумленна паставіў свой подпіс у маю падтрымку. Нават у тым выпадку, калі па нейкай недарэчнасьці гэтыя подпісы былі абвешчаныя несапраўднымі. Дзякую за ўвагу».

Карпенка падаў аркуш паперы Абрамовічу. На гэтым прэзыдэнцкая кампанія 1994 году ў якасьці патэнцыйнага кандыдата для яго была скончаная.

«Мы толькі паспрабавалі, пройдзе час – і сваё возьмем», – сказаў мне праз пару дзён у буфэце гатэлю «Кастрычніцкая» кіраўнік штабу Карпенкі драматург Аляксей Дудараў.



... І ў канцы я б хацеў зрабіць наступную заяву:
незалежна ад рашэння, якое мусіць прыняць сёння Цэнтральная выбарчая камісія, будзе яно для мяне станоўчым ці адмоўным, я загадзя здымаю сваю кандыдатуру, бо лічу, што як і ў палітыцы, так і ў жыцці трэба падлічваць і карыстацца толькі ч ы с т ы - м і галасамі. Брудныя ж выкідаюць на сметнік. Адпаведная пісьмовая заява за маім подпісам будзе пададзена ў Цэнтральную выбарчую камісію да канца рэгістрацыйнага тэрміну кандыдатаў у Прэзідэнты нашай Рэспублікі. Гэта заява афіцыйная і хачу падкрэсліць, што я дастаткова паважаю самога сябе, каб н і к о- л і не адмаўляцца ні ад сваіх слоў, ні ад свайго подпісу.
Шчыра дзякую членам ініцыятыўнай групы за працу. Шчыра дзякую Др. дэпутатаў ўсіх грамадзян нашае Радзімы, хто сумленна паставіў свой подпіс у маю падтрымку. Нават у тым выпадку, калі па нейкай недарэчнасці гэтыя подпісы былі абвешчаны несапраўднымі.

Дзякую за ўвагу!

31.05.94.

Тэкст заявы Генадзя Карпенкі на пасяджэньні ЦВК.

Для Карпенкі гэтыя словы ня спраўдзіліся.

Хаця ацэнка адкліканьня подпісаў у дэмакратычнай супольнасьці была дадзеная адразу, да гэтага часу, як гэта ні дзіўна, так і ня быў зроблены аналіз дзеяньняў ні дэпутатаў, ні магчымых варыянтаў дзеяньняў самога Карпенкі.

Спачатку – пра дэпутатаў.

Адкліканьне подпісаў выклікала абвінавачаньне ў непрыстойнасьці. Я не зьбіраюся даваць ацэнкі менавіта ў гэтай, маральнай плоскасьці, але вось што прыкметна: за мінулыя пасьля першых прэзыдэнцкіх выбараў гады ў бок дэпутатаў з фракцыі БСДГ гучалі папрокі, што яны непрыгожа абыш-

ліся з Генадзем Карпенкам. Але ніколі не казалася, што да таго, як адклікаць подпісы за лідэра Партыі народнай згоды, дэпутацкая фракцыя БСДГ ужо зрабіла ўчынак, які ніяк нельга назваць прыкладам палітычнай пасьлядоўнасьці.

Увесь папярэдні час сацыял-дэмакраты ўваходзілі ў склад Апазыцыі БНФ, былі неаддзельнай яе часткай, мне было б нават цяжка сказаць, чым дэпутаты – сябры БСДГ адрозьніваліся ад «чыстых» франтаўцаў. Мы вызнавалі адзіныя палітычныя прынцыпы, выступалі з адзінай эканамічнай праграмай, разам працавалі над законапраектамі, прымалі сумесныя заявы.

Гэта была тая самая згуртаванасьць дэмакратычных сілаў, пра якую як пра неабходную ўмову перамогі дэмакратыі казаў Васіль Быкаў. Мы сумесна перажылі драматычныя падзеі жніўня 1991-га (і ў будучыні будзем разам у ноч з 11 на 12 красавіка 1995-га).

І таму маўклівая, ніякім чынам публічна не абгрунтаваная адмова фракцыі БСДГ падтрымаць на выбарах лідэра Апазыцыі БНФ Пазьняка і агітацыя за Шушкевіча (тым больш, што члены фракцыі бачылі стаўленьне Шушкевіча да апазыцыі ў папярэднія гады) – гэта было невытлумачальна.

Я не хачу апраўдваць «шараговых» дэпутатаў, але ў выпадку з Пазьняком мела месца партыйная дысцыпліна, выкананьне рашэньня кіраўніцтва партыі. Той самай прычынай тлумачылі дэпутаты – члены фракцыі БСДГ і адкліканьне подпісаў за Карпенку: рашэньне кіраўніцтва партыі. Таму палітычная адказнасьць за абодва дзеяньні найбольш кладзецца на лідэра партыі Алега Трусава. Але ў выпадку з Карпенкам яе павінен падзяліць

(прычым, магчыма, узяць на сабе большую частку гэтай адказнасьці) і той, у чыёй камандзе былі, на каго працавалі дэпутаты з фракцыі БСДГ – кандыдат у прэзыдэнты Станіслаў Шушкевіч.

Акрамя іншых ацэнак адкліканьня подпісаў, яно яшчэ зьвязвалася з імем Шушкевіча і давала магчымасьці для абвінавачаньня яго ў імкненьні выключыць з гульні суперніка, прычым выключыць ня самым прыстойным чынам.

«Як Вы ацэньваеце дэмарш спадара Трусава з адкліканьнем подпісаў?» – запыталася ў Станіслава Шушкевіча карэспандэнтка газэты «Белорусский рынок» Тацяна Манёнак. «Калі са мной на этапе збору подпісаў дэпутаты раіліся, я адказаў: калі б Карпенка да мяне зьвярнуўся, я б паставіў подпіс у яго падтрымку, – адказаў Шушкевіч. – Але, відаць, сам Карпенка палічыў гэта не зусім зручным. Калі ж пачалі пытацца, ці зьняць подпісы, я адказваў: “Прабачце, я ня раіў вам ставіць і не магу раіць здымаць”. Ня ведаю, навошта гэтыя маніпуляцыі рабіліся. Мне не зусім зразумелая пазыцыя многіх сацыял-дэмакратаў. Думаю, у іх асабістыя крыўды. Калі я правільна разумею, у Грамады і ПНС існуе дамоўленасьць, у якую яны мяне не пасьвячалі. Я заўсёды выказваўся на сходах – хай зьбіраюць подпісы за ўсіх дэмакратычных кандыдатаў. Але далей пачаўся нейкі гандаль. Я шчасьлівы, што ня маю да гэтага ніякіх адносінаў» («Белорусский рынок», № 24, 29 траўня – 4 чэрвеня 1994).

Такое тлумачэньне (дакладней, адмова ад яго), нежаданьне ўзяць на сабе адказнасьць за дзеяньне сваёй групы падтрымкі аднавіла традыцыйныя папрокі Шушкевічу ў тым, што ў яго альбо няма каманды зусім, альбо ён няздольны кантраляваць

«сваіх» людзей. Час пацьвердзіў першае: адразу пасьля выбараў каманда Шушкевіча распалася: Трусаў і дэпутаты БСДГ вярнуліся да Пазьняка, былы міністар унутраных спраў Ягораў і старшыня Нацбанку Багданкевіч пайшлі да Лукашэнкі.

Дзеля справядлівасьці трэба сказаць, што нешта падобнае адбылося і з камандай Карпенкі – яна рассыпалася. Большая частка намэнклятурных фігураў з Партыі народнай згоды пасьля выбараў апынулася ў Лукашэнкі.

На другі дзень пасьля рэгістрацыі аглядальнік «Звязды» Валянцін Жданко напісаў:

«У свой час спадар Карпенка ня раз у зале паседжаньняў дакараў экс-сьпікера (Шушкевіча – С.Н.) за тое, што не падабраў дастойнай каманды, акружыў сябе выпадковымі людзьмі, на якіх нельга спадзявацца... Парадаксальна, але і сам спадар Карпенка стаў ахвярай уласнай неабачлівасьці, паспадзяваўшыся на падтрымку тых, на каго – як паказаў ход падзей – яму ня варта было разьлічваць. Зрэшты, магчыма, гэта нейкая ўнутраная глыбінная ўласьцівасьць нашага дэпутацкага корпусу ўвогуле: спачатку прыняць рашэньні, потым адмаўляцца ад іх... Успомнім хоць бы гісторыю з абяцаньнем правесьці датэрміновыя парлямэнцкія выбары (дадзенае ўвосень 1992 году замест прызначэньня рэфэрэндуму, за які БНФ сабраў больш як 440 тысяч подпісаў – С.Н.) («Звязда», 1 чэрвеня 1994).

А вось як пракамэнтаваў сытуацыю газэце «Белорусская нива» сам Карпенка.

«Сытуацыя дастаткова простая. Яна тлумачыцца толькі маральнымі якасьцямі, думаю. Як самой ініцыятыўнай групы і яе старшыні таварыша Трусава, так і той кандыдатуры, якую яны падтрымліваюць

на будучых выбарах – Станіслава Станіслававіча Шушкевіча. Больш мне дадаць няма чаго. Я думаю, у гэтым брудзе мне разьбірацца няма патрэбы. Хай прэтэндэнт і тыя, хто яго падтрымліваюць, ідуць такім жа «шыхтом» наперад. З такімі прынцыпамі, з такой маральлю. Гэта іх справа.

– Вы лічыце, гэта з самога пачатку так задумвалася, альбо потым ужо пачаліся нейкія закулісныя гульні?

– Ведаеце, я не магу даваць ацэнку, як было. Я адно хачу сказаць: калі б той чалавек, які ўзначальвае маю ініцыятыўную групу, вядомы драматург Дудараў – а я ўвогуле не магу ўявіць, што ён мог бы нават падумаць пра гэта, ня тое што зрабіць – альбо калі б які заўгодна іншы член маёй ініцыятыўнай групы зрабіў такі крок адносна майго суперніка, я б прыклаў максымум намаганьняў для таго, каб ён альбо спыніў гэтую гульню, калі можна так назваць, альбо я б адмовіўся ад паслуг гэтага чалавека.

– А чым сам Алег Трусаў патлумачыў свой крок?

– Я не зьбіраюся зь імі гутарыць, яны мне проста нецікавыя.

– Дык яны проста падалі заяву ў камісію?

– Так, у Цэнтральную выбарчую камісію перадалі заяву наступнага зьместу: у сувязі з тым, што Карпенка набраў больш за сто тысяч подпісаў грамадзянаў, гэтыя дэпутацкія подпісы яны адклікаюць...

– Позна было шукаць ім замену? Вы ж, памойму, бязь цяжкасьцяў знайшлі б восем-дзесяць дэпутатаў.

– Я не хачу сказаць, што бязь цяжкасьцяў, але,

канешне, знайшоў бы. Таму што многія самі прапаноўвалі свае паслугі. Але ў гэтым не было неабходнасьці, паколькі было набрана дастаткова галасоў.

– Але тым больш, што і ў законе не агаворана адкліканьне подпісаў. Я думаю, што ўрэшце, улічваючы такую неардынарнасьць, дваістае становішча, Цэнтральная камісія магла б даць вам нейкі час для дадатковага збору дэпутацкіх подпісаў.

– Навошта? Я ніколі гэтым не скарыстаюся.

– А чаму?

– Гэта абсалютна ня трэба. Існуе працэдура: чалавек свабодна выканаў сваё волевыяўленьне, аддаў свой голас, і гэта рашэньне павінна лічыцца канчатковым. Так што я ня буду пускацца ў такія гульні. У працэдуры няма ніякага адкліканьня. Больш таго, у самім заканадаўстве напісана, што ў гэты пэрыяд я мог зьбіраць дэпутацкія подпісы. І многія дэпутаты мне іх прапаноўвалі, але я адмовіўся. Я думаю, ня трэба мне ўсё гэта, і лічу цалкам правільным, што не пайшоў гуляць у гэтыя гульні. Лічу, што Цэнтральная выбарчая камісія і цяпер павінна была прыняць рашэньне: падаў дэпутат свой голас – забраць яго назад ня мае права. А то некаторыя дэпутаты, у прыватнасьці, дэпутат Ваўчэцкі, піша, што ён, азнаёміўшыся з маёй праграмай, адклікае свой голас. Хай дэпутат Валчэцкі мне прабачыць, але я сваю праграму яшчэ нідзе не надрукаваў.

– А за каго цяпер вы самі будзеце галасаваць на выбарах і чаму? Калі гэта не сакрэт.

– Я асабіста магу сказаць, супраць каго буду галасаваць. Я лічу, што такія прэтэндэнты, як Шушкевіч, проста не павінны ісьці далей за кандыдата ў прэзыдэнты. Ён – пэнсіянэр, ён ужо паспрабаваў

сябе на гэтай пасадзе, даказаў. Вынік вядомы. Выказваньні яго пра тое, што «эканоміка – гэта не яго справа», пастаянна гучалі на сэсіі. Таму я думаю, што, сапраўды, і прэзыдэнцкія выбары – гэта таксама «не ягоная справа» («Белорусская нива», 3 чэрвеня 1994).

Такім чынам, на пытаньне журналіста, ці зьбіраецца ён адстойваць свае права балятавацца, Карпенка адказаў: не.

Ну а цяпер – ці мог Генадзь Карпенка паўплываць на рашэньне ЦВК? Ці не была яго заява (безумоўна, дасканалая з маральнага гледзішча) – заўчаснай капітуляцыяй, нават – праявай слабасьці?

Праявай слабасьці, я лічу, – не была, паколькі маральная пазыцыя ў палітыцы (на мой погляд) ёсьць праявай моцы.

Але я ня ўпэўнены, што лёс Карпенкі як кандыдата ў прэзыдэнты быў нагэтулькі перадвызначаны, як пра тое на другі дзень напісалі журналісты, маючы на ўвазе настроі большай часткі членаў ЦВК.

Па-першае, гэтыя настроі маглі зьмяніцца пасьля юрыдычных абгрунтаваньняў, зь якімі маглі б выступіць прадстаўнікі Карпенкі (лічылася, што кандыдату сябе самога абараняць нясьціпла).

І мне падаецца, такія аргумэнты можна было б знайсьці. Працэдура адкліканьня дэпутацкіх подпісаў не была прадугледжана ў Законе аб выбарах, і гэта магло быць аргумэнтам. Калі б ён ня быў прыняты як аргумэнт – можна было б апэляваць да таго, што калі законам гэта не прадугледжана, трэба спасылацца да прынцыпу прэцэдэнту. Паколькі гаворка ідзе пра дэпутатаў, варта апэляваць да «закону», які рэгулюе працэдуры галасаваньня

дэпутатамі ў Вярхоўным Савеце – Часовага Рэглямэнту (сталы Рэглямэнт ВС так і ня быў прыняты). Заканадаўчае рашэньне прымаецца тады, калі за яго галасуе неабходная колькасьць дэпутатаў. З гэтага моманту (у першым альбо ў другім чытаньні) рашэньне лічыцца прынятым. І калі адзін альбо, напрыклад, дваццаць дэпутатаў зьмянілі сваю пазыцыю – гэта ўжо ніяк не ўплывае на правамоцнасьць рашэньня: закон альбо пастанова ўступаюць у сілу. Іх воля была выяўленая ў момант, калі яны націснулі кнопку на пульце для галасаваньня альбо ўкінулі ў скрыню бюлетэні. Каб зьмяніць рашэньне, яны павінны распачаць працэдуру зьмены закону – з унясеньнем пытаньня ў парадак дня сэсіі, першым, другім чытаньнем, абмеркаваньнем, галасаваньнем і гэтак далей.

У Часовым Рэглямэнце Вярхоўнага Савету працэдура зьмены заканадаўчых рашэньняў была прапісаная, у Законе аб выбарах прэзыдэнта працэдура адкліканьня подпісаў – не. Але па аналёгіі, можна было апэляваць да таго, што падпісаньне дэпутатам ліста за вылучэньне кандыдата можна лічыць канчатковым волевыяўленьнем дэпутата, якое ня можа быць перагледжанае.

Зусім ня факт, што такога кшталту аргумэнты былі б прынятыя Цэнтральнай выбарчай камісіяй. Але ў інтарэсах Карпенкі іх варта было б прывесьці. Хаця б – пазмагацца. Гэтак, як змагаўся за сваю рэгістрацыю Лукашэнка, у якога ў падпісных лістах былі відавочныя парушэньні закону. Аднак ні Карпенка, ні ягоныя давераныя асобы гэтага не зрабілі.

«Карпенка мог судзіцца з ЦВК, але не пажадаў. Магчыма, ён проста паленаваўся», – напіша пазь-

ней у сваёй кнізе Аляксандар Фядута («Александр Лукашенко. Политическая биография», с. 144).

Гэтую заўвагу ўдакладніць Уладзімер Някляеў:

«У Карпенкі была магчымасьць праз суд змусіць ЦВК зарэгістраваць яго кандыдатам у прэзыдэнты, дабіцца ўдзелу ў прэзыдэнцкіх выбарах. Ва ўсякім разе паспрабаваць гэта зрабіць. Ён ня стаў займацца гэтым – і менавіта праз сваё сібарыцтва. А яшчэ праз свой амаль клясычна беларускі, а значыць, ня надта рашучы і недастаткова амбіцыйны характар» («Наша Ніва», 12.09.2012).

Трэба прызнаць, што доля ісьціны ў гэтых ацэнках ёсьць: неабходнай для кандыдата (а затым і прэзыдэнта) рашучасьці Карпенка тады ня выявіў.

І гэта (у тым ліку – гэта) дало падставы выказваць сумневы, а ці быў Карпенка палітычна і псыхалягічна гатовы да пасады кіраўніка дзяржавы ў 1994 годзе.

Апісваючы эпізод з адкліканьнем подпісаў, Аляксандар Фядута піша: «Кампанію арганізаваў Алег Трусаў, які добра разумеў, што Карпенка здольны адцягнуць добрую траціну галасоў яго кандыдата. Тут пачалі мітусіцца ўсе астатнія. Адным супернікам меней – вось слаўна ж будзе!» (с. 143).

Гэта – няпраўда. Ня «ўсе» мітусіліся. У тыя дні прэса адзначала, што найбольш прыстойна паводзілі сябе дэпутаты БНФ. Ніводзін з дэпутатаўфронтаўцаў не адклікаў свайго подпісу.

Магчыма, такія паводзіны былі таксама адной з прычынаў, чаму ўжо празь некалькі дзён пасьля пасяджэньня ЦВК Карпенка далучыўся да каманды Пазьняка.

Нейкага ўдзелу ў выбарчай кампаніі Пазьняка

Карпенка не прымаў (нават ухіліўся ад удзелу ў прамым тэлеэфіры). Але ўжо сам па сабе факт падтрымкі лідэра Народнага Фронту быў, я лічу, істотным.

Мне падаецца, што тая гісторыя з подпісамі прымусіла Карпенку шмат што пераасэнсаваць. Можа быць – і нешта ў сваім характары. Паступова ён пазбаўляўся ад, як сказаў Някляеў, сібарыцтва (а я б ужыў слова «непасьлядоўнасьць»), ад усяго таго, што, найбольш у псыхалягічным сэнсе, перашкодзіла яму дамагчыся рэгістрацыі на выбарах і (калі б уявіць, што ён зарэгістраваны і нават выйшаў у другі тур) не дазволіла б яму на тэлевізійных дэбатах выглядаць больш моцным, чым Лукашэнка. Паўтаруся: выбары 1994 году Карпенка, па маім глыбокім перакананьні, адназначна б прайграў.

На мой погляд, ідэальным варыянтам для 1994 году быў бы прэзыдэнт Пазьняк, іншага я як ягоная давераная асоба на тых выбарах не ўяўляў тады і не ўяўляю цяпер. Менавіта ён мог пасьлядоўна правесьці неабходныя першапачатковыя палітычныя ды эканамічныя рэформы і, што самае важнае, умацаваць дзяржаўнасьць – на фоне «слабога» Ельцына пэрыяду 1994-1999 гадоў, у якога не было імпэту ўводзіць «зялёных чалавечкаў» (яму хапала Чачні).

Але, як сьведчыць досьвед усходнеэўрапейскіх і балтыйскіх краінаў, пасьля радыкальных рэформаў людзі настальгуюць па мінулым. І вось тут надышоў бы час Карпенкі, які б мог перахапіць ініцыятыву ў камуністаў і імпэрцаў, ня даўшы іх прадстаўніку заскочыць у прэзыдэнцкае крэсла. І больш павольнымі тэмпамі, чым лідэр БНФ, але вёў бы краіну па дэмакратычных рэйках.

Вось такая пасьлядоўнасьць: спачатку – Пазьняк, потым – Карпенка, – бачыцца мне аптымальнай. Ну а потым прыйшла б чарга маіх равесьнікаў, тых, каму ў 1994-м было 30-35.

...У 1995 годзе мы ўтрох (Пазьняк, Карпенка і я) правялі прэсавую канфэрэнцыю з ацэнкай дзейнасьці спэцслужбаў, якія ператварыліся ў элемэнт рэпрэсіўнага мэханізму. Вынікам была нэрвовая заява аддзелу грамадзкіх сувязяў КДБ: «Мы не зьбіраемся займацца палітычным вышукам». У 1996-м Карпенка быў абраны віцэ-сьпікерам Вярхоўнага Савету, браў удзел у мітынгу 24 сакавіка каля Опэрнага тэатру (у той дзень менавіта прадстаўленьня эфіру яму і Пазьняку патрабавалі тыя, каго спэцназ жорстка зьбіў каля тэлецэнтру на Камуністычнай). Увосень у Авальнай залі Карпенка за каўнер сьцягнуў з трыбуны афіцыйнага прадстаўніка Лукашэнкі.

Апошні раз мы бачыліся зь ім у лютым 1999-га ў Празе. Ён даволі рэзка выказваўся на адрас свайго былога намесьніка па маладзечанскім выканкаме Віктара Ганчара, дый на адрас кіраўніцтва Грамадзянскай партыі, якую ўзначальваў, не шкадаваў вызначэньняў (паплечнікі зрабілі стаўку не на яго, а на Міхаіла Чыгіра). Сумняваўся, ці варта яму браць удзел у так званых «альтэрнатыўных» выбарах. Пазьней Аляксей Кароль распавёў, што, вяртаючыся з Прагі, Карпенка сказаў яму пра канчатковае рашэньне: у ініцыяванай Ганчаром кампаніі ўдзельнічаць ён не зьбіраецца. Карпенка распытваў у мяне пра Зянона Пазьняка і Васіля Быкава, я даў яму іх каардынаты ў Варшаве і Хэльсынкі (у сакавіку Карпенка наведаў Быкава ў Фінляндыі і Пазьняка ў Польшчы). А ў перадапошні вечар

у Празе мы пайшлі ў Навамесцкі півавар на Водзічкавай вуліцы, потым я правёў яго да гатэлю – але ў гутарцы абышлі квартал разоў дзесяць, а мо і болей. Разьвіталіся а другой гадзіне ночы. Дамовіліся, што калі не сустракацца, дык перазвоньвацца будзем рэгулярна.

«Карпенка прыязджаў да мяне ў Варшаву і, абураны дзеяньнямі Ганчара-Чыгіра, прапанаваў мне супрацоўніцтва. Мы дамовіліся, што 31 сакавіка ён прыедзе ў сядзібу БНФ у Менску на сустрэчу з кіраўніцтвам Народнага Фронту, дзе будзе заключана афіцыйнае пагадненьне аб супрацоўніцтве, прынятая дэклярацыя і пададзена ў сродкі масавай інфармацыі. 31 сакавіка Карпенка не прыехаў», – прыгадвае Зянон Пазьняк.

У той дзень, 31 сакавіка, Карпенку зрабілася кепска пасьля таго, як на сустрэчы з журналісткай (якая ў той момант не працавала ні ў якім СМІ) ён паддаўся на настойлівыя прапановы глынуць кавы. Карпенка страціў прытомнасьць і 6 красавіка памёр. Афіцыйны дыягназ – інсульт.

# Як Быкава не пускалі на плошчу Перамогі

Разгубленым Васіля Быкава я бачыў толькі двойчы. І не ў 2003-м у Празе, калі ён распавёў пра вэрдыкт анколягаў. А ў Менску, у 1994-м, на плошчы Перамогі. Перамогі ў той вайне, праўду пра якую ён сказаў сьвету.

...Камуністычная ўлада зьнішчала ў беларускага народу ўсялякую памяць пра часы нацыянальнай велічы, руйнуючы храмы і замкі, даючы свае назовы плошчам і вуліцам, напаўняючы хлусьнёй падручнікі па гісторыі. Затое яна, гэтая ўлада, не шкадавала сілаў і сродкаў для нагадваньня пра апошнюю вайну, якую Сталін назваў Вялікай Айчыннай. Сталін жа зьвязаў перамогу ў той вайне з кіруючай роляй камуністычнай партыі.

Большасьць людзей ня надта задумвалася, хто ж быў вінаваты ў катастрафічных стратах першых месяцаў вайны, чаму, калі амэрыканскія ці брытанскія саюзьнікі берaглі жыцьцё кожнага салдата – чырвоныя камандзіры і камісары пасылалі на бессэнсоўную сьмерць сваіх падначаленых тысячамі. Беларус ці ўкраінец мог запытацца, чаму ж, здаўшы немцам тэрыторыю разам зь людзьмі на некалькі гадоў – савецкая ўлада потым жорстка (аж да расстрэлаў) карала тых, хто пры акупацыйнай уладзе вучыў дзяцей? А нават – і ўсумніцца, ці патрэбныя

былі партызанскія дзеяньні, калі за аднаго забітага нямецкага афіцэра маглі спаліць цэлую вёску? Шмат пытаньняў мог задаць савецкі чалавек, але не запытваўся – яго адвучылі. На 9 траўня ўсё патанала ў грукаце прапагандысцкіх літаўраў. Ну, а тыя, зусім нешматлікія, хто, як Васіль Быкаў, шукалі і знаходзілі ісьціну – бязьлітасна цкаваліся.

З падзеньнем камуністычнага рэжыму ў стаўленьні ўладаў да апошняй вайны не зьмянілася нічога.

Але мы ў БНФ лічылі, што ідэйныя спадкаемцы Сталіна не павінны трымаць манаполію на памяць.

У траўні 1992 году кіраўніцтва БНФ вырашыла ўзяць удзел у афіцыйных сьвяткаваньнях дня Перамогі. Гэта паказала б грамадзтву, што перамога – гэта не манаполія намэнклятурна-камуністычнай сыстэмы, якая на першым годзе беларускай Незалежнасьці ўсё яшчэ заставалася нязьменнай.

Ускладаньне кветак да «вечнага агню» на плошчы Перамогі было цэнтральнай падзеяй, якая за шмат гадоў аформілася ў традыцыю: спачатку ішло кіраўніцтва ЦК на чале зь першым сакратаром, затым – Вярхоўнага Савету, Савету міністраў і гэтак далей. У 1992 годзе ўпершыню ЦК не было: пачынаць цырымонію меліся старшыня Вярхоўнага Савету Станіслаў Шушкевіч з членамі Прэзыдыюму ВС (гэты орган ужо пасьпеў аформіцца ў своеасаблівае Палітбюро). Паводле клясычных нормаў, кіраўнікі фракцый уваходзяць у кіраўніцтва парлямэнту – у нас, натуральна, гэтага не было. Чакаць, што Шушкевіч запросіць Пазьняка далучыцца да групы Вярхоўнага Савету, было наіўна – ніякіх гэткіх ініцыятываў Станіслаў

Станіслававіч не выяўляў. І я пачаў высьвятляць, якім чынам можна было б уключыць групу БНФ, некалькі дзясяткаў чалавек, у агульную калёну. Урэшце, выявілася, што арганізацыяй шэсьця кіруе намесьнік старшыні Менгарвыканкаму Аляксандар Сасноўскі.

Я патэлефанаваў Сасноўскаму, але ён катэгарычна адмовіўся дадаваць прадстаўнікоў БНФ у калёну для ўскладаньня кветак. «Вось пройдзе ўся цырымонія – тады можаце ўскладаць».

Сасноўскі, былы партыйны функцыянэр, імгненна сьцяміў, чым невыгодны для ўлады ўдзел актывістаў Народнага Фронту ва ўшанаваньні памяці загіблых. У той раз мы ў Фронце проста павіншавалі сваіх вэтэранаў – сярод іх былі пісьменьнікі Васіль Быкаў і Артур Вольскі, філёзаф Мікалай Крукоўскі. Гэтак рабілі і ў наступным годзе.

Але ў траўні 1994-га, калі ўжо пачалася кампанія па выбарах прэзыдэнта, вырашылі выйсьці на плошчу.

Раніцай 9 траўня мы сабраліся ў штаб-кватэры БНФ на Варвашэні, 8. Васіль Быкаў быў бяз ордэнаў, але некаторыя нашы «фронтаўскія» вэтэраны прымацавалі свае баявыя ўзнагароды. Невялічкай групай рушылі ў бок Плошчы Перамогі. Калі падышлі, убачылі, што плошча ўзятая ў ланцуг АМАПаўцаў.

Нас спынілі.

«Падышла група невядомых асобаў у колькасьці прыблізна пяцідзесяці чалавек», – перадаў камусьці па рацыі міліцэйскі афіцэр.

– Гэта Васіль Быкаў, – сказаў я афіцэру. – Чулі пра такога?

Афіцэр маўчаў.

– Ну ў такім разе вось я і Зянон Пазьняк – дэпутаты Вярхоўнага Савету, паводле нашага статусу Вы нас ня маеце права затрымліваць, – працягваў я ціснуць на афіцэра.

Афіцэр нешта прабубніў у сваю рацыю, і перад намі зьявіліся некалькі АМАПаўцаў.

– Я не магу прапусьціць, пакуль ня скончыцца афіцыйная цырымонія.

Для перамоваў з больш высокім начальствам нашая група вызначыла двух дэпутатаў – дэпутата Менскага гарсавету Галіну Вашчанку і мяне. Аднак перамовы нічога не далі.

У гэты момант кветкі да помніка Перамогі ўсклалі старшыня Вярхоўнага Савету Мечыслаў Грыб, яго намесьнікі і члены Прэзыдыюму Вярхоўнага Савету.

Потым – і старшыня Савету міністраў Вячаслаў Кебіч, яго намесьнікі і міністры.

Потым кветкі ўсклалі кіраўнікі арганізацыі вэтэранаў вайны і працы.

Потым – генэралы зь Міністэрства абароны.

Пасьля генэралаў – кіраўнікі Менскага гарвыканкаму і райвыканкамаў.

Потым – кіраўнікі розных арганізацый.

Потым, як пазьней напіша карэспандэнт Белінфарму, «аддаючы воінскія ўшанаваньні, па пляцоўцы цырыманіялаў прайшла рота ганаровай варты Менскага гарнізону».

І толькі пасьля ўсяго гэтага міліцыя дазволіла прайсьці да «вечнага агню» Васілю Быкаву і групе вэтэранаў-членаў Народнага Фронту.

На другі дзень Васіль Быкаў напісаў невялікі артыкул, у якім упершыню было сказана пра «прыватызацыю» Перамогі. Артыкул быў надрукаваны

ў газэце «Свабода» і з таго часу, наколькі магу меркаваць, не перадрукоўваўся.

«Адразу ж, як скончылася другая сусьветная вайна, Сталін у вядомай прамове даў ацэнку вялікай перамогі. Тады ён забыўся ўжо на сваю нядаўнюю разгубленасьць, на вялікі сумнеў у вартасьці Чырвонай арміі, што дружна бегла на ўсход, як тады па ўсіх швах трашчала савецкая ўлада; змоўчаў, ня стаў абгрунтоўваць свой нечаканы зварот да фундамэнтальных ідэяў расейскага нацыяналізму: афіцэрскіх званьняў, залатых пагонаў, ліквідацыі т. зв. інстытуту паліткамісараў, звароту дваранска-імпэрскай славы Суворава-Кутузава. Крывавую перамогу над нямецкім фашызмам ён прыпісаў выключна мудрасьці ВКП(б), правільнасьці савецкай вайсковай навукі, адданасьці сацыялістычнаму ладу. На вушы нядаўніх франтавікоў было дзіўнавата слухаць тое. Але яны слухалі і маўчалі: высновы правадыра народаў былі вышэй за вайну, за ісьціну, – вышэй за жыцьцё.

Нешта падобнае адбываецца і зараз, напрыканцы XX стагодзьдзя, у, здавалася б, зусім новых грамадзка-палітычных умовах. Перамогу над фашызмам імкнуцца прыватызаваць з гэткім жа посьпехам, як прыватызуецца ўсё астатняе. Народу ж прапануецца звыклая, спрацаваная дэмагогія з колішняга «блякнота агітатара», задача якой (па словах Салжаніцына) – пераканаць, «як рускі Іван бег на вайну, каб хутчэй аддаць жыцьцё за радзіму, і як цяжка было генэралам вадзіць пальцам па карце». Зноў найбольшым арганізатарам перамогі становяцца камісары і паліторганы, пра герояў якіх звычайна пішуць, што яны «прайшлі вайну ад званка да званка і вырасьлі ў званьні ад радавога

да палкоўніка». Так, мелі магчымасьць вырасьці ў званьнях і атабарыцца на «хлебных пасадах» пасьля вайны. Але ці ня варта хоць бы ў дзень Перамогі ўспамінаць, хто застаўся ў братніх магілах, густа раскіданых ад Віслы да Эльбы, і ліку якіх дагэтуль няма ні ў статыстыцы, ні ў гістарыяграфіі? А іхныя ўцалелыя равесьнікі дажываюць свой век у галечы і паняверцы, нярэдка пазбаўленыя права па-людзку ўшанаваць памяць аднапалчанаў. Гэта ганьба, калі на іхнім шляху да магілаў вырастаюць ланцугі крутаплечых амонаўцаў, як гэта было сёлета ў Менску. За плячыма амону, вядома ж, уладарныя пераемнікі абстарэлай сталінскай «славы», што і дагэтуль імкнуцца жыць на ейныя крэдыты. Здаецца, у вайсковых адносінах Беларусь усё меней робіцца эўрапейскай краінай і ўсё болей спаўзае да вобразу лацінаамэрыканскага дзяржаўнага стварэньня.

Тое, што прынята называць Вялікай Айчыннай вайной, на справе было часткай (нашаю часткай) вялікай і сьвятой барацьбы сусьветнай хрысьціянскай супольнасьці супраць сярэднявечнага звыродства. У гэтай барацьбе ўдзельнічалі дзясяткі нацыяў і палітычных партыяў, як ніколі згуртаваных вакол адзінай ідэі – свабоды і непадлегласьці. Самы жахлівы на той час вораг быў пераможаны, але застаўся другі, ня меней жахлівы, які цынічна скарыстаў зручны момант узвысіцца на той перамозе. Ён і да сёньня спрабуе тое, састарэлы, з падарваным здароўем, ідэйна збанкрутаваны, матэр'яльна абнішчаны, з выпаўшымі, абкрушанымі ікламі, але поўны ранейшай рашучасьці ня выпусьціць з тых іклаў-абломкаў сваю ахвяру. Ахвяра гэтая – свабода чалавецтва, якое па-ранейшаму ведае адно: усё тры-

ваць і ня памятаць сваёй крыўды. 11 траўня 1994 г. («Свабода», 11 траўня 1994).

Быкаў быў даверанай асобай Пазьняка (усяго ЦВК зарэгістраваў па дваццаць давераных асобаў у кожнага кандыдата) і ўдзельнічаў у кампаніі – хаця мы ашчаджалі яго сілы, як і іншых немаладых людзей. Удзельнічаў Васіль Уладзімеравіч і ў сходзе вэтэранаў-адраджэнцаў, пра які парлямэнцкая «Народная газэта» зьмясьціла такую інфармацыю:

«Днямі ў Менску адбыўся сход сяброў Беларускага дэмакратычнага аб'яднаньня вэтэранаў. Удзельнікі сходу, абмеркаваўшы палітычную сытуацыю ў краіне і сацыяльна-матэрыяльны стан грамадзян, а таксама прааналізаваўшы праграмы кандыдатаў на пасаду першага Прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь і дзейнасьць прэтэндэнтаў да перадвыбарчай кампаніі, аднагалосна вырашылі падтрымаць кандыдатуру Зянона Пазьняка.

Сход, як гаворыцца ў пастанове, бачыць у асобе Зянона Станіслававіча Пазьняка мужнага палітыка, які валодае дарам стратэгічнага бачаньня разьвіцьця грамадзтва. Праграма З. Пазьняка грунтуецца не на мітах і беспадстаўных абяцанках, а абапіраецца на рэсурсы нашай Бацькаўшчыны і ўзаемавыгаднае супрацоўніцтва зь іншымі як блізкімі, так і далёкімі дзяржавамі.

Вэтэраны-дэмакраты лічаць, што, калі З. Пазьняк стане Прэзыдэнтам, Рэспубліка Беларусь атрымае спрыяльныя ўмовы для выйсьця з глыбокага палітычнага і эканамічнага крызісу, а яе вышэйшае кіраўніцтва будзе выкарыстоўваць уладу не дзеля ўласнай нажывы, а ў інтарэсах усіх грамадзян Рэспублікі Беларусь. Артур Вольскі, старшыня Цэнтральнай рады Беларускага дэмакратычнага

аб’яднаньня вэтэранаў. («Народная газета», 18–20 чэрвеня 1994).

9 траўня Быкава і вэтэранаў-«фронтаўцаў» да помніка Перамогі не прапусьціла міліцыя, падуладная Кебічу.

Праз два месяцы, ужо пасьля першага туру выбараў, калі ўжо вызначыўся пераможца (Лукашэнка) на шляху Быкава і вэтэранаў-«фронтаўцаў» паўстала ўжо дзевяць ланцугоў міліцыі. Разам зь імі былі актывісты пракебічаўскага «Саюзу афіцэраў», а таксама маладзёны ў чорных кашулях са Славянскага Сабору «Белая Русь», гэтыя – прыхільнікі будучага гаспадара краіны.

У канцы чэрвеня мы з рэдактарам «Свабоды» дэпутатам Ігарам Герменчуком абедалі на другім паверсе гатэлю «Октябрьская» у невялікай «дэпутацкай» рэстарацыі. За суседнім столікам сядзелі Лукашэнка і некалькі ягоных «ваўкоў» – Сініцын, Булахаў, яшчэ нехта.

Мы не размаўлялі з суседняй кампаніяй – не было патрэбы. Але, калі ўжо разьлічыліся з афіцыянтам і пакідалі залю, Ігар зьвярнуўся да Лукашэнкі:

– Саша, у нас ёсьць зьвесткі, што твае тыпы са «Славянскага сабору» зьбіраюцца ўчыніць правакацыю на плошчы супраць нашых вэтэранаў.

– Дык а вы не паддавайцеся на правакацыі! – адказаў Лукашэнка; ягоная кампанія зарагатала.

Яшчэ раней мы вырашылі ўскласьці кветкі да помніка Перамогі 3 ліпеня, у дзень, які адзначаўся як 50-я гадавіна вызваленьня Беларусі ад фашысцкай акупацыі. Вырашылі ісьці вялікай калёнай. Ведалі, што гэта не спадабалася пракамуністычнаму «Саюзу афіцэраў» і Славянскаму Сабору «Белая Русь».

Абедзьве арганізацыі ўваходзілі ў склад створанага насуперак БНФ супрацоўнікам апарату Савету міністраў Сяргеем Гайдукевічам «Народного движения Беларуси». Абедзьве арганізацыі адкрыта выступалі з прарасейскіх, імпэрскіх, шавіністычных, антыбеларускіх, антынацыянальных пазыцый, заяўляючы, што Беларусь не павінна існаваць як дзяржава. Некаторыя актывісты Славянскага Сабору (яго яшчэ называлі «СС Белая Русь») апраналіся ў чорныя кашулі; у падземных пераходах, ля «Камароўкі» адкрыта, не баючыся міліцыі, прадавалі шавіністычныя і антысэміцкія газэткі. Але і не было ў іх ніякай патрэбы баяцца – бо мелі высокіх абаронцаў.

У красавіку 1994 году актывісты «СС Белая Русь» зьбіралі подпісы за вылучэньне кандыдатам у прэзыдэнты Лукашэнкі, аднак на нейкім этапе ў Саўміне ачунялі і спалохаліся, Гайдукевіч даў «адбой», і подпісы ў ЦВК не былі здадзены. Што, праўда, не перашкодзіла актывістам Славянскага Сабору падтрымліваць Лукашэнку ў часе выбарчай кампаніі.

Пра тое, што адбылося 3 ліпеня 1994 году, на праспэкце Скарыны каля плошчы Перамогі, я ў той самы дзень напісаў артыкул «Камунафашысты ізноў прагнуць крыві», які надрукавала «Народная газэта». Зьмяшчаю тут гэты тэкст; некаторыя вызначэньні могуць падацца празьмерна патаснымі, але яны перадаюць тагачасныя адчуваньні (тэкст я напісаў за пару гадзінаў).

## Камунафашысты ізноў прагнуць крыві

«Дзень вызваленьня ад гітлераўскіх фашыстаў – сьвяты дзень для кожнага, каму дарагая Беларусь.

Зрэшты, у кожнага грамадзяніна Беларусі з той вайной зьвязана і нешта асабістае. Нават для нас, хто нарадзіўся на шмат гадоў пазьней перамогі. Для мяне – таксама. Мая бабуля загінула ў першыя дні вайны пад Магілёвам. Абодва дзяды ваявалі салдатамі, мелі баявыя ўзнагароды. Разумею, што адчуваюць у такія дні вэтэраны.

9 мая гэтага году перад калёнай Народнага Фронту, у якой быў Васіль Быкаў, у якой былі іншыя вэтэраны, – паўстаў атрад АМОНу. Людзі з баявымі ўзнагародамі пад дзяржаўнымі сьцягамі чакалі, пакуль чыноўнікі Саўміну пад сьцягамі неіснуючай краіны адбудуць цырыманіял.

Пасьля нам сказалі: «Вы не далі заяўкі».

На гэты раз Менгарвыканкам усё ж даў афіцыйны дазвол калёне Народнага Фронту прайсьці ад плошчы Незалежнасьці да помніка Перамогі і ўскласьці кветкі.

Але неверагодная подласьць перашкодзіла гэтаму.

А дзясятай гадзіне раніцы мы сабраліся ля Дома ўраду. Побач фармавалася калёна пад сьцягамі БССР і СССР. Дарэчы, на выхадзе з мэтро сустрэў Васіля Новікава – сакратара ЦК камуністаў, экс-кандыдата ў прэзыдэнты. Ён, як памятаеце, казаў прыгожыя словы пра грамадзянскі мір. Я падаў яму руку, павіншаваў з днём вызваленьня. Думаў, што гэта агульнае наша сьвята. Аказваецца, я памыляўся.

Наша калёна рушыла адразу за камуністамі. Яны

несьлі сьцягі СССР і БССР (прыдуманы, дарэчы, у 1951 годзе). Уразіла, што напярэдадні, падчас урачыстага пасяджэньня ў Палацы спорту ў залі не было ніводнага дзяржаўнага сьцяга. Акрамя значкоў у дэпутатаў Апазыцыі, тых, хто ўваходзіць у дэмклюб, на якіх большасьць прысутных пазірала зь непрыхаванай нянавісьцю і злосьцю.

Мы крочылі да помніка Перамогі пад дзяржаўнымі сьцягамі Беларусі і краін антыгітлераўскай кааліцыі – Вялікабрытаніі, ЗША, Францыі. Лунаў і польскі сьцяг – на зямлі нашых заходніх суседзяў пачалася Другая сусьветная вайна.

Вэтэраны (некаторыя ўзялі з сабой унукаў) ішлі поруч з маладымі дзяўчатамі, юнакамі, дэпутатамі апазыцыі. Людзі на тратуарах усьміхаліся, сьпявалі, падносілі вэтэранам кветкі, шмат хто далучаўся да калёны. На Цэнтральнай плошчы, ля Дому афіцэраў, нас спыніла міліцыя.

– Пачакайце! – загадаў афіцэр. – Пачалася афіцыйная цырымонія ўскладаньня кветак, там Кебіч і Чарнамырдзін.

Было незразумела – чаму не пускаюць людзей, якія ваявалі? Тым больш, што меўся афіцыйны дазвол.

Мы рушылі наперад, але на перакрыжаваньні праспэкту Скарыны і вуліцы Купалы шлях перакрылі шэрагі міліцыянтаў-курсантаў. Яны сталі шчыльнымі ланцугамі, узяўшы адзін аднаго пад локці. Маладыя хлопцы. Некаторыя сарамліва хавалі вочы – бачылі, што наперадзе дэпутаты. Дарэмна дэпутаты Вярхоўнага Савету спрабавалі даказаць, што ёсьць афіцыйны дазвол, што хлопцаў штурхаюць на правакацыю, што нельга прымяняць сілу да старых людзей.

Курсанты пачалі адціскаць калёну, упёршыся ў грудзі Васілю Быкаву, Рыгору Барадуліну, вэтэранам, дэпутатам...

– Не пускать! Поднажми! – чуліся добра пастаўленыя камандзірскія галасы з-за курсанцкіх сьпінаў.

Асабліва страшна было за дзяцей і старых. У аднаго з вэтэранаў сарвалі мэдаль «70 лет Советских Вооружённых Сил» (яго падабраў Зянон Пазьняк. Калі знойдзецца гаспадар мэдаля – тэлефон штабу БНФ 33-50-12).

Як і заўсёды, міліцыя рабілася ахвярай чыёйсьці бруднай гульні. Стала зразумела, чаму нас так часта спынялі і дзеля чаго быў патрэбны гэты кардон. Нас хацелі затрымаць як надалей. Бо калі б нашым вэтэранам далі магчымасьць прайсьці ў афіцыйным парадку, яны мелі б магчымасьць спакойна ўскласьці кветкі. Але камусьці не хацелася спакою.

Зьняважаныя, у пакамечанай вопратцы ўдзельнікі вайны ўсё ж прайшлі праз кардон і рушылі да помніка.

На мосьце праз Сьвіслач – ланцуг амонаўцаў. Вэтэраны прайшлі і праз яго.

Каля плошчы Перамогі шлях нам перагарадзілі ўдзельнікі афіцыйнага шэсьця. Тыя, каго запрасілі сюды ўлады. Наперадзе – маладыя людзі ў чорных кашулях (Славянскі Сабор «Белая Русь» – удакладненьне 2015 г.). Былі тут і старыя, ачмураныя хлусьлівай прапагандай (Саюз афіцэраў – 2015). У іх руках – сьцягі СССР, а ў вачах – нянавісьць.

Адразу ўзьнік міліцэйскі кардон.

– Чый загад? – запытаў народны дэпутат Рэспублікі Беларусь Валянцін Голубеў у аднаго з афіцэраў.

– Загад са штабу.

– Дзе гэты штаб?

– У Саўміне.

– Хто яго ўзначальвае?

У адказ – напружанае маўчаньне напалоханага афіцэра.

На жаль, не магу назваць ніводнага прозьвішча – міліцыянэры адмаўляліся называцца. Калі я паспрабаваў прайсьці праз кардон, папярэдзіўшы, што зьяўляюся дэпутатам Вярхоўнага Савету, у адказ пачуў абразу. Адчувалася, што міністар унутраных спраў сп. Данько, які сам не паважае Закон аб статусе дэпутата, адпаведна выхоўвае і сваіх падначаленых. Але і тут большасьць міліцыянэраў – маладых хлопцаў – усё ж саромелася пад позіркам вэтэранаў. Так, міліцыю ізноў падстаўлялі улады, людзі са «штабу», для якіх ні памяць, ні вера, ні само чалавечае жыцьцё – нішто не ўяўляе каштоўнасьці. Нішто, акрамя ўлады, дзеля якой яны гатовыя пайсьці на ўсё.

Між тым напружанасьць узмацнялася. Дзікунскія, нечалавечыя пагрозы ліліся ў бок вэтэранаўдэмакратаў. Такія словы супраць тых, хто праліваў кроў за Айчыну, маглі нарадзіцца, прабачце, толькі ў фашыстаў. («прабачце» – слова, устаўленае рэдакцыяй газэты. – 2015.)

Але на грудзях у гэтых людзей былі значкі не з выявай Гітлера. Гэтыя – верныя ленінцы.

– Ну, давай, подходи! – іраваў глотку нейкі «молодец» з камсамольскім значком.

– Што ж ты, сынок. – прамовіў стары чалавек з ордэнскімі калодкамі. – Ну а во тыя вэтэраны, што ля помніка, у нас што зь імі – розная перамога? Розная вайна?

Сярод тых, каму заступілі дарогу ашалелыя ў нянавісьці да ўсяго беларускага эксгуматары СССР, Георгій Уладзімеравіч Заборскі, адзін з аўтараў манумэнта Перамогі. Так, гэтага самага манумэнта. Ён быў тройчы паранены падчас вайны, а першы эскіз помніка зрабіў яшчэ ў 1942-м, у шпіталі. Заборскага штурхалі яшчэ там, на вуліцы Купалы, але ён ішоў да свайго помніка. Не дазволілі дайсьці.

Не дазволілі прайсьці да помніка Васілю Быкаву – салдату, дзякуючы генію якога сьвет ці не ўпершыню даведаўся пра сапраўдную праўду той вайны.

Не пусьцілі Мікалая Ігнатавіча Крукоўскага, – начальніка штабу партызанскага атраду 2-й заслонаўскай брыгады, кавалера мэдаля «За отвагу».

Перакрылі шлях Артуру Вітальевічу Вольскаму – кавалеру баявых узнагарод, старшыні Беларускага аб'яднаньня дэмакратычных вэтэранаў.

Не далі магчымасьці падысьці да помніка Зянону Станіслававічу Пазьняку – чалавеку, які толькі тут можа ўшанаваць памяць свайго бацькі, бо ў пахаронцы, якая прыйшла маці ў 44-м, не было пазначана месца пахаваньня.

Не дазволілі схіліць перад помнікам агульнай перамогі сьцягі Вялікабрытаніі, Амэрыкі, Францыі – краін антыгітлераўскай кааліцыі.

– Я быў тройчы паранены, – кажа інвалід вайны другой групы, аўтар манумэнта Перамогі ў Менску, архітэктар Георгі Заборскі. – Чацьвёртую рану мне нанесьлі тут. Хто і чаму вырашыў не пускаць мяне да помніка, які я ствараў сваім сэрцам?

Франтавік, народны пісьменьнік Беларусі Васіль Быкаў адзначыў, што камуністычная намэнклятура, «прыхватызаваўшы» магазыны і вытворчасьць,

вырашыла «прыхватызаваць» і перамогу. Але ж яе атрымаў народ, а не яны, і яна – агульная, усяго нашага народу. У той вайне, падкрэсьліў ён, мы адолелі толькі адно зло, другое яшчэ засталося.

У той сьвяточны сонечны дзень мянчане ўпершыню ўбачылі аскал не чужога, а ўласнага айчыннага фашызму, які пачаў ужо наводзіць «новы парадак».

Натоўп камунафашыстаў лютаваў.

Міліцыя стаяла моўчкі.

Чаго чакалі? Правакацыі? Камусьці з камунафашыстаў, відавочна, вельмі хацелася крыві. Крыві тых самых людзей, што пралілі ўжо яе паўвека таму. На гэтай зямлі. А таксама пад Масквой, Варшавай, у Бэрліне.

Пакідаць старых, зьнямоглых пад сьпякотным сонцам людзей перад разьюшаным натоўпам рабілася небясьпечна.

У гэтай сытуацыі Зянонам Пазьняком было прынята, мяркую, адзіна правільнае рашэньне – ісьці да помніка Янку Купалу. Гэтак жа, як шэсьць гадоў таму, у кастрычніку 88-га, ён павёў людзей ад Усходніх могілак, дзе камуністычныя ўлады прымянілі дубінкі і сьлезацечныя газы, – у бок Курапатаў. Тады, фактычна, і нарадзіўся Народны Фронт – арганізацыя, якая не адказвае сілай на зло.

Калёна рушыла ў сквэр Янкі Купалы. Вэтэраны і моладзь паклалі вянкі і кветкі да помніка генію нацыянальнага адраджэньня. Песьняру, які пакутаваў ад камунізму і ненавідзеў фашызм, і якога камунафашызм забіў у Маскве. У той дзень кожны з нас яшчэ раз адчуў, што камунізм і фашызм крочаць побач.

Рыгор Барадулін заўважыў, што чырвоныя



Калі калёну БНФ не прапусьцілі да помніка Перамогі, мітынг прайшоў у сквэры Янкі Купалы. Выступае Васіль Быкаў. 3 ліпеня 1994.

сьцягі маюць уласьцівасьць зь цягам часу пераўтварацца ў карычневыя.

Хаця некаторым хочацца падфарбаваць іх сьвежай крывёю» («Народная газета», ліпень 1994).

У тым, што Васілю Быкаву і іншым вэтэранам-актывістам БНФ, якія падтрымлівалі нацыянальнае адраджэньне, перакрылі шлях да «вечнага агню» на плошчы Перамогі і падпарадкаваныя Кебічу міліцыянты і АМАПаўцы і ідэйна адданыя Лукашэнку «славянасабораўцы», няма ніякай супярэчнасьці: пазьней у сваіх мэмуарах Кебіч прызнаецца, што на выбарах 1994 году ён разам з Лукашэнкам змагаўся разам – супраць Народнага Фронту. Увогуле, і актыўных камуністаў-прыхільнікаў Кебіча, і прыхільнікаў Лукашэнкі-«славянасабораўцаў» аб’ядноўвала непрыманьне ўсялякіх праяваў бе-

ларушчыны. Прычым у прыхільнікаў Лукашэнкі гэтае непрыманьне набывала форму нянавісьці (час пакажа, што, узьнесеныя на вяршыню ўлады, яны гэтую нянавісьць будуць рэалізоўваць куды больш пасьлядоўна і энэргічна, чым камуністы – сваё непрыманьне). І, канешне, агульным і нязьменным была вернасьць Маскве. І гэтыя падзеі на плошчы Перамогі, зьнявага вэтэранаў-адраджэнцаў паказалі: ім напляваць на лёзунгі пра «вялікую перамогу», калі гаворка ідзе пра інтарэсы «вялікай расейскай імпэрыі».

У склад перадвыбарчай каманды Лукашэнкі ўваходзілі шмат якія актывісты Славянскага Сабору «Белая Русь», у тым ліку Ўсевалад Янчэўскі, якога Лукашэнка прызначыць сваім дарадцам і «галоўным ідэолягам». Ня ведаю, ці можна лічыць супадзеньнем той факт, што менавіта там, ля помніка Перамогі, куды не прапусьцілі калёну Беларускага Народнага Фронту, фактычна пад аховай СС «Белая Русь» і ачапленьня міліцыі, адбылася гутарка Лукашэнкі з расейскім прэм’ерам Чарнамырдзіным.

«Большага хамства, подласьці, большай зьнявагі да свайго народу я яшчэ ня бачыў», – заявіў Зянон Пазьняк на прэсавай канфэрэнцыі, якую мы правялі пасьля гэтых падзеяў у штаб-кватэры БНФ.

«Адгэтуль у гісторыі Беларусі пачаўся новы пэрыяд – панаваньне камунафашысцкіх сілаў», – сказаў Васіль Быкаў.

Праз тыдзень Лукашэнка будзе абраны прэзыдэнтам.

## Пазьняк: Я ўпэўнены ў сваёй камандзе

Міт пра тое, што ў БНФ нібыта не было эканамічнай праграмы (яшчэ адзін варыянт – «БНФ займаўся мовай, а не эканомікай») напярэдадні першых прэзыдэнцкіх выбараў быў адным з найбольш устойлівых.

Зрэшты, гэты міт існаваў заўсёды.

Але рэальнасьць бясконца далёкая ад гэтага міту.

Дзясяткі заканадаўчых палажэньняў былі ўнесеныя дэпутатамі-франтаўцамі ў законапраекты, якія былі падрыхтаваныя камісіямі Вярхоўнага Савету.

Неяк для ўдзелу ў дыскусіі спатрэбілася мне якая-небудзь цытата дэпутата-франтаўца (неістотна, каго менавіта) у абарону беларускай мовы. Я прагледзеў дзясяткі даступных мне стэнаграмаў сэсіяў Вярхоўнага Савету – рынкавыя рэформы, бюджэт, падатковая сыстэма, інвэстыцыйны клімат, словам, дзясяткі выступаў на эканамічныя тэмы – перш чым знайшоў патрэбны мне выступ. Эканамічная рэформа была адным з прыярытэтаў і палітычнай, і заканатворчай дзейнасьці Апазыцыі БНФ.

Вось няпоўны пералік толькі эканамічных законапраектаў, якія падрыхтавалі дэпутаты Апазыцыі

БНФ разам з экспэртамі ад 1990 году да моманту прэзыдэнцкіх выбараў у 1994-ым (выкарыстоўваю мэмарандум, зроблены Лявонам Баршчэўскім):

«Эканамічная праграма – канцэпцыя пераходу Беларусі на рынкавую эканоміку» (кастрычнік 1990). Дапрацаваны варыянт канцэпцыі быў прадстаўлены ў красавіку 1992 году;

Закон «Аб уласнасьці», дзе ўпершыню ў БССР прызнавалася права на прыватнае валоданьне зямлёй і закладаўся мэханізм прыватызацыі; Кодэкс «Аб зямлі»;

Закон «Аб банках і банкаўскай дзейнасьці», які вызначаў асновы банкаўскай сыстэмы Беларусі з улікам пераходу на нацыянальную валюту;

Закон «Аб арэндзе», ён вызначаў мэханізм арэнды ў прамысловасьці, сельскай гаспадарцы, сфэры абслугоўваньня, прававыя асновы выкупу арэндаваных дзяржаўных аб’ектаў (усе вышэйназваныя законапраекты былі прадстаўленыя на 2-ю сэсію ВС у кастрычніку 1990 году);

Закон «Аб фэрмэрскай (сялянскай) гаспадарцы» (сьнежань 1990);

Закон «Аб замежных інвэстыцыях на тэрыторыі Беларусі» (прыняты ў чэрвені 1991);

Пастанова ВС «Аб прызнаньні права прыватнай уласнасьці на зямлю» (верасень 1991);

Закон «Аб падаткаабкладаньні», прадугледжваў стварэньне сыстэмы падаткаабкладаньня на ўзор краінаў з рынкавай эканомікай (кастрычнік 1991);

Закон «Аб Кантрольнай палаце», у якім, сярод іншага, прадугледжваўся мэханізм супрацьдзеяньня карупцыі (сьнежань 1991);

Закон «Аб барацьбе з карупцыяй і эканамічнай злачыннасьцю» (красавік 1992);



Ценявы Кабінэт Апазыцыі БНФ: Сяргей Антончык, Іван Нікітчанка, Зянон Пазьняк, Сяргей Навумчык, Уладзімер Заблоцкі.

Закон «Аб праве ўласнасьці на зямлю», быў распрацаваны супольна зь Сялянскай партыяй (сакавік 1992, апублікаваны ў «Народнай газэце» 30 ліпеня 1992);

Закон «Аб асновах навукова-тэхнічнай палітыкі» (прыняты ў студзені 1993).

Закон «Аб нетрах» (пачатак 1994).

У гэтым пераліку – толькі эканамічны блёк законапраектаў, падрыхтаваных дэпутатамі Апазыцыі БНФ.

Дзясяткі заканадаўчых палажэньняў былі ўнесеныя дэпутатамі-франтаўцамі ў законапраекты, якія былі падрыхтаваныя камісіямі Вярхоўнага Савету.

І хаця значная частка нашых законапраектаў спачатку камуністычнай, а потым пракебічаўскай большасьцю адкідалася, нам удалося правесьці шмат якія асобныя палажэньні, якія стварылі за-

канадаўчую аснову для рэфармаваньня эканомікі (пра паўнавартасную рэформу пры тым Вярхоўным Савеце і тым урадзе казаць не даводзілася).

Зь лета 1990 году – фактычна, зь першых месяцаў існаваньня Апазыцыі БНФ – працавала эканамічная група, у якую ўвайшлі ня толькі дэпутаты, але і адмыслоўцы. Быў створаны Ценявы кабінэт (прэм'ер – Уладзімер Заблоцкі). Працаваў Ценявы Кабінэт пад кіраўніцтвам Зянона Пазьняка.

Пройдзе зусім няшмат часу, і гэтая дзейнасьць будзе прадстаўленая ў цалкам перакручаным выглядзе.

«Лідэр БНФ Зянон Пазьняк сыстэматычна выступаў з трыбуны Вярхоўнага Савету супраць якога б ні было супрацоўніцтва як са старой намэнклятурай, гэтак і з канструктыўна стрыманымі незалежнымі дэпутатамі, ня маючы ў самім руху БНФ ніводнага "гаспадарніка" з досьведам кіруючай дзейнасьці ня толькі на рэспубліканскім, але і на абласным і нават раённым ўзроўні» (Станіслаў Шушкевіч, «Неокоммунизм в Беларуси», Смаленск, 2002, с. 39).

Калі ўжо казаць пра супрацоўніцтва, дык сам Шушкевіч як сьпікер парлямэнту валодаў для гэтага несувымерна большымі магчымасьцямі, чым кіраўнік апазыцыі, якая складала дзясятую частку дэпутацкага корпусу. І як сьпікер ён ня мог ня ведаць, што ўсе гады Пазьняк якраз і заклікаў намэнклятуру да супрацоўніцтва ў справе будаўніцтва незалежнай дзяржавы (тады, калі мог гэта рабіць – бо сьпікер Шушкевіч сыстэматычна адключаў мікрафоны дэпутатам Апазыцыі). Прычым ужо праз некалькі дзён пасьля дасягненьня Незалежнасьці, у канцы жніўня 1991-га, Апазыцыя БНФ

прыняла зварот да былых камуністаў («Уключайцеся ў дэмакратычны працэс, у рух адраджэньня вольнай, сувэрэннай Беларусі. У нашай культурнай, дэмакратычнай Бацькаўшчыне ніхто не павінен і ня будзе перасьледаваць чалавека толькі за членства ў камуністычнай партыі ці камсамоле»). Шмат якія дасягненьні Апазыцыі ў Вярхоўным Савеце (прыняцьце распрацаваных намі законапраектаў) якраз былі вынікам дамоўленасьцяў і кампрамісаў з намэнклятурнай большасьцю (у чым, падкрэсьлю, Шушкевіч як старшыня ВС за ўсе гады паспрыяў нам толькі аднойчы – калі ў верасьні 1991-га прымалі дзяржаўную сымболіку).

Пра супрацоўніцтва з «канструктыўна-стрыманымі незалежнымі дэпутатамі» сьведчыць хоць бы тое, што менавіта Апазыцыя БНФ была ядром даволі аморфнага Дэмакратычнага клюбу і заўсёды прыцягвала дэпутатаў да распрацоўкі законапраектаў (у 1994-м многія са «стрыманых», як ён іх называе, дэпутатаў увайшлі ў каманду Пазьняка). Адносна ж «гаспадарнікаў з досьведам кіруючай дзейнасьці» трапна заўважыў Васіль Быкаў – перавага паплечнікаў Пазьняка, казаў Быкаў, яшчэ і ў тым, што сярод іх няма людзей, абцяжараных заганным вопытам старых, стэрэатыпных, скампрамэтаваўшых сябе кіроўных мэханізмаў «сацыялістычнай плянавай эканомікі».

Хаця асобы з глыбокім веданьнем эканомікі ў БНФ былі, і людзей такіх быў не адзін дзясятак, і некаторыя зь іх былі прадстаўленыя ў часе прамога тэлевізійнага эфіру кандыдата ў прэзыдэнты Зянона Пазьняка.

Усім кандыдатам была дадзеная роўная колькасьць радыё- і тэлевізійных эфіраў. Адзін



Уладзімер Заблоцкі, Зянон Пазьняк, Васіль Быкаў і Вінцук Вячорка рыхтуюцца да «прамога эфіру». Чэрвень 1994.

зь іх мы вырашылі скарыстаць для прадстаўленьня эканамічнай групы кандыдата БНФ, хаця ў ім узялі ўдзел і некалькі паплечнікаў лідэра БНФ, якія непасрэдна не займаліся эканомікай.

І ў тыя дні, і праз гады мне даводзілася чуць, што той эфір зрабіў моцнае ўражаньне кваліфікаванасьцю каманды кандыдата БНФ.

Перад эфірам я зрабіў здымак – ён застаўся адзіным фотаздымкам падрыхтоўкі да эфіру ў студыі. Але захаваўся відэазапіс з экрана.

Удзел у тым тэлевізійным эфіры ўзяў і Васіль Быкаў, які патлумачыў, чаму на прэзыдэнцкіх выбарах падтрымлівае менавіта Зянона Пазьняка.

Быкаў: «Матывы вельмі простыя. Менавіта Зянон Пазьняк, на маю думку, самы варты з усіх магчымых кандыдатаў.Варты ён у многіх якасьцях. Таму што найперш сваёй дзейнасьцю ў Народным Фронце ў якасьці лідэра ён засьведчыў свае

палітычныя магчымасьці, сваю грамадзянскую сумленнасьць. Апроч таго, свой патрыятызм у адносінах да беларускага народа. Я думаю, што хаця ў нас, канешне, людзей вартых заўсёды хапала, яны ёсьць, яны былі і яшчэ будуць, але на даным этапе, на даным гістарычным этапе, калі краіна апынулася ў такім цяжкім становішчы, іменна ўратаваць з гэтага становішча можа толькі Зянон Пазьняк і яго прэзыдэнцкая палітыка».

Напачатку Пазьняк прадставіў сваю каманду.

Пазьняк: «Васіль Быкаў, народны пісьменьнік Беларусі. Уладзімер Заблоцкі, кандыдат тэхнічных навук, намесьнік старшыні камісіі ВС па навуцы і навукова-тэхнічнаму прагрэсу. Спадар Заблоцкі займаецца сыстэмным аналізам, вывучэньнем звышмоцнай зброі, падтрымлівае пастаянныя сувязі з вучонымі Расеі і іншых краін. Павінен сказаць, што гэта адзіны эканаміст зь Беларусі, які быў запрошаны Клінтанам на інаўгурацыю. Валянцін Голубеў, кандыдат гістарычных навук, сакратар Камісіі ВС па міжнародных справах. Анатоль Станкевіч, кандыдат эканамічных навук, дыплямант Міжнароднага конкурсу па праблемах канвэртуемасьці рубля (ЗША, 1990 год). Уладзімер Тарасаў, доктар эканамічных навук, намесьнік дырэктара інстытута эканомікі Акадэміі навук. Радзім Гарэцкі, акадэмік АН Беларусі і Расеі, ляўрэат дзяржаўных прэміяў СССР. Юры Беленькі, эканаміст, народны дэпутат Беларусі. Іван Нікітчанка, доктар сельскагаспадарчых навук, член-карэспандэнт Акадэміі навук, ляўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР, віцэ-прэзыдэнт Цэнтру стратэгічных дасьледаваньняў. Аляксандар Сасноў, кандыдат эканамічных навук, член Прэзыдыюму Вярхоўнага Савету Беларусі.

Станіслаў Гусак, інжынэр-энэргетык, намесьнік старшыні Аб'яднанай дэмакратычнай партыі. Віталь Масквіч, доктар геоляга-мінэралягічных навук, член-карэспандэнт Міжнароднай энэргетычнай акадэміі. Вінцук Вячорка, сакратар Управы Сойму Народнага Фронту. Сяргей Антончык, народны дэпутат Беларусі, арганізатар Свабоднага прафсаюзу. Пятро Герасімовіч, дырэктар навукова-вытворчага аб'яднаньня «Вэктар»».

У тэлестудыі былі тэлефоны, па якіх тэлегледачы маглі задаваць пытаньні. Зачытваў іх Вінцук Вячорка.

Вячорка: «Галіна Нічыпаровіч, Менск: Калі чытаеш урадавую прэсу, ствараецца ўражаньне, што Народны Фронт – нейкая падпольная арганізацыя. Але мы бачым, што ў Вашую каманду ўваходзяць аўтарытэтныя людзі, выдатныя навукоўцы. Як Вам удалося падабраць такую каманду?»

Пазьняк: «Каманда не падбіралася спэцыяльна пад прэзыдэнцкую кампанію. Гэтая кампанія ўтваралася на працягу шасьці год. Як толькі ўтварыўся Народны Фронт, стваралася гэтая каманда. Таму і прагнозы Народнага Фронту, і распрацоўкі эканамічныя, у іншых галінах, яны былі на дастаткова моцным узроўні. Таму што тут працуюць прафэсіяналы і спэцыялісты сусьветнага ўзроўню. Так што гэтая каманда – вынік дзейнасьці Беларускага Народнага Фронту, які паставіў задачу ратаваць наш народ ад Чарнобылю, ад генацыду, ад карупцыі, абараняць і дапамагаць нашаму народу. Чэсныя, сумленныя людзі, прафэсіяналы пайшлі ў гэтую каманду, пайшлі ў Народны Фронт. Частку эканамічнай групы я вам прадставіў».

Адной з найбольш вострых тэмаў лета 1994 году

была інфляцыя. У свой час урад Кебіча адмовіўся ад прапановы Апазыцыі БНФ увесьці паўнавартасную нацыянальную валюту – зь вясны 1992 году ў Беларусі нароўні з расейскімі рублямі хадзілі разьліковыя білеты Нацыянальнага банку, гэтак званыя «зайцы». І Вярхоўны Савет, і Саўмін упарта не пагаджаліся з нашай прапановай увесьці паўнавартасную нацыянальную валюту.

Пазьняк: «Па пунктах. Першае, каб спыніць інфляцыю – мы павінны ўвесьці нацыянальную валюту. Другое. Мы павінны праводзіць манэтарную палітыку. Трэцяе. Мы павінны праводзіць эканамічныя рэформы, каб падтрымаць нашыя грошы, інакш яны ператворацца ў пустыя паперкі. Далей, мы павінны навесьці парадак у падатковай сыстэме. Вось чатыры асноўныя складальнікі, якія абавязкова прывядуць да спыненьня інфляцыі, гэта паказвае вопыт іншых краін. Увогуле, спыніць інфляцыю ня так складана, павінна быць толькі дзяржаўная палітычная воля, павінны быць людзі, якія хочуць гэта рабіць».

Бадай што самым галоўным тэзісам афіцыйнай прапаганды адразу пасьля здабыцьця Незалежнасьці было – «Без России нам не прожить» (большасьць расейскамоўных цытатаў у маіх нататках перакладаю на беларускую, а вось гэту фразу пакідаю на мове арыгіналу). І як тлумачэньне: у нас няма нафты (у 94-м менавіта нафта была галоўным эканамічным, а значыць, і палітычным аргумэнтам Масквы, пазьней ім зрабіўся газ).

Увосень 1990-га Пазьняк прапанаваў ідэю стварэньня Балта-Чарнаморскай садружнасьці, тады ж у Менску была праведзеная канфэрэнцыя з удзелам прадстаўнікоў Украіны, Латвіі і Літвы.

Летам 1993-га БНФ у Менску сабраў адмыслоўцаў ужо ў справе канкрэтнага праекту – Балтыйска-Чарнаморскага нафтавага калектару, ідэя якога належала Станіславу Гусаку.

Гусак: «Вы ведаеце, што ў нас рынак на паліва манапольны і ён цалкам належыць Расеі. Гандлёвы абмен у нас па клірынгу ішоў з Расеяй, мы атрымлівалі з Расеі нафту і газ, туды накіроўвалі мяса, трактары, калійныя солі, лядоўні, тэлевізары і гэтак далей. У што абыходзіўся нам гэты клірынг? Мы ў Расеі набывалі нафту, дапусьцім, за мяса, і гандлёвы абмен ішоў такі: за тону нафты мы аддавалі Расеі 130 кілаграмаў мяса. На міжнародным рынку эквівалент цаны адной тоны нафты – 25 кіляграмаў мяса. Гэта значыць, мы пераплачвалі Расеі за адну тону нафты пяць сусьветных коштаў, практычна. Таму сёньня ў нас склалася сытуацыя, калі ўнутраная запазычанасьць прадпрыемстваў сельскай гаспадаркі склала амаль 8 трыльёнаў рублёў на нашай энэргетыцы. Якія мы бачым выхады ў гэтым? Немагчыма будаваць рынкавыя адносіны ва ўмовах манапольнасьці некага ў пытаньнях пастаўкі».

Заблоцкі: «Я хацеў бы дадаць, што перш за ўсё трэба праводзіць адпаведную тарыфную палітыку. Дзяржава яе павінна мець. Тое, што сёньня робіцца – гэта дрэнна арыентуе і вытворцаў, і спажыўцоў. І таму пачынаць трэба з эканамічных мэтадаў, з тарыфнай палітыкі. Акрамя таго, мы прапануем вырашыць пытаньне энэргетычнай праграмы, гэта пабудова энэргетычных магутнасьцяў. Я лічу, што трэба тое, што ўжо казалі – ліквідаваць манапалізм у пастаўках».

Многія рэчы, якія праз дваццаць гадоў пададуцца

банальнасьцю, тады былі сказаныя ўпершыню. Так, менавіта Пазьняк упершыню выказаў меркаваньне, што Беларусь мае выгаднае геапалітычнае становішча і магла б мець значны даход ад транзыту энэргарэсурсаў і тавараў па сваёй тэрыторыі. Гэта гучала ня проста нязвыкла – рэвалюцыйна.

Рэалізацыя праекту Балтыйска-Чарнаморскага калектару істотна зьмяншала паліўную залежнасьць Беларусі і Ўкраіны ад Расеі.

Пазьняк: «Я павінен дадаць, шаноўныя тэлеслухачы, што калі б нармальна паставіць справу, мы маглі б добра жыць за кошт нашых нафтаперагонных заводаў. Іх трэба мадэрнізаваць. Цяпер яны састарэлі. Гэта першае. Па-другое. На ўтрыманьне расейскай арміі мы кожны год выдаткоўваем адзін мільярд 900 мільёнаў даляраў. І губляем на транзыце мільярд 300 мільёнаў даляраў. Гэта больш трох мільярдаў даляраў. Давайце падзелім гэтыя тры мільярды даляраў на цану адной тоны нафты. 35 мільёнаў тонаў нафты нам забясьпечана. Акрамя таго, мы будзем будаваць Балтыйска-Чарнаморскі нафтавы калектар. Яго пачалі ўжо будаваць (праектныя работы пачалі) Украіна і Літва, прыступае Латвія. Яго будаўніцтва – паўтара года. Каб пачалі раней, мы б яго ўжо мелі. Акрамя таго, гэта 380 мільёнаў даляраў, каб пусьціць яго ў ход. Гэта выдатная ідэя, Станіслаў Гусак зьяўляецца аўтарам гэтай ідэі, і гэта ў значнай ступені палепшыць пытаньне. Акрамя таго, трэба ўлічыць, што 72 працэнтамі нафты ў Расеі зараз распараджаюцца камэрцыйныя структуры. Такім чынам, мы павінны – ган-для-ваць (Пазьняк гэтае слова вымавіў па частках – С. Н.). І нам будзе выгадна гандляваць нафтай з тымі краінамі і з тымі пастаўшчыкамі, дзе нафта

больш танная. І цяпер складваецца сытуацыя, што больш танная нафта на Ротэрдамскай біржы ў Саудаўскай Арабіі, чым у Расеі. Такім чынам, калектар дасьць магчымасьць збалянсаваць гэты гандаль».

Станіслаў Гусак прынёс у студыю мапу, на якой быў пазначаны нафтавы калектар.

Гусак: «Вось тлустай чырвонай лініяй пазначаная частка калектару, якая ўжо сёньня існуе, гэта дзейныя нафтаправоды, якія зьвязваюць Вэнтспілс з Наваполацкам і далей ідзе гэтая магістраль на паўднёвы ўсход Беларусі. І таксама з поўдня існуе дзейсны нафтаправод, ад Адэсы да Крэменчуга. Пункцірам на мапе абазначаная частка магістралі, якую неабходна пракласьці, ад Крэменчуга і на поўнач Украіны. Там ізноў пайшла тлустая чырвоная лінія, гэта дзейны нафтаправод, і далей яна злучаецца яшчэ з адной часткай нафтаправоду, таксама пункцірная лінія, паміж Гомелем і Касьцюковічамі. Па тэрыторыі Беларусі ўсяго толькі 70 кілямэтраў трэба пракласьці, каб задзейнічаць увесь калектар».

Да гэтага варта дадаць, рэалізацыя праекту Балтыйска-Чарнаморскага калектару істотна зьмяншала паліўную залежнасьць Беларусі і Ўкраіны ад Расеі, і рэзка зьніжала магчымасьці Масквы. 15 студзеня 1994 году намесьнік старшыні Народнага Руху Ўкраіны Мікола Байчышын бясьследна зьнік. Зь імі былі і дакумэнты-распрацоўкі нафтавага калектару.

Афіцыйная прапаганда сьцьвярджала, што ў Беларусі няма ня толькі нафты – няма ўсяго іншага, патрэбнага для функцыянаваньня вытворчасьці.

Што гэта ня так – сказаў у часе прамога эфіру доктар навук Віталь Масквіч.

Яшчэ ў 1992 годзе на пасяджэньне Апазыцыі БНФ прыйшоў віцэ-прэзыдэнт акадэміі навук, акадэмік Радзім Гарэцкі і зрабіў канспэктыўны даклад пра карысныя выкапні ў Беларусі. Інфармацыя Гарэцкага нас уразіла: Беларусь – зусім ня бедная. Пра гэта акадэмік Гарэцкі сказаў і ў часе прамога эфіру з камандай Зянона Пазьняка.

Гарэцкі: «Разумееце, мы не нагэтулькі бедныя, як лічылася да гэтага часу. У нас ёсьць ня толькі карысныя выкапні, пра якія казаў тут Віталь Андрэевіч, ёсьць і іншыя. Гэта і фасфарыты, цыяліты, вугалі, гаручыя сланцы і гэтак далей. Але я хачу падкрэсьліць, што, канешне, самае галоўнае – гэта нармальнае прыродакарыстаньне. І ўжо зараз мы маглі б ня толькі самі карыстацца гэтымі карыснымі выкапнямі, але і вывозіць, гандляваць такімі, напрыклад, мінэральнымі рэсурсамі, ня толькі калійнымі солямі, але каменнымі, гэта – харчовыя солі. Прычым, мы яе столькі маем, што можам накарміць палову сьвету!».

Пазьняк: «Дзякуй, калега Гарэцкі. Мы ня толькі можам, а мы будзем гэта рабіць. Таму што мы не дазволім, каб нашымі нетрамі распараджалася мафія і распараджаліся розныя дзялкі, на шкоду нашаму народу. Заканадаўства падрыхтавана, праектнае заканадаўства. Калега Масквіч зьяўляецца адным з распрацоўшчыкаў Закону аб нетрах, у Апазыцыі гэты закон ёсьць. Павінен сказаць, што Апазыцыя распрацавала каля сарака законапраектаў, ня кажучы пра канцэпцыі і гэтак далей».

Вячорка: «Спадар Анціпчык, Магілёў: Дзе гарантыі таго, што Ваша каманда і Вы пасьля таго, як станеце прэзыдэнтам, зьдзейсьніце тое, пра што гаворыце?»

Пазьняк: «Я павінен сказаць вельмі коратка, таму што мала часу. Толькі Народны Фронт такімі гарантыямі валодае. Я назаву некалькі гарантый. Першае. Гэта правільны навуковы прагноз. Успомніце: усё, што гаварыў Народны Фронт тры-чатыры гады назад аб тым, да чаго прывядзе палітыка гэтага Саўміну і гэтага Вярхоўнага Савету, гэта і карупцыя, гэта і інфляцыя, гэта і разбалянсаваньне цэнаў, гэта і спыненьне вытворчасьці, – аб усім было сказана. Усё так сталася. Гэта гаворыць аб тым, што Народны Фронт валодае навуковым прагнозам. У дзяржаўнай дзейнасьці гэта вельмі важна. Калі дзяржаўны дзяяч ня можа прадугледзець, што будзе зь яго плянам – ня трэба займацца дзяржаўнай палітыкай. Другая гарантыя. Па нашых канцэпцыях, распрацаваных тры гады, чатыры гады назад, фактычна правяла рэформы Эстонія. Асабліва ў фінансава-крэдытнай сфэры. Гэта амаль адзін да аднаго праграма Беларускага Народнага Фронту. Вынік у Эстоніі выдатны. З гэтага году пачаўся прырост вытворчасьці, інфляцыя спыненая ў 92-м. Таварны рынак насычаны, і гэтак далей. Значыць, гэта праверка практыкай. Такім чынам, гэта гарантыя, што нашыя праграмы – гэта ня мыльныя бурбалкі. І трэцяя гарантыя – гэта тое, што Народны Фронт валодае вялікай групай спэцыялістаў сусьветнага клясу. І што самае важнае, гэтыя спэцыялісты ніколі не працавалі ў гэтай карумпаванай сыстэме, яны не навучаныя красьці. Яны не зьвязаныя з карупцыяй. Гэта сумленныя людзі, якія сваё здароўе, як спадар Нікітчанка, гатовыя былі пакласьці на алтар Бацькаўшчыны. І нідзе пра гэта не казалі. Я, напрыклад, упершыню сёньня, у тэлеэфіры, расказаў аб тым, што спадар

Нікітчанка прайшоў усю гэтую (чарнобыльскую) зону і што вакол яго паміраюць людзі. Нам патрэбна чацьвёртая гарантыя. І гэтую чацьвёртую гарантыю мы можам толькі здабыць разам з вамі. Гэта – давер народа. Мы разумеем, што гэта двухбаковы працэс. Але са свайго боку мы можам толькі зрабіць заяву, што мы, уся наша каманда, зробіць дэкляарацыі аб сваіх даходах. Акрамя таго, я гарантую, што як толькі будзе заўважана ў сфэры дзяржаўнай дзейнасьці, у сфэры апарату, сувязі з карупцыяй – гэтыя людзі будуць адразу звольненыя, і справа будзе перададзеная ў суд. Закон будзе выконвацца. З карупцыяй будуць ісьці самыя жорсткія меры. Вось гэта я як прэтэндэнт на пасаду прэзыдэнта гарантую. І я ўпэўнены ў сваёй камандзе".

На прамым тэлеэфіры з камандай Зянона Пазьняка была прадстаўленая эканамічная канцэпцыя. Гаварылася і пра Чарнобыль, і пра калгасы, і пра расейскую мову. У нас была яшчэ адна мэта: разбурыць імідж Пазьняка, які стварыла яму ў значнай частцы насельніцтва афіцыйная прапаганда. Пра тое, як гэта рабілася – пазьней.

## Дзяржаўная прэса: целам – з Кебічам, душой – з Лукашэнкам

А другой гадзіне дня скончылася ранішняе пасяджэньне сэсіі Вярхоўнага Савету. Наперадзе – перапынак, і дзьве з паловай сотні дэпутатаў выходзяць з Авальнай залі. Журналісты абступаюць Лукашэнку. Няважна, што ня ён, а старшыня камісіі прадстаўляў закон. Неістотна, што выступ Лукашэнкі быў павярхоўным і нават выклікаў сьмех у залі. Інтэрвію бяруць не ў аўтара законапраекту, не ў дэпутатаў апазыцыі, якія вылучалі альтэрнатыўны законапраект – пытаньні задаюць Лукашэнку.

Гэта – тыповая сытуацыя ў Вярхоўным Савеце 1990-1993 гадоў.

Пэўныя прычыны журналісцкай цікавасьці да Лукашэнкі патлумачыў у артыкуле «Песьня аб сокале» супрацоўнік мюнхэнскай рэдакцыі беларускай службы Радыё Свабода Алесь Лукашук (аўтар правёў паралелі паміж Лукашэнкам і Жыраноўскім).

«Калега-журналіст спытаў падчас сэсіі Вярхоўнага Савету, чаму я не бяру інтэрвію ў такога яркага дэпутата, як Аляксандар Лукашэнка. Маўляў, усіх запісваю, камэнтары гучаць па «Свабодзе» – чаму ж не пагаварыць і з Лукашэнкам?

– Лукашэнка мне не цікавы, – адказаў я тады.

– Але ж у цябе ёсьць прафэсійная адказнасьць перад слухачамі, ты мусіш быць аб’ектыўным, – запярэчыў калега.

Я выказаўся ў тым духу, што мая прафэсійная адказнасьць якраз і палягае ў тым, каго я выбіраю для інтэрвію. Увагай прэсы гэты дэпутат не абыдзены. Але, на маю думку, ералаш у галаве, блытанасьць, павярхоўнасьць меркаваньняў Лукашэнкі абясцэньваюць яго вывады і ацэнкі. Адказны журналіст аберагае сваю аўдыторыю ад дэмагагічнага засьмечваньня. (Дарэчы, гэтак сама мне як журналісту нецікавыя меркаваньні, напрыклад, Дзьмітрыя Булахава, хаця па іншай прычыне. Многім ягоным выступам не адмовіш у лёгіцы, доказнасьці, ён можа бліснуць эрудыцыяй. Аднак пасьля цынічнага выкананьня заказнога забойства рэфэрэндуму ў кастрычніку 1992-га гэтаму палітыку немагчыма падаваць руку. Як журналіст я лічу, што падаць у эфір разважаньні падобных дзеячоў (нагадаю, на сумленьні Булахава і чалавечае жыцьцё) аб законнасьці і маральнасьці можна толькі ў выпадку, калі гэта пакаяньне, а не павучэньне.)

Цяпер, пасьля выбараў у Расеі (на парлямэнцкіх выбарах у сьнежні 1993-га перамог Жырыноўскі – С.Н.), я гляджу на сытуацыю іначай. Вывад пакідаю ранейшы: журналісты маюць права і абавязак абараняць сваю аўдыторыю ад сэнтэнцыяў падобнай публікі. Аднак проста не заўважыць гэтую пароду, грэбаваць ёю, на жаль, не выпадае. Фэномэн Жырыноўскага сьведчыць, што кожны чацьвёрты дарослы чалавек ня мае нічога супраць хлусьні, дэмагогіі, цынізму. Справа, відаць, у тым, што савецкі чалавек у ідэале – духоўны люмпэн.

...Люмпэну патрэбныя такія самыя лідэры,

як ён сам: беспрычынна агрэсіўныя, псыхічна няўстойлівыя, гатовыя ў любы момант разьдзерці кашулю, з унутранай нянавісьцю да «занадта разумных». Не сацыяльная справядлівасьць, а сацыяльная зайздрасьць распальвае пачуцьцё пакрыўджанасьці і недаацэненасьці, засьціць вочы – і яны гатовыя помсьціць усім за ўсё».

У сваім артыкуле Лукашук называе антыкарупцыйны даклад Лукашэнкі «бліскуча праведзенай акцыяй па дыскрэдытацыі барацьбы з карупцыяй на Беларусі, размываньні і размазваньні праблемы да непрыстойнасьці» і пытаецца: «Уяўляеце падобную асобу ў якасьці кіраўніка дзяржавы?» («Навіны БНФ», № 1, 1994).

Аднак падобных публікацый, акрамя гэтага артыкула Алеся Лукашука, дзе б аб'ектыўна падавалася асоба Лукашэнкі – можна пералічыць на пальцах адной рукі.

Затое іншых, у якіх Лукашэнка падаваўся як сур'ёзны палітык – процьма.

Калі гартаеш падшыўкі газэт 1990-1993 гадоў і бачыш вялізную колькасьць публікацый ды яшчэ, як аўтар гэтых радкоў, ведаеш рэальны расклад палітычных сілаў у Вярхоўным Савеце, сапраўдны ўплыў і аўтарытэт таго або іншага дэпутата як на аднадумцаў, гэтак і на апанэнтаў, – зьдзіўляесься, наколькі аб'ём надрукаванага пра Лукашэнку і зь імем Лукашэнкі не адпавядае ягонай сапраўднай ролі.

«Шум, які А. Лукашэнка ставарае вакол свайго імя, відавочна перавышае ягоныя рэальную палітычную вагу і ўплыў». Тым ня менш, прэм'ер Вячаслаў Кебіч прызначыў яго сваім дарадцам, відавочна для таго, каб пазбавіцца ад крытыкі

зь ягонага боку», – пісалася ў даведніку «Рэспубліка Беларусь. База дадзеных» – першы ў Беларусі аналяг «Хто ёсьць хто» (1992, с. 45).

(У дужках заўважу, што пра сваю «дарадчую» пасаду ў аграрных справах Лукашэнка ўпершыню заявіў у пачатку 1993 году, выступаючы па шклоўскім радыё, у сваёй выбарчай акрузе. Пасада, аднак, была «на грамадзкіх пачатках», без кабінэту, і ў хуткім часе Лукашэнка палічыў за лепшае пра яе ня згадваць – гэтак было зручней крытыкаваць урад за «правалы ў аграрнай палітыцы».)

Пры гэтым Лукашэнка не выказваў колькі-небудзь канструктыўных прапаноў, звычайна толькі крытыкаваў альбо ўладу, альбо апазыцыю, і даволі часта, калі гаворка ішла пра прыняцьце нейкага закону, мяняў пазыцыю на супрацьлеглую. «Ягоныя эксцэнтрычныя выступы ў парлямэнце часта супярэчаць адзін аднаму», – адзначалася ў вышэй прыгаданым даведніку.

Так, ён выступаў на сэсіях па ўсіх пытаньнях, няспынна лез да мікрафонаў, – але адна толькі эксцэнтрычнасьць ня можа патлумачыць цікавасьць пэўных журналістаў да Лукашэнкі і імкненьне вылепіць зь яго вобраз сур’ёзнага палітыка. Што за гэтым хавалася – можна толькі здагадвацца.

У тыя гады агульны наклад цэнтральных дзяржаўных газэт дасягаў некалькіх мільёнаў асобнікаў, але яшчэ большы ўплыў на фармаваньне грамадзкай думкі мела радыёвяшчаньне па правадной сетцы: у кожнай кватэры, у кожным доме была так званая «радыёкропка». «Радыё» (менавіта так называўся радыёпрыёмнік) ніколі не выключалася – для мільёнаў гэтая традыцыя захоўвалася яшчэ з савец-

кіх часоў. Пад радыё (з гімнам) прачыналіся, пад радыё (таксама з гімнам) засыналі.

Найбольшы рэйтынг мелі ранішнія і вечаровыя інфармацыйныя праграмы – адпаведна, «Радыёфакт» і «Постфактум». Мне, каардынатару Апазыцыі БНФ, ніколі не давялося быць госьцем гэтых эфіраў. Як і шмат каму зь іншых дэмакратычных дэпутатаў. Іншая справа – Лукашэнка. «Вы, Аляксандар Рыгоравіч, наш даўні госьць, часты сябар «Радыёфакту», – гэтак карэспандэнт пачаў гутарку з Лукашэнкам у ранішнім эфіры 20 студзеня 1993 году (яшчэ адным удзельнікам той перадачы, дзе абмяркоўваўся праект закону аб прыватызацыі, быў дэпутат Віктар Какоўка).

Даволі часта «Радыёфакт» у рэпартажах з сэсіі Вярхоўнага Савету даваў фрагмэнты выступаў Лукашэнкі – хаця ён ніколі не прадстаўляў законапраекты і быў далёка не адзіным, хто ўдзельнічаў у іх абмеркаваньні. Так, 9 чэрвеня 1993 году ў рэпартажы з абмеркаваньня справаздачы Нацыянальнага банку аб грашова-крэдытнай палітыцы (дзе выступалі і старшыня Нацбанку, і міністар фінансаў і, натуральна, дэпутаты – члены парлямэнцкай бюджэтна-фінансавай камісіі ) – быў дадзены толькі выступ Лукашэнкі, прычым амаль цалкам.

Прамой трансьляцыі сэсіі (за выключэньнем рэдкіх выпадкаў) асобна не рабілася, і мільёны грамадзянаў Беларусі даведваліся пра іх з такіх вось рэпартажаў.

Паказальным прыкладам сьвядомага «піяру» Лукашэнкі можа быць публікацыя ва ўрадавай газэце «Белорусская Нива» 22 кастрычніка 1992 году. Прыкметны ўжо сам па сабе рэдакцыйны ўступ, які папярэднічае інтэрвію:

«Цікавы ён чалавек, гэты Лукашэнка. Хаця ў выніку розных апытаньняў на папулярнасьць у народзе ягонае прозьвішча апошнім часам не фігуруе, тым ня менш, ведаюць Аляксандра Рыгоравіча, запрашаюць у працоўныя калектывы, на розныя канфэрэнцыі і зьезды. Член Вярхоўнага Савету Рэспублікі Беларусь, а сядзіць у глыбінцы дырэктарам саўгасу. І яшчэ дэталь: больш поўна прымяніць на карысьць народу свае веды, вопыт «не пушчаюць», а куды запрашаюць – не ідзе. І такіх, незразумелых на першы погляд недарэчнасьцяў гэтулькі, што хочацца нарэшце запытаць: «Чаму і адкуль?» І ў каго як не ў Аляксандра Рыгоравіча! Дарэчы, ён і не адмаўляецца праясьніць сытуацыю. На пытаньні адмысловага карэспандэнта «Белорусской нивы» адказвае народны дэпутат Рэспублікі Беларусь, чалавек ад зямлі, дырэктар саўгасу «Гарадзец» Шклоўскага раёну А. Лукашэнка».

На першы погляд, гэты рэдакцыйны тэкст напісаны на ўзроўні школьнай насьценгазэты – неахайна і з памылкамі (не было такой пасады «член Вярхоўнага Савету», былі дэпутаты). Але насамрэч тут ня ўсё так проста, тэкст зроблены з сэнсам.

Аўтар ведаў, што ніякіх «членаў Вярхоўнага Савету» не было (у апошніх радках статус Лукашэнкі пазначаны правільна – дэпутат), але ў пачатку 90-ых яшчэ сьвежымі былі ў памяці і, адпаведна, успрымаліся больш салідныя вызначэньні -- «член ЦК», «член Палітбюро»; зрэшты, для чытачоў гэтай газэты, жыхароў вёсак і райцэнтраў, куды больш моцна гучала «член бюро райкаму». З улікам такога ўспрыманьня і пісалася. Пры гэтым устойлівы выраз «чалавек ад зямлі» ў тэксьце ўзьведзены ў ранг пасады.




Сатырычны плякат. 1994.

У арыентаванай на працаўнікоў сельскай гаспадаркі «Белорусской ниве» не маглі ня ведаць, што Лукашэнка на грамадзкіх пачатках зьяўляецца дарадцам Вячаслава Кебіча па аграрных пытаньнях – але ў народзе любяць незаслужана пакрыўджаных начальствам, і таму – словы пра тое, што яго нібыта «не пушчаюць», заціскаюць. Але, паведамляе газэта, ёсьць і такія, хто цэніць Аляксандра Рыгоравіча, хто запрашае  на канфэрэнцыі і зьезды, ды ён ведае сабе цану – і не ідзе. Чакае свайго часу.

Пасьля фразы «хочацца нарэшце запытаць» чытач можа падумаць, што Лукашэнка да гэтага моманту быў для газэты малавядомы; насамрэч, «Белорусская  нива» пісала пра яго дзясяткі разоў, і ня раз і ня два Лукашэнка на старонках гэтай газэты «праясьняў сытуацыю».

Гэтым разам Лукашэнка выказаўся і пра тое,

што «мае выбаршчыкі права развальваць Саюз мне не давалі», і што «народ не жадаў такой свабоды, пра што недвухсэнсоўна выказаўся ў часе рэфэрэндуму (аб захаваньні СССР – С.Н.) і, як бачым, не памыліўся», і БНФ пакрытыкаваў, і адмоўна пра рэфэрэндум аб датэрміновых выбарах сказаў (пытаньне пра рэфэрэндум павінна было з дня на дзень разглядацца Вярхоўным Саветам) – усё гэта для заснаванай Саўмінам газэты было прымальным і цалкам упісвалася ў ідэалягічныя каноны афіцыйнай прапаганды. А вось што магло падацца дзіўнаватым – тое, што Лукашэнка ва ўрадавай газэце крытыкаваў урад. Плюралізм? Гэты прынцып «Белорусская нива» адрынала: так, за ўсе гады дзейнасьці Вярхоўнага Савету гэтая газэта не ўзяла ніводнага інтэрвію ў лідэраў БНФ. Чаму ж тады далі слова Лукашэнку?

Падаецца, сакрэт просты і хаваецца ён у першых фразах рэдакцыйнага тэксту: «У выніку розных апытаньняў на папулярнасьць у народзе ягонае прозьвішча апошнім часам не фігуруе». Некага (таго, хто мог уплываць на ўрадавую прэсу) вельмі не задавальняў такі нізкі рэйтынг Лукашэнкі, некаму вельмі хацелася яго ўзьняць, нагадаць пра яго яшчэ раз – каб не забыліся.

Пачынаючы з 1993 году імя Лукашэнкі ўжо не зьнікала з палосаў дзяржаўных газэт. Лукашэнка сынхронна са старшынём ураду Вячаславам Кебічам – асуджае «развал СССР» і ставіць пад сумнеў мэтазгоднасьць існаваньня незалежнай беларускай дзяржавы.

У сьнежні 93-га, напярэдадні «антыкарупцыйнага дакладу», падкантрольная Саўміну «Советская Белоруссия» друкуе вялізнае інтэрвію з Лукашэн-

кам, аб’ёмам на дзьве паласы – за ўсе гады кадэнцыі Вярхоўнага Савету ўсе дэпутаты Апазыцыі БНФ разам узятыя ў гэтым выданьні не атрымалі такога аб’ёму газэтнай плошчы.

Прыкметна, што даклад, разам зь лідэрам камуністаў Васілём Новікавым, пісала супрацоўніца «Советской Белоруссии» Людміла Масьлюкова, пра што пазьней яна будзе з гонарам распавядаць. Сам даклад Лукашэнкі прагучаў 14 сьнежня (15 сьнежня ён адказваў на пытаньні дэпутатаў) і быў мешанінай праўды, паўпраўды і цынічнай хлусьні.

Пасьля дакладу падтрымка Лукашэнкі дзяржаўнай прэсай ня зьменшылася – аж да самай вясны 1994-га, калі ён заявіў пра жаданьне балятавацца на пасаду прэзыдэнта, якая, як лічылася, была зробленая «пад Кебіча». Некаторыя дзяржаўныя газэты зьменшылі колькасьць публікацый (але ня ўсе: так, падкантрольная Саўміну газэта «7 дней» зьмясьціла вялікі артыкул Анатоля Майсені, у якім той пісаў пра вялікі рэфармісцкі патэнцыял Лукашэнкі і нават параўноўваў яго зь Лехам Валэнсам). Аднак для Лукашэнкі гэта ўжо ня мела істотнага значэньня; да таго ж, ён працягваў фігураваць у прэсе як кандыдат у прэзыдэнты.

Лічыцца, што з моманту пачатку выбарчай кампаніі дзяржаўная прэса павярнулася на 180 градусаў і пачала жорсткую крытыку Лукашэнкі. Але гэта – зусім ня так.

Прэса падрабязна смакавала ўсе буйныя і дробныя правакацыі, якія стваралі ў часе выбарчай кампаніі Лукашэнка і ягоная каманда – і нават парлямэнцкая «Народная газэта» зьмясьціла на першай паласе фатаздымак парванага міліцыянтамі пінжака Лукашэнкі. Аднак быў куды больш важны

фактар, чым любоў журналістаў да «паленага», які працаваў на Лукашэнку і ў папярэднія гады, і ў часе выбараў.

Гэта – стварэньне падуладнай Кебічу прэсай інфармацыйна-прапагандысцкага фону, які цалкам супадаў з мэтамі Лукашэнкі.

...Раніцай 8 сьнежня, у гадавіну падпісаньня Віскулёўскіх пагадненьняў, якія канстатавалі спыненьне існаваньня Савецкага Саюзу, дзяржаўнае радыё паведаміла грамадзянам Беларусі, што ў Белавескай пушчы прагучаў гімн СССР. «У акцыі пратэсту прынялі ўдзел прадстаўнікі партыі камуністаў Беларусі зь Берасьця і Менску. Яны ўбілі тры асінавыя калы ў віскулёўскую зямлю як сымбалі мяжы цярпеньня людзей, падманутых, на думку прысутных, уладамі. Як паведамілі ў абласным упраўленьні ўнутраных справаў, на гэтай сустрэчы з нагоды гадавіны пахаваньня СССР прысутнічала крыху больш за 50 чалавек, парушэньняў парадку не зарэгістравана».

Саму па сабе акцыю супраць дзяржаўнасьці Беларусі міліцэйскія начальнікі «правапарушэньнем» не палічылі – хаця ў шмат якіх дэмакратычных краінах такія дзеяньні маглі б ацэньвацца як спроба замаху на канстытуцыйны лад. Аднак берасьцейскія міліцыянты наўрад ці маглі разглядаць учынак паўсотні камуністычных артадоксаў як правапарушэньне: ім такое нават не магло прыйсьці ў галаву. Наадварот – злачынствам яны хутчэй маглі расцэньваць стварэньне незалежнай Беларусі і распад СССР, бо менавіта такая ацэнка штодня прапагандавалася ў падкантрольных ураду сродках масавай інфармацыі.

Мне не вядомы ніводзін выпадак, калі б праўра-



ДВ 5.X.92

# ЭФІР ІМ ТОЛЬКІ СНІЦЦА...

АЛЕСЬ ЛІПАЙ, БелаПАН.

Міністр інфармацыі Беларусі Анатоль Бутэвіч і старшыня Белтэлерадыёкампаніі Аляксандр Сталяроў адмовілі парламенцкай апазіцыі БНФ у прадастаўленні ёй пастаяннага эфірнага часу на тэлебачанні і радыё.

Нагадаем, папярэдняя дамоўленасць аб прадастаўленні пастаяннага эфірнага часу была дасягнута ў жніўні паміж кіраўніцтвам Міністэрства інфармацыі, Белтэлерадыёкампаніі і прадстаўнікамі парламенцкай апазіцыі. Меркавалася, што ў перадачах гэтага часу ўдзельнічалі б не толькі дэпутаты Вярхоўнага Савета, але і прадстаўнікі дэмакратычных партый, дэпутаты мясцовых Саветаў, якім, натуральна, таксама ёсць што сказаць. Толькі іншага лёс назычыў...

— Такая пазіцыя кіраўніцтва дзяржаўных інфармацыйных структур,—лічыць каардынатар апазіцыі Сяргей Навумчык,— з'яўляецца адбіткам антыдэмакратычнай палітыкі ўрада, які заўсёды імкнуўся заткнуць рот сваім палітычным апанентам. Наша грамадства, якое пераважна чуе толькі афіцыйную, аднабаковую трактоўку падзей, мае права ведаць і альтэрнатыўны пункт гледжання. Менавіта таму апазіцыя будзе рашуча супрацьстаяць усялякім спробам манапалізацыі прэсы.

Публікацыя ў менскай гэзэце «Добры вечар», 5 кастрычніка 1992 г.

давыя СМІ паведамілі пра пасяджэньне парлямэнцкай Апазыцыі БНФ; зрэдку яны давалі інфармацыю пра нашыя заявы, з абавязковай крытычнай, а часам і зьдзеклівай ацэнкай. Без увагі заставаліся пасяджэньні Сойму БНФ і кіруючых органаў дэмакратычных партый. Не асьвятляліся паездкі ў рэгіёны дэпутатаў-фронтаўцаў (хаця на гэтыя сустрэчы зьбіраліся сотні людзей). Не памятаю, каб дзяржаўнае радыё ці тэлебачаньне зрабіла рэпартаж пра выступ перад чытачамі Васіля Быкава. А вось пра «тры асінавыя калы» (трэба меркаваць, па колькасьці кіраўнікоў дзяржаў – падпісантаў Белавескага пагадненьня) – радыё паведаміла адразу.

Дзяржаўныя СМІ пераконвалі людзей, што эка-

намічны крызіс, пагаршэньне ўзроўню жыцьця – гэта ня вынік няздольнасьці ўраду праводзіць рэформы, а наступства распаду СССР. Яны выцягвалі на сьвет Божы самую дробную падзею, самую нешматлюдную акцыю, калі яны былі супраць Незалежнасьці. У інтэрвію і кіраўнікоў, і простых людзей гучалі праклёны ў бок тых, хто «разваліў вялікую краіну». Пры гэтым ніколі за ўсе гады існаваньня незалежнай Беларусі праўрадавыя СМІ не правялі наводнага «круглага стала», ніводнай дыскусіі, у якой бы папулярна тлумачыліся перавагі дзяржаўнай самастойнасьці – з улікам тых складанасьцяў, якія непазьбежна ўзьнікаюць на першым этапе існаваньня незалежнай краіны. Ва ўсялякім разе, я такіх дыскусій ня памятаю.

Выключэньнем могуць быць хіба 40-50-хвілінныя «прамыя эфіры» дэпутатаў Апазыцыі БНФ, якія нам удавалася праводзіць два-тры разы на год. «Выбіваць» эфірны час даводзілася мне, і, нягледзячы на закон аб статусе дэпутата, які гарантаваў прадстаўленьне эфіру, даводзілася весьці доўгія перамовы з кіраўніцтвам дзяржаўнага тэлебачаньня.

Увогуле, мы, дэпутаты БНФ, маглі разьлічваць толькі на некалькі выданьняў. Гэта парлямэнцкая «Народная газэта», у якой галоўны рэдактар Іосіф Сярэдзіч друкаваў нашы заявы і артыкулы, «Свабода» (дэпутат Апазыцыі БНФ Ігар Гермянчук давёў наклад газэты, якая выдавалася тарашкевіцай, да 100 тысяч асобнікаў), «Пагоня», якую ў Горадні выдаваў таксама дэпутат-франтавец Мікола Маркевіч. Выходзілі «Навіны БНФ» – да моманту, пакуль міністэрства інфармацыі не спыніла іх існаваньне. Прыхільна ставіліся да Народнага Фронту

«Чырвоная зьмена» і газэта Менскага гарсавету «Добры вечар», а таксама тыднёвік «Літаратура і мастацтва». Культурніцкую беларускую пазыцыю займала адноўленая ў Вільні Сяргеем Дубаўцом «Наша Ніва». Былі і некалькі рэгіянальных выданьняў – напрыклад, газэта клюбу выбаршчыкаў Віцебску «Выбар», якую рэдагаваў Барыс Хамайда.

У пачатку 90-ых дзейнічалі інфармацыйныя агенцтвы – «БелаПАН» пад кіраўніцтвам Алеся Ліпая і агенцтва СІМ у Мас-мэдыя Цэнтры на чале з Аляксандрам Старыкевічам. Мая жонка Галіна стварыла інфармацыйна-аналітычнае агенцтва «Павет» – яго інфармацыю выкарыстоўвалі пераважна акрэдытаваныя ў Беларусі дыпляматычныя місіі.

Наклад усіх разам узятых вышэйназваных газэт не перавышаў накладу «Советской Белоруссии» – а ў Кебіча была яшчэ і «Рэспубліка», і «Знамя юности», абласныя газэты, і раённыя, і ўсе – на датацыях зь дзяржаўнага бюджэту. І, канешне, пад поўным кантролем ураду былі самыя магутныя сродкі інфармацыі, якія захавалі свае прапагандысцкія функцыі – тэлебачаньне і радыё.

Мы прадбачылі небясьпеку канцэнтрацыі СМІ ў руках выканаўчай улады. Інфармацыйная канцэпцыя, якую мне давялося распрацоўваць у 1991 годзе, прадугледжвала разьдзяржаўленьне і акцыянаваньне прэсы. Аднак прадстаўленая ад імя Апазыцыі БНФ канцэпцыя была адрынутая. Ужо ў сярэдзіне 1992 году найбольш уплывовыя СМІ былі манапалізаваныя ўрадам, і дэманапалізацыя прэсы была адным з галоўных нашых палітычных патрабаваньняў. Мы ўнесьлі на разгляд Вярхоўнага

Савету пастанову аб дэманапалізацыі СМІ, але і яна была заблякаваная.

У жніўні 1993 году Апазыцыя БНФ прыняла Заяву аб сытуацыі ў СМІ, якая 2 верасьня была апублікаваная «Народнай газэтай».

«Тэлебачаньне і радыё, Белінфарм, значная частка пэрыядычных выданьняў апынулася ў фінансавай залежнасьці ад Савету Міністраў і ня могуць супрацьстаяць ідэалягічнай цэнзуры, аб'ектыўна адлюстроўваць дзеяньні ўраду. Манапалізацыя шэрагу газэт і часопісаў, падпарадкаваньне выдавецтва "Беларускі Дом друку" Гаспадарчаму ўпраўленьню Савету Міністраў, звальненьне і цкаваньне прагрэсіўных журналістаў, спыненьне вяшчаньня незалежных тэлекампаніяў, адмаўленьне ў прадстаўленьні дэпутацкай апазыцыі законнага права на эфірны час – гэтыя і многія іншыя прыклады характарызуюць інфармацыйную палітыку ўраду як супярэчную прынцыпам свабоды слова», – гаварылася ў нашай заяве. Мы таксама выступілі за прыярытэтнае разьвіцьцё беларускамоўных сродкаў масавай інфармацыі.

А праз тыдзень пасьля гэтай заявы, 8 кастрычніка, сытуацыю ў СМІ разгледзела Камісія Вярхоўнага Савету ў пытаньнях галоснасьці, сродкаў масавай інфармацыі і правоў чалавека. Я ўдзельнічаў у гэтым пасяджэньні, якое прайшло ў нэрвовай атмасфэры. Дэпутатаў БНФ у складзе камісіі была меншасьць, але нават нашыя палітычныя апанэнты былі непрыемна ўражаныя паводзінамі прадстаўнікоў Саўміну. Падначаленыя Кебіча сваімі паводзінамі давалі нам зразумець: што б мы, дэпутаты, тут ні вырашылі – яны зробяць па-свойму. Яны цудоўна ведалі, што Вярхоўны Савет даўно пад кантролем

Кебіча, што галоўныя палітычныя рашэньні прымаюцца ўжо не ў Авальнай залі, а ў саўмінаўскіх кабінэтах.

І тым ня менш, парлямэнцкая камісія сваё слова сказала.

«У большасьці друкаваных выданьняў, у нейкай ступені і тэлерадыёпраграм, іх грамадзянская пазыцыя ня толькі не спрыяе ўмацаваньню сувэрэнітэту рэспублікі, станаўленьню дэмакратычных інстытутаў, стабілізацыі палітычна-эканамічнага становішча ў грамадзтве, але наадварот – адыгрывае дэструктыўную, дэстабілізуючую ролю, – сказаў на прэсавай канфэрэнцыі намесьнік старшыні Камісіі Анатоль Вярцінскі. – Выступаюць, па сутнасьці, ад стрымана-чакальнага, маўляў, паглядзім, да адкрытага супрацьстаяньня дзяржаўнай незалежнасьці, нацыянальна-культурнага адраджэньня, прававога і рэальнага ўсталяваньня беларускай мовы ў якасьці дзяржаўнай. Выкарыстоўваючы яўна і па прызначэньні права на свабоду слова і друку, на распаўсюджаньне інфармацыі, супрацоўнікі гэтых выданьняў распаўсюджваюць дэзінфармацыю, сеюць насеньне разладу, варожасьці, нянавісьці, шальмуюць нацыянальна-дзяржаўныя сымбалі, тыражуюць інсынуацыі, паклёп, абразы на адрас патрыятычна настроеных і дэмакратычна мысьлячых грамадзкіх і палітычных дзеячоў, у прыватнасьці, старшыні Вярхоўнага Савету Станіслава Шушкевіча».

Анатоль Вярцінскі зьвярнуў увагу на «наступны дзіўны парадокс: супраць дзяржаўнага сувэрэнітэту выступаюць газэты, якія фінансуюцца зь дзяржаўнага бюджэту. Напрыклад, “Беларуская ніва”, “Рэспубліка”, “Советская Белоруссия”... Камісія лічыць,

што дзейнасьць значнай часткі сродкаў масавай інфармацыі, у прыватнасьці дзяржаўных, носіць неляяльны, а ў некаторых выпадках яўна варожы характар у дачыненьні да дзяржаўнасьці і сувэрэнітэту Рэспублікі Беларусь, пагражае нацыянальным інтарэсам і бясьпецы».

Камісія вырашыла патрабаваць ад Саўміну адстаўкі кіраўніка Дзяржтэлерадыё Аляксандра Сталярова, ліквідацыі неканстытуцыйных структураў у апараце Саўміну, створаных для кантролю над СМІ, а ад дзяржаўнай прэсы – выкананьня пастановы прэзыдыюму Вярхоўнага Савету аб беларускай мове ў сродках масавай інфармацыі.

Усе гэтыя патрабаваньні Саветам міністраў былі праігнараваныя. Наадварот: праз некалькі месяцаў, з пачаткам выбарчай прэзыдэнцкай кампаніі, Саўмін узмацніў ціск на прэсу.

У пачатку траўня 1994-га я падрыхтаваў заяву, якую падпісалі дэпутаты Апазыцыі БНФ. Мы канстатавалі, што «міністар культуры і друку, парушаючы закон, уласным загадам спыніў выданьне газэты “Навіны БНФ”. Забаронена газэта “Выбар” (Віцебск). Выдавецтва “Беларускі Дом Друку” адмовілася друкаваць газэту “Свабода”. 28 траўня забароненыя дэмакратычныя радыёстанцыі «Беларуская маладзёжная» і «Крыніца». Заблякаваная інфармацыя незалежнага агенцтва «БелаПАН» і ўвогуле ўся інфармацыя, якая датычыць дзейнасьці дэмакратычных сілаў і не ўспрымаецца ўрадавай групоўкай кіруючай намэнклятуры. Зьнішчаюцца рэшткі дэмакратычнага друку. Умацоўваецца таталітарны рэжым. Рэгулярныя звароты дэпутатаў Апазыцыі БНФ да кіраўніцтва Дзяржтэлерадыё з просьбай даць эфірны час ігнаруюцца, хоць та-

кая магчымасьць дэпутатам гарантаваная законам. Наступ на дэмакратычных журналістаў і незалежную прэсу невыпадковы – Савет Міністраў і паслухмяны яму Вярхоўны Савет зацікаўленыя, каб выбары прэзыдэнта адбываліся ў становішчы інфармацыйнага падману грамадзтва».

Заява супраць забароны «Беларускай маладзёжнай» паступіла ў тыя дні і ад каманды Лукашэнкі; аднак, як пакажуць ужо першыя тыдні ягонага прэзыдэнцтва, ягоны клопат пра свабоду слова быў няшчыры і тлумачыўся выключна жаданьнем у часе выбарчай кампаніі не папсаваць адносіны з журналістамі.

Насамрэч Лукашэнка мог толькі падзякаваць і Кебічу, і падуладным Саўміну кіраўнікам СМІ. Крытыка Лукашэнкі гучала толькі пару месяцаў і не магла асабліва яму нашкодзіць. Хутчэй – наадварот, бо раней тая самая прэса стварыла яму імідж «народнага абаронцы», а які заўгодна наступ з боку прадстаўнікоў ўлады (ці прыхільнікаў улады, якімі ўспрымаліся журналісты дзяржаўных СМІ) на такую асобу – у вачах выбаршчыка ідзе яму на карысьць.

Істотна, што ў часе перадвыбарчай кампаніі падкантрольная ўраду прэса, як і раней, працягвала і нават узмацніла антынезалежніцкую, антынацыянальную прапаганду.

І самае важнае – такая прапаганда вялася манапалізаванымі ўрадам СМІ ўсе гады існаваньня незалежнай Беларусі, вялася мэтанакіравана, сыстэмна, не спыняючыся ні на дзень, прымушаючы людзей верыць у тое, што распад СССР – злачынства, што Незалежнасьць – зло, а адзінае выратаваньне – у саюзе з Расеяй. Усе гэтыя гады прапагандысцкая

машына працавала супраць БНФ і яго лідэра Зянона Пазьняка, якія былі прыхільнікамі Незалежнасьці, і ў падтрымку ідэяў, якія вызнавалі і Кебіч, і Лукашэнка.

І ў крытычны момант сфармаванае дзяржаўнай прэсай у значнай часткі насельніцтва непрыняцьце ідэі Незалежнасьці як прычыны абніжэньня ўзроўню жыцьця і ўсіх цяжкасьцяў, спрацавала на карысьць Лукашэнку – паколькі зь ягоных вуснаў прарасейскія і праімпэрскія лёзунгі вяртаньня ў СССР (і аднаўленьня савецкага матэрыяльнага мінімуму) гучалі больш энэргічна, чым ў ідэйнага аднадумца Кебіча.

## Быкаў: Беларусь ня зьнікне, калі ня скарыцца чужой сіле

Я спыніў аўтамабіль ля знаёмага пад’езду чырвонага дому на Танкавай. Васіль Уладзімеравіч выйшаў з машыны. Вылез з-за руля і я, разумеючы, што давядзецца зрабіць не адну «ходку» на дзявяты паверх, бо ўсе падараваныя яму кветкі нават удвух адразу мы не зьнясем.

– Ня трэба, Сярожа, – сказаў Васіль Уладзімеравіч і ўзяў невялікі букецік. – Я вось гэта занясу Ірыне Міхайлаўне. Не люблю, калі ў старых людзей кватэра застаўлена кветкамі, як на пахаваньні.

– А што мне рабіць з усім гэтым? – усё задняе сядзеньне аж да даху было ўтрамбавана букетамі, былі яны і ў багажніку.

– Завязіце сваёй Галі.

– Васіль Уладзімеравіч, кветкі ж Вам, гэта не нармальна.

– Гэта нармальна.

Так вось і атрымалася, што апошнія тыдні чэрвеня 1994-га (пік выбарчай кампаніі Пазьняка) нашая кватэрка ва Ўруччы ўся была застаўленая «быкаўскімі» кветкамі.

А той дзень свайго 70-гадовага юбілею Васіль Уладзімеравіч правёў разам з камандай Пазьняка. Ён адмовіўся ад афіцыёзу, наведаўшы толькі адмысловую выставу ў літаратурным музэі на Баг-



Актывісты БНФ віншуюць Васіля Быкава зь яго 70-годзьдзем у скваэры Янкі Купалы. 19 чэрвеня 1994.

дановіча. Потым было віншаваньне ў сквэры Янкі Купалы. Для юбіляра адмыслова паставілі крэсла, але ён застаўся стаяць. Выступіў каротка і сярод сваіх самых галоўных жаданьняў назваў – «каб прэ-

зыдэнтам Беларусі быў абраны Зянон Станіслававіч Пазьняк». А ўвечары сабраліся ўжо ў штаб-кватэры БНФ на Варвашэні, у вузкім коле. Праўда, «вузкім» гэтае кола можа назваць умоўна: сабралася чалавек сто – Рыгор Барадулін, Радзім Гарэцкі, Анатоль Грыцкевіч, Артур Вольскі, канешне, Зянон Пазьняк, сябры Сойму, дэпутацкай апазыцыі і Ценявога кабінэту БНФ. Былі віншаваньні, быў сьвяточны стол, быў і торт з 70 сьвечкамі, якія задзьмуў юбіляр.

На першых прэзыдэнцкіх выбарах Быкаў быў даверанай асобай Пазьняка, але мы стараліся не абцяжарваць яго паездкамі ды сустрэчамі ў аўдыторыях. Васіль Уладзімеравіч выступіў у прамым эфіры каманды лідэра БНФ, яго меркаваньне прагучала ў фільме, які мы пусьцілі ў адведзены нашаму кандыдату тэлевізійны час, было некалькі інтэрвію.

Лічыцца, што Быкаў не любіў выступаць публічна і пазьбягаў вялікай аўдыторыі. Напэўна, і не любіў, і пазьбягаў, але ў выпадку з Народным Фронтам усё было інакш. Ва ўсялякім разе з 1989 году, калі я меў магчымасьць пазнаёміцца зь ім блізка, быў не адзін дзясятак сустрэч ды выступаў. Дастаткова сказаць, што Васіль Уладзімеравіч рэгулярна наведваў Соймы БНФ; году з 1993-га, калі Фронт займеў памяшканьне па Варвашэні, 8, не было такога месяца, каб там не зьяўляўся Быкаў.

І з таго самага 1993 году мне пашанцавала часта падвозіць яго на сваім аўтамабілі – забіраць каля яго дому па Танкавай, і потым адвозіць дамоў.

У дарозе мы шмат пра што размаўлялі, і неяк я прапанаваў яму зрабіць гутарку для «Народнай газэты» якраз па тэме выбараў. Васіль Уладзімеравіч пагадзіўся, але папрасіў, як звычайна ў тыя

гады, адказаць на пытаньні пісьмова – каб быў час на роздум.

Гэтае інтэрвію было надрукавана ў «Народнай газэце» – але са скарачэньнямі (рэдактурай былі выкрасьленыя некалькі радкоў, пра Лукашэнку). Тут зьмяшчаю яго цалкам, а пасьля яго – своеасаблівае пасьляслоўе Быкава да той выбарчай кампаніі, ягоны адказ на пытаньне – чаму БНФ не перамог?

«– *Васіль Уладзімеравіч, яшчэ некалькі гадоў назад Вы перасьцерагалі ад залішняй эўфарыі, якая панавала ў дэмакратычных колах з прычыны дасягненьня незалежнасьці Беларусі. Здаецца, цяпер, як ніколі, сувэрэнітэт краіны знаходзіцца пад пагрозай. Што гэта – заканамерны стан для кожнай маладой дзяржавы ці нейкая нашая ўласная асаблівасьць?*

– Як мне здаецца, шмат што (калі ня ўсё) у гэтай справе залежыць ад палітычнай волі нацыі. Калі гэтая воля дастаткова моцная і мэтанакіраваная, калі нацыя гатова да выпрабаваньняў дзеля дасягненьня ўласнай незалежнасьці, пабудовы дзяржаўнасьці, тады ўрэшце тая незалежнасьць будзе здабыта.

Даволі хоць прыглядкам зірнуць на эўрапейскую гісторыю, каб згледзець, што празь немалыя выпрабаваньні там прайшлі ўсе нацыі – вялікія і малыя, якія цяпер жывуць забясьпечана і маюць усё, што трэба найперш ад плёну сваёй незалежнасьці. Мабыць, тут варта яшчэ за бязрадаснай будзённасьцю бачыць гістарычную пэрспэктыву, якую дае незалежнасьць – калі не для сучасьнікаў, дык для наступных пакаленьняў. Таму так важна гатоўнасьць нацыі да рутыннай працы дзеля будучыні, а ня толькі дзеля патрэбаў сёньняшняга дня. Зрэшты, тое павінна быць элемэнтарным

клопатам найперш для палітыкаў, урадоўцаў і дэпутатаў. I кепска, калі тыя маюць іншыя мэты, выхаваны на іншай ідэалёгіі і падлегласьці, спрадвечнай залежнасьці ад суседняй дзяржавы, для якіх найбольшым страхоцьцем дагэтуль гучыць слова «нацыяналіст». Нібыта зьдзейсьніць сапраўдны сувэрэнітэт нацыі магчыма сродкамі якой іншай, не нацыянальнай палітыкі.

У наш час папулярнасьць нацыянальнай ідэі зразумелі палітыкі нават тых нацый, якія 70 год вялі бязьлітасную барацьбу з нацыяналізмам (праўда, з чужым, ня ўласным). Цяпер жа яны, і камуністы і дэмакраты, напралом кінуліся да ягоных прынцыпаў, не перастаючы, аднак, бэсьціць нацыяналізм іншых народаў – украінскага, літоўскага, эстонскага і шмат якіх іншых. Звычайна ў такіх выпадках наракаюць на сапраўды жахлівую калатнечу ў так званых «гарачых кропках» Закаўказьзя, Сярэдняй Азіі, дзе шмат што ідзе ад даведзенага да абсурду нацыяналізму. Але вядома, што ёсьць розны нацыяналізм (таксама, як і розны сацыялізм – ад швэдзкага да камбаджыйскага) а што датычыць «гарачых кропак», дык там кроў ліецца ня толькі з прычыны абсурднага нацыяналізму. Хоць бы ў той жа Югаславіі, дзе ўся калатнеча ўсчалася, як вядома, з прычыны звар’яцелай агрэсіўнасьці сэрбскага камунізму, які апантана выступіў супраць славенскіх, харвацкіх, а затым і басьнійскіх памкненьняў вырвацца з-пад сэрбска-камуністычнай падлегласьці.

Можна любіць ці не любіць суседні народ, але без любові да ўласнага, да роднай зямлі і нацыі, яе гісторыі і культуры немагчыма пабудаваць дзяржаўны дабрабыт, шчасьце асобнага чалавека.

*– Як Вы ацэньваеце абыякавую рэакцыю значнай часткі насельніцтва на Дамову аб аб’яднаньні грашовых сыстэмаў, якая фактычна падпісаная з парушэньнем Канстытуцыі і зьяўляецца здачай дзяржаўнасьці?*

– Наша эканоміка набыла гэткі заблытана-крызісны стан, што колькі-небудзь разабрацца ў ёй ужо не пад сілу нават спэцыялістам сусьветнага маштабу. Здаецца, усе эўрапейскія ды амэрыканскія эканамісты – дарадцы, што спрабавалі тое зрабіць, абтрэсьлі свае рукі і зьехалі з Масквы. Трэба было стварыць д’ябальскія ўмовы, каб так яе разваліць і заблытаць, давесьці да гэткага бядотнага стану. І гэта ў найбагацейшай краіне зь безьліччу людзкіх і матэрыяльных рэсурсаў. Я ні ў малой ступені не спэцыяліст у эканоміцы, але як і кожнаму нармальнаму чалавеку, мне абсалютна зразумела прынамсі адна з галоўных прычынаў яе занепаду, якой зьяўляецца яе празьмерная, пачварная мілітарызацыя. Эканоміка, у якой 80 працэнтаў рэсурсаў так ці інакш аддадзена вытворчасьці ракет, танкаў ды безьлічы іншых сродкаў забойства, доўга існаваць ня можа, яна павінна загінуць. Што і адбываецца, хоць яе агонія задоўжылася з дапамогай даляравых і рублёвых ін’екцый. Але ўратаваць яе ўжо ня можа ніхто: ні Ельцын, ні Гайдар, ні Чарнамырдзін, ні Кебіч. Ні нават сам гасподзь-бог, калі б ён спусьціўся на зямлю. Мабыць, яе пагібель – божае пакараньне за наш камуністычны грэх перад чалавецтвам.

Але ж гінуць нікому ня хочацца, а шляхоў паратунку не відно, і кіраўніцтва кідаецца ў імправізацыі. У шэраг неразумных, авантурных, часам панічных імправізацый, вынік якіх заўсёды

аднолькавы – яшчэ большая шкода. Найбольш бязглуздая і, мабыць, апошняя зь іх – фінансава-эканамічная капітуляцыя Беларусі з мэтай вяртаньня яе ў ранейшы татальна-залежны стан, дзе ўсё будзе вырашацца ў Маскве. Таго вельмі дамагаецца шматлікая армія генэральных дырэктараў прадпрыемстваў ВПК (ваенна-прымысловага комплексу – С.Н.), які ў сувэрэннай нэўтральнай Беларусі рызыкаваў застацца без ваенных заказаў ды льготнага фінансаваньня; дамагаюцца іхнія калегі, такія ж генэральня дырэктары АПК (аграпрамысловага комплексу – С.Н.), што ледзьве ня страцілі ўпэўненасьць у сваёй фэадальнай уладзе перад тварам зямельнай рэформы; несумненна за тое ж камуністы з перарэгістраванымі а таксама прыхаванымі да часу партыйнымі білетамі. Ну і вядома, інтэрнацыянальная мафія ўсіх адценьняў, якой ужо стала цеснавата на абкрадзенай Беларусі і зажадалася новых прастораў для грабяжу. Іхні дружны драпежны хор за аб’яднаньне старанна артыкулююць цынічныя пісакі з прадажных утрыманак-газэт і тэлебачаньня. Дык што ў гэтым хоры голас зьняверанага, зьбітага з панталыку народа, калі просты чалавек цьвёрда ўпэўнены ў адным: толькі тое яго, што ўкраў. У тым ён перакананы за гады панаваньня Саветаў і ў тым згледзеў рэальны плён сацыялізму, да якога ня супроць вярнуцца.

*– Пачынаецца прэзыдэнцкая кампанія. Ці дае яна нашаму грамадзтву нейкія спадзяванкі, ці мо гэта – чарговы «фінт» намэнклятуры, накіраваны на замацаваньне ўлады?*

– Фігура прэзыдэнта, як яна задумана і сфармулявана Вярхоўным Саветам, ня болей чым бутафорская, цалкам марыянэтачная ў руках таго ж Вяр-

хоўнага Савету, які будзе ім маніпуляваць і ў любы момант можа зрабіць зь ім тое, што нядаўна зрабіў з С. Шушкевічам. Скажаце: не, тое не прадугледжана Канстытуцыяй? А Вярхоўны Савет унясе адпаведную папраўку ў сваю Канстытуцыю, якую ён, вядома, мае звычай разглядаць зусім не як Сьвяшчэнныя скрыжалі, а хутчэй – як рабочы чарнавік, які можна кроіць-крэсьліць на кожнай сэсіі. (А цяпер яшчэ і з дапамогай Канстытуцыйнага суду.) (Гэта хіба адзіная выснова Быкава, якая ня спраўдзілася – пэўна, нават Быкаў ня мог уявіць, што пасьля ўсяго, што здарылася ў часы камуністычнай дыктатуры – магчымае зноў падпарадкаваньне адным чалавекам цэлага народу, ігнараваньне і Канстытуцыі, і законаў, і парлямэнту. – С.Н.) Цяжка зразумець таксама лёгіку ідэі прэзыдэнцкіх выбараў у сьвятле зьменлівай (калі не сказаць здрадлівай) расейскай палітыкі, маючы на ўвазе нядаўна абʼяўлены Жырыноўскім плян пераўтварыць Беларусь у Менскую губэрню: наўрад ці «першы прэзыдэнт» Беларусі стане яе губэрнатарам. Мабыць, будучы фюрэр Расеі прызначыць губэрнатара зь ліку сваіх, уласных «маладых ваўкоў», аб якіх ён нядаўна абʼявіў у «Известиях». Навошта ж тады гэтыя шматмільярдныя выбарчыя выдаткі?

*– Некаторыя кажуць, што сярод усіх магчымых прэтэндэнтаў на пасаду прэзыдэнта яны аддалі б перавагу Васілю Быкаву. Але сам Быкаў жаданьня балятавацца не выяўляе. Вы канчаткова вырашылі ня ўдзельнічаць у актыўнай палітыцы?*

– Будучы ўсё жыцьцё беспартыйным, я ў ёй ніколі актыўна і ня ўдзельнічаў. І зусім не таму, што лічу такую пазыцыю адзіна правільнай, а чыста з асабістых меркаваньняў. І калі час ад часу высту-

паю зь нейкімі радкамі ў друку, дык толькі таму, што пэўныя моманты не магу змоўчаць. Не дазваляе сумленьне ўхіліцца, схавацца за сьпінамі іншых, як гэта ўжо стала пазыцыяй пэўнай (і немалой) часткі нашай нацыянальнай інтэлігенцыі. Канешне, пры тым я ня цешу сябе надзеяй кагосьці пераканаць, наставіць на пуць праведны. У наш час словы мала што значаць і нікога не пераконваюць. Не пераконвае нават гістарычны вопыт. Мабыць, каб штось зразумець у шырокім маштабе, патрэбны жывы, канкрэтны вопыт народа, хоць нярэдка тое разуменьне прыходзіць да яго надта позна (як у нашай нядаўняй камуністычнай гісторыі), і патрабуе надта дарагую плату – крывёй і воляй. Але што ж, мабыць, мала Беларусь стрывала пакут, калі ўсё яшчэ не зрабіла з таго пэўных і надта элементарных высноў.

*– Некаторыя палітолягі гавораць пра так званы «фэномэн Лукашэнкі» і нават прадракаюць яму посьпех на выбарах. Я спадзяюся, што, нягледзячы на вельмі хворы стан нашага грамадзтва, у большай яго часткі ўсё ж хопіць здаровага сэнсу. Але чым можна растлумачыць, што даволі значная частка людзей усё ж бачыць у ім свайго куміра? І калі ўявіць, што падобная асоба заняла б месца прэзыдэнта – ці можна спрагназаваць далейшае разьвіцьцё падзей?*

– Разгадка «фэномэна Лукашэнкі» вельмі простая: ягоны зычны, абураны голас. Голас цалкам мітынговы, г. зн. зьвернуты болей да эмоцый слухачоў, чым да іхняе лёгікі. А эмоцыі слухача-народа ў наш час, вядома, чым захоплены – абурэньнем на ўладу, якая ня служыць, а крадзе. І няма на яе ніякай управы. Лукашэнка выступіў у якасьці

абаронцы народнае праўды, Мэсіі, якога людзі чакалі, і выказаў усё так проста, зразумела ды з такім запалам, што людзі гатовы былі схапіцца за кольле, каб тут жа рушыць за праведнікам. Толькі вось праведнік нікога нікуды не павёў. Ягоная задача была ня ў тым, каб павесьці, а, мабыць, у тым, каб выпусьціць пару, якой накапілася занадта шмат і якая пагражала спантанным выбухам. Цяпер выбуху не адбудзецца, і ўлады аказаліся задаволеныя. Лукашэнка таксама не прайграў, – набыў зіхоткі німб над галавой і паверыў у сваю выключнасьць. Усё тое дало яму права запрэтэндаваць на беларускае прэзыдэнцтва, зь якім ён наўрад ці ведае, што рабіць. Хіба паехаць у Маскву на дамову аб парадку здачы Беларусі на больш-менш ганаровых умовах.

*– Якія якасьці, на Ваш погляд, найбольш неабходныя прэзыдэнту – у нашай краіне і ў нашым грамадзтве.*

– Мабыць, шмат якія. Але найпершая і самая неабходная – цьвёрдае перакананьне ў прыярытэце нацыянальнай ідэі, гатоўнасьці да ахвярнага служэньня ёй. Такія прэзыдэнты ня надта патрэбныя вялікім нацыям, але жыцьцёва неабходныя малым.

*– Часта можна пачуць думку, што сярод беларускіх палітыкаў няма лідэра, здольнага аб'яднаць грамадзтва. Ці можаце Вы з гэтым пагадзіцца?*

– Такія лідэры ёсьць, нацыя даўно б загінула, зьнікла з твару зямлі, калі б такія людзі ў ёй перавяліся. Іх канешне ня шмат (іх і не патрэбна шмат), але цяпер яны зьявіліся з народных нетраў – самаахвярныя, разумныя, адукаваныя і культурныя. І сярод іх я даўно бачу стромкую, гатычную фігуру Зянона Пазьняка, які ў поўнай меры валодае ўсімі дадзенымі, неабходнымі для выдатнага лідэра нацыі.

Так ці інакш ён гатовы служыць ёй у любой ролі, нічога не патрабуючы ўзамен. Але ад народа Беларусі залежыць, каб чалавек такога гатунку заняў адпаведны ягонай сутнасьці пасад у дзяржаве. І тут уступае ў дзеяньне ня толькі фактар асобы Пазьняка, але і мера палітычнай сталасьці грамадзтва. Колькі ўжо на Беларусі здаралася выпадкаў, калі самыя вартыя яе сыны не знаходзілі прызнаньня на роднай зямлі і былі ўшанаваныя на чужых, дзе тамтэйшыя народы зьведалі іх сапраўдны кшталт і надалі ім адпаведны гонар.

Кажуць, палітыцы і паводзінам Пазьняка бракуе патрэбнага для сучасных палітыкаў папулізму. Але, на мой погляд, тое адбываецца з прычыны спробы Пазьняка разбурыць традыцыйны погляд на палітыку як на амаральную, брудную справу. Сваю палітыку Пазьняк імкнецца рабіць чыстымі рукамі, цалкам маральнымі сродкамі, што, будучы неаспрэчным наогул, не заўсёды дае канкрэтны палітычны выйгрыш. Напрыклад, у сваіх публікацыях апошняга часу ён мог бы не выказвацца пра пляны БНФ наконт люстрацыі – недапушчэньня былых камуністычных функцыянэраў да кіраўнічых пасадаў. Але ён не хацеў нічога ўтойваць і нікога ашукваць: ні ўласны электарат, ні тых самых функцыянэраў, і адкрыта выклаў усе свае карты. Вядома, тое было даволі рызыкоўна ў наскрозь камунізаваным грамадзтве, дзе гэткае мноства падлягае пад тую самую люстрацыю. Але ў тым мне бачыцца сумленны ўчынак палітыка, які адкрыта сьведчыць пра свае намеры і не баіцца прысуду сучасьнікаў і гісторыі. Ён упэўнены ў тым прысудзе, і гэта дадае яму мужнасьці.

*– Беларускі Народны Фронт вылучыў кандыда-*

*там у Прэзыдэнты Зянона Пазьняка. Аднак некаторыя дэмакраты лічаць, што Пазьняк – занадта, так бы мовіць, радыкальная асоба, што нашаму грамадзтву патрэбны талерантны ды лагодны кіраўнік. Пры гэтым цяпер ужо не аспрэчваюцца праграмныя ідэі Пазьняка і Народнага Фронту, ідэі, за якія ў свой час тыя самыя дэмакраты яго папракалі... Як Вы можаце ацаніць такія выказваньні?*

– Так кажуць людзі пэўных палітычных кірункаў, якія ў новых сацыяльных умовах здабылі пэўны кошт і ня хочуць яго губляць. Яны ўсьцешыліся ілюзіяй цэнтрызму, ідэяй нацыянальнай згоды. Але згоды каго і з кім? Мільёнаў абрабаваных, ашуканых, даведзеных да галечы людзей з тымі, хто давёў іх да такога стану, сам нарабаваўшы ўсё – ад шыкоўных, мільённых дач, кватэр з ангійскай сантэхнікай да «хлебных» пасадаў і доларавых рахункаў у заходніх банках. Дзіўнавата ўсё ж чуць такое ад людзей, якія нядаўна яшчэ натхнялі іншых на клясавую барацьбу з капіталізмам, а цяпер неўпрыцям ад іншых самі сталі валодаць капіталамі. Вядома, ім трэба, каб іх не чапалі, каб усё заставалася як ёсьць, таму яны ды іхнія «дэмакратычныя» адвакаты такія прыхільнікі нацыянальнай згоды, «узважанай» палітыкі цэнтрызму, тактыкі – «ні нашым, ні вашым». Ім, канешне, вельмі патрэбны лагодныя дэмакратычныя лідэры, ціхманыя грамадзкія зьяднаньні, кішэнныя палітычныя партыі, якіх яны будуць паціху падкормліваць, а ня надта паслухмяных расколваць праз сваю сакрэтную агентуру і ўрэшце палітычна нэўтралізаваць. Натуральна, што для гэтых людзей палітыка БНФ і Пазьняка занадта радыкальная, яна каламуціць

спакой соннага балота, у якім адны жыруюць за кошт іншых.

Беларускі Народны Фронт даўно змагаецца за ажыцьцяўленьне канстытуцыйнымі сродкамі вельмі выразнай, дэталёва распрацаванай праграмы ў галіне палітыкі, эканомікі і культуры – праграмы Адраджэньня бацькаўшчыны. Сучасны ўрад ня хоча прызнаваць тую праграму, бессаромна сьцьвярджаючы, што БНФ ня мае ніякай праграмы. Ніводнага слова зь яе не прагучала дагэтуль з экранаў тэлебачаньня, не паявілася на старонках урадавай прэсы. Народ застаецца глухі да адрасаваных яму ідэй, бо іх заглушаюць іншыя, чужыя галасы і чужыя ідэі. У такіх умовах ніякую барацьбу нацыянальнай дэмакратыі ня можна лічыць за празьмерна радыкальную. Хутчэй наадварот. Дзеячоў беларускай нацыянальнай дэмакратыі мінулага і цяперашняга, мабыць, ёсьць у чым папракнуць, але ўжо ніяк не ў празьмерным радыкалізьме. Вядома, што радыкалізм заўсёды быў вялікім дэфіцытам нашай сапраўды нацыянальнай палітыкі.

Што датычыць Зянона Пазьняка, дык пэўная складанасьць ягонай палітыкі палягае ў тым, што ягоныя ідэі нярэдка апярэджваюць час і зьяўляюцца нечаканымі для пэўнай часткі грамадзтва. Таму першая рэакцыя грамадзтва на тое, што абвяшчае Пазьняк – ашаламленьне і нязгода. Так было з Курапатамі, з выкрыцьцём КПСС, з разьвянчаньнем асобы Леніна. Неўзабаве, аднак, тое, чым ашаламляе Пазьняк, робіцца рутынным фактам гісторыі, і ўжо ніхто не аспрэчвае яго і нават не ўспамінае, хто так сказаў першы. У тым, вядома, пэўная складанасьць палітыкі Пазьняка, але і боская сіла Пазьняка–прарока.

*– Дарэчы, адной з прычынаў пэўных разыходжаньняў паміж некаторымі дэмакратычнымі партыямі і Народным Фронтам стаў абвешчаны ў праграме БНФ парытэт правоў асобы і правоў дзяржавы. У гэтым нават бачаць ледзь не парушэньне правоў чалавека...*

– Мабыць, гэта вельмі заманліва – паставіць правы чалавека над правамі дзяржавы, тым болей таталітарнай ці посттаталітарнай дзяржавы. Але тут адразу выяўляюцца непераадольныя складанасьці. Праблема гэтая ў наш час, у канкрэтных умовах нашага далёкага ад дэмакратыі грамадзтва набывае новы, нечаканы, нярэдка спэкулятыўны сэнс. Як у краінах Балтыі, барацьба зь незалежнасьцю якіх так доўга і зацята вядзецца, як ні дзіўна, менавіта з пазыцыі прыярытэтаў правоў чалавека. Мабыць, ёсьць у гэтай парадыгме штосьць мэтафізычна недасканалае, калі яе магчыма выкарыстаць у напрамку супрацьлеглым таму, які дэкляруецца. Пэўныя парадоксы такога кшталту выяўляюцца і ў Беларусі, дзе былыя савецкія генэралы, пераапранутыя цяпер у дэпутатаў саветаў з «Дэклярацыяй правоў чалавека» наперавес кінуліся супраць дзяржаўнай праграмы беларусізацыі. А нядаўна ня толькі ўрад, Вярхоўны Савет, а і Ліга правоў чалавека Беларусі апантана выступілі супраць выдачы ўраду Літвы двух камуністычных злачынцаў, якіх сумесна з Інтэрполам шукала пракуратура суседняй дзяржавы і якія хаваліся ў Менску. (Лігу правоў чалавека стварыў і ўзначальваў дэпутат ВС Яўген Новікаў – будучы лукашэнкаўскі прапагандыст. – С.Н.) Здаецца, усё было зроблена адпаведна законам дзьвюх дзяржаў, між якімі дзейнічае адпаведнае пагадненьне, а вось нават Ліга ўбачыла

ў факце выдачы парушэньне правоў чалавека. А можа, справа тут не ў чалавеку і не ў ягоных правах, а ў партыйнай прыналежнасьці злачынцаў, якая ў вачах «легіянэраў» вымагае такой абароны?

Не, мусіць, пакуль нацыя бяспраўная, пакуль яна стаіць на каленях перад чужой сілай, нельга забясьпечыць ніякі парытэт правоў ні яе самой, ні тым больш яе грамадзян. Усе яны аднолькава будуць бяспраўныя.

– *Ці застаўся ў нашага народа шанец на выратаваньне?*

– Шанец заўсёды ёсьць, хоць ён і вымагае пэўных варункаў. Нават на нашым вяку жыцьцё не перастае зьдзіўляць сваімі непрадказальнымі віражамі ў абсалютна нечаканых кірунках. Яшчэ гадоў восем таму хто мог прадбачыць крушэньне магутнай савецкай імпэрыі, раптоўны каляпс КПСС, зьнішчэньне любімых генэральскіх цацак – ад ракет да хімічнай зброі. А ўсё тое здарылася і, здаецца, без асаблівых людзкіх высілкаў, безь якое староньняе сілы, нібы само сабой. Мабыць, сапраўды ва ўсяленскім маштабе, у мікракосмасе адбываюцца таемныя працэсы, падобныя да тых, што вядомы нам па жыцьці на зямлі: нараджэньне, разьвіцьцё, адміраньне. Калі гэта так, дык беларускі этнас дужа малады, ён толькі падбіраецца да свайго разьвіцьця, якога па некаторых прычынах быў пазбаўлены ў мінулым. Тое наша разьвіцьцё павольнае, духоўна-фізычныя магчымасьці яго рэалізуюцца ашчадна-замаруджана, найбольшы ягоны росквіт наперадзе. Але тое пэўна, што Беларусь ня зьнікне, калі ня скорыцца чужой сіле, яшчэ разгорне свой жыцьцёвы патэнцыял і зьдзейсьніць на боскай зямлі сваю людзкую місію».

***

Празь нейкі час пасьля прэзыдэнцкіх выбараў 1994 году і парлямэнцкіх выбараў 1995-га, сумешчаных з «рэфэрэндумам», Быкаў адказаў, чаму Беларускі Народны Фронт і яго лідэр не перамаглі.

Я прывяду адказы, дадзеныя тагачаснаму супрацоўніку штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва» Юрася Залоску – ён зьмясьціў іх у сваёй кнізе «Праўда як рэлігія», цалкам прысьвечанай Быкаву.

Істотна, што суразмоўца некалькі разоў і ў розных варыяцыях задае Быкаву пытаньні, у якіх ужо ўтрымліваюцца сьцьвярджэньні, што «БНФ пацярпеў паразу», «БНФ і Пазьняк нясуць адказнасьць за паразу», «Пазьняк зрабіў памылкі». Такія самыя пытаньні будуць узьнікаць (ужо не да Быкава) і ў наступныя гады.

Учытаемся ў словы Быкава.

«Калі б Зянон Пазьняк у сваёй перадвыбарчай прэзыдэнцкай праграме паабяцаў павялічыць пэнсіі і іншыя ільготы сексотам КДБ, ён меў бы вялікую папулярнасьць. А ён неаднаразова намякнуў пра люстрацыю, у адрозьненьне ад Лукашэнкі, – і вынік тых выбараў быў прадвызначаны» (Юрась Залоска, «Праўда як рэлігія. Гутаркі з Васілём Быкавым», Менск, «Медысонт», 2010, с. 60. Тут і далей – цытаваньне паводле гэтага выданьня).

«...вызначаць будзе Лубянка, а ня Белы Дом. Лубянка заўсёды вызначыць. Гэта ж зразумела. І тое Лукашэнка зразумеў, чаму ён пераможа Кебіча яшчэ на тых выбарах: Кебіча рыхтавалі Ельцын з Чарнамырдзіным, а Лукашэнку – іншая ўстанова. Заўсёды Лубянка перамагала, як бы яна ні называлася. Нават калі гэта быў запасны варыянт...» (с. 116).

«...удачы не магло быць. Гэта толькі ў нашай “адраджэнскай” эўфарыі мы маглі дапусьціць, што яшчэ трошкі, вось выбары, Пазьняка выберуць прэзыдэнтам, а пасьля новыя выбары ў Вярхоўны Савет – і бальшыня праходзіць ад дэмакратаў, зьяднаных ці разьяднаных, ад БНФ, і ўся палітыка павернецца ў іншы бок. Не магло гэтага быць. Я, напрыклад, не разьлічваў на гэта, ня верыў, таму што адчуваў, можа быць, падкоркай, сьпінным мозгам. Што гэта немажліва па ўсёй лёгіцы, што падзеі і стан грамадзтва не дадуць гэтага зрабіць. Яны яшчэ да гэтага не сасьпелі. Яшчэ трэба да гэтага дайсьці» (сс. 66-67).

«Што датычыць Пазьняка і ягонай палітыкі, дык я бачыў, што робіцца ўсё вельмі разумна і даволі памяркоўна. Пазьняк чуў з усіх бакоў папрокі ў радыкалізьме, і ён мякчэў, ён увесь час, наколькі гэта было магчыма, стараўся зьмяніць сваю палітыку, але – не пераступаючы пэўных маральных крытэрыяў, за якімі палітыка ўжо сапраўды робіцца бруднай справай...

Пазьняк зрабіў усё, што мог. Ніхто больш за яго ў дадзеных умовах, зь ягонай пазыцыяй нацыянальнага дэмакратызму зрабіць ня змог бы. Ён зрабіў больш, чым можа зрабіць звычайны, нармальны палітык, хай і нацыянальны патрыёт. А ён зрабіў больш. Ён, можна сказаць, ахвяраваў сваё жыцьцё на гэта, і прычына ягонай няўдачы ў тым, што ён надта вырваўся наперад свайго часу. Гэта будзе ацэнена ў будучыні. Памятаеце, як ён некалі па тэлебачаньні заявіў у прамым эфіры, што кампартыя – самая крывавая партыя ў сьвеце, – калі яшчэ сядзеў Сакалоў? Гэта было жахліва па тым часе. Я нават, гледзячы тое па тэлевізары, зьнямеў,

таму што мне здавалася, што заўтра ён будзе раскрыжаваны на плошчы. Але ён перамог. Ён перамог і сказаўшы праўду пра Курапаты; перамог, калі надрукаваў артыкул пра расейскі імпэрыялізм, які зрабіў яму многа ворагаў тут і за межамі, аднак час паказаў, што ацэнкі тыя былі абсалютна справядлівыя, у тым ліку і ягоныя захады супраць расейскай дэмакратыі, якая цяпер вырадзілася... Усё абсалютна дакладна было ім прадказана. І ягоная пазыцыя ў гэтым сэнсе проста выдатная, крыштальная пазыцыя. Толькі ўся яго праблематычнасьць, так бы мовіць, заключаецца ў тым, што было сказана – як яно і належыць для палітыка – занадта рана, калі грамадзтва яшчэ было ня ў стане ўспрыняць яго. Такой апераджальнай якасьцю валодаў Алесь Адамовіч, які казаў аб ядзернай пагрозе і празьмернай мілітарызацыі. Тое заўсёды выклікала пярэчаньні, а потым – прымалася. Зайздросная роля такіх правідцаў, але незайздросны іх лёс, таму што іх не прымаюць у сваім часе. Іх прымуць пасьля. Добра, калі яшчэ пры жыцьці» (с. 65).

«Відавочна, што мы, напрыклад, засьпелі рэшткі той жа мовы. Зьменяцца два-тры пакаленьні, асабліва пры адсутнасьці сялянства, якое ўвесь час генэрыравала мову, захоўвала яе на працягу стагодзьдзяў, – і яе больш ня будзе каму захоўваць. Сфэра ейнага бытаваньня папросту зьнікне. Горад расейскамоўны, сялянства няма... І таму каб не Народны Фронт і каб не Пазьняк, дык ужо не было б чаго адраджаць. Не было б наогул і гаворкі пра нацыянальную самабытнасьць (с. 54).

«Калі гаварыць пра палітыку Народнага Фронту або пра прычыны яго паразы і непапулярнасьці, то яны ляжаць у сфэры непапулярнасьці нацы-

янальнай ідэі, нявысьпеласьці нацыянальнай сьвядомасьці беларусаў. Таму што беларуская нацыя не дасьпела да разуменьня той ісьціны, што яна можа праявіцца, рэалізавацца ў гісторыі як нацыя. Ёй усё здаецца, што можна знайсьці сваё шчасьце ў адмове ад сваёй нацыянальнай існасьці, у падпарадкаваньні іншым – у дадзеным выпадку расейцам. Што без расейскай мовы, без расейскай нафты, без расейскага розуму, урэшце, і без палітыкі – беларусы не пражывуць. У гэтым уся рэч. І гэта відаць у многіх выпадках. У гэтым сэнсе Беларускі Народны Фронт можна абвінаваціць хіба толькі ў тым, што ён пайшоў значна наперад. Ісьціны, якія засвоіў Фронт, безумоўна, будуць засвоены грамадзтвам, але для гэтага спатрэбіцца тугадумным беларусам яшчэ, можа быць, гадоў сто. Але ўрэшце рэшт да гэтага дойдуць» (с. 54).

Быкаў верыў, што – дойдуць. Праўда, адразу пасьля гэтых слоў зрабіў удакладненьне: «Калі працэс асыміляцыі не панішчыць беларусаў як нацыю за гэты час».

## Пазьняк: Размаўляйце хоць па-кітайску

Найбольш устойлівыя міты ўзьнікаюць ня самі сабой – іх адмыслова прыдумляюць, а потым старанна культывуюць. Міты пра БНФ і яго лідэра Пазьняка – менавіта з такой катэгорыі.

Вельмі ўстойлівы міт – «Пазьняк пагражаў павесіць камуністаў». Яго любіць паўтарацЬ Вячаслаў Кебіч, прычым – рэгулярна і ў розных варыяцыях. «Многія дэпутаты баяліся, як бы не прыйшоў да ўлады Пазьняк і не павесіў іх на першым слупе. У мяне захавалася кінастужка з выступам лідэра БНФ, дзе ён заклікае выпусьціць з турмаў усіх злачынцаў, каб пасадзіць туды ўрад і актыўных камуністаў» («Белорусские новости», 12 чэрвеня 2006). Бясспрэчна, што калі б лідэр БНФ сапраўды сказаў нешта падобнае і такая стужка існавала – у часы прэм’ерства Кебіча запіс бясконца пракручваўся б на экранах дзяржаўнага тэлебачаньня (не адмовіліся б ад яго і лукашэнкаўскія прапагандысты). Але нічога падобнага Пазьняк, натуральна, не казаў. «Пасадзіць» Кебіча, як вядома, пагражаў зусім іншы кандыдат у прэзыдэнты (але, зрабіўшыся прэзыдэнтам, Лукашэнка даў яму месца не ў турме, а ў «сэнаце»).

Шмат разоў – можа быць, дзясяткі, я чуў ад равесьнікаў: «Мае бацькі галасавалі б за Пазьняка,

але іх напужалі ягоныя словы, што пазбавіць старых пэнсіяў і дзеці самі будуць утрымліваць бацькоў!»

Я ўважліва прачытаў стэнаграмы ўсіх выступаў – нічога падобнага Пазьняк не казаў ні ў часе выбарчай кампаніі, ні да яе, ні пасьля. Наадварот – Апазыцыя БНФ уносіла заканадаўчыя прапановы аб сацыяльных гарантыях пэнсіянэрам і найменш забясьпечаным. Тым ня менш, пагалоска пра тое, што Пазьняк нібыта жадаў пазбавіць старых пэнсіяў, аказалася ўстойлівай.

Прыкметна тое, што, у адрозьненьне ад стэрэатыпаў, якія распаўсюджваліся прэсай («Пазьняк – крайні радыкал»), гэтая, пра пэнсіі, хадзіла ў народзе. Яна была створаная імгненна, літаральна за некалькі дзён перад галасаваньнем – я, напрыклад, даведаўся пра яе ўжо пасьля выбарчай кампаніі. Адрэагаваць на яе мы не пасьпелі.

Затое потым усплылі цікавыя акалічнасьці – такія, пра якія напісаў у сваім лісьце чытач «Народнай волі»:

«Падчас кампаніі па выбарах прэзыдэнта пачуў такую размову. Кабеціна, ужо ў гадах, казала: “А вы слыхали, что сказал Позняк? Пенсионеров должны содержать их дети. А у кого нет детей, тех – в дом престарелых”. Я тады падумаў, якую толькі лухту не плятуць людзі. Але ж якім было маё зьдзіўленьне, калі праз два дні я зноў сустрэў тую ж кабеціну, якая вымаўляла ўсё тыя ж словы. На гэты раз я апынуўся побач зь ёй і паназіраў, як яна гэта робіць. Трэба сказаць, што агітацыя супраць Пазьняка ёй удавалася. І рабіла яна гэта ўмела. Я ехаў да кальца, на апошнім прыпынку ўсе выйшлі, засталася толькі агітатарка, якая паехала

далей. Трэба думаць, што яна паехала на другі круг агітацыі.

Усе яе прамовы былі толькі супраць Пазьняка і беларускай мовы. У аўтобусе нейкі хлопец гэтай кабеціне сказаў: “Бабуля, ты пэнсію, напэўна, атрымліваеш у КГБ?” Але нейкі дзяцюк на яго адразу накінуўся сварыцца, і ён хуценька выйшаў.

Цікава вось яшчэ што. Пасьля Новага году на пошце я пачуў ад адной старой: “Лукашэнка хоць якую пэнсію, але ж плаціць, а гэты Пазьняк дык і зусім хацеў, каб нас утрымлівалі дзеці”.

Ці трэба камэнтаваць усе факты, якія я прывёў? Праўда, адзначу: калі тая кабеціна не была платнай агітаторкай, то мне яе проста шкада як неадукаванага, забітага чалавека.

Мікалай Завадзкі, пэнсіянэр. Г. Орша

P.S. Я не хачу сказаць, што гэтая кабета была штатнай правакатаркай, можа, яна гэта рабіла і па сваёй ініцыятыве, але наўрад ці» («Народная воля», 28 сакавіка 1997).

За грошы распаўсюджвала плёткі жанчына, якую сустрэў у аршанскім аўтобусе Мікалай Завадзкі, альбо за «проста так» – ня мае асаблівага значэньня. Істотна, што прыдумала гэтую плётку не яна. А значыць – выконвала даручэньне. А лепей сказаць – заданьне. І паколькі гэтая плётка была распаўсюджана імгненна і ў маштабе ўсёй краіны, зразумела, што такіх «пасажырак аўтобусаў» (альбо «кабет у чэргах», ці «мужыкоў у піўнушках») было ня дзесяць і ня сто, а значна болей. У Беларусі існавала толькі адна структура, здольная мабілізаваць (прычым без асаблівага розгаласу) такую колькасьць агітатараў – КДБ.

Калі прыгадаць, што з падачы прэсавага сакра-

тара Кебіча Ўладзімера Замяталіна ў друку зьявіўся паклёпніцкі артыкул пра Станіслава Шушкевіча (нібыта перадрук з галяндзкай газэты, якой на самой справе не існавала), і што ён вызначаўся нянавісьцю да беларускай мовы, дык зусім верагодна, што плётку пра пэнсіянэраў запусьціла каманда Вячаслава Кебіча.

Але нельга выключаць, што сыходзіла плётка і ад каманды Аляксандра Лукашэнкі. Праз гады адзін з тагачасных членаў каманды, будучы «пад шафэ», пахваліўся журналістам, што менавіта яго ідэяй было запусьціць плётку, што «бацька Пазьняка – паліцай». Многім паплечнікам Лукашэнкі была таксама ўласьцівая агрэсіўная, я сказаў бы, папросту жывёльная нянавісьць да беларускай мовы. Было каму і распаўсюдзіць плётку: на Лукашэнку працавалі кадравыя афіцэры КДБ, як у форме, гэтак і «пад прыкрыцьцём».

Але былі і іншыя міты такога самага прымітыўнага кшталту, якія патрабавалася абвергнуць – «Пазьняк ліквідуе калгасы», «Пазьняк прымусіць усіх гаварыць па-беларуску»...

Увогуле, маючы канцэпцыі дзяржаўнага, эканамічнага і культурнага разьвіцьця Беларусі (фактычна, праграму Адраджэньня) і моцную каманду прафэсіяналаў для яе рэалізацыі – Пазьняк, як ніхто іншы, быў вымушаны фактычна ўсе свае выступы па тэлебачаньні і радыё (а таксама і ў аўдыторыях) будаваць з улікам навarочанай вакол яго хлусьні.

Парадаксальна, але з 1988 па 1994 год у беларускай прэсе было толькі чатыры публікацыі, у якіх распавядалася пра Пазьняка як пра чалавека. Пазьней некаторыя тагачасныя рэдактары будуць закідваць Пазьняку, што ня здолеў давесьці да народу

сваю пазыцыю. Але ў тыя гады, рэдагуючы газэты з паўмільённым, а то і мільённым накладам – ніхто зь іх не прапанаваў Пазьняку падрабязна патлумачыць сутнасьць праграмы Народнага Фронту.

Дарэчы, праграма БНФ так ніколі і не была надрукаваная ў дзяржаўнай прэсе. Можна толькі здагадвацца, якім было б стаўленьне да БНФ, калі б годзе ў 1989-м «Знамя юности», якая мела амаль мільённы наклад, зьмясьціла на сваіх палосах праграму БНФ, як зрабіла гэта з праграмай Народнага фронту Латвіі рыская «Советская молодёжь». Але – не надрукавала, не зьмясьцілі яе і іншыя выданьні, і грамадзяне складалі меркаваньне пра новаўтвораны палітычны рух з публікацый, у якіх пазыцыя БНФ падавалася ў скажоным выглядзе.

Канешне, са зьяўленьнем у Вярхоўным Савеце дэпутацкай фракцыі Народны Фронт атрымаў магчымасьць данесьці асноўныя палажэньні сваёй праграмы – і праз выступы дэпутатаў, і праз тэлевізійны эфір, якога нам раз на паўгода ўдавалася дамагчыся. Аднак прамая трансьляцыя з Авальнай залі спынілася ўжо на першай сэсіі, а на адзін выступ дэпутатаў Апазыцыі прыходзіліся сотні прапагандысцкіх перадачаў на карысьць спачатку пракамуністычных, а потым – пракебічаўскіх уладаў.

Пазьняк лічыў, што не павінен марнаваць час на фармаваньне свайго прывабнага іміджу – ягоны клопат быў пра агульную справу. Такі падыход быў рацыянальны ў тым сэнсе, што перамагчы дзяржаўную прапагандысцкую машыну было сапраўды праблематычна: была рызыка ўвязацца ў бясконцае абвяржэньне паклёпу (хаця на найбольш сур'ёзныя абвінавачаньні Пазьняк адказваў). Займацца гэтым, бясспрэчна, павінны былі мы, ягоныя паплечнікі,

і ў меру магчымасьцяў (і нават па-за межамі магчымасьцяў) я як прафэсійны журналіст гэта рабіў. Аб'ектыўныя публікацыі выходзілі ў «Свабодзе», якую рэдагаваў Ігар Гермянчук. Вельмі важнай была падтрымка Васіля Ўладзімеравіча Быкава – ягоная ацэнка Пазьняка як нацыянальнага лідэра і дзейнасьці Апазыцыі БНФ была вельмі высокай.

Але ў часе выбарчай кампаніі мы вырашылі сканцэнтравацца на найбольш устойлівых мітах.

Тут варта сказаць некалькі слоў пра «іміджавую палітыку» кандыдата ад БНФ, тым больш што гэтую тэму ўжо закрануў у сваіх мэмуарах тагачасны міністар замежных спраў Пётра Краўчанка:

«Тэарэтычна ён (Пазьняк – С.Н.) мог сабраць на тых выбарах да трацінны галасоў. Але на пачатку выбарчай кампаніі ў яго штабе раптам зьявіліся нейкія новыя паліттэхнолягі, якія, насуперак меркаваньню найбліжэйшага атачэньня лідэра апазыцыі, пераканалі яго рэзка зьмяніць усталяваны імідж. У зьнятым імі рэклямным фільме «Невядомы Пазьняк» лідэр БНФ паўставаў у зусім іншым абліччы. Яго паспрабавалі зрабіць больш мяккім, больш прыземленым і, па-мойму, згулялі тым самым злы жарт. Зь міталягізаванага сымбаля барацьбы ён раптам стаў звычайным чалавекам, пасрэдным, «як усе»» (Пётра Краўчанка, «Беларусь на раздарожжы», с. 122).

Палітычная стратэгія, як і раней, распрацоўвалася дэпутатамі Апазыцыі БНФ і сябрамі Сойму. Прычым у 1994 годзе ўжо была відавочнай розьніца ў палітычным прафэсіяналізьме паміж дэпутатамі і тымі членамі Сойму, якія дэпутатамі не былі. Прычына простая: за чатыры гады дэпутаты набылі досьвед парлямэнцкай працы, ім даводзілася рас-

працоўваць законы, удзельнічаць у вострых дэбатах у Авальнай залі, сустракацца з выбаршчыкамі ў сваіх акругах, дамагацца вырашэньня іх праблем у начальства, часам – у міністраў ці нават у прэм'ерміністра. Дэпутаты сумаўляліся і з членамі ўраду, і з дыпляматамі, і з журналістамі. Члены Сойму такога досьведу ня мелі. У той час з боку Сойму на Пазьняка імкнулася ўплываць група Хадыкі – Анцулевіча – Чуйко (праз год, летам 1995-га, гэтая група запатрабуе зьмены лідэра БНФ). Яны і пераканалі Пазьняка, што яму трэба скарэктаваць імідж, а займацца гэтым павінны прафэсіяналы. Так зьявіліся тыя, каго пазьней назавуць паліттэхнолягамі, і сярод іх вылучаўся кандыдат філязофскіх навук Уладзімер Падгол.

Прычым парады тычыліся ня толькі зьнешняга іміджу, але і сэнсавых рэчаў – напрыклад, якія тэмы ў выступе трэба прыглушыць, а на якіх – сканцэнтраваць увагу. Пры гэтым Падгол часта ўжываў слова «ідэалягемы» – раней бы сказалі «лёзунгі». «Народны Фронт ратуе, бароніць, дапамагае» – гэта быў прапанаваны Падголам ляйтматыў кампаніі, я лічу, вельмі ўдалы.

Краўчанка піша пра адзін фільм, ён меўся быць часткай цыклю, дзе пасьля «зьмякчэньня» вобразу героя (што было, я лічу, апраўдана з улікам міту пра Пазьняка-радыкала) узьнік бы вобраз моцнага лідэра. Аднак іншыя сэрыі на тэлеэкран ня выйшлі. І тут ужо Пазьняк паставіў пад сумнеў парады «прафэсіяналаў», зрабіўшы вельмі ўдалыя, на мой погляд, выступы па тэлебачаньні.

Знаёмыя пыталіся, чаму прамыя эфіры з Пазьняком вёў ня я – бо ў папярэднія гады якраз мне даводзілася весьці гэтыя эфіры з дэпутатамі БНФ

(перад гэтым мне ж прыходзілася і дамагацца іх ад кіраўніцтва Дзяржтэлерадыё).

У часе аднаго з абмеркаваньняў на Варвашэні Падгол раптам сказаў:

– Я супраць, каб Навумчык вёў эфіры. Я ўвогуле супраць таго, каб ён зьяўляўся на тэлеэкране. Ён зь ягонымі рэзкімі выступамі вельмі нэгатыўна ўспрымаецца людзьмі.

(Магчыма, Падгол меў на ўвазе мой імідж, як пісала афіцыйная прэса, «зацятага антыкамуніста».)

Усе прамаўчалі. Я ніколі не пазьбягаю канфліктаў па прынцыповых пытаньнях, нават, магчыма, празьмерна энэргічна ў іх увязваюся, але калі ідзецца пра другаснае – заўсёды аддам перавагу кампрамісу ці нават саступлю, каб пазьбегнуць канфлікту. У гэтым выпадку спрачацца не было ніякага сэнсу.

Я сказаў, што прафэсіяналу, канешне, лепей бачна. Але тады і я выкажу сваю думку: я супраць, каб прамыя эфіры вёў Падгол (у канцы 80-х Падгол вёў дыскусійныя тэлеперадачы). Хай гэта таксама будзе прафэсіянал, прафэсійны журналіст, і лепей, калі гэта будзе жанчына. Напрыклад – Алена Радкевіч, якая вяла нядаўна забароненую Кебічам праграму «Беларуская маладзёжная». Кандыдатура Алены пярэчаньняў ня выклікала – яна была ў Фронце ад пачатку, нарэшце, яе ведалі і як жонку Віктара Івашкевіча. Да эфіру заставалася няшмат, я паехаў у будынак радыё (некалькі кварталаў ад Варвашэні). Радкевіч з калегамі нешта абмяркоўвалі (у эфір іх не пускалі, між іншым, удзел Алены ў прамым эфіры быў і актам падтрымкі апальных журналістаў). Размова была кароткая.

«Паехалі». – «Куды?» – «У студыю на Макаёнка, эфір праз тры гадзіны». Праўда, Алена запатрабавала заехаць да яе на кватэру, каб пераапрануцца і навесьці макіяж – хаця і без таго выглядала эфэктна, але я разумеў, што гэта якраз той выпадак, калі жанчыне нешта даказваць бессэнсоўна. На эфіры, які вяла Алена Радкевіч, Пазьняк быў адзін, а вось прамы эфір з удзелам каманды вёў Вінцук Вячорка. Магчыма, манера зачытваньня Вінцуком пытаньняў падавалася акадэмічнай і празьмерна павольнай (я б гэта, канешне, рабіў бы дынамічна) – але, пэўна, у гэтым выпадку менавіта такая танальнасьць і была найбольш аптымальнай.

Як і варта было чакаць, у часе прамога тэлеэфіру ў Пазьняка запыталіся і пра рускую мову, і пра калгасы.

З прамога тэлеэфіру 20 чэрвеня 1994 году:

Вячорка: (зачытвае пытаньні тэлегледачоў) Што будзе з калгасамі, калі прэзыдэнтам Беларусі стане Зянон Пазьняк? Мікола Бусел, вёска Дуброва, Сьветлагорскі раён.

Пазьняк: Шаноўны Мікола, я скажу самае галоўнае. Прэзыдэнт Пазьняк ня будзе разганяць калгасы. І ўвогуле, у нас у Беларусі ніхто ня ставіць такога пытаньня. Акрамя прапаганды... Спадар Мікола Бусел павінен зразумець, што калі ён вырасьціў бульбу, дык ён можа яе прадаць, куды ён хоча, і па той цане, якой ён хоча. Яму ня будзе ўказваць чыноўнік, яму ня трэба ліцэнзіі, ён будзе свабодны. Ён будзе валодаць сродкамі вытворчасьці, ён будзе валодаць зямлёй і можа свабодна вынікі сваёй працы скарыстаць, так як ён захоча.

Вячорка: Зенон Станиславович, готова голосовать за Вас. Но смущает одно: я русская, я не знаю

белорусского языка и сомневаюсь, что смогу его выучить. А Вы ведь будете этого требовать? Город Слуцк.

Пазьняк: Ну што ж, калі пытаньне ананімнае, дык відаць, многія так думаюць, як гэтая жанчына са Слуцку. Справа ў тым, што ніхто нікога (і ў тым ліку я) ня будзе прымушаць размаўляць па-беларуску. Размаўляйце хоць па-кітайску. Будзе праводзіцца дзяржаўная палітыка па выкананьні існуючага заканадаўства. Будзе выконвацца закон, і кожнаму грамадзяніну Беларусі будзе прадастаўленая магчымасьць вывучыць дзяржаўную мову. А што датычыць, як яны будуць размаўляць, тут поўная свабода. Дзяржаўныя служачыя – так, яны павінны будуць ведаць мову. Дзяржаўнае справаводзтва будзе. Ніякіх рэпрэсій па гэтаму повуду быць ня можа. Я гэта гарантую. Ніхто нікога ня будзе звальняць за тое, што чалавек, скажам, ня ведае беларускай мовы. Гэта наша агульная бяда, бяда ўсёй нашай нацыі, і мы павінны з гэтай бяды выйсьці разам з усімі людзьмі, з усімі грамадзянамі, якія насяляюць нашу рэспубліку».

Цяпер ужо не магу прыгадаць, каму прыйшла ідэя зрабіць улётку, якая наўпрост абвяргала б устойлівыя стэрэатыпы – але, лічу, задума была ўдалай.

Гэтая ўлётка была надрукаваная па-расейску, ва ўсіх шасьці тэзісах «ня будзе» было набрана вялікімі літарамі.

«Чаго Зянон ня будзе рабіць

Зянон ня будзе нікога сілай прымушаць размаўляць па-беларуску.

Зрабіць дзяржаўную мову паважанай – нармальны шлях нармальнага грамадзтва. Але пры-

мус – гэта бальшавіцкі мэтад. А Зянон – не бальшавік і ніколі ім ня быў.

Зянон ня будзе перасьледаваць былых камуністаў.

Адхіліць ад улады камуністычную вярхушку – гэта адно. Зусім іншае – адносіны да простых партыйцаў. Ад таталітарнага рэжыму яны цярпелі разам з усімі. Рэпрэсіі – сродак бальшавікоў. А Зянон – веруючы хрысьціянін, і ён супраць рэпрэсіяў.

Зянон ня будзе разганяць калгасы.

Усялякая форма гаспадараньня добрая, калі людзі ахвотна працуюць і заможна жывуць. А вясковае жыцьцё Зянон ведае не па чужым досьведзе.

Зянон ня будзе нікога высяляць зь Беларусі. Беларусь – агульны дом для ўсіх нас: беларусаў, рускіх, палякаў, габрэяў. Мы – грамадзяне Беларусі, і дзяржава служыць усім сваім грамадзянам, незалежна ад нацыянальнасьці, веры альбо мовы.

Зянон ня будзе разрываць эканамічныя сувязі з Расеяй.

Расея – гэта найбуйнейшы партнэр Беларусі, важны пастаўшчык і вялізны рынак збыту. Пры раўнапраўных адносінах, якіх і дамагаецца Зянон, гандаль з Расеяй выгодны для Беларусі.

Зянон ня будзе ваяваць з суседзямі.

Нашай Беларусі, як і сям'і Пазьняка, хапіла незаменных ваенных стратаў. Беларусь ёсьць і будзе міралюбівай дзяржавай».

Праз гады я думаю, што нашыя намаганьні, накіраваныя найперш на ўспрыманьне этнічна расейскай часткай насельніцтва, наўрад ці маглі даць істотны вынік. І прычына ня ў тым, што мы былі недастаткова пераканаўчымі. Менавіта Апазыцыя БНФ распрацавала ўвосень 1991 году закон аб гра-

мадзянстве, які быў прыняты і які прадугледжваў «нулявы варыянт» – грамадзянства атрымлівалі аўтаматычна ўсе, хто на пэўны момант жыў на тэрыторыі Беларусі. Як вядома, мэханізм атрыманьня права на грамадзянства – гэта найважнейшы крытэр талерантнасьці дзяржавы да іншаземцаў альбо тых, хто прыехаў нядаўна, і менавіта Беларускі Народны Фронт дамогся самага лібэральнага варыянту. Гэтак лібэральна ненавісьнікі іншых нацыяў ня робяць. Але потым я шмат разоў пераконваўся, што для крытыкаў БНФ «за нацыяналізм» гэта ня мела ніякага значэньня. Увогуле ня браліся пад увагу ніякія прыклады і аргумэнты. Баюся, прычына ня толькі ў тым, што значнай частцы гэтых людзей не хацелася вывучаць беларускую мову. Галоўная прычына – яны ня могуць прыняць існаваньне якой-небудзь іншай мовы, акрамя расейскай, на тэрыторыі былога СССР.

Іміджавай мэтай каманды Пазьняка на выбарах 1994 году было давесьці да як мага больш шырокага кола праўду пра свайго кандыдата. Праўду, больш нічога. І супрацьлеглая мэта была ў паплечнікаў Лукашэнкі – стварыць зь яго «народнага заступніка» з дапамогай сумнеўных прыёмаў кшталту «стрэлу пад Лёзнам» і схаваць пра свайго фаварыта праўду.

Між іншым, прамых дэбатаў з Пазьняком Лукашэнка пазьбягаў. Вось што прыгадвае тагачасная ўдзельніца каманды лідэра БНФ Галіна Вашчанка (Пазьняк):

«Аднаго разу мы прыехалі ў Горкі на сустрэчу з выбаршчыкамі, і тады ж нечакана сюды (таксама на сустрэчу з выбаршчыкамі) прыехаў Лукашэнка з камандай на некалькіх легкавіках. Зянон Пазь-

няк асабіста прапанаваў Лукашэнку правесьці сумесную сустрэчу. Лукашэнка зьбянтэжыўся, але пагадзіўся («давай, я ня супраць»). Выбаршчыкі сабраліся ў розных залях. Тады наша ініцыятыўная група пайшла ў залю да групы Лукашэнкі каб па дамоўленасьці аб'яднаць сход. Аднак з Лукашэнкам ужо пагаварыць не ўдалося. Наперад выбег лейтэнант (ці хто ён тады быў) Кучынскі і цьвёрда «адчаканіў»: «Нет! Нет! Мы решили – нет. Не будем. Нецелесообразно». Вярнуліся зь нічым. Сходы пачаліся – кожны ў сваёй залі, кожны са сваімі выбаршчыкамі. Тады Пазьняк спытаў у людзей, ці хацелі б яны аб'яднацца з суседнім сходам, каб паслухаць абодвух кандыдатаў. «Хочам», – кажуць. «Тады прагаласуем за гэта і пашлем дэлегатаў у суседнюю залю, каб і яны прагаласавалі за агульны сход», – сказаў Пазьняк. Але дэлегатаў нашай залі прыняла ў штыкі ініцыятыўная група Лукашэнкі і ўшчалі спрэчку, даводзячы сваім выбаршчыкам, што аб'ядноўвацца «нецелесообразно». У выніку такой агітацыі бальшыня прагаласавала супраць аб'яднанага сходу. Так Лукашэнка вылузнуўся з гэтай сытуацыі. Ён баяўся выступіць у адной залі з Пазьняком, бо ведаў, што ягоныя танныя трукі (якія ён ужываў на тэледэбатах з Кебічам) тут ня пройдуць, а змагацца з Пазьняком яму было не па зубах» (Галіна Пазьняк. «Беларусь у сэрцы». Варшава-Нью-Ёрк- Вільня, 2007, с.89).

## Другі тур, які можна было сарваць

Ноч з 23 на 24 чэрвеня, калі падлічваліся вынікі галасаваньня ў першым туры выбараў, я ў якасьці даверанай асобы Зянона Пазьняка правёў у Цэнтральнай выбарчай камісіі, прычым – у кабінэце яе старшыні Аляксандра Абрамовіча. Да яго сьцякаліся дадзеныя з абласных камісіяў, і ужо гадзіны ў тры ночы быў папярэдні вынік: перамог Аляксандар Лукашэнка, ён атрымаў каля 54-56 працэнтаў галасоў. Другім за ім ішоў Пазьняк, потым – Шушкевіч, а Кебіч быў на чацьвёртым месцы.

Я паехаў у штаб-кватэру БНФ на Варвашэні, 8, дзе працавала Грамадзкая кантрольная камісія і куды прыходзілі вынікі ад назіральнікаў. Розьніца ў дадзеных была 1,5-2 працэнты. Лукашэнка выйграваў.

Гадзіне а чацьвертай раніцы я паехаў дадому, ва Ўручча. Ужо было сьветла. Горад быў пусты. Я гнаў машыну на вялікай хуткасьці. Упершыню было адчуваньне, што гэты горад мне – чужы. Праяжджаў мікрараён Усход, з правага боку былі панэльныя шматпавярховікі, было жаданьне як мага хутчэй праскочыць гэтыя дамы, дзе, як аказалася, жывуць абсалютна чужыя мне людзі. Людзі, дзеля якіх мы аддавалі гэтулькі сілаў – а яны аказаліся зусім не такімі, як я ўяўляў.

Справа ў тым, што ў часе кампаніі я ня бачыў ніводнага чалавека, які зьбіраўся галасаваць за Лука-

шэнку (зразумела, калі не лічыць самога Лукашэнкі і ягоных паплечнікаў). На сустрэчы з Пазьняком прыходзілі тысячы прыхільнікаў лідэра БНФ – пры гэтым я разумеў, што і праціўнікаў у Пазьняка ня меней. Быў гатовы да таго, што перамогу возьме Кебіч. Але – Лукашэнка? Такога – не чакаў.

У мяне было прыблізна такое пачуцьцё, як дзесяць год перад тым, калі па заканчэньні ўнівэрсытэту кіраўніцтва дэканату паставіла перада мной дылему: альбо дыплём і войска, альбо – дыплёму ня будзе. Прыйшлося ісьці ў войска. І тады ў мяне было яснае разуменьне, што наперадзе – два гады, якія можна ўжо цяпер выкрэсьліваць з жыцьця. Якія проста трэба – вось ужо сапраўды трапнае вызначэньне – аддаць, «аддаць Радзіме». Цяпер было ўсьведамленьне таго самага, толькі час будзе страчаны ўжо не для аднаго мяне, а для мільёнаў.

Напэўна, такія ці падобныя пачуцьці ў тыя гадзіны перажываў не адзін я – тут яшчэ ўплывалі і напружаньне апошніх дзён, і бяссонная ноч. Удзень эмоцыі саступілі месца розуму.

Таксама сталі вядомыя афіцыйныя вынікі: Лукашэнка – 45,1%, Кебіч – 17,4%, Пазьняк – 12,9%, Шушкевіч – 9,9%, Дубко– 6,0%, Новікаў – 4,6 %.

І дарэмна я наракаў на менчукоў – Лукашэнка хаця і ўзяў у сталіцы больш за іншых, але 28 адсоткаў, значна менш, чым у большасьці іншых гарадоў.

Такім чынам, мусіў быць другі тур, у які выходзілі Лукашэнка і Кебіч.

Мне патэлефанаваў Дзьмітры Булахаў і запытаўся, ці не хацелі б мы апратэставаць вынікі выбараў. «Ты ж разумееш, Сяргей, Лукашэнка ўсё роўна пераможа, калі не цяпер, дык у другім туры.

А ў вас, у БНФ, будзе ганаровае другое месца». Булахаў сказаў, што і штаб Лукашэнкі зьбіраецца апратэстоўваць афіцыйныя вынікі. Зразумела, што я ня мог даваць адказ – трэба было абмеркаваць сытуацыю з Пазьняком і нашай камандай, аднак паплечнікі Лукашэнкі празь некалькі гадзінаў адмовіліся ад гэтай ідэі.

«Паводле Грамадзкай кантрольнай камісіі, Лукашэнка перамагае ўжо ў першым туры, аднак ягоны штаб не прадпрымае ніякіх дзеяньняў, каб аспрэчыць абвешчаныя Цэнтравыбаркамам вынікі», – піша ў сваёй кнізе Аляксандар Фядута і тлумачыць, чаму не прадпрымае: «У выніку іх афіцыйнага абвяржэньня выбары маглі быць прызнаныя несапраўднымі, а намэнклятура атрымала б шанец ачуняць ад перапуду і не дапусьціць паўторнага вылучэньня Лукашэнкі» (Фядута. «Лукашенко. Политическая биография», с. 167).

Зразумела, што апратэстоўваньне вынікаў першага туру адной толькі камандай Пазьняка ня мела сэнсу.

2 ліпеня прайшоў Сойм БНФ.

«Зянон Пазьняк прааналізаваў перадвыбарчую сытуацыю ды вынікі першага туру выбараў. Зманапалізаваныя ўрадам сродкі інфармацыі стварылі Фронту вобраз “нацыяналістычнай” і разбуральнай сілы, таму падчас перадвыбарчай барацьбы мы мусілі зьмяніць гэты стэрэатып у масавай сьвядомасьці. У значнай ступені гэта было дасягнута. Цяпер нават непрыхільнікі змушаныя прызнаць, што Фронт – адзіная канструктыўная сіла ў нашым грамадзтве. Перамога Лукашэнкі ў першым туры – вынік крызісу ў грамадзтве. У такія часы народ жыве ня розумам, а міталёгіяй, людзі прагнуць



# Аляксандр ЛУКАШЭНКА: "Стаўка на КДБ па ўсёй вертыкалі"

*"Я хацеў бы бачыць у органах Камітэта дзяржаўнай бяспекі абаронцаў нашага народа". — гэтымі словамі кандыдат у прэзідэнты Аляксандр Лукашэнка завяршыў сваю сустрэчу з калектывам КДБ, якая адбылася 1 ліпеня.*

Звяртаючыся да прысутных, ён адзначыў, што "85-87 працэнтаў супрацоўнікаў Дзяржбяспекі — гэта сумленныя і вельмі прыстойныя людзі"; з якімі ён гатовы супрацоўнічаць, калі будзе выбраны кіраўніком дзяржавы і выканаўчай улады. Паставіўшы прыярытэтным напрамкам сваёй праграмы барацьбу з карупцыяй і мафіяй, Лукашэнка бачыць сваю апору, перш за ўсё, у органах КДБ. "Стаўка на КДБ будзе зроблена па ўсёй вертыкалі", — сказаў кандыдат. Ён адзначыў, што разгону КДБ або скарачэння кадраў пад выглядам рэформ не будзе, за выключэннем тых супрацоўнікаў, якія скампраметавалі сябе і павінны будуць пакінуць пасады. Калі органам Дзяржбяспекі спатрэбяцца дадатковыя сілы, то, паводле слоў кандыдата ў прэзідэнты, гэта будзе зроблена. Ён таксама паведаміў, што пры прэзідэнце прадугледжваецца стварыць спецыяльны камітэт, які возьме пад кантроль вышэйшы эшалон улады.

БЕЛІНФАРМ.

Публікацыя ў газэце «Чырвоная змена», ліпень 1994.

цуду, і калі зьяўляецца новы чалавек, які абяцае гэты цуд, ён успрымаецца як збаўца. Лукашэнка прыйшоў на глебу, якую Фронт рыхтаваў шматгадовай антыкамуністычнай і антыўрадавай прапагандысцкай працай. Зянон Пазьняк падкрэсьліў, што ніхто з кандыдатаў, якія выйшлі ў другі тур, не задавальняюць Фронт і не адпавядаюць патрабаваньням грамадзтва, бо яны – адна каманда.

Хто б з дваіх ні перамог – гэта азначае разбурэньне эканомікі, інфляцыю, халодную зіму. У такой сытуацыі найлепшы для краіны варыянт – каб выбары не адбыліся, каб народ не прыйшоў галасаваць» (Газэта «Свабода», 5 ліпеня 1994).

Было прынята рашэньне Сойму, у якім адзначалася, што «шмат людзей, зразумеўшы згубнасьць палітыкі Кебіча і ягонага ўраду, тым ня менш не аддалі галасы за стваральны, канструктыўны шлях выйсьця Бацькаўшчыны з крызісу, а пайшлі за папулістычнаю фразаю і скандальнай папулярнасьцю А. Лукашэнкі. Нашыя суграмадзяне не змаглі разгледзець за крыклівымі абяцаньнямі Лукашэнкі тую самую мафіёзную намэнклятуру, толькі маладзейшую і больш агрэсіўную. У выпадку выбраньня Лукашэнкі на пасаду Прэзыдэнта Беларусі падоўжыцца развал эканомікі, будзе працягвацца здача незалежнасьці нашай краіны... У другім туры выбараў мы ня будзем галасаваць ні за старую, ні за новую намэнклятуру. Народны Фронт ня пойдзе на гэтыя выбары бяз выбару, якія падштурхоўваюць народ да прорвы».

«Калі нічога ня зьменіцца, прычым у самым бліжэйшым часе, калі ня сядуць за стол перамоваў палітыкі і не паразумнее народ, Беларусь чакае вельмі сумны час, вельмі...» – сказаў у інтэрвію газэце «Беларуская маладзёжная» Генадзь Карпенка.

Затое Аляксандар Лукашэнка быў поўны аптымізму, праводзіў сустрэчы і 1 ліпеня наведаў КДБ. «Стаўка на КДБ па ўсёй вэртыкалі, – сказаў кандыдат. Ён адзначыў, што разгону КДБ або скарачэньня кадраў пад выглядам рэформаў ня будзе», –

паведаміў Белінфарм («Чырвоная зьмена», 5 ліпеня 1994).

На другі ці на трэці дзень пасьля першага туру мне патэлефанавалі са штабу Кебіча (была гаворка і з самім Кебічам). У мяне спыталі, ці разумею я ўсю складанасьць сытуацыі і ці ня мог бы Беларускі Народны Фронт у гэты няпросты момант падтрымаць Вячаслава Францавіча.

Я адказаў, што складанасьць сытуацыі разумею (мы, Апазыцыя БНФ, прадбачылі яе яшчэ тады, калі Кебіч з паплечнікамі праводзілі ў Канстытуцыю прэзыдэнцтва). Але Кебіча падтрымаць БНФ ня можа – ды ўвогуле нерэальна, каб ён перамог з чыёй бы то ні было падтрымкай.

Гэтыя словы я вымавіў лёгка, бо стаўленьне да Кебіча было ўстойліва адмоўным. А вось наступнае было экспромтам – я прапанаваў Кебічу зьняць сваю кандыдатуру. Вялікая частка выбаршчыкаў ішла галасаваць ня столькі за Лукашэнку, колькі супраць Кебіча (уяўляю, як непрыемна было Вячаславу Францавічу гэта чуць – праўда, чуў ён гэта ня першы раз). І калі прозьвішча прэм'ера ня будзе ў бюлетэнях, дык ня будзе каго выкрэсьліваць, і людзі проста ня прыйдуць на выбары. Трэба па дзяржаўных СМІ патлумачыць людзям сытуацыю, безумоўна, што эфір для гэтага павінен быць дадзены і камандзе Пазьняка. А мы, Народны Фронт, здымем усіх 7 тысяч назіральнікаў з выбарчых участкаў. Я сказаў таксама, што Пазьняк ня будзе настойваць на тым, каб патрапіць у бюлетэні як кандыдат, які афіцыйна выйшаў на трэцяе месца.

У адказ я пачуў, што – «Мы падумаем». Празь некалькі хвілінаў мнеператэлефанавалі і сказалі,

што мая прапанова цікавая, але «вось тут Іван Іванавіч Антановіч кажа, што ў Вячаслава Францавіча ёсьць шанцы і варта пазмагацца». У адказ я параіў яшчэ раз падумаць.

Прапанову Кебічу я выказаў, што называецца, «сходу» – у мяне не было магчымасьці параіцца з Пазьняком ці кім-небудзь з Кіраўніцтва Фронту. Але я адразу паехаў на Варвашэні, 8.

Прапанаваны варыянт быў адразу ўхвалены.

Мы абмеркавалі розныя аспэкты такога кроку, і ён выглядаў цалкам прадуктыўным.

Па-першае, сапраўды, зьняцьце Кебічам сваёй кандыдатуры «выпусьціла б пару» – пазбавіла б цікавасьці да выбараў даволі значную частку тых, хто ішоў галасаваць «супраць Кебіча».

Па-другое, у бюлетэні застаўся б адзін Лукашэнка. Закон «Аб выбарах Прэзыдэнта» у артыкуле 36 («Другі тур галасаваньня») вызначаў, што другі тут праводзіцца «па двух кандыдатах, якія атрымалі найбольшую колькасьць галасоў выбаршчыкаў». Але закон не вызначаў, што рабіць, калі «другі» зьняўся з выбараў – было толькі сказана, што «Калі ў сувязі са зьняцьцем кандыдатур застаецца адзін кандыдат, другі тур галасаваньня праводзіцца па яго кандыдатуры». Тут можна разглядаць розныя варыянты – напрыклад, што зьняліся Кебіч і Пазьняк, а чацьвёрты – Шушкевіч – пажадаў удзельнічаць у выбарах. Або зьняліся Кебіч, Пазьняк і Шушкевіч, а разам з Лукашэнкам у другім туры апынуўся Дубко. Але, як памятаю, у ЦВК нам патлумачылі, што фраза «па двух кандыдатах, якія атрымалі найбольшую колькасьць галасоў» – азначае ў дадзеным выпадку па Лукашэнку

і па Кебічу; калі нехта зь іх здымаецца, у бюлетэні застаецца адзін.

Калі ж у бюлетэні застаецца адзін – інтрыга зьнікае. Зьмяншаецца і цікавасьць да выбараў.

Па-трэцяе, мы ведалі, што нейкая частка прыхільнікаў Пазьняка ў другім туры будзе галасаваць за Лукашэнку (бо ён успрымаўся імі як «таксама ня быў ва ўладзе»; я нават са зьдзіўленьнем даведваўся, што некаторыя лічылі, што «Пазьняк і Лукашэнка – паплечнікі, бо супраць Кебіча»). Мы разьлічвалі (думаю, слушна), што выступ Пазьняка па тэлебачаньні і ў іншых дзяржаўных СМІ (а лепей і не адзін выступ, разам з камандай) і падрабязныя тлумачэньні пазбавілі б іх ілюзіяў.

Па-чацьвёртае, у выпадку, калі б мы зьнялі сваіх назіральнікаў (а яны былі на кожным выбарчым участку) – улада б выявіла сваю незацікаўленасьць у тым, каб другі тур адбыўся, і скарыстала б, як гэта назвалі пазьней, «адміністрацыйны рэсурс». Нагадаю, што Апазыцыя БНФ не галасавала за «прэзыдэнцкія» разьдзелы Канстытуцыі, за саму Канстытуцыю, якая ўводзіла прэзыдэнцтва, і мы ад пачатку ставілі пад сумнеў легітымнасьць увядзеньня прэзыдэнцтва.

У выпадку, калі б другі тур не адбыўся, Закон прадугледжваў правядзеньне паўторных выбараў з паўторным вылучэньнем кандыдатаў. Канешне, на выбарах мог ізноў вылучыцца Лукашэнка, але за гэты час ягоны імідж «народнага заступніка» мог быць разбураны. Тут, аднак, шмат што залежала ад тагачаснага старшыні Вярхоўнага Савету Мечыслава Грыба. У часе выбарчай кампаніі ён займаў падкрэсьлена нэўтральную пазыцыю. Але цяпер ён мог бы пераканаць Кебіча зьняць

сваю кандыдатуру. Таксама, на паўторных выбарах ён мог вылучыцца сам і меў бы неблагія шанцы – Грыб ня быў скампрамэтаваны ў грамадзкай сьвядомасьці, як Кебіч. Нарэшце, можна было вярнуцца да перагляду Закону аб выбарах ці нават Канстытуцыі, з выкрэсьліваньнем зь яе прэзыдэнцкіх разьдзелаў.

Таму трэба было паразмаўляць з Грыбам. У тыя дні ён адпачываў у санаторыі «Радон» у сваім родным Дзятлаўскім раёне. Мы з Пазьняком і яшчэ двума фронтаўцамі паехалі туды. Пазьняк застаўся ў машыне, я пайшоў у нумар «люкс», дзе жыў Грыб. Пакуль ён пераапранаўся (толькі што вярнуўся з працэдураў), я заўважыў у яго на стале мініятурнае выданьне новай Канстытуцыі. «Увесь час чытаю», – сказаў Мечыслаў Іванавіч.

Разам з Грыбам і целаахоўнікам мы спусьціліся ў двор санаторыю. Я пайшоў па Пазьняка. Мы ўчатырох углыбіліся ў невялікі гай. Потым мы з ахоўнікам спыніліся, Грыб з Пазьняком адышлі мэтраў на дваццаць. Гутарылі нядоўга, хвілін дзесяць.

Да Мечыслава Грыба часоў яго дэпутацтва і сьпікерства можна прад’явіць шмат прэтэнзіяў – але ў гэты момант ён выявіў належную ступень адказнасьці і поўнае ўсьведамленьне інтарэсаў беларускай дзяржавы.

Цяпер усё залежала ад Кебіча.

Мы ня ведалі, што робіцца ў штабе Кебіча – пазьней ён напісаў у мэмуарах, што «члены штабу выказваліся за байкот другога туру. Грамадзкая думка да такога выніку выбараў маральна гатовая. Людзі зразумеюць, што Вы ідзяце на гэты крайні крок у інтарэсах краіны, – пераконвалі мяне». А некаторыя прапаноўвалі, сфальшаваўшы выбары

і заняўшы пасаду прэзыдэнта, «зрабіць бліскучы жэст – вынесьці на паседжаньне Вярхоўнага Савету пытаньне пра скасаваньне прэзыдэнцкай формы кіраваньня як несвоечасовай і не адпавядаючай нацыянальным традыцыям краіны» (Вячаслаў Кебіч, «Искушение властью», с. 431).

Дадам, што вынесьці пытаньне пра скасаваньне прэзыдэнцтва можна было і без абраньня Кебіча праз фальсыфікацыі.

У той момант мы ня ведалі таксама, што робіцца ў штабе Лукашэнкі.

А ў штабе была паніка.

Зьняцьце Кебіча і зрыў другога туру – гэта тое, чаго больш за ўсё баяліся лукашэнкаўцы.

«Прыйдзіце на выбары, ня дайце іх сарваць. Зянон Станіслававіч, зьвяртаюся да вас асабіста: ня трэба байкатаваць выбары!» – заклікаў Аляксандар Фядута і тут жа прадставіў Лукашэнку як фігуру, якая «шчыра жадае супрацоўнічаць з усімі партыямі, рухамі і грамадзкімі арганізацыямі» (Газэта «Беларуская маладзёжная», 4, 1994).

Празь дзесяць гадоў Фядута прыгадаў:

«У чыноўнікаў яшчэ быў шанец не дапусьціць перамогі Лукашэнкі: ім было дастаткова сарваць другі тур выбараў. Гэтага вельмі баяліся ў нашым передвыбарчым штабе. Было бачна, як нэрвова курыў звычайна спакойны Сініцын, калі размова заходзіла пра другі тур: а раптам Кебіч здыме сваю кандыдатуру? Што тады? Будзе галасаваньне па кандыдатуры Лукашэнкі альбо разам зь ягоным прозьвішчам у бюлетэні зьявіцца прозьвішча «бронзавага прызёра» прэзыдэнцкай гонкі – Зянона Пазьняка? Гэта непазьбежна спрацавала б на паніжэньне яўкі, як і наяўнасьць у бюлетэні ад-



Знакаміты здымак Сяргея Грыца ў газэце «Свабода». Вячаслаў Кебіч цалуе Віктара Чарнамырдзіна.

нага прозьвішча. Але прэм’ер аказаўся цялём, асуджаным на сьмерць. Яго вялі на забой – і ён ішоў, пакорліва схіліўшы галаву і не супраціўляючыся» (Аляксандар Фядута, «Лукашенко. Полтитическая биография», сс.170-171).

І сапраўды – выглядала, што Кебіч робіць усё, каб толькі падыграць Лукашэнку. Альбо нехта яго штурхае ў гэтым накірунку. Пры гэтым нашэптваючы, што ў яго ёсьць добры шанец на перамогу.

Замацаваць гэты «шанец» прыхільнікі Кебіча вырашылі сьвяткаваньнем 50-годзьдзя вызваленьня Беларусі ад фашысцкіх захопнікаў (я прыгадваў гэтае сьвяткаваньне ў разьдзеле, дзе апісваў, як не пусьцілі да плошчы Перамогі «франтаўскіх» вэтэранаў). У Палацы спорту было ўрачыстае пасяджэньне – мы зь некаторымі дэпутатамі БНФ

яго наведалі, сядзелі ў залі непадалёку ад Лукашэнкі зь Сініцыным. У перапынку Лукашэнка выходзіў на ганак Палацу спорту – у атачэньні аховы крымінальнага выгляду з аўтаматамі (казалі, што гэта былі «аўганцы»). На ўрачыстасьці быў запрошаны расейскі прэм'ер Віктар Чарнамырдзін, што, на думку арганізатараў сьвяткаваньняў, павінна было прадэманстраваць падтрымку Кебіча Масквой. Пасьля ўрачыстага пасяджэньня Кебіч з Чарнамырдзіным селі ў адзін аўтамабіль – і менавіта тады фатографу Сяргею Грыцу ўдалося зрабіць цяпер ужо клясычны здымак пацалунку, які быў апублікаваны ў газэце «Свабода».

Пазьней Аляксандар Фядута прыгадваў, што ў камандзе Лукашэнкі хоць і былі ўпэўненыя ў перамозе (Кебіч ня зьняўся), але вельмі хацелі падмацаваць пазыцыі Лукашэнкі ўдзелам у дэбатах. І баяліся, каб каманда Кебіча не адмовілася. Каманда не адмовілася.

На гэтых дэбатах, якія прайшлі 7 ліпеня, зьніклі апошнія спадзяваньні, што Кебіч здымецца. Наадварот – ён заклікаў людзей прыйсьці на выбары: «Дарагія суграмадзяне, я запрашаю вас прыйсьці на выбарчыя ўчасткі, аддаць свае галасы».

Лукашэнка не хаваў, што ў яго «гара звалілася з плеч»: «Выбары павінны адбыцца, Вячаслаў Францавіч заклікаў зараз усіх на выбары. Гэта здымае шмат у чым зь мяне напружаньне».

Акрамя Кебіча і Лукашэнкі, у студыі быў вядоўца Эдуард Мельнікаў (пазьней ён будзе весьці перадачу «Форум» на канале Белсат), у самым пачатку, яшчэ перад дэбатамі, ён паспрабаваў унесьці нешта непалітычнае. Цяпер нельга без трымценьня чытаць гэтыя словы ў стэнаграме:

«... сёньня Купальле – старажытнае славянскае сьвята. Вы ведаеце, Папараць-кветка, пошукі шчасьця, усё гэта блізка да таго, пра што мы цяпер думаем. Пазваніў сёньня бацька зь вёскі і сказаў, што моладзь ізноў паламала платы і закінула кудысьці ўсе брамкі. Словам, гэта ўсё вельмі блізка, таму што пошукі нашага шчасьця агульнага наўпрост зьвязаныя з тым, які лёс мы абярэм».

Дэбаты сабралі, можа быць, самую вялікую за ўсе часы тэлевізійную аўдыторыю. Лукашэнка і Кебіч кідалі адзін аднаму ўзаемныя папрокі, Лукашэнка абвінавачваў Кебіча ў падпісаньні Віскулёўскіх пагадненьняў, Кебіч апраўдваўся, абодва спрачаліся, хто зь іх больш любіць Расею і хто хутчэй увядзе расейскі рубель.

Чаму Кебіч пайшоў на другі тур? Перадаверыўся сваім дарадцам? Дарадцы гэтыя – усе былі наіўныя і ня бачылі, што выйгрыш Кебіча нерэальны? Але я перакананы: у штабе Кебіча не было наіўных людзей. Зусім верагодна, гэта быў тонка разьлічаны плян. І той, хто распрацоўваў гэты плян, разумеў, што выгадны для яго Кебіч прайсьці ня можа, затое можна паспрыяць праходу ў прэзыдэнцкае крэсла яшчэ больш выгаднага Лукашэнкі?

Вынікі другога туру выбараў, які адбыўся 10 ліпеня, далі Аляксандру Лукашэнку 80,1% галасоў. Вячаслаў Кебіч атрымаў 14,1%.

«Цяпер, праз шмат гадоў, я не лічу, што пацярпеў поўную паразу, – пісаў Кебіч. – Па сутнасьці, мы выступалі з Аляксандрам Лукашэнкам з аднолькавых палітычных пазыцый, змагаліся не адзін з адным, а за прэзыдэнцкае крэсла, розьніца была толькі ў падыходах да дасягненьня пастаўленых мэтаў. І таму галоўным вынікам першага туру варта, мабыць,

лічыць паразу стаўленікаў нацыяналістычных сіл Зянона Пазьняка і Станіслава Шушкевіча. Чый уклад у агульную перамогу над кандыдатамі ад БНФ, мой ці Аляксандра Лукашэнкі, быў больш важкім, хай вырашыць час» (Вячаслаў Кебіч, «Искушение властью», с. 434).

Кебіч не дагаварыў: ён зрабіў вялікі ўнёсак ня толькі ў паразу «стаўленікаў нацыяналістычных сілаў» у першым туры, але і ў канчатковую перамогу Аляксандра Лукашэнкі ў туры другім. І сапраўды: супраць нацыянальнага адраджэньня Кебіч і Лукашэнка працавалі разам.

«Намэнклятура ў Беларусі замацавала свае пазыцыі – пракамэнтаваў вынікі выбараў Зянон Пазьняк у інтэрвію "Звязьдзе". – Толькі замест адной, партакратычнай вярхушкі зараз прыйшла другая, якая зьбіраецца праводзіць антыдзяржаўную, антыбеларускую палітыку, накіраваную на падрыў нашай незалежнасьці... БНФ ня будзе супрацоўнічаць зь людзьмі, якія зьневажаюць нацыянальную сымболіку, Канстытуцыю, зьбіраюцца ператварыць Беларусь у расейскую калёнію... Ва ўмовах, што склаліся ў Беларусі, я заяўляю, што БНФ – адзіная канструктыўная сіла, якая адстойвае інтарэсы свайго народа. Мы пачалі рэфармаваць свой Ценявы кабінэт. Разам з прафэсіяналамі распрацоўваем канцэптуальныя палажэньні выхаду Беларусі з крызісу. Рыхтуемся да парлямэнцкіх выбараў, а значыць, верым у розум нашай нацыі. Жыве Беларусь!» («Звязда», 13 ліпеня 1994).

Хаця Пазьняк і казаў, што мы ня будзем супрацоўнічаць зь людзьмі, якія зьбіраюцца ператварыць Беларусь у расейскую калёнію, але адразу пасьля інаўгурацыі, у канцы ліпеня, Ценявы кабінэт пра-

аналізаваў праект Дамовы паміж Беларусьсю і Расеяй. Мы выказалі свае заўвагі і прапановы па кожным пункце гэтага вельмі небясьпечнага для незалежнасьці краіны дакумэнту. Наш аналіз я перадаў кіраўніку прэзыдэнцкай адміністрацыі Леаніду Сініцыну. Ніякага адказу мы не атрымалі – гэтак выявілася пазыцыя Лукашэнкі, які, як запэўніваў Фядута, «шчыра жадае супрацоўнічаць з усімі партыямі і рухамі і грамадзкімі арганізацыямі».

Але гэта было ўжо пасьля інаўгурацыі, якая адбылася 20 ліпеня ў Авальнай залі, дзе Аляксандар Лукашэнка прымаў віншаваньні дэпутатаў.

«Што ж, можна хіба павіншаваць беларусаў зь мінулымі выбарамі, – скажа праз год у інтэрвію Радыё Свабода Васіль Быкаў. – Горай ня зробіш. Для сябе, для грамадзтва, для нашчадкаў – таксама».

## Эпілёг: Дык хто вінаваты?

Прыгадваньне выбараў 1994 году часта суправаджаецца пытаньнем: дык хто ж вінаваты? І якія «памылкі» былі зробленыя Беларускім Народным Фронтам?

Такое пытаньне (пра памылкі) некалі было зададзена Васілю Быкаву.

Гутарка адбылася ў канцы 1995 году (у эфір выйшла 30 сьнежня), калі ўжо прайшлі і прэзыдэнцкія выбары, і так званы рэфэрэндум, калі на парлямэнцкіх выбарах ніводзін прадстаўнік БНФ ня быў прапушчаны ў дэпутаты ВС-13. Супрацоўнік Радыё Свабода Аляксандар Лукашук, даўшы рэтраспэктыву ад жніўня 1991-га (абвяшчэньне Незалежнасьці) запытаўся ў Быкава – «Дзе, на якім этапе дэмакраты зрабілі памылку?» І вось што Быкаў адказаў:

«Думаю, што гаварыць пра якія-небудзь памылкі дэмакратыі, можа быць, няма сэнсу. Таму што ўвогуле, калі разабрацца і прынцыпова падыходзіць, дык гэтых памылак, такіх значных памылак, было ня так і шмат. Можа быць, іх наогул не было. Іншая справа, што і вельмі правамерная, абгрунтаваная палітыка не прынесла посьпеху. Дык яна ўвогуле ў дадзеных умовах і не магла прынесьці таго посьпеху, на які дэмакраты разьлічвалі. Значыць, проста можна гаварыць пра празьмерныя спадзяваньні беларускай дэмакратыі. Вось гэта сапраўды было.

Грамадзтва яшчэ не гатовае, каб прынесьці посьпех беларускай нацыянальнай дэмакратыі».

Быкаў дакладна вызначыў прычыну – нясьпеласьць грамадзтва. За грамадзтва, у значнай ступені, адказвае кіруючая эліта – а гэтая эліта (кіруючая) у пачатку 90-ых складалася з камуністычнай намэнклятуры, якая, акрамя ўсяго іншага, была цалкам пазбаўленая нацыянальнай сьвядомасьці.

Гэтыя людзі займалі пасады ў, як бы цяпер сказалі, «вэртыкалі» ад верху да самага нізу – ад кіраўніка ўраду да супрацоўніка райвыканкаму.

Ні на якай, нават самай нізкай, пасадзе ў выканаўчай структуры – ні ў больш як сотні райвыканкамаў, ні ў шасьці аблвыканкамах, ні ў Саўміне – не было ніводнага прадстаўніка БНФ.

І пры гэтым ня толькі лідэры БНФ – але і тысячы актывістаў Народнага Фронту – працавалі ў пачатку 1990-ых на грамадзкіх пачатках і на мяжы сваіх сілаў. Вынік гэтай працы – дасягненьне Незалежнасьці, запачаткаваньне дэмакратычных і эканамічных пераўтварэньняў. Я не сьцьвярджаю, што кіраўніцтва БНФ усё рабіла ідэальна – але такіх памылак, якія маглі б на нешта сур'ёзна паўплываць, асабіста я ня бачу.

Ня бачыў іх і Быкаў.

У войску адказнасьць за баявое падразьдзяленьне нясе камандзір і ягоны штаб. Пасьля жніўня 1991-га ўся ўлада ў Беларусі была ў руках старшыні Вярхоўнага Савету Станіслава Шушкевіча і старшыні Савету міністраў Вячаслава Кебіча.

Трагедыя нацыі ў тым, што кіруючая эліта не ўсьвядоміла сябе элітай незалежнай дзяржавы і нічога не рабіла дзеля росту нацыянальнай са-

масьвядомасьці грамадзтва і яго палітычнай сьпеласьці. На чале ВС быў хаця і сумленны ў асабістым пляне, але – па маім глыбокім перакананьні – выпадковы, недальнабачны як палітык, Станіслаў Шушкевіч, які служыў шырмай для камэрцыйных гешэфтаў атачэньня Кебіча і ўсёй гэтай «эліты».

Па вялікаму кошту, сілы нацыянальнай дэмакратыі яшчэ былі недастаткова моцнымі, а грамадзтва недастаткова сьпелым, каб хутка зьмяніць і гэтую старую «эліту», і савецкую намэнклятуру.

Апошні шанец на дэмакратычныя пераўтварэньні быў страчаны ўвосень 1992 году, калі – менавіта дзякуючы Шушкевічу – быў «зарублены» рэфэрэндум аб датэрміновых выбарах у ВС.

Якраз гэта і было «пунктам незвароту» – і з гэтага моманту БНФ максымальна што мог, гэта стрымліваць наступ аўтакратыі. Пра перамогі гаворкі ўжо не было.

У 1994 годзе быў толькі адзін спосаб не дапусьціць Лукашэнку да ўлады – ня ўводзіць прэзыдэнцтва (супраць якога і выступаў БНФ). Але гэтага прэзыдэнцтва дамагаўся Кебіч. Мы ўсялякімі спосабамі пераконвалі яго гэтага не рабіць – ня дзейнічала: спадзяваўся быць прэзыдэнтам.

Што нам заставалася?

Выглядае, дзеля гэтага мы павінны былі сказаць – «Вячаслаў Францавіч, мы, БНФ, адмаўляемся ад барацьбы з Вамі і просім заставацца на пасадзе кіраўніка ўраду як надаўжэй. Хай Вашае атачэньне працягвае красьці траншы Міжнароднага валютнага фонду, хай Вашыя міністры і надалей заграбаюць зь бюджэту і ўзводзяць сабе катэджы пад Менскам, хай падкантрольны Вам ВС і надалей выдаткоўвае мільярдныя крэдыты на даўно ўжо неэ-

фэктыўныя калгасы, нарошчваючы гіпэрінфляцыю, а "чырвоныя памешчыкі" хай і надалей кладуць тыя крэдыты ў свае кішэні. Хай і надалей старшыні выканкамаў і іх намесьнікі нажываюцца на хабарах за ліцэнзіі на рээкспарт нафты, а дырэктары заводаў махінацыямі пераводзяць прадпрыемствы ў сваю ўласнасьць. Вычысьціце ўжо дашчэнту войска ад патрыётаў з БЗВ, зачыніце апошнія незалежныя газэты і радыёстанцыі – увогуле, рабіце што хочаце, мы Вам ні ў чым не перашкаджаем. Гары яно ўсё гарам – абы толькі Вы заставаліся прэм'ерам, і вазьміце сабе паўнамоцтвы кіраўніка дзяржавы без усялякага прэзыдэнцтва. Мы прагаласуем за гэта ўсёй нашай дэпутацкай фракцыяй».

І тады, магчыма (хаця не несумненна), Кебічу не спатрэбілася б уводзіць прэзыдэнцтва.

Але кожны, хто б прапанаваў такое, быў бы імгненна «разарваны» сваімі ж колішнімі прыхільнікамі з дэмакратычнага лягеру.

У пачатку 90-ых гадоў Беларусь была зусім яшчэ маладая, кволая краіна, якая адраджалася пасьля 200-гадовага імпэрскага панаваньня, дэмакратыя толькі-толькі запачаткавалася – і ёй бы, Беларусі, дапамагчы стаць на ногі.

Тое, што зрабілі Ганчар, Булахаў, Сініцын, Шэйман, Ціцянкоў, Фядута etc., вылучыўшы і падтрымаўшы Лукашэнку, які адкрыта заяўляў пра аднаўленьне імпэрыі як галоўную палітычную мэту, прапаноўваў заведама сумнеўныя лёзунгі – гэта не суперніцтва з БНФ, Быкавым і Пазьняком. Гэта быў акт супраць Беларусі як дзяржавы.

Уявіце кволага чалавека, які толькі адыходзіць ад хваробы – і тут зьяўляецца нейкі тып і зьбівае яго дубінай. Наколькі слушна і справядліва по-

тым казаць, што гэта ён, кволы, вінаваты, што ня здолеў перамагчы злыдня, а злыдзень проста спрытна скарыстаў сваю сілу і кволасьць суперніка, «добра прафэсійна выканаў сваю працу» (апошняя фраза – цытата аднаго з удзельнікаў каманды Лукашэнкі)?

Беларусь як дэмакратычная краіна, паўтараю, толькі станавілася на ногі – і была зьбітая з ног здрадай і падступнай імпэрскай сілай.

Сьцьвярджаць жа, што БНФ роўна столькі вінаваты ў прыходзе Лукашэнкі, як і ягоная каманда (як гэта часам робіцца) – гэта, па меншай меры, нелягічна.

Гэта як казаць, што габрэі ў роўнай ступені зь фюрэрам вінаватыя ў Галакосьце – бо маглі ж яўрэі ў 1907 годзе ўгаварыць дырэкцыю мастацкай школы ў Вене прыняць абітурыента Адольфа, і пайшоў бы ён «па мастацкай частцы», а не па палітычнай, альбо маглі ў 1920-м наняць кілера і скончыць ягоны жыцьцёвы шлях. Ну альбо маглі сабраць мільёны і купіць ляяльнасьць нацыянал-сацыялістаў годзе ў 1925-ым... Абсурд, канешне. Нічога не маглі зрабіць габрэі супраць той сілы, якая ішла навалай – у тых гістарычных і міжнародных умовах, калі тыя, хто сапраўды меў магчымасьць спыніць Гітлера, не пажадалі альбо ня здолелі гэтага зрабіць.

І адказнасьць за Галакост нясуць не габрэйскія лідэры, а лідэры нацысцкай партыі – тыя, хто прывёў Гітлера да ўлады і хто рэалізоўваў ягоныя злачынныя пляны.

Што да Беларусі 1990-ых, дык праблема была яшчэ і ў адной асаблівасьці намэнклятуры, якую можна назваць унікальнай. І супрацьстаяньне БНФ

і намэнклятуры адрозьнівалася ад таго, што назіралася ў суседніх краінах.

Валэнсу ня трэба было даказваць Ярузэльскаму, што Польшча павінна быць незалежнай дзяржавай.

Ландсбергісу не было патрэбы пераконваць Бразаўскаса, што літоўская мова – гэта важна.

Але, можа быць, куды лепшы прыклад для параўнаньня – Украіна.

Ва Ўкраіне лідэр Народнага Руху Вячаслаў Чарнавіл у тым самым 1994 годзе таксама не перамог на прэзыдэнцкіх выбарах, хаця меў куды большыя, чым Зянон Пазьняк, рэсурсы (незадоўга да выбараў Чарнавіл быў старшынём Львоўскай абласной рады, яго падтрымлівалі некаторыя буйныя бізнэсоўцы, якія кантралявалі значныя сэктары эканомікі). Аднак перамога стаўленіка намэнклятуры Леаніда Кучмы хаця і істотна запаволіла дэмакратычнае разьвіцьцё краіны, але не зрабілася для яе лёсу фатальнай.

Ні Кучму, ні ягонаму атачэньню не прыйшло ў галаву мяняць дзяржаўную сымболіку, зьнішчаць статус украінскай мовы як адзінай дзяржаўнай, ладзіць дзяржаўны пераварот ды ўсталёўваць практычна неабмежаваны тэрмін знаходжаньня на найвышэйшай пасадзе. Такія прапановы, калі б яны прагучалі, былі б найперш адрынутыя той самай кіруючай элітай.

Бо пры шмат якіх падабенствах ёсьць адно, што адрозьнівала ўкраінскую намэнклятуру ад беларускай. Гэта – узровень нацыянальнай сьвядомасьці. А больш дакладна – наяўнасьць яе ва ўкраінскага кіраўніцтва і амаль поўная яе адсутнасьць у беларускага.

Вось таму ў 1992-м украінская Вярхоўная Рада не ратыфікавала Статут СНД, а ў 1993-м не далучыла краіну да Дамовы аб Калектыўнай абароне – чаго дамаглася, насуперак Апазыцыі БНФ, парлямэнцкая большасьць Вярхоўнага Савету Беларусі. Вось чаму дзяржаўныя СМІ Ўкраіны ў пачатку 90-х хаця і супрацьстаялі шмат у чым Народнаму Руху, але не фармавалі ў грамадзтве ўстойлівы стэрэатып, што эканамічныя цяжкасьці – вынік незалежнасьці. Вось чаму прэзыдэнт, абраны ў 1994 годзе, не дамову аб «саюзнай дзяржаве» з Крамлём падпісаў – а напісаў кнігу «Украіна – не Расея».

У Беларусі намэнклятура не ўспрыняла зробленую дэпутатамі Апазыцыі БНФ у жніўні 91-га, адразу пасьля абвяшчэньня Незалежнасьці, прапанову далучацца да сумеснай працы ў справе будаўніцтва сувэрэннай дзяржавы. Фактычна, усё, чаго ўдалося дасягнуць ў 1991-94, было насуперак жаданьням ураду Кебіча і падкантрольнай яму парлямэнцкай большасьці. Гады, калі Расея была аслабленай, не былі скарыстаныя для таго, каб вырвацца з арбіты ўплыву Крамля і Лубянкі – што ўдалося зрабіць кіраўніцтву краінаў Балтыі і, у нейкай ступені, Украіны. Пры гэтым ці не штодня дэпутаты Апазыцыі БНФ тлумачылі і ўраду, і Вярхоўнаму Савету, што трэба рабіць – але толькі некаторыя нашыя прапановы прымаліся.

Яшчэ горш, што дзяржаўныя сродкі масавай інфармацыі фармавалі ў людзей перакананьне, што эканамічны крызіс, інфляцыя, карупцыя – вынік развалу СССР, і што «аднаўленьне сувязяў з братняй Расеяй» і нават – «аднаўленьне адзінай дзяржавы» – галоўная ўмова нармальнага жыцьця. Ні ўрад, ні манапалізаваныя ім СМІ не спрыялі

той сьпеласьці грамадзтва, пра недахоп якой казаў Васіль Быкаў. Наадварот – цягам некалькіх гадоў грамадзтва атрымлівала моцную прарасейскую ін’екцыю. Таму Лукашэнка зь ягонымі праімпэрскімі лёзунгамі трапіў на падрыхтаваную глебу. А лепей сказаць – вырас з гэтай глебы, узгадаваўся на ёй. Зразумела, пры спрыяньні сілаў, якія прагнулі зьнішчыць Беларусь.

У 1992–94 было некалькі момантаў, калі Беларусь магла пайсьці па іншым шляху. Мог адбыцца рэфэрэндум аб датэрміновых выбарах ВС – але намэнклятура заваліла яго рукамі Шушкевіча і Булахава. Можна было абраць парлямэнцкую форму праўленьня – але, жадаючы ўмацаваць уласныя пазыцыі, у пачатку 1994 году Кебіч і парлямэнцкай большасьць (ізноў жа – насуперак Апазыцыі БНФ) – увялі прэзыдэнцтва. Ну і, канешне, нельга сьпісваць адказнасьць з «маладых ваўкоў» – паплечнікаў Лукашэнкі: ужо адно тое, што ён дэманстрацыйна насіў БССРаўскі дэпутацкі значок, павінна было б насьцярожыць, ня кажучы ўжо пра заклікі да ліквідацыі незалежнасьці Беларусі. Аднак «маладыя ваўкі» абралі праімпэрскую рыторыку ляйтматывам выбарчай кампаніі.

Можна спрачацца, у якой ступені тое, што адбылося ў 94-ым, было плянам Масквы (асабіста я перакананы, што – было). Але застаецца фактам, што і Кебіч, і Лукашэнка выступалі з аднолькавых, папросту сынхронных ідэалягічных пазыцый, цалкам прарасейскіх – і абодва супрацьстаялі кандыдату Народнага Фронту, што Кебіч пазьней пацьвердзіў у мэмуарах. Удар быў нанесены ня проста па БНФ – а па нацыянальным адраджэньні.

Бясспрэчна і тое, што вынік выбараў у Беларусі

Маскву задаволіў цалкам. Прычым, мяркую, задаволіў і Крэмль, і Лубянку, і Генштаб: на зьмену састарэлай, нямоглай прарасейскай камуністычнай намэнклятуры прыйшла намэнклятура маладая, энэргічная. І – такая ж прарасейская.

... У дні прэзыдэнцкіх выбараў мая маці пераказала расповед пра наведваньне Кебічам сьвятых месцаў у Жыровіцах. Быццам бы паклаў Вячаслаў Францавіч да абраза Божай Маці ружу, і ружа імгненна счарнела.

# Паказьнік асобаў

**В**



**Г**



**Д**

**М**



**Н**

**Ч**



**Ш**



**Э**



**Я**

# Пра аўтара



Сяргей Навумчык нарадзіўся ў 1961 годзе ў Паставах. У 1964-м з бацькамі пераехаў у Віцебск. Скончыў факультэт журналістыкі БДУ, служыў у войску, працаваў у віцебскай абласной газэце. Публікаваў артыкулы ў абарону архітэктурнай спадчыны Віцебску. У 1988-м быў ініцыятарам грамадзкай кампаніі супраць будаўніцтва Віцебскай АЭС, удзельнічаў ва ўстаноўчым сходзе таварыства «Мартыралёг» і Беларускага Народнага Фронту 19 кастрычніка 1988 г.

З сакавіка 1990 па студзень 1996 – дэпутат Вярхоўнага Савету Беларусі 12-га скліканьня, каардынатар парлямэнцкай апазыцыі БНФ. Удзельнічаў у распрацоўцы і прыняцьці Дэклярацыі аб дзяржаўным сувэрэнітэце Беларусі, падрыхтоўцы законапраектаў да нечарговай сэсіі ВС 24–25 жніўня 1991 г., на якой была адноўленая незалежнасьць Беларусі. Аўтар шэрагу законапраектаў. Удзельнічаў у галадоўцы дэпутатаў Апазыцыі БНФ 11–12 красавіка 1995 г. супраць рэфэрэндуму аб ліквідацыі статусу беларускай мовы як адзінай дзяржаўнай, ліквідацыі статусу дзяржаўных сымбаляў гэрба «Пагоня» і бел-чырвона-белага сьцяга, эканамічнай інтэграцыі з Расеяй і інш..

Адзін з заснавальнікаў Беларускай асацыяцыі журналістаў і Беларускага Хэльсынскага камітэту.

У 1996-м атрымаў палітычны прытулак у ЗША. З 1999 – супрацоўнік Радыё Свабода. Сябра Беларускага ПЭН-цэнтру, ляўрэат літаратурнай прэміі імя Алеся Адамовіча. Аўтар кніг «Сем гадоў Адраджэньня» (2006) і «Дзевяноста першы» (2013)

# Summary

In 1994, a newly independent Belarus held its first ever presidential election. RFE/RL journalist Siarhiej Navumchyk, then a parliamentary deputy, was a trusted associate of the candidate from the Belarusian Popular Front party, and took an active part in campaigning on the pro-democratic candidate's behalf.

The campaign reflected the struggle between democratic, reform-oriented forces of the Belarusian Popular Front on one side, and pro-communist, pro-Russian forces on the other. Emerging victorious in this contest was Alyaksandar Lukashenka, vaulted to power on the wings of populist rhetoric and pro-Russian support. Lukashenka's ensuing clampdown on civil liberties ensured that this first presidential election would also be the new country's last relatively free one.

The author attributes the defeat of the democratic forces in this campaign to three causes: the absence of sustained democratic traditions in Belarusian society; the exploitation of propagandistic tools by pro-Russian political forces; and the governing elite's poor grasp of national interests. Included in this volume are the political portraits of all the 1994 presidential candidates including the victor and his key aides.

**«Бібліятэка Свабоды. XXI стагодзьдзе»** — кніжны праект Беларускай службы Радыё Свабода. Чытайце ў інтэрнэце: **www.svaboda.org**




**Верш на Свабоду.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2002. — 464 с.




**Дарога праз Курапаты.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2002. — 464 с.: іл.




**Poems on Liberty: Reflections for Belarus.** *Пераклады Веры Рыч.* Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004. — 312 с.




**Быкаў на Свабодзе.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004. — 536 с.: іл.




**Быкаў на Свабодзе.** Збор выступаў клясыка беларускай літаратуры ў этэры Радыё Свабода. Аўдыёдыск. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004.




**Дуліна ад Барадуліна.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004. — 254 с.: іл.




*Аляксандар Лукашук.*
**Прыгоды АРА ў Беларусі.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2005. — 500 с.: іл.




**Быкаў на Свабодзе.**
2-е выд., дапоўненае.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2005. — 662 с.: іл.




*Сяргей Дубавец.*
**Вострая Брама.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2005. — 520 с.




*Вячаслаў Ракіцкі.*
**Беларуская Атлянтыда.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2006. — 504 с.: іл.




**Плошча, 19.03–25.03.2006.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2006. — 400 с.: іл.




*Вінцэсь Мудроў.*
**Альбом сямейны.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2007. — 232 с.: іл.



**Начная чытанка. 50 аўтараў з этэру Радыё Свабода.**
Мультымэдыйны дыск.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2007.



*Уладзімер Арлоў.*
**Імёны Свабоды.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2007. — 576 с.: іл.



*Івонка Сурвіла.*
**Дарога. Стоўпцы – Капэнгаген – Парыж – Мадрыд – Атава – Менск.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2008. — 144 с.: іл.



*Пётра Садоўскі.*
**Мой шыбалет.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2008. — 426 с.: іл.



**Начная чытанка 2. 50 аўтараў з этэру Радыё Свабода.**
Мультымэдыйны дыск.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009.



**Адзін дзень палітвязьня.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 364 с.: іл.




*Юры Дракахруст.*
**Акцэнты Свабоды.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 430 с.: іл.




*Сяргей Дубавец.*
**Як? Азбука паводзінаў.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 252 с.: іл.




*Міхась Скобла.*
**Вольная студыя.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 554 с.: іл.




**Барды Свабоды.**
Зборнік гутарак і песень 50 удзельнікаў аднайменнай перадачы Радыё Свабода. Мультымэдыйны DVD-дыск.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2010.




**Васіль Быкаў.**
**Доўгая дарога дадому.**
Чытае аўтар. Мультымэдыйны дыск.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2010.




*Вячаслаў Ракіцкі.*
**Беларуская Атлянтыда. Кніга другая.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2010. — 352 с.: іл.




**Сто бардаў Свабоды.** Зборнік гутарак і песень 100 удзельнікаў передачы «Барды Свабоды». Мультымэдыйны DVD-дыск. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011.




*Галіна Руднік.* **Птушкі пералётныя.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 192 с.: іл.




**Галасы Салідарнасьці.** Міжнародная падтрымка беларускай дэмакратыі. Мультымэдыйны DVD-дыск. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011.




*Вячаслаў Ракіцкі.* **Сто адрасоў Свабоды.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 330 с.




**Саўка ды Грышка. Год першы.** Калекцыя 50 песьняў – падзеі году ў сатырычным дуэце Лявона Вольскага з самім сабой на Радыё Свабода. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011.




*Альгерд Бахарэвіч.* **Малая мэдычная энцыкляпэдыя Бахарэвіча.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 320 с.: іл.




*Аляксандар Лукашук.*
**Сьлед матылька. Освальд у Менску.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 390 с.: іл.




**Адзін дзень палітвязьня. 2009—2011.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 328 с.: іл.




*Уладзімер Арлоў.*
**Пакуль ляціць страла.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 400 с.: іл.




*Уладзімер Арлоў.*
**Імёны Свабоды.**
Аўдыёкніга.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012.




*Сяргей Дубавец.*
**Майстроўня. Гісторыя аднаго цуду.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 464 с.: іл.




**Слоўнік свабоды.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 516 с.




**Саўка ды Грышка. Сто песень. 2010-2012.** Поўны збор запісаў сатырычнага дуэту Лявона Вольскага з самім сабой на Радыё Свабода. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012




Альгерд Бахарэвіч. **Гамбурскі рахунак Бахарэвіча.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 428 с.: іл.




*Валер Каліноўскі.* **Справа Бяляцкага.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 364 с.: іл.




*Юры Бандажэўскі.* **Турма і здароўе.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 250 с.: іл.




*Алег Грузьдзіловіч.* **Хто ўзарваў менскае мэтро?** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 354 с.: іл.




*Юрась Бушлякоў.* **Жывая мова.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 294 с.: іл.




*Сяргей Навумчык.*
**Дзевяноста першы.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 536 с.: іл.




*Анатоль Лябедзька.*
**108 дзён і начэй у засьценках КДБ.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 434 с.: іл.




*Валянцін Жданко.*
**Лісты на Свабоду.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 428 с.




*Альгерд Бахарэвіч.*
**Каляндар Бахарэвіча.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 464 с.: іл.




**Лісты пра Свабоду.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 314 с.




**Жыцьцё пасьля раку.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 220 с.




*Юры Дракахруст.*
**Сем худых гадоў.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 406 с.




**(НЕ :)**
**вясёлыя карцінкі.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 64 с.: іл.